# Маладосць

4

Штомесячны
літаратурна-мастацкі
і грамадска-палітычны
ілюстраваны часопіс

(689) КРАСАВІК, 2011

Выдаецца з 1953 года

Галоўны рэдактар
**Раіса БАРАВІКОВА**



**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова**
**«Літаратура і Мастацтва»,**
**г. Мінск**

## У НУМАРЫ:





Тэхнічнае рэдагаванне і камп’ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Ірына КАЧУРКА*



Адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 06.04.2011. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 15,12.
Ул.-выд. арк. 14,21. Тыраж 2514 экз. Заказ 893.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.


**maladost@bk.ru**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;**
**грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;**
**рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»**

# НЕКАЛЬКІ ПЫТАННЯЎ ДА ЧЛЕНАЎ РЭДКАЛЕГІІ ЧАСОПІСА «МАЛАДОСЦЬ»



Віктар Шніп, паэт, празаік, галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура».

**— Шаноўны Віктар Анатольевіч, вось ужо некалькі гадоў вы з'яўляецеся сябрам нашага выдання, і безумоўна ж, сваёй увагай не абмінаеце сучасны літаратурны працэс. Які твор апошнім часам вас захапіў, якая кніга ўразіла? Якія напрамкі ў айчыннай літаратуры, на вашу думку, найбольш перспектыўныя?**

***— Апошнім часам з прыемнасцю прачытаў «Мяжу» Андрэя Федарэнкі, «Сутарэнні Ромула» Людмілы Рублеўскай, «Нелюбімыя гінуць» Віктара Праўдзіна, «Паміж кубкам і вуснамі» Казіміра Камейшы, «Урокі першага кахання» Валерыя Гапеева, «Трыадзінства» Віктара Гардзея, не мінаю кароткую прозу Адама Глобуса, Барыса Пятровіча, Уладзіміра Сцяпана, казкі Раісы Баравіковай, Георгія Марчука і Алены Масла, а таксама творы Сяргея Балаханава, Вікі Трэнас, Марыйкі Мартысевіч, Андрэя Хадановіча, Тацццяны Сівец, Ягора Конева, Аксаны Спрынчан, Віталя Рыжкова, Алены Брава... Пералік можна было б доўжыць, бо ў нашай літаратуры на сённяшні дзень плённа працуюць многія пісьменнікі розных пакаленняў. Найбольш перспектыўны напрамак у нашай літаратуры — гістарычны. Тут яшчэ непачаты край работы на сто гадоў.***

**— Ці задавальняе вас «Маладосць» пачатку XXI стагоддзя? Чаго нестае часопісу?**

***— Часам мы патрабуем адзін ад аднаго сучасную «Новую зямлю» ці новы «Чорны замак Альшанскі», а пры гэтым не бачым цікавых твораў, што амаль кожны месяц выходзяць у нашых часопісах. Чаго нестае? А нестае не толькі часопісу «Маладосць», а ўсёй нашай літаратуры новых твораў Уладзіміра Караткевіча, Міхася Стральцова, Яўгеніі Янішчыц, Анатоля Сыса, Алеся Пісьмянкова, Алеся Асташонка і іншых пісьменнікаў, якія памерлі ў самым творчым росквіце. А жылі б яны сёння, то ў нашым літаратурным жыцці не было б столькі пустога шуму-тлуму...***

**— На вашу думку, якім чынам можна прывабіць масавага чытача? Іншымі словамі, якія творы могуць выклікаць большую цікавасць?**

***— Масавага чытача не трэба прывабліваць і не трэба апускацца да яго ўзроўню. Масавы чытач сам знаходзіць тое, што па яго мазгах. Часопіс «Маладосць» ніколі не быў для масавага чытача. Ён для людзей, якія ўмеюць глыбока думаць і якія думаюць не пра тое, каб што-небудзь лёгенькае пачытаць перад сном ці ў адпачынку каля мора, а, як бы гэта пафасна ні гучала, пра нашу Беларусь. Выклікаць цікавасць да часопіса могуць толькі творы ўзроўню твораў Караткевіча і Быкава. А яны ў нас ёсць і хоць зрэдку, а друкуюцца. На жаль, такія творы мы замоўчваем. Не трэба шкадаваць добрых слоў пра добрае. Паболей рэкламы, выступленняў. Час няпэўнасці пройдзе, і ўсе лепшыя творы будуць па-належнаму ацэнены, бо яны нашы, бо яны пра нас, пра нашу Беларусь...***

**— Вялікі дзякуй за адказы.**



*Міхал Бараноўскі нарадзіўся ў 1984 годзе ў Мінску. Скончыў Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка (спецыяльнасць «Гісторыя і замежная мова»). Цяпер працуе ў музеі Максіма Багдановіча. Аўтар праекта маладых творцаў «Вежа міру» на базе музея, кіраўнік музычнага гурта «Нельга забыць». Друкаваўся ў газеце «Літаратура і мастацтва», у «Маладосці» — упершыню.*

Міхал БАРАНОЎСКІ

# САМЫМ СВЕТЛЫМ РАНКАМ

* * *

Прыгожая…
Прыгожая,
Нібы кветка
У перламутравых
Завушніцах расы.
Ты глядзела,
Як па небе
Плыве
Човен,
І неба глядзела
У твае вочы,
Як глядзяць з сумневам
Няверныя
На абразы.

Прыгожая…
Прыгожая,
Вазьмі мяне за руку.
Проста
Вазьмі
Мяне
За
Руку
І ніколі не адпускай…
Я ніколі не быў такім асцярожным.
Асцярожным,
А не насцярожаным.
Дый ты і сама ведаеш,
Колькі каштуе
Цеплыня чалавечых рук.

Прыгожая…
Прыгожая,
Мы жывыя,
Мы жывыя,

Павер свайму сэрцу,
Проста павер,
І нікога больш не слухай.
Не самая лёгкая справа —
Жыць…
Жыць на мяжы
І прабівацца
Скрозь утаптаны брук…

Прыгожая…
Прыгожая,
Ты сама ведаеш,
Якія прыгожыя песні
Спяваюць рыбы.
Пад іх спевы
Хочацца жыць,
Нават калі ўсё навокал абрыдла,
Нават калі зноў і зноў
Толькі чорна-белыя сны.
Нават калі…
Нават калі…

* * *

Я сёння прачнуўся
А шостай,
З апошняй ранішняй зоркай.
Яна перад тым, як знікнуць,
Падміргнула
Ў маё вакно.
І сэрца, як камень, жорсткае,
І сэрца, як камень, жорсткае,
І сэрца, як камень, жорсткае
Жыць захацела зноў.

Я сёння
Прайшоў па вуліцы
Услед за дажджом восеньскім,
І лісце плыло па лужынах
Да сонечных берагоў…
І сонечнай ласкай Боскаю,
І сонечнай ласкай Боскаю,
І сонечнай ласкай Боскаю
Сагрэла астылую кроў.

Я сёння
Дзяліўся ўсмешкамі.
Толькі ўявіце…
Я?!
Дзяліўся ўсмешкамі,
І радасці было столькі,
Што хапіла бы на дваіх…
Але ты больш не завеш мяне,
Не завеш мяне сваім Мішкам,
І ў небе
Няма ніводнай зоркі,
Няма ніводнай зоркі
У небе вачэй тваіх…

* * *

Вось табе
Сонечных промняў пыл,
Што ляціць скрозь дзіравую столь.
Кожны пан вяжа свае снапы
І лічыць ад аднаго да ста.

Вось табе
Літары першага слова.
Зямля,
На якой жыць,
Неба акрай —
Блакітнае волава...
І пад небам нашы крыжы.

Вось табе.
Жыві і радуйся.
Жонка дурніца
І сын забойца...
І нікому не даць рады,
Не спыніцца,
Не супакоіцца.

Вось табе.
Колькі...
Колькі яшчэ трэба?
Нізка вершаў
Ці можа спатоліць смагу?
А нам усё
Толькі хутчэй бы...
А што далей —
Без розніцы...
Кольт ці магнум?

Вось табе
Пер'е.
Майструй што хочаш.
Жыві і лётай...
Жыві і лётай...
На шыбе
Полымя
Мінулай ночы
І жураўліны вясновы клёкат.

Вось табе
Сэрца.
І не пытай, навошта.
Проста павер, што так неабходна.
Проста прыслухайся,
Як яно б'ецца,
Калі да чарцей
Халодна...

Вось табе
Усё,
Што калісь я зведаў,
Што пранёс праз бясконцую адзіноту.
На палёх палыновага пустацвету
Кожны знойдзе
Сваю
Запаветную ноту.

Вось табе
Вера,
Надзея
І...
Яшчэ нешта...
Прабач...
Памяць з часам не зззяе ярчэй...
Але я памятаю...
Нешта было,
Здаецца, было
Яшчэ...

* * *

Зебра
Перапаўзала дарогу
На чырвоны колер святлафора.
Яна таксама збіралася кагосьці кахаць
І нешта данесці светлае таксама збіралася.
Яна магла даць
Сотню-другую форы
У любой сістэме разліку.
А зараз яе
Белыя косткі,
Нібы сімвал нонканфармізму,
Распласталіся ўпоперак
Ўсіх пратаптаных шляхоў.

* * *

У цэнтры Сусвету,
На маленечкай выспе дзяцінства,
Стаіць
Журавель
На адной назе.

Ісці да яго —
Тры дні…
Бегчы —
Чатыры…
Ехаць —
Пяць…

У дзюбе
Жорава —
Апалонік…

Калі жораў раскрые дзюбу,
І апалонік зваліцца ў ваду,
З яго вырасце вялікая жаба.

Яна падскочыць высока-высока,
Схопіць сваім даўгім языком сонейка
І праглыне яго.
Так скончыцца свет
І жыццё на зямлі.

* * *

Малым дзіцём
Я вырываўся
З тваіх рук,
Каб аб нечым даведацца,
І не разумеў,
Што ты вучыла мяне самаму галоўнаму,
Што самыя патаемныя веды

Пераліваліся амаль няўлоўна
Ў цеплыні тваёй далоні…

Так атрымліваецца,
Што дзеці вучацца прычыняць боль
На самых блізкіх,
І разумеюць гэта толькі,
Калі самі схіляюцца над калыскай…

Ты калісьці спявала мне калыханкі,
А я ніводнай не памятаю.
Мама,
Я ўзгадаю іх
Самым светлым ранкам
Пасля бяссоннай ночы
За кубкам гарбаты з мятай…

Гэтая гісторыя мае свой адвечны
працяг,
І без розніцы, калі прачнуцца,
Як бы далёка
Не завялі мяне дарогі жыцця,
Пакуль ты ёсць,
Мне заўсёды будзе куды вярнуцца…

* * *

У горада зялёных слізняў
Шыкоўная скура.
Асабліва па святах альбо ў поўню
Тут кожная хата
Мае сваю амбразуру,
І кожнае сэрца жыве ў сваім сузор'і.

А людзі ў роспачы гоняць галопам коней.
Ніводнай хвіліны
На роздум і ўспаміны.
Тут толькі нябожчык можа застацца спакойным,
Ды Колас на плошчы свайго азімага імені...

Палохалі духі наступствамі шэрых баталій.
Вайна назаўсёды атруціла чыстыя рэкі.
Плакат пераможны праспект абдымае за талію,
І нешта гамоніць нібы паламанае рэха.

Цяжарнае неба дробна па дахах грасіруе.
Здаецца, ўсе болей на плечы худыя цісне.
Прашу, калі ласка, суседа — пракампасціруйце
Білет... на дарогу ў вечназялёным слізні.



Кацярына Мядзведзева нарадзілася ў 1980 годзе ў Брэсце. Скончыла філфак Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна. Пераможца Міжнароднага літаратурнага конкурсу «Дзіцячы Партал-2006» (Украіна). Аўтар кнігі казак «Шкляное, алавянае, драўлянае» (2008). Творы друкаваліся ў зборніку «Магічная механіка», а таксама ў перыядычных выданнях Беларусі, Украіны, Расіі. У «Маладосці» — упершыню.

Кацярына МЯДЗВЕДЗЕВА

# РЫПУЧАЯ ХАЦІНКА

*Ненавіджу восень.* Гідкі, слотны час. Толькі высунеш нос з хаты, як цябе ўмомант прадзьме, прамочыць, адхвошча ледзяным ветрам. Змерзлыя дрэвы, волкі мох, глейкі бруд сцяжынак. І нізкае неба правісла, як стары праціснуты матрац. Увесь час сыплецца з гэтага матрацнага неба воглая дажджлівая пацяруха. Яшчэ колькі такіх дзён — і я не вытрымаю. Завяду гадзіннік і сыду адсюль. Праўда, Клякса засмуціцца, бо не будзе каму лавіць для яго рыбу. Але потым звыкнецца з адзінотай і згаслым агменем, здзічэе і ператворыцца ў ляснога драпежнага ката.

Нібы пачуўшы мае невясёлыя думкі, Клякса заварушыўся за пазухай.

— Сядзі-сядзі, хутка ўжо прыйдзем, — эх, усё ж шкада будзе пакінуць яго аднаго ў халодным перадзімовым лесе.

Вецер зусім звар'яцеў. Мне ў твар паляцела бруднабурае лісце. Скамечаныя хмары гультаявата паўзлі па сваіх справах, я поўз па сваіх, змоклы да ніткі і злы, як сабака. Нават як два — галодныя, злыя дварнякі. Зрэшты, у адрозненне ад дварнякоў, у мяне было сякое-такое жытло. Запалю ў печцы, абсушуся, гарачага пап'ю. Вядома, калі прадзіманая ўсімі вятрамі хацінка дазволіць мне развесці агонь.

Дзверы хацінкі адчыніліся з брыдкім скрыгатаннем. Клякса адразу ж выправіўся абыходзіць тэрыторыю. Чыркаючы запалкамі, я паглядзеў на гадзіннік. Не, стрэлкі ўсё там жа, — без чатырнаццаці восем. І пакуль не падкручу ключом спружыну, час будзе нязменны.

Клякса патрабавальна мяўкнуў. Малака б яму цяпер ці кавалак пячонкі…

— Ну што ты глядзіш, — я развёў рукамі. — Лаві мышэй, сябар. Лаві мышэй.

Кот паглядзеў на мяне, як быццам хацеў нешта сказаць. Але не сказаў, вядома. Ужо якім дзіўным быў тутэйшы свет, але жывёлы тут не размаўлялі.

Я пагрэў рукі перад агнём, прыладзіў каля печкі мокрую адзежу. За сцяной чуўся мерны стук. Гэта суседзі забівалі цвік за цвіком. Пэўна, развешвалі сямейныя фотаздымкі. А можа, гербарый. Рамачкі, травінкі, мудрагелі-

стыя подпісы. Раней, пачуўшы шум, я выбягаў на вуліцу, крычаў, клікаў. Я шукаў людзей, ад якіх сыходзілі ўсе гэтыя гукі. Я не адразу зразумеў, што суседзі, так добра чутныя, насамрэч не існавалі. Менавіта так, не існуючы, яны звонка пляскалі мухабойкай, гралі гамы на піяніна, калолі дровы і выбівалі дыван — увесь час, удзень і ўначы. Я забыўся, што такое цішыня.

У кацялку закіпела вада. Мая нібыта гарбата. Ежы ніякай не было. Заўтра трэба было б схадзіць на возера, праверыць снасці. Ці папаляваць, хоць гэта ў мяне ніколі асабліва не атрымлівалася…

Калі я прачнуўся раніцай, гадзіннік паказваў усё тое ж — без чатырнаццаці восем. На стале і на падлозе ляжалі шырокія сонечныя дарожкі. Сонца? Тут? Я ўстаў босымі нагамі ў цёплы жоўты квадрат. Ммм, добра… Кляксы не было відаць, пэўна, сышоў па сваіх катовых клопатах. Хацінка парыпвала, за сцяной суседзі мылі посуд, лілася вада, звінелі талеркі, грукаталі рондалі. Праз акно заплываў сакавіты водар адбіўных з часнаком. Няісных адбіўных. Я ведаў, што за акном не знайду нічога, таму проста дыхаў і атрымліваў асалоду.

Я выйшаў, — дзверы звыкла зарыпелі, бразнула шкло ў крывых акенцах, — і спыніўся, здзіўлена азіраючыся. Дзе лужыны і бруд? Што стала з апалым лісцем? Куды падзеліся за ноч тоўстыя непаваротлівыя хмары? Над галавой, высока-высока, ззяла сіняе шаўковае неба. Шаўковае?! Крый божа, мне думаць падобнымі зваротамі. Не мая думка, чужая. Дакладна чужая. А гэта значыць толькі адно: тут з’явіўся чужаніца. Гэтага толькі не хапала! Гэта мой лес, маё возера, мая адзінота і мая непагадзь. Жадаеце залатой восені — шукайце незанятае месцейка.

Шырокім злосным крокам я дайшоў да ўзлеска. Здаецца, усё знаёмае: ветраломы, калючкі, маладыя рабінкі і стагадовыя хвоі, якія пратыкаюць кронамі неба. Але гэта быў не той пахмурны лес, да якога я прызвычаіўся. Яго, стары і аблуплены лес, нібы аблілі залатой фарбай у майстэрні антыквара, зрабілі твор мастацтва і выставілі на продаж. І я, мабыць бы, купіў, ды толькі ён і так быў цалкам у маім распараджэнні. Бярозы і асіны трымцелі сухімі разьбянымі сэрцайкамі, у верасе былі бачныя капялюшыкі грыбоў. Па другім разе квітнелі ажыны, і пчолы кружлялі над рэдкімі кветкамі, што бялелі ўперамешку з шызымі, вадзяністымі ягадамі.

Маё здзіўленне нарастала. Колькі жыву тут — не памятаю ніводнага сонечнага дня. Хто ж зладзіў тут бабіна лета? Недарэчы праскочыла думка вярнуцца дахаты за кашом ды набраць грыбоў, зрабіць запасы на зіму. Запасы? На зіму?! Ды на якую зіму, калі гэты свет трывала захраснуў у восені? Гэта ўжо занадта. Я запаволіў крок і прыслухаўся. Паміж гудзеннем пчол і грукатам дзятла даносілася нечая балбатня.

Дзіўна, яна нават не пачула, як трашчаць сухія галінкі ў мяне пад нагамі. Не азірнулася, калі я кашлянуў. Не скаланулася на мой воклік. Глухая хіба? Яна балбатала з кімсьці, напеўна прамаўляючы словы і часам пасмейваючыся. Доўгія светлыя валасы, сукенка-распашонка, пісклявы голас. Адкуль тут узялося дзяўчо? І з кім гэта яна гаворыць? Аднак! Яна трымала на руках майго Кляксу! Гэты здраднік разваліўся ў яе на каленях пузам дагары, раскінуў лапы і бессаромна вуркатаў.

— Ах ты мой салодкі, ах ты мой чорны, кацянятка ты маё, — сюсюкала дзяўчына, і мне стала прыкра. Што ты за драпежнік, калі падстаўляеш жывот ворагу? Не, не выжыве ён без мяне ў лесе, занадта даверлівы…

— Клякса! — гаркнуў я.

Кот, які даўно пачуў маё набліжэнне, ніяк не адрэагаваў. Нават з ветлівасці вухам не таргануў. Затое дзяўчына запнулася, здрыганулася ўсім целам (нарэшце!) і падняла на мяне вочы. Блакітныя, шаўковыя, адпаведныя сённяшняму небу.

— Твой каток? — усміхнулася яна і паднялася. Я хацеў пакпіць з яе, але спыніўся. Таму што ў дзяўчыны быў проста велізарны жывот. Усё, на што мяне хапіла, — гэта ўзяць ката і паспрабаваць нахмурыць бровы, што атрымалася няважна. Не, я не адчуваю паталагічнай клапатлівасці да цяжарных жанчын, але прызвычаіўся ставіцца да іх з павагай. Бо калісьці і мая маці спалохана затуляла рукамі жывот, аберагаючы ў ім — мяне.

Сонца прыпякала, ад зямлі падымаўся гарачы пах травы, грыбоў, верасоў. Я глядзеў на дзяўчо. Вецер раздзімаў яе раскудлачаныя валасы, варушыў недарэчныя фальбоны на сукенцы. Можа, яе з'яўленне тут — знак таго, што мне час сыходзіць? Вось вярнуся зараз дахаты і завяду гадзіннік. Толькі… толькі перш трэба налавіць рыбы для ката, бо яму тут жыць.

Усю дарогу да возера Клякса разняволена вісеў у мяне на шыі чорным цёплым каўняром, а ля самай вады саскочыў і схаваўся ў чаратах. Была ў яго забава — жабак палохаць. Праўда, якія жабкі позняй восенню? А цяпер — вунь, сядзяць, спінкі сонцу падставілі.

Выцягваючы сетку, я адчуваў, што здабычы шмат. Вяндлярню б змайстраваць, назапасіць. Ды навошта мне гэта трэба? Я чалавек вольны, сёння ўвечар сыду і не вярнуся. А ляшчы трапіліся на любату, адзін больш за другога. Можа, не заводзіць пакуль гадзіннік ды як след прыгатаваць рыбу? Запячы ў лісці, напрыклад, ці юшку зварыць. Мех цыбулі ў Рыпучай хацінцы быў, ды і прыправы нейкія, па мяшэчках рассыпаныя, я бачыў, толькі гатаваць жадання не было.

За алешынамі непадалёк мільганула ружовая сукенка. Ізноў яна!

Падышла качынай хадой, з сумачкай праз плячо. Прыкрыла далонню вочы ад сонца, загледзелася на іншы бераг.

— А што там?

— Чарнічнік, — зларадна сказаў я. — І бульбяное поле.

Насамрэч там не было нічога гэтага. Толькі бруд, пустэча ды голыя стомленыя дрэвы.

— Бульбачкі хочацца, — яна перавяла погляд на чараты. — Давай сплаваем?

— А чоўна няма, — яхідна сказаў я.

Дзяўчо пашукала вачыма ў алешніку і вербалозе, якія апплялі бераг.

— Павінен быць, — задуменна сказала яна. — У такіх месцах заўсёды хаваюцца чаўны. Пайду пашукаю.

У такіх месцах заўсёды хаваюцца вужы. Ідзі, ідзі. Знойдзеш шмат бруду, камароў і — калі пашанцуе — тоўстую агідную змяю. Дзяўчаты баяцца ўсяго паўзучага. Мне вельмі закарцела пачуць яе спалоханы віск. Проста страшэнна закарцела.

— Дапамажы мне! — пачулася з кустоў. Прадраўшыся скрозь сухія пугі хмелю, ліснік і павоі (як, адкажыце, яна прайшла тут?!), я здзіўлена ўтаропіўся ў човен. Стары, рассохлы, але падцякае быццам не моцна. І вёслы на месцы. І вяроўка, якой човен прывязаны да шэрага, крывога ствала алешыны. Прыйшлося адвязваць, адцягваць, садзіцца на вёслы і грэбці. З чаротаў з трэскам выскачыў Клякса: як гэта, хацелі сплысці без яго!

— Кіця, кіця, — адразу засюсюкала дзяўчына. Яна ўжо ўладкавалася на карме, расправіўшы сукенку, паклаўшы на калені ружовую торбачку. Божа, і туфлі ў яе ружовыя, з кветачкамі…

Кот жыва заскочыў у човен. І мы адплылі.

Самае смешнае, што на тым беразе, за прыбярэжным пяском і бярозкамі, насамрэч было бульбяное поле. А непадалёк, сярод старых хвой і папараці, — чарнічнік. Эх, тут бы бровар прыдумаць. Ці хоць бы бакалейную краму, з крупамі і цукрам.

У дзяўчыны на дзіва моцнае ўяўленне. Амаль усё, што яна жадала, здзяйснялася адразу. Вернемся ў Рыпучую хацінку — папрашу яе пашукаць слоік з кавай. Стоп! Што значыць — вернемся? Прыгрэўшыся на сонейку, я ледзь не запрасіў дзяўчо да сябе ў хату!

— Ну што, застаешся тут? — сказаў я. — Збірай чарніцы, капай бульбу, увогуле, жыві ў сваё задавальненне. Гэты бераг твой, а той — мой.

Яна паглядзела мне ў вочы. Нязграбна прысела і пачала збіраць ягады. Мяне хапіла, можа, на паўхвіліны, а потым я выправіўся на поле ў пошуках рыдлёўкі. І не сумняваўся, што знайду…

Калі вярталіся назад, дзяўчынка маўчала — і ў чоўне, і на шляху ад возера да хацінкі. Я цягнуў бульбу і кошык з уловам, а яна размахвала сумачкай і круціла галавой, разглядаючы верас, бярэзнік, шызыя ягады ядлоўцу і плюшч, што кучаравіўся па хацінцы. Плюшч? Адкуль тут плюшч? Учора яшчэ былі падгнілыя, парослыя зялёным мохам сцены. Няйнакш заўтра ружы з'явяцца і дарожка, пасыпаная пяском, — гідкая казачная хатка з дзіцячай кніжкі-размалёўкі. Рыпучая хацінка, дарэчы, была не менш за мяне здзіўлена з'яўленнем новай расліннасці. Раз-пораз яна скідала ўпартыя атожылкі, нібы атрасалася ад нанесенага смецця. Але плюшч чапляўся вусікамі, выпускаў новыя лісточкі-зорачкі і караскаўся вышэй і вышэй, пагражаючы заплесці вокны і заткнуць комін. Хацінка парыпала-парыпала і змірылася. Выдаўшы чарговы рыпучы гук, адчыніліся касабокія дзверы, і дзяўчына ўвайшла.

— Ой, як тут утульна! — усклікнула яна. Кінула торбу на ложак і прынялася даследаваць тэрыторыю — ну сапраўды, як котка. Ткнула нос ва ўсе дзюры, адчыніла шафку з посудам, зазірнула ў палатняныя мяшэчкі з рэзкімі затаўкамі, пададнімала вечкі абкуродымленых кацялкоў. А я разглядаў круглы жаночы гадзіннічак, які выпаў з яе торбы. Бранзалетка-ланцужок, расколіны па шкле, змерзлыя стрэлкі паказваюць без чатырнаццаці восем…

Вось яно што.

— Значыцца, і ты…? — сказаў я, падкідаючы гадзіннічак на далоні.

Яна ўскінула на мяне вочы. Ужо не лялечна-блакітныя, падсветленыя сонцам, а халодныя, шэрыя. Сталыя. Цікава, ці шмат яна памятае?

— І я. Толькі бачыш, што атрымалася, — сказала яна ціха. — Давай вячэраць…

— Цябе як завуць? — спытаў я амаль ветліва.

— Ася, — сказала яна, памарудзіўшы. — А ты памятаеш сваё імя?

Я не памятаў, не памятаў наогул ні-чо-га. Так атрымалася — я жыў выключна сучаснасцю. Многія людзі палічылі б гэта шчасцем.

Суседзі ігралі на піяніна, у вокнах ружавела, печ пастрэльвала іскрынкамі. Я скроб і трыбушыў ляшчоў, Ася чысціла бульбу, Клякса ганяў па падлозе залацістую круглую цыбульку. Потым усё гэта — рыба, бульбінкі, цыбуля, заправы, — булькала і кіпела ў кацялку. Як даўно я не еў нічога больш смачнага! Выпіўшы кавы — дзіўна, знайшоўся цэлы слоік на печы! — мы пасядзелі, моўчкі гледзячы на агонь, памаўчалі кожны пра сваё. І вядома, я не завёў гадзіннік. Нават не ўспомніў пра яго…

Калі дзяўчына ўлеглася спаць на адзіны ложак у хацінцы, мы з Кляксам выправіліся ў двор. Улегліся на абярэмка сена і глядзелі на неба. У небе штосьці важдалася, шастала, скрэблася, падрыгвалі зоркі. Клякса паводзіў вушамі, прыслухоўваючыся да начных гукаў. Паляжаў са мной трохі і збег на паляванне. А я заснуў, і мне, як звычайна, нічога не снілася.

Раніцай мяне абудзіў пах. Адурманьваючы салодкі пах аладак з яблыкамі. Суседзі пяклі іх на сняданак па нядзелях. Ну, гэта я так вырашыў, што па нядзелях, бо ніякага часу і календара тут, вядома, не было.

На парозе мне сустрэўся Клякса. Хвост жыццярадасна задраны, у зубах — палова аладкі. Ася за сталом піла каву. Перад ёй на велізарнай талерцы дымілася гара пульхных жоўтых блінцоў. Духмяных. Гарачых. Сапраўдных! Але ж у хаце не было яек, мукі і ўсяго астатняга! Як ёй гэта ўдалося?

— Дзе ўзяла? — прамыкаў я. Цяжка размаўляць з набітым ротам. А тут яшчэ і смятана апынулася ў белым соусніку, густая, халодная.

— Там, за акном, — махнула рукой яна, — суседзі пачаставалі.

Я ледзь не ўдавіўся.

— Якія яшчэ суседзі?

— Ну тыя, што ўчора Шапэна ігралі, — паціснула плячыма Ася.

Мне стала прыкра. Пакуль я ўдыхаў водары і глынаў слінкі, пераконваючы сябе, што мне нічога не свеціць, Ася проста працягнула руку і ўзяла тое, што ёй жадалася. Чаму я сам да гэтага не дадумаўся?!

— Ты чуў? Уначы ў небе хтосьці корпаўся, варушыўся, — сказала Ася, і ў яе вачах мільгануў страх.

— Тут такое часта бывае, — цяпер ужо я паціснуў плячамі. — Часам і пацяруха сыплецца, галінкі сухія, костачкі…

— Чые костачкі? — падскочыла яна.

— Вішнёвыя! — ну і палахліўка! Мабыць, думае, што неба — гэта нешта накшталт антрэсоляў, дзе можа пасяліцца страшная калматая пачвара. З ікламі, вострымі кіпцюрамі, драпежная і крыважэрная… Я спахапіўся. Як бы не напрыдумляць лішняга. І тут жа, пацвярджаючы маю асцярогу, у паветры раскаціўся злавесны, вантробны рык. Дахаты прыбег Клякса. Хвост мяцёлкай, поўсць на хрыбце ўздыбілася — ці то біцца памкнуўся, ці то хавацца.

— А гэтая пачвара можа спусціцца да нас? — дрыготкім голасам спытала Ася.

— Можа, — злосна сказаў я. — Больш за тое, спусціцца даволі хутка.

— Як?!

— Па лесвіцы!

Яна недаверліва ўсміхнулася.

— Я не жартую, — проста немагчыма, нічым яе не возьмеш! — Так што скачы ў човен і ратуйся за возерам. Пачвара не ўмее плаваць.

— Навошта ты гэта кажаш? — абурылася яна. — Я не баюся! І застануся тут.

Нібы даказваючы сваю адвагу, яна ўзяла кош і адправілася ў лес. Клякса за ёй. Што мне заставалася рабіць? Я прыхапіў са стала нож і паплёўся ў грыбы. Сямейкі белых, маслякі з наліплай на скурку ігліцай, кідкія шапкі чырвонагаловікаў. Дзіўна, як хутка пераключаецца свядомасць з разважанняў на пошукі. Страляеш вачыма сюды-туды, прыцэньваешся да чарговага карычневага капялюшыка — ядомы? Неядомы? — і галава становіцца выдатна-пустая, у адрозненне ад кошыка.

Насвістваючы песеньку, я абшукваў траву, мох і апалае лісце, зазіраў пад лапы хвоям. Сонца міргала скрозь рэдкую лістоту. Ідылію парушаў толькі грукат, які зрэдку даносіўся зверху. Дурная пачвара. Грукачы — не грукачы, ежы табе ўсё адно не дастанецца. Завяду гадзіннік і сыду. І ты, пакрыўджаная і галодная, абдзіраючы каленкі, пакараскаешся назад на неба.

Невядомы нябесны жыхар быў тут з самога пачатку. Калі я ачомаўся ў Рыпучай хацінцы, побач сядзеў Клякса, у печы гарэў агонь, за вокнамі ліў дождж, — і зрэдку хтосьці скуголіў у нябёсах, маркотна і працягла. Калі выдаваліся сухія пахмурныя дні і пераставала крапаць, з-за аблокаў даносіліся дзіўныя гукі: скрыгат кіпцюроў, пырханне, грук. І сыпалася зверху смецце, а аднойчы ўначы мне здалося, быццам

хтосьці з шумам уцягвае паветра, прынюхваецца, шукае, чым бы пажывіцца. Клякса ў тую ноч добра-такі збаяўся: пэўна, яму прымроіўся гіганцкі зласлівы сабака — пажыральнік дробных хатніх улюбёнцаў.

Усе мае страхі скончыліся, калі я сеў і старанна падумаў: дык жа не спусціцца пачвара сюды, ніяк! Саскочыць — занадта высока, а крылаў у яе няма. Ня-ма! Так што хай аблізваецца і прынюхваецца колькі заўгодна, усё адно сюды не патрапіць!

А сёння невядома нашто я разбурыў абарону, лесвіцу нейкую прыплёў.

Ну і добра. Урэшце, гэта мой свет. Што хачу, тое і кажу.

Да хацінкі мы падышлі адначасова: я — з поўным кошыкам грыбоў, Ася — з кашом ярка-чырвоных ягад і букетам жоўтых кветак. На мой здзіўлены погляд яна дзелавіта растлумачыла:

— Гэта шыпшына! Вельмі карысна, вітаміны, узімку будзем заварваць. А гэта, — яна патрэсла жоўтымі кветкамі, — піжма.

Мне гэта абсалютна нічога не казала.

— Піжма, — яна глядзела на мяне, як на някемлівае дзіця. — Паспрабуй!

І я купіўся. Вырашыў, што суквецці будуць салодкімі ці хоць бы кіславатымі. Скрывіўся, доўга адплёўваўся:

— Дрэнь! Калі хоць раз гэта заварыш, выкіну з хаты і кветкі, і цябе…

— Яе не заварваюць, яе ад глістоў ядуць, — растлумачыла, адсмяяўшыся. — І дзеля апетыту.

Наступную гадзіну мы не размаўлялі. Сядзелі на лаўцы побач і перабіралі, скрэблі, чысцілі. Белыя нанізалі на нітку і павесілі над печчу сушыцца, астатнія пасмажылі з цыбуляй. Да іх бы хлеба…

— Вельмі хлеба хочацца, — сказала Ася, паспрабаваўшы грыбы. — Дзе ў нас хлеб?

Я своечасова скеміў прамаўчаць, і неўзабаве велізарны духмяны каравай адшукаўся ў палатняным мяшэчку на печы. А ад дзяўчыны больш карысці, чым шкоды.

Пасля ежы мне хацелася спаць. Ася таксама сядзела размораная і сытая, пагладжвала жывот і нібы да яго прыслухоўвалася. А яна ж рана ці позна нараджаць будзе. І каму ж прымаць роды? Па скуры пабеглі мурашкі, калі я ўявіў сябе ў ролі акушэра. Можа, да таго часу матэрыялізуюцца суседзі? Пажылая пара, муж-паляўнічы кожны тыдзень прыносіць дахаты мяса, а жонка ўсё жыццё прапрацавала павітухай, а?

З-за сцяны пачулася музыка. Ася заплюшчыла вочы і з усмешкай слухала, а я разважаў. На такім вялікім тэрміне наўрад ці яна здзейсніла самагубства. Калі ўжо данасіла амаль да родаў, які сэнс паміраць? Значыць, хвароба? Ці няшчасны выпадак, а можа — яе забілі?

Сваю смерць я, хоць смутна, ды памятаў. Уласна, гэта быў адзіны ўспамін, які перайшоў са мной з таго свету ў гэты. Аварыя. Віск тармазоў. З усяе моцы выварочваючы руль, спрабуючы аб'ехаць — каго ці што? — я ўрэзаўся ў слуп. А можа, у дрэва, разгледзець не паспеў. Так і апынуўся тут. І гадзіннік спыніўся без чатырнаццаці восем. Куды ж я так спяшаўся, што нават забыўся прышпіліцца?

— Ты вёз мяне ў радзільню, — глуха сказала Ася.

— Што? Мы былі знаёмыя? — Не можа быць! Не забыў бы я сваю жонку! І пярсцёнка няма на пальцы, а я насіў бы пярсцёнак, калі б ажаніўся.

— Не, — сказала яна ціха. — Таксі…

А як тут апынуўся Клякса? Гэтага я наогул не мог зразумець. Я яго збіў? Спрабаваў аб'ехаць, але не атрымалася? Ці ён мясцовы жыхар, правадыр з аднаго свету ў іншы? Я глядзеў на Кляксу, але ў яго бурштынавых вачах, вядома ж, не было адказаў на мае пытанні…

Такім чынам, сталі мы жыць у Рыпучай хацінцы ўтрох. Ася спраўлялася з мясцовым жыццём куды лепей за мяне. Не кажучы пра міскі з аладкамі, мясным рагу і шчодрымі кавалкамі чарнічнага пірага, што часцяком з’яўляліся на падваконні, яна ўжо некалькі разоў бачыла суседку, здалёку, са спіны… Я з заміраннем сэрца чакаў, калі ў дзверы пастукаюць, і на парозе з’явіцца пажылая пара.

Адносіны нашы з Асяй — ці то братэрскія, ці то сяброўскія, — станавіліся ўсё цяплей. Мы ніводнага разу не палаяліся сур’ёзна. Хіба што калі салілі рыжыкі, паспрачаліся наконт рэцэпту. Мы разам блукалі па лесе, разам гатавалі вячэру і мылі посуд. Ночы стаялі халодныя, і неўзабаве я з двара перабраўся назад, у хацінку, на адзіны ложак, які — я не жартую! — стаў адчувальна шырэйшым, настолькі, каб хапала месца і мне, і Асі, і яе вялікаму жывату. Я падтыкаў ёй коўдру, а яна не будзіла мяне, калі я хроп. Клякса быў кімсьці накшталт нашага прыёмнага катовага, дзіцяці, і, увогуле, мы жылі як звычайная сям’я… ну, амаль як звычайная.

Ведаючы, што зіма не наступіць, тым не менш мы сур’езна рыхтаваліся да яе. Варылася сочыва з позніх чарніц, над печчу віселі нізкі баравікоў, сушыліся шыпшына ды дзікія яблыкі. Ася збірала нейкія зёлкі, вязала іх у пучкі і развешвала па хаце. Я лавіў рыбу. Мы вэндзілі яе. Не самая лепшая ежа на зіму, але іншай не было. Ды і, кажучы шчыра, я мала верыў у зіму. У гэтым нерухома замерлым свецiку стаяла вечная восень. Тая самая, у якой мы так і не даехалі з пункта А ў пункт Б…

Часам у маю галаву прыходзіла вар’яцкая думка: а што, калі ніколі не заводзіць гадзіннік? Так і жыць у развалюшцы пасярод лесу, у чорта на рогах, у паміжсвецці, якое часам здавалася мне чысцяцом, а часам галюцынацыяй. Але нельга ж так жыць вечна. Добра — я, а як Асі з яе дзевяцімесячным жыватом? А як дзіцяці, якое так і не нарадзілася той нешчаслівай восеньскай ноччу?

Мы не размаўлялі пра гэта. Хутчэй, мы пра гэта маўчалі.

Неяк раніцай Ася выйшла ў двор, і я пачуў яе спалоханы выкрык. Выбег і знерухомеў. Было ад чаго. За два метры ад хацінкі стаяла лесвіца.

Прыпёртая да неба.

Я дык адразу і не сцяміў, навошта. Стаяў, задраўшы галаву, і дзівіўся на касыя перакладзінкі, якія сыходзяць за аблокі. Гэта ж трэба — стаіць і не валіцца. Потым я азірнуўся на Асю — і падумаў тое ж самае. Яе твар быў пад колер вачам, шараваты. Дрыготкімі рукамі яна абдымала жывот і з жахам глядзела на мяне. Вось тады і я ўспомніў свае даўнія словы пра пачвару, якая спусціцца з неба.

— Ну ты і баязліўка, — я спрабаваў надаць голасу бестурботнасці, — падумаеш, лесвічка. Ды я яе зараз…

Я пхнуў яе нагой — і заскакаў, рыпаючы зубамі ад болю. Ася паспрабавала расхістаць рукамі, але ж лесвіца не ссунулася з месца. Як быццам была моцна прыкручана там, наверсе.

— Ідзі ў хату, — сказаў я. А што я яшчэ мог сказаць?

Мы замкнуліся і ўвесь дзень праседзелі, гледзячы ў акно. Лесвіца стаяла. Мы нерваваліся. Раз-пораз мне мроілася тоўстая лапа з кіпцюрамі, што высоўваецца з-за хмар і правярае лесвіцу на трываласць. А можа, першым з’явіцца хвост?

Ася зусім расклеілася, яе трэсла. І, што самае кепскае, — яе самаадчуванне, як у люстэрку, адбівалася за акном: хвастаў дождж, зіхацелі маланкі, вецер шпурляў у вокны прыгаршчы пяску. Я і раней ведаў, што Ася кіруе тут усім — хлебам, соллю, кававымі слоікамі, суседзямі і надвор’ем, але не думаў, што ўсё настолькі сур’ёзна. Зрэшты, у гэтым быў і плюс. Сваёй паўнепрытомнай істэрыкай яна накруціла такую непагадзь, што ніводная пачвара не сунула б носа ўніз са сваіх утульных цёплых аблокаў.

Увечары стала зусім кепска — што ўсярэдзіне хацінкі, што знадворку. Ася дрыжала, і я абняў яе, каб сагрэць.

— Мы памром? — спытала яна.

— Ну не! Ты можаш памерці, толькі калі завядзеш гадзіннік. Пакуль час тут спыніўся, мы жывыя, нават калі чортаў тузін пачвар будзе грызці нашы костачкі.

— Хто табе сказаў? — недаверліва спытала яна.

— Ды ніхто, — я пацiснуў плячамі. Я проста ведаў гэта з самага першага дня, як і тое, што ката клічуць Клякса, што за лесам ёсць возера, а ў возеры рыба. Гэтыя веды сядзелі ўва мне, як быццам хтосьці ўклаў іх унутр клапатлівай рукой, ды яшчэ і праверыў, ці добра трымаецца.

— І потым, я не называў бы гэта смерцю, — сказаў я, памаўчаўшы. — Адзін раз мы ўжо памерлі — але насамрэч проста перайшлі сюды. Хто ведае, куды мы пяройдзем, калі завядзём гадзіннік? Можа, там будзе чарговая хацінка і чарговы лес…

— А можа, не будзе нічога, — працягнула Ася ўпарта.

Калі яна заснула, я дастаў гадзіннічак з яе сумачкі і схаваў у надзейнае месца. Калі, вядома, можна назваць надзейным месцам рыпучую масніцу пад лаўкай.

А раніцай знік Клякса. Ужо як мы, на зайздрасць суседзям, клікалі яго, грукалі міскай і павабна шамацелі паперкамі, — усё было марна. Кот знік. А на бруднай зямлі ля хацінкі адбіліся нечыя велізарныя пяціпальцавыя сляды. На сцяне бялелі свежыя драпіны. Бог мой, ды тут кіпцюры большыя, чым мой нож. Мяркуючы па развярочанай загарадзі, пачвара сышла ў лес. А значыцца, нам сунуцца туды не варта. Хоць ката было шкада страшэнна. Я ледзь стрымліваў слёзы, што ўжо казаць пра Асю.

— Клякса! Коцічак! — крычала яна. Потым рашуча падняла з зямлі нейкі сук…

— Куды сабралася? — я ледзь паспеў схапіць яе пад локаць.

— За Кляксам! — заявіла Ася, і я жыва ўявіў, як дзіця ў яе ўлонні грозна сціснула кулачкі. Сапраўды, жанчына-ваяр. Не палкай заб'е, дык жыватом заштурхае.

Я ўзяў сучок з яе рук і лёгка пераламаў.

— На дровы добра. Для бойкі — не. І потым… баюся… наўрад ці ён яшчэ жывы….

— Але што як ён проста заблукаў? — прагаварыла Ася жаласна. — А што, калі ён цяпер сядзіць на дрэве і кліча нас? Ты ж не можаш ведаць дакладна!

З сумненнем паглядзеўшы на свой сцізорык, я пацiснуў плячыма. Што ж, у лес дык у лес. Заадно праверым, ці меў я рацыю наконт гадзінніка і нашай так званай бессмяротнасці.

Сляды нябеснага візіцёра былі пагрозліва красамоўныя. Абадраная кара на старых дрэвах. Зламаныя ад кораня маладыя рабінкі з аб'едзенымі вяршынямі. Пабітыя і перавернутыя карчакі. А можа, проста лось ці мядзведзь? Я не сустракаў у нашым лесе звяроў буйнейшых за вавёрку — але калі я іх не сустракаў, гэта ж не значыць, што іх няма?

Мы ішлі па слядах, імкнучыся не шумець. Раптам Ася прыціснула палец да вуснаў і паказала мне вялікі выварацень, закіданы яловымі лапамі. Ох, як не хацелася мне сунуцца ў гэтую невядома чыю лежню. Але Ася глядзела, і я, расправіўшы плечы, рушыў наперад. Асцярожна адсунуў ад увахода адну яловую лапу, другую...

Калі вочы прывыклі да цемры, мы ўбачылі ў паглыбленні беласнежную шкуру. Не ведаю, хто гэта быў, але ён гучна соп і, мяркуючы па ўсім, салодка спаў. І да велізарнага яго боку чорнай плямай прыткнуўся да болю знаёмы клубок.

— Клякса! — прашыпеў я, молячы Бога, каб белы звер не прачнуўся.

Кот нібы чакаў, калі яго паклічуць. Тут жа выбраўся да нас і прыняўся церціся аб ногі. Я стаяў у роздуме, пераводзячы позірк з белай шкуры на свой нож.

Ася пакруціла галавой.

— Ты што! У яе дзеткі ўвесну народзяцца, нельга яе забіваць!

— Каго — яе?

Яна пацiснула плячамі.

Мы закідалі галінкамі ўваход у бярлог і пайшлі дахаты. Клякса сядзеў на маім плячы, як пухнатая чорная курыца. Ася ж, хітра зірнуўшы, сказала:

— А можа, там у бярлогу спіць карова! І ўвесну яна будзе даваць нам малако.

— Карова? Спусцілася з неба па лесвіцы, грозна парыкала і залегла ў зімовую спячку? Ты ў сваім розуме? — засмяяўся я.

— А хто і што тут наогул у сваім розуме? — сказала Ася задуменна.

Мы вярнуліся да хацінкі. Лесвіца больш не здавалася злавеснай, стаяла сабе, легкадумна прыпёртая да аблокаў. А можа… Не, праўда… Залезці на неба і паглядзець, што там такое? Можа, там стаяць мяхі са снегам. Усяго толькі і трэба высыпаць некалькі ўніз, каб ссунуць з месца бясконцую восень.

Я перавёў позірк на Асю.

— Давай, давай, табе ж карціць, я бачу, — усміхнулася яна. — Ты заўсёды быў вялікім хлапчуком, аматарам прыгод…

— Зазірну з нашага сутарэння на верхнія паверхі, — я падміргнуў, — раптам жыццё там лепей ды ляшчы буйнейшыя?

Яна кіўнула.

— Ты ж справішся тут адна… некаторы час?

— Канечне, — хутка сказала яна. — Так. Я прывыкла спраўляцца адна… не хвалюйся…

Махнуўшы мне рукой, Ася папляілася ў хацінку, Клякса пабег следам. А я паставіў нагу на ніжнюю прыступку…

Дзіўныя людзі, баяцца вышыні. Хоць з вышыні наша жыццё, дробнае, мітуслівае, бачнае як на далоньцы. Вунь лес, цёмныя іголачкі хвой, возера-кропелька. Там дзесьці парыпвае хацінка-развалюшка, шпацыруе Клякса, і Ася глядзіць у акно, гадаючы, ці вярнуся я… А праўда — ці вярнуся? Мною авалодала дзіўнае пачуццё, нібы і не маё. Там, за аблокамі, хаваўся неразведаны, патаемны сусвет… можа, там жылі людзі, стаялі хаты, па морах блукалі караблі, — а можа, толькі дрэвы сыпалі ў ціхія воды азёр пажухлае лісце, і толькі птушыны крык разлятаўся над пустымі абшарамі… Я мог бы стаць гаспадаром гэтага свету, рабіць, што захачу, бо я вольны — так, як толькі можа быць вольны памерлы чалавек… у мяне няма ні абавязкаў, ні прыхільнасцей… а Ася — яна прывыкла спраўляцца адна, так яна сказала.

Я спыніўся. Патрос галавой. Думкі былі і сапраўды не мае. Ужо не ведаю, каму ў галаву прыходзіць падобнае, але я вось насамрэч думаў інакш. І хай той верхні завоблачны свет застанецца іншым адкрывальнікам, як неразгорнуты падарунак пад навагодняй ёлкай. Можа, камусьці іншаму, ці то самотнаму і беспрытульнаму, ці то амбіцыйнаму і цікаўнаму, гэты падарунак спатрэбіцца больш. А я — не, ужо не вялікі хлапчук. Я стомлены сталы чалавек, якому патрэбныя для жыцця толькі хата і сям'я, — і я ледзь не забыўся, што яны ў мяне ёсць…

Абдзіраючы рукі, пераскокваючы праз прыступкі, я спусціўся і пашыбаваў у хацінку. Чамусьці раптам трывожна і цёмна стала на душы. Я пакінуў Асю адну ненадоўга — але яна ж думала інакш…

Дзякуй Богу, з Асяй было ўсё добра. Яна сядзела за сталом і трымала ў руках штосьці дробнае… Яе вейкі і шчокі былі мокрыя. Яна паглядзела на мяне здзіўлена — і вінавата. А потым я пачуў у цішыні далікатнае, ледзь чутнае ціканне…

— Навошта?! — прастагнаў я.

— Без цябе... — прагаварыла яна і адчайна расплакалася, выпусціўшы з рук гадзіннічак.

Калі б я ўмеў папраўляць непапраўнае… Але я не быў чараўніком. Таму я моўчкі зняў са сцяны свой гадзіннік і таксама завёў яго, а потым сеў за стол побач з Асяй. Калі ўжо вырашыў быць з ёй, то і буду, і гары яно ўсё агнём…

Ася ўсхліпвала, а я быў так прыгаломшаны яе ўчынкам, што нават не баяўся паміраць. Цікава, як наогул гэта адбудзецца? Мы заснём? Знепрытомнеем? Ці грымне гром, і ўвесь гэты свет праваліцца ў тартарары?

— Глядзі, — раптам аднымі вуснамі сказала Ася. Я спачатку не зразумеў, куды глядзець, і яна паказала на акно.

За акном ішоў снег. Ён нават не ішоў, ён бег, ляцеў, валіў густымі камякамі, засыпаючы сцяжынкі, і хацінка радасна парыпвала ў прадчуванні прыгожай белай кучомкі…

Ася зірнула на мяне, і ў яе вачах больш не было сусветнай скрухі. «Мы жывыя? І мы ўсё яшчэ тут?» — казаў яе позірк. Яна адкінула гадзіннік і памкнулася да мяне, але раптам схапілася рукамі за жывот. Я спалохаўся не на жарт: цяпер у яе вачах быў боль.

— Нічога не кажы, — загадаў я. — Пасядзі, а лепш паляжы, я мігам…

Ася кіўнула. Я грукнуў дзвярыма і, рыпаючы першым сняжком, панёсся вакол хацінкі. І я быў цвёрда ўпэўнены, што пажылая суседка-акушэрка ўжо апранае паліто і з саквояжам у руках спяшаецца мне насустрач.



*Таццяна Сівец нарадзілася ў 1982 годзе ў Мінску. Скончыла факультэт беларускай філалогіі і культуры БДПУ імя М. Танка (2005), аспірантуру пры Інстытуце мовы і літаратуры імя Я. Коласа і Я. Купалы НАН Беларусі (2008). Працуе каментатарам на радыёстанцыі «Беларусь» (замежнае вяшчанне Беларускага радыё), рыхтуе праграмы на беларускай і англійскай мовах. Піша вершы, прозу, п'есы, перакладае з англійскай. Аўтар кніг «Пралянець па вясёлцы», «Ліпеньская навальніца», «Таму, хто знойдзе».*

Таццяна СІВЕЦ

# САГРЭЮ ДУШУ Й ДАЛОНІ

## ЗАМЕСТ АЎТАБІЯГРАФІІ

Неба было аранжавым, бы апельсін.
(І пахла такім жа чынам.)
Маме маёй казалі: «Сын.
Пасуе такім жанчынам».
Дні за днямі каціліся, як
Купальскае сонца-кола,
І нарадзілася я.
А мама чакала анёла…

* * *

Я гляджу на цябе, трымаючы рукі за спінаю, як дзіцёнак.
А табе, напэўна, няёмка, што я так кахаю адчайна...
Але ведаеш, любы, з каханнем нельга, як з выключальнікам:
Раз — і цёмна.
Яно і само згасае, хіба паступова, з часам...

Глядзі: ўсе навокал так лёгка складваюцца, быццам
малюнкі-пазлы,
Толькі нам не спаткацца ніяк з адзінаю ды адзіным.
Хаця мне гэтая акалічнасць чамусьці не падаецца
дзіўнай:
Проста нехта — ўнутры, а хтосьці — заўсёды па-за.
(Вось гэта — дзіва!)

У мяне ўсё яшчэ — зіма... Так, шосты месяц.
(Дарэмна, што сонца паліць!)
Ды я ўжо амаль не адрозніваю колеры спачувальных
паглядаў, я...
Зразумела раптам, што мы аніколі
(вось жа прыслоўе клятае!)
Ні ў залеву, ні ў снег не патрапім — разам!
Бо мы з табою не дажылі да
Купалля...
Не кажучы пра Каляды.

## ВЕРШ, НАПІСАНЫ ЎВЕЧАРЫ НА ПАДАКОННІ

Чорт з табою! Сніся ўжо лепей ты!
Бо ўсё астатняе — толькі дзяцей палохаць!
Днём патанаю ў справах, нібы ў палонцы,
Не правяраю пошту — нашто не твае лісты?!
І толькі ўвечары (дзе ж гэта дзень мінуў?)
Раптам згадаю ўсё, што нядаўна было галоўным,
Кубкам гарбаты сагрэю душу й далоні…
І не засну.
А зранку ізноў буду не ў белым, і не ў гуморы,
І нават крыху не ў фокусе (ну дык, і што ж цяпер?!).
Я ведаю, што не спраўдзіцца, што «на чацвер»…
Ды можна мне ў сны хоць лапінку неба, кропельку мора
І цябе?

* * *

Мама, ведаеш, я напісала яму трыццаць тры лісты.
З іх — тры пустыя. У дваццаці — шмакроп'і.
А дзесяць — зусім дурныя! (У гэтых — вершы.)
Я прадчувала, што будзе балюча,
але ён сказаў: «Не бойся!»,
і я заплюшчыла вочы ды не расціскала пальцы…

Мама! Я болей не буду!
Я болей ніколі не буду так!..
Хай толькі сціхне вецер…
Ты нагадай мне
каб я часцей усміхалася,
размаўляючы з Богам, і не забывалася паліваць герані.

Нічога-нічога, мне проста
прысніўся жахлівы сон,
а так усё добра…
Так добра, што ты не чытаеш мяне
і не ведаеш, што я памерла апоўначы першага траўня…
Мама!

## FROM: МАРЫСЬКА-66

Мой каханы, пішу табе ў Вільню... Дакладней, у неба над Вільняй…
Ты пытаўся пра шчасце... І нешта яшчэ... Карацей,
Я дазналася: яно нарадзілася ў некага, голубам села на вільчык...
А сягоння я бачыла трох, у каторых яно расце...
Хаця іхная колькасць, напэўна, пабольшала за апошнія хвілі...

Покуль я на світанні, трызнячы, гаварыла з Радзімаю і трымала
Даланю на шчасці, хай сабе кволым, высненым і чужым,
Ты казаў мне, што праўда — жыццё! (Я засвоіла тое трывала!)
Але з праўдай пад сэрцам чамусь немагчыма жыць...
Чарнабровы мой, ведаеш, я ж ім усім даравала...

Амаль... Нават тое, што пасля нас з табой застанецца неруш!..
Раней бы... Я бедавала, што мовы нашай не знаюць жаўнер і кат…
А цяпер... Не! Я не хворая!.. Доктар мой вінаваціць гады і нервы —
Толькі ён памыляецца!.. Проста я не маю на што наракаць,
Акрамя таго, што ты здрадзіў мне з гэтай Вільняй і з гэтым небам!..

Ты пішы мне, каханы, я буду чакаць...
Лістоў...

* * *

Твая каралеўна скакала ўчора з самай высокай вежы
І за позірк адзін абяцала сэрца і цэлы свет.
Ёй казалі, што казка скончана, казалі, што нехта не дажыве,
Што ад ейных скокаў нічога ўжо не залежыць!..
Ды яна не паверыла і скочыла… Хоць і не зразумела адразу: уніз ці ўверх…
Не плач, мой маленькі, спектакль закончыцца — абавязкова шчасцем!
І вяселлем на сто чалавек (плюс чатыры яшчэ не дайшлі)…
А каралеўна… Колькі там — з вежы да неба ці да зямлі?..
Можа, яна ўсё яшчэ падае? Нашто хвалявацца заўчасна?!
Мы ж не ў Пізе (крый Божа!) і нават не ў Падуі! І мора нашае перажыло адліў…

Праўду кажучы, гэту гісторыю склаў мой прыдворны блазан!
(Ён, ведаеш, з тых, каго працей выслухаць ці забіць.)
І калі я яе пачула, то сказала адразу: «Гэтага ніколі не можа быць!»
Я адразу сказала блазну: «Хочаш мяне абразіць?!»
А ён утапіўся ў рачулцы, пакінуўшы мне мажлівасць памятаць ці забыць…

Ды нешта не цягне ні плакаць, ані смяяцца —
Толькі і засталося — скардзіцца на каханкаў, лёкаяў і гады…
Кажуць, што загаіцца з часам, але наўрад ці — гоіцца ў маладых!
Таму штораніцы памірае нехта з любых маіх паяцаў…
…Глядзі на мяне, мой усмешлівы паж, глядзі!

* * *

А мне так смешна, што ўсе яны, ведаеш, выжываюць без цябе.
(Хіба што гэты наіўны хлопчык з вачыма-небам.)
Бо іх сусвет не падзелены на «тады-цяпер»
І словы іх не падобныя на малебны.
Яны не ведаюць моц гэтых тонкіх рук.

(Хіба што гэты…) Прабач, мой цнатлівы… Я зноў не тое…
Я — першая на ампутацыю сэрца, але ж хірург
Заплюшчыў вочы і выправіўся ў непрытомнасць.
Ты толькі крыкні, любы, і я табе буду — зык!
Шэптам пакліч — ізноў басанож па снягах прайду я.
Я малюю цябе — атрымліваюцца абразы…
Праўда, гэты, блакітнавокі, чамусь на мяне крыўдуе.

## САМЫ ПРАЎДЗІВЫ ВЕРШ

Нават калі б гэты горад змяшчаўся ў ракавінцы смаўжа
І не было куды ўпасці ні яблыкам, ні дажджам,
Я ўсё адно змайстравала б сабе сцяну, каб не дакрануцца, не дакрану…
Маню!
Мне адменна знаёмае гэтае рамяство:
Знітоўваць надзеі, каб зраніцы зноў — па швох!
Мне гэтыя гульні дзіцячыя — у вайну — канечне ж, не ў навіну!
Маню! Я ізноў маню!
Ты кажаш сябрам, што стаміўся ад цяжару перамог!
Што, праўда, зусім не бог ты, а толькі зрабіў, што мог.
(«Бачыце: позіркам гэткую прыручыў!»)
Не спадзявайся, воўча мой, вочы тут не пры чым!
Ты лепей маўчы! Маўчы!
Нават калі б раптоўна нас горад вырашыў падтрымаць
І ўпіхнуў — апошнімі — у тралейбус ці то ў трамвай,
Мы б і там заставаліся — па-адным.
І маўчалі б, напэўна. Толькі каб не маніць!..

## ГАВОРКА І ВОДАР КАВЫ

Дзяўчынка мая, гэта ж праўда — такое глупства:
Усе нашы хлопчыкі, слёзы іх, радасці ды… іншае даміно!
У іх вачніцах нехта гуляе зноў: бачыш? Там — «пуста-пуста»!
І, калі мы праводзім іх, заручаных з вераснем і вайной,
То цалуем ціхутка — у самы краёчак вуснаў…

Хай іх не турбуе, што нам спатрэбіцца, пэўна, год,
Каб не ўздрыгваць ад гэтых крокаў, ад гэтага голасу ці імя,
Каб ізноў навучыцца хадзіць па вуліцах, а не кідацца наўздагон
За падобнымі… І наогул, каб наша жыццё, бы мяч,
Пакацілася — ні турбот, ні подзвігаў, ні даўгоў…

А проста суцэльная стомленасць ды лагода —
Такое ўтульнае, звыклае, такое добрае наша гета…
Ты заўваж, харошая, што калі яны, развітаўшыся ветліва, адыходзяць,

То плачам зусім не мы! І, хоць справа хутчэй не ў гэтым…
Давай мы не будзем іх болей кахаць! Ты згодна?

## ВЕРАСНЁВЫ ВЕРШ

Я магу быць утульнай і цёплай, як плюшавае медзведзяня…
Я магу… Сядзець каля самага твайго ложка, вартуючы цішыню...
У маіх валасах — зоры... Не чуеш? Яны звіняць!
Так асцярожна, што ўсе думаюць, быццам бы я маню…
Я… Я магу быць пяшчотнай!..
І сонечным зайчыкам вусны твае і скроні твае кранаць…
А ты, нібы цмок, хаваеш душу ў пячоры,
Кажучы, што не час, што ідзе вайна і Божачку не да нас…
І ўсё гаворыш, гаворыш… А зоры звіняць і звіняць!..

* * *

Словы — вада, ды, калі мы ішлі на дно,
Калі нас прыціскалі долу зіма і ноч,
Я так прасіла кагосьці: «Няхай гэта — мне адной!
Хай мой крыштальны хлопчык стоміцца без мяне
У новай сваёй, маўклівай сваёй вайне!»
І чула ў адказ: «Канечне. Чаму б і не?»

Гэта пасля. А тады... Мне не трэба было прасіць:
Гукі самі звіваліся, ткаліся — у паясы...
Я дакладна ведала, да каго будзе падобны мой сын,
Вышывала стужачкі — для дачкі...
І калі ты чытаеш зараз гэтыя пакручаныя радкі,
Ведай, што мне не ўсё роўна, дзе ты і з кім!

Я з красавіка не перагортвала каляндар,
Калі з рук тваіх выпала, як залаты штандар...
Замест сэрца у мяне цяпер — соль ды вада.
І таму я, сыходзячы з дому, забываюся на парасон,
Бы ў паліто, захутваюся — у сон.
І ўсё.

Міхась ЗІЗЮК



Міхась Зізюк нарадзіўся ў 1967 годзе ў вёсцы Лучыцы Петрыкаўскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў Новасібірскае вышэйшае ваенна-палітычнае вучылішча. Служыў на Далёкім Усходзе. З 1993 года жыве і працуе ў Навагрудку. Апавяданні друкаваліся ў газеце «Звязда».

# АДНАКЛАСНІКІ

*Аповесць*

## ЧАСТКА 1

*Званок тэлефона выхапіў* яе з глыбокага сну. Яна нават не паспела запомніць, што ёй снілася ў гэты момант: нешта важнае для яе ці нейкая нязначная дробязь. Ніякіх успамінаў, усё роўна, як адрэзала. А ёй так хацелася нешта выцягнуць з падсвядомасці, даведацца, што там адбывалася. Бо з нядаўняга часу Ганна спрабавала аналізаваць свае сны. Пасля таго як ёй прыснілася, што Віктара ўкусіў да крыві пацук, яна пагартала соннік. Аказалася, што гэта да непрыемнасцей і даволі значных. Так і здарылася. Віктар трапіў у аварыю, пашкодзіў нагу. Тады яна і пачала запамінаць свае сны. Але сённяшні званок быў такі нечаканы, што яна не паспела выхапіць нават хоць нейкі ўрывак.

Ганна падхапілася, села на ложку і схапіла слухаўку. Віктар толькі нешта прамармытаў у сне і адвярнуўся, закрыўшыся коўдрай з галавой. Яна прыціснула слухаўку да вуха:

— Ало?

— Прывітанне, Гануля. Выбачай, што можа, ранавата. Але ў нас дзень у самым разгары. Як жыццё? — запытаў незнаёмы мужчынскі голас.

— А хто гэта? Не магу пазнаць.

— Ну, нішто сабе. Школьных таварышаў ужо не памятаеш. Здагадайся сама.

— Дальбог, не магу пазнаць, — вінавата прызналася Ганна, — хто гэта? Вось перабіраю па памяці — і не магу. Хопіць гуляць у кошкі-мышкі. Кажы хутчэй.

— Як ты магла забыць таго, хто цябе пакахаў самым першым? Таго, хто дзеля цябе мог усім ахвяраваць? А вось я за ўсе дваццаць год цябе не забыў. Нават памятаю, калі пакахаў цябе, калі пісаў да цябе той патаемны лісток, калі твой дзень нараджэння. А ты памятаеш мой першы падарунак?

— Мішка? Ты? — у Ганны аж спынілася дыханне. — Столькі год ад цябе ні слыху, ні дыху. Дзе ж ты быў, чаму не аказваўся?

— Лепш спытай, дзе я не быў, — Міша засмяяўся. Толькі смех яго падаўся ёй не надта вясёлым. Хутчэй ён

нагадваў дрэнную акцёрскую інсцэніроўку. — Працаваў на Далёкім Усходзе, Сібіры — зарабляў грошы. А як ты? Кажуць, што няблага.

— Не скарджуся. Муж, кватэра, дачка амаль дарослая. Працую загадчыцай дзіцячай паліклінікі. Вось, коратка, і ўсё. А ты?

— А я таксама добра. Але пра гэта пры сустрэчы. Я чаго табе тэлефаную: ты, можа, забыла, што сёлета дваццаць год, як мы школу скончылі. Я мяркую, мы павінны сабрацца. А ты ў нас камсоргам была, здольнасцей у цябе хапае. Да таго ж, ты на месцы, у Беларусі, ведаеш, дзе хто. Ты збярэш, у цябе атрымаецца.

— Так, я ведаю, дзе большасць нашых, — Ганна на хвілінку задумалася. — Толькі ці прыедуць усе, цяжка адказаць. У кожнага свае клопаты. Жыццё цяпер такое складанае…

— Нічога, ты апрацуй кожнага. Скажы, што я паляну накрываю. Рэстаран за мой кошт.

— Ты сур’ёзна гэта?

— А ты думала, што я тэлефаную дзеля жарту. Не, будзе так, як я сказаў. Увесь клас запомніць гэтую сустрэчу. Ага, і класную нашу, Таццяну Пятроўну, не забудзь, пакліч абавязкова. Давай сустрэнемся ў вёсцы 28 чэрвеня, у школе. Дзе-небудзь каля 18 гадзін. А адтуль я закажу аўтобус у рэстаран.

— Добра, я патэлефаную нашым.

— Ну і цудоўненька. Я выйду на сувязь праз некалькі тыдняў. Усё, бывай.

І Міша паклаў слухаўку. Якраз зазвінеў будзільнік. Ганна зірнула: палова на сёмую. Мішка якраз пабудзіў яе на працу. Такі нечаканы званок. Але час уставаць. Віктар вылез з-пад коўдры, пацягнуўся і сонным голасам запытаў:

— Хто гэта ў такую рань?

— Ды Міша Звярко.

— Міша Звярко? — здзівіўся муж. — А чаго хацеў?

— Дамаўляліся наконт сустрэчы. У нас сёлета дваццаць год, як мы школу скончылі. Вось прапануе сустрэцца ўсім класам.

— А-а-а, — ужо абыякава працягнуў Віктар. Адкінуўшы коўдру і сонна пазяхаючы, ён устаў і расхінуў шторы.

Сонечнае святло рассеяла рэшткі сну. Пачынаўся новы дзень. Яркія ранішнія промні паружовілі знаёмы інтэр’ер: змяты ложак, шафу, вялізнае люстэрка ды малюнак невядомага мастака на сцяне. Віктар нешта хмыкнуў сам сабе і пайшоў галіцца. Ганна стала хуценька падымацца: трэба сняданак гатаваць, збіраць Юлю ў школу. Звычайны жаночы дзень. За ранішнімі клопатамі нечаканы званок адышоў на задні план. Сняданне — і ўсе разбегліся па сваіх справах. Дачка звыкла цмокнула яе ў шчаку, скацілася ўніз па лесвіцы. Муж пайшоў яшчэ раней: яму на працу а палове восьмай. Ён галоўны інжынер на заводзе. Да завода — пяць хвілін няспешнай хады. Ёй жа дабірацца добрых паўгадзіны, у лепшым выпадку. Ганна хутка падмалявала вусны, паправіла валасы і шчоўкнула дзвярным замком. У кватэры застаўся толькі Паша. Гэта папугай, іх агульны ўлюбёнец. Гадоў пяць таму брат Віці, Артур, зрабіў такі незвычайны падарунак Юлі на дзень нараджэння. Паша любіць глядзець на сябе ў люстэрка. Тады ён спрабуе нешта гаварыць, пачынае ківацца на жэрдачцы. Паша можа сказаць некалькі слоў: «Паша», «заходзь», «дурань», «дай папіроску», «усё для Пашы». Хто навучыў яго гэтаму — невядома. Але госці часта смяюцца, калі Паша ў час іх размоў устаўляе свае «пяць грошыкаў».

Ганна ўзнялася па прыступках у аўтобус, знайшла свабоднае месца і села. Ёсць каля паўгадзіны вольнага часу, каб пра ўсё падумаць…

У іхняй вёсцы сярод шматдзетных сямей асабняком стаяла сям'я Звярко. Толькі ў іх было гэтулькі дзяцей — дванаццаць. Нараджаліся адзін за адным хлопчыкі і дзяўчынкі. Міша быў недзе ў сярэдзіне: шостым ці сёмым. Жылі небагата, але дружна. Бацька, Іван, асабліва не піў, працаваў трактарыстам. Маці ўпраўлялася на пошце. Мішка вучыўся пасрэдна. Але вельмі шмат чытаў. Па літаратурах і мовах ён атрымліваў добрыя адзнакі. Па іншых прадметах такога поспеху не меў. Ганна ж у сваёй сям'і была трэцяй і апошняй. Вучоба давалася ёй досыць лёгка. Таму асноўнымі адзнакамі ў яе дзённіку былі «пяцёркі». Ужо ў шостым — сёмым класах, калі надышоў той самы «пераходны ўзрост», яна заўважыла, што Міша глядзіць на яе не так, як на іншых дзяўчынак. Седзячы за партай, яна часта лавіла яго асцярожныя позіркі. Калі ж Ганна азіралася, ён адводзіў вочы і чырванеў. Аднойчы яна знайшла ў кішэні свайго паліто запіску: «Ганна, я цябе кахаю». Запіска была без подпісу. Канечне, яна здагадалася, хто аўтар нечаканага прызнання. А неяк, па восені, калі яны былі ў калгасе на бульбе, Ганна са Светай Мазур прымалі кошыкі на аўтамабілі. Міша прынёс да машыны бульбу, паднёс да Ганны кошык, падняў яго. Позіркі аднакласнікаў сустрэліся.

Мішка пачырванеў, знерухомеў з кошыкам у руках. Света гучна засмяялася. Мішка сумеўся, апусціў вочы і подбегам кінуўся ад машыны. Ганне стала смешна: кавалер знайшоўся. Міша быў ціхі, сарамлівы, не лез у бойкі з аднакласнікамі. Па фізкультуры ён адставаў ад сваіх аднагодкаў. Таму ў малодшых класах, ды і пазней, яго часта крыўдзілі старэйшыя хлопцы.

Неяк, калі ім было яшчэ гадоў па дзесяць, Мішка пабіўся з Паўлікам Дановічам. Дановіч разбіў яму нос. І Мішка стаяў у закутку, плакаў, расціраючы па твары кроў і слёзы. Ганне тады было крыху шкада яго. Але яшчэ болей гэта ёй не спадабалася. Мужчына, як яна сабе думала, павінен быць моцным, ён не можа плакаць. А гэты стаіць, румзае. Вось паглядзеў бы на Сашу Халевіча, іхняга выдатніка. Калі Саша скакаў у вышыню на ўроку фізкультуры, то ўпаў і зламаў руку. Але нават не застагнаў, ні адной слязінкі ў яго вачах ніхто не ўбачыў. Толькі моцна моршчыўся. Вось гэта мужчына. Адно фізрук збялеў тады, ды класная, Таццяна Пятроўна, ледзь не страціла прытомнасць.

Міша амаль увесь час трымаўся неяк асабняком ад астатніх. Хлопцы чамусьці яго недалюблівалі. У малодшых класах, падчас хлапечых боек, Мішу не раз даставалася ад Паўліка Дановіча і Васі Царукова. Яны былі мацнейшыя ў фізічнай падрыхтоўцы. Яго не хацелі браць у свае хлапечыя кампаніі. Таму Міша сябраваў з кнігамі. І толькі ў старэйшых класах у яго наладзіліся адносіны з хлопцамі. А ў восьмым класе, калі яго каханне ні для каго не было сакрэтам, Мішка падсунуў Ганне ў школьную сумку падарунак: духі. Якія — яна зараз і не памятае. Канечне, Ганне было прыемна, што яна некаму падабаецца. Але да Мішы ў яе не было ніякіх пачуццяў. Яшчэ ў сёмым класе Ганна закахалася ў Сашу Халевіча. Ды той на дзяўчат і не глядзеў. У вясковай школе нічога не ўтоіш. Саша ведаў пра Ганніны перажыванні, але ніяк не выказваў свае пачуцці. Ганна тады нават плакала ўпотай. А Мішка сачыў за ёю, спадзяваўся на тое, што Ганна ўсё-такі пакахае яго. Такі вось любоўны трохкутнік быў у іх класе. Цяпер усё гэта здаецца смешным, а тады было не да смеху. У класе з Мішкі пакеплівалі, ды ён не зважаў.

Пасля выпускнога вечара аднакласнікі сабраліся ў доме Сашы Халевіча. Канечне, была і выпіўка, як без гэтага. Усе смяяліся, дурэлі, весяліліся. Толькі Міша выглядаў сур'ёзным, быў нечым заклапочаным. Ён выбраў хвіліну і падышоў да Ганны:

— Давай адыдземся.

— Давай, — лёгка згадзілася яна.

Адышліся за хлеў. Мішка рэзка павярнуўся да яе, абняў і стаў цалаваць. Ганна вырвалася з абдымкаў:

— Ты што? Што на цябе найшло?

— Ганна! Чаму ты такая? Чаму? — вочы яго гарэлі.

— Таму што я не кахаю цябе, — раззлавалася Ганна на Мішу…

Міша ўзрушана выкрыкнуў:

— Што, думаеш, Халевіч пойдзе з табою? Не, гэта птушка іншага палёту. Ён будзе шукаць сабе пару ў іншым месцы.

— Ну і няхай шукае, — Ганна задзірыста падняла галаву, — без яго абыдуся.

— Я табе таксама не патрэбны?

— Зразумей, — Ганна палагоднела, — я не магу прымусіць сябе кахаць. Тут нічога не зробіш. Я хачу, каб да цябе дайшло гэта.

— Я разумею, — Міша зноў наблізіўся да яе, — але нічога не магу з сабой зрабіць.

— Не магу — і ўсё.

— Пойдзем да нашых. А то потым плётак не абярэшся, — Ганна рашуча пакрочыла ў хату.

Праз хвіліну з’явіўся і Міша. Больш ён не мерыўся наблізіцца да яе. Бліжэй да раніцы клас накіраваўся на высокі бераг рэчкі. Там, пад дубамі, яны расклалі вялізнае вогнішча. А потым сядзелі, абняўшыся, адмахваліся ад камароў, спявалі песні і чакалі світання. Свайго першага дарослага світання. Яно не марудзіла. Спачатку неба на ўсходзе крыху пасвятлела, бы нехта, далёка-далёка, запаліў ліхтар. Свет стаў яснець, неба злёгку заружовела. З усходу выплывала сонейка. На іх вачах нараджалася таямніца новага дня. Нехта выгукнуў:

— Усім па сто грам! Бо хто ведае, ці сустрэнемся...

Мабыць, гэта быў Вова Шуман. Міша, з цвёрдасцю ў голасе, перабіў яго:

— Сустрэнемся. Абавязкова сустрэнемся.

Тады ніхто не думаў, што будзе далей, ніхто не надаў ніякага значэння яго словам…

Успаміны перапыніліся на аўтобусным прыпынку «Дзіцячая паліклініка». Яна зайшла ў свой кабінет. Мімаходзь зірнула ў люстэрка і спынілася, бы даўно не бачыла свой твар. На яе глядзела даволі прывабная яшчэ жанчына з крыху стомленым абліччам. Так, здрадніцкая сетачка зморшчынак у куточках вачэй нагадвае пра ўзрост. Ды яшчэ складачка на ілбе. Але ж галоўная праблема — лішнія кілаграмы, якія не схаваеш ніякім макіяжам. Неўзаметку, пасля родаў, яна распаўнела. І потым ужо ніяк не змагла стаць такой, як была. Прыйшлося цешыць сябе думкамі, што яна не адна такая і што лішняя вага — гэта не ганьба. У школе яна няблага бегала, нават выступала на раённых спаборніцтвах. Бо была стрыйнюткая, як былінка. Яшчэ яе як выдатніцу выбралі камсоргам. Ганна любіла грамадскія нагрузкі і з ахвотай займалася камсамольскімі справамі. Як у тым знакамітым фільме: спартсменка, камсамолка, выдатніца і проста прыгожая дзяўчына. Але вялікае, сапраўднае чалавечае шчасце яе абмінала. Неяк жыццё не складвалася...

У тую першую дарослую раніцу Ганна вярталася дадому, абняўшыся са Светай Мазур і Ленай Акінчынай. Лена была добрай і спагадлівай, толькі са знешнасцю ёй не пашанцавала. Яна з дзяцінства была паўнаватай і непрывабнай. Хлопцы на яе не заглядваліся. Толькі аднойчы Міша, каб насаліць Ганне, перасеў да Лены, зрабіў выгляд, што сімпатызуе. Лена адразу ж неяк папрыгажэла, стала больш усміхацца.

Ды Мішу надакучыла тая гульня. Цяпер увесь клас ідзе, разбіўшыся на купкі і пары, ідзе дахаты ў прыўзнятым настроі. Усё жыццё яшчэ наперадзе.

— Вось адслужу тэрміновую, вярнуся ў калгас, атрымаю новы трактар і буду працаваць. Люблю я тэхніку, — Саша Кашуцкі ў тую ноч быў на добрым падпітку.

— Я таксама вярнуся ў калгас, у роднай вёсцы будзем жыць, — падтрымаў яго Вова Шуман.

— Я буду вучыць дзяцей, — трасянула каштанавымі валасамі Света Зайкова, — паступлю ў педінстытут.

— А ты, Ганна, не перадумала, — павярнуўся раптам да яе Міша, што ішоў наперадзе разам з Паўлам Дановічам і Васем Царуковым, — пойдзеш у свой медыцынскі?

— Толькі туды, — пацвердзіла Ганна, — хіба ёсць што важнейшае, чым ратаваць людзей? А ты куды паступаеш, чаму не кажаш? Сакрэтнічаеш?

— Не сакрэтнічаю, бо пакуль сам не ведаю.

— Ты што, смяешся? Мы ўжо школу скончылі, прачніся.

— А я пакуль не вырашыў, — упарта паўтарыў Міша. — Вось калі абдумаю ўсё, тады і буду паступаць.

У тую раніцу яны былі стомленыя, шчаслівыя…. Міша потым сам зайшоў да Ганны.

— Пакляніся, што нікому не скажаш, — ён падышоў да яе і ўзяў за руку.

— Ды ні скажу, чаго ты, — здзівілася яна.

— Я паеду ў Маскву, — пасля непрацяглага маўчання прызнаўся Міша, — буду паступаць у тэатральны інстытут на артыста.

— Ты!?

— А што, я горш за іншых? — Міша ўзарваўся. — Я дакажу ўсім, што магу! Хай тады пасмяюцца.

— Міша, я хіба супраць. Паступай. Я жадаю табе толькі дабра. А як ты рыхтаваўся? Як будзеш паступаць?

— А я чытаў у газеце, якія там экзамены. Я вывучыў некалькі тэкстаў, вершаў. Трэба прабівацца, — Міша ўпарта матлянуў галавой.

Тую размову яна запомніла на ўсё жыццё. Але тады ёй было не да яго: Ганне самой трэба было паступаць. З ранку і да ночы яна карпела над кніжкамі. Але паступленне прайшло на дзіва лёгка і паспяхова: яна атрымала толькі «добра» і «выдатна». Саша Халевіч таксама паступіў — на юрыста. Света Зайкова стала студэнткай педінстытута. Яшчэ два Сашы: Сяцькоў і Шырокі — пайшлі вучыцца ў тэхнікумы. Астатнія разышліся сваімі дарогамі: хто ў ПТВ, а хто застаўся пры калгасе.

У жніўні Ганне прыйшла паштоўка ад Мішкі з Масквы. На паштоўцы красаваўся вялізны сабор, а з адваротнага боку былы аднакласнік напісаў: «Прывітанне, Гануля! Я рады за цябе. Усяго табе найлепшага ў тваім студэнцкім жыцці. Пра сябе пакуль нічога не магу паведаміць. Мы абавязкова сустрэнемся. Міша». І ўсё, незразумела, паступіў ён ці не. Перад ад’ездам на вучобу Ганна сустрэла на вуліцы яго маці.

— Добры дзень, цётка Ніна. Як там Міша, можа, што напісаў вам? Дзе ён цяпер? — спынілася Ганна каля жанчыны.

— Добры дзень, добры дзень, Ганулька, — ажывілася Ніна Іванаўна, — не ведаю, што табе і сказаць. Міша не паступіў нікуды. Але дамоў не вярнуўся. Напісаў, што паедзе на працу. І далёка. А дзе, куды — не ведаю. І чаму ён такі? Лепей бы вярнуўся дахаты ды працаваў тут, на месцы. Усё роўна вясной на службу. А так толькі перажыванні.

Яе твар азмрочыўся.

— Нічога, цётка Ніна, — суцешыла Ганна, — ён не прападзе. Міша не такі, каб прапасці. Вы ж ведаеце, працы ён не баіцца.

— Яно-то так, а на сэрцы неспакойна. Дасць бог, усё будзе добра.

Ганне стала шкада Ніну Іванаўну: хвалюецца, перажывае. Вунь колькі клопату ў яе. За кожнага трэба падумаць…

— Ганна Фёдараўна, — дзверы ў кабінет адчыніліся, — добрай раніцы. Можна да вас?

У кабінет нясмела зазірнула дзяжурная медсястра Інга Іванова.

— Добрай раніцы, Інга. Што здарылася?

— Ганна Фёдараўна, дазвольце мне пайсці сёння на пару гадзін раней. Да мяне мама з вёскі прыязджае. Сустрэць трэба.

— Канечне, можна. Маці абавязкова трэба сустрэць, — усміхнулася Ганна.

— Дзякуй вам, Ганна Фёдараўна, вялікі дзякуй, — Інга ўсміхнулася ёй у адказ.

Ганна амаль заўсёды спрыяла сваім супрацоўнікам. За ўсе гады яна не страціла чуллівасці і пачуцця міласэрнасці. Канечне, некалькі разоў дабрыня ёй, як кажуць, вылезла бокам, але яна старалася забыць пра гэта. Таму яе любілі і паважалі ўсе: як мамы з дзецьмі, так і супрацоўнікі.

## ЧАСТКА 2

Вось яна, родная вёсачка. Мілая, любая сэрцу. Колькі разоў снілася ў далёкія студэнцкія гады. Першай паказалася сажалка, дзе часцяком яны боўталіся ў спякотны поўдзень. Далей вялізная пакручаная акацыя. Жыве красуня, яшчэ жыве.

Зусім малымі яны шукалі на акацыі кветкі з няцотнымі пялёсткамі і елі іх. Яны верылі, што тады мара абавязкова здзейсніцца. Далей — родныя сэрцу высозныя таполі, што засыпалі на пачатку лета дарогу і канавы казытлівым пухам. А вось ферма, якую пабудавалі ўжо пры Ганнінай памяці. Вось і прыпынак, з якога яна ступіла ў дарослае жыццё. Аўтобус, прашыпеўшы тармазамі, спыніўся. З аўтобуса разам з Ганнай выйшлі яшчэ некалькі чалавек. Іх яна не ведала. Напэўна, яны з тых, хто з’явіўся ў вёсцы ўжо пасля яе. Трое хлапчукоў круціліся на роварах вакол аўтобуса, з цікавасцю разглядаючы пасажыраў. Ганна ўздыхнула на поўныя грудзі. Ах, якое яно салодкае, роднае паветра.

Не паспела яна зрабіць некалькі крокаў ад аўтобуса, як нехта гукнуў:

— Ганна, гэта ты?

— Вова, ты?! Прывітанне, — Ганна азірнулася, паставіла торбу на зямлю, — даўно цябе не бачыла, пару год, як мінімум. Як ты?

Танклявы, высокі Вова знешне быў вельмі падобны да свайго бацькі Сямёна.

— Лепей за ўсіх, — растапырыў Вова доўгія пальцы.

Ганна прыгледзелася да яго. Вова быў апрануты ў бруднаватую, зашмальцаваную вопратку. Шчаціннне тыднёвай даўніны і не зусім цвярозы погляд дамалёўвалі яго «шчаслівае» жыццё.

— Чаму ты такі, Вова? — Ганна ўздыхнула. — Як ты выглядаеш?

— Добры выгляд, я ж працоўны чалавек. Вось, якраз іду з майстэрні.

— Я не пра гэта. Ты нецвярозы. Дык цяпер раніца. А ты дадому.

— Гэта, хто як, — Вова крыва ўсміхнуўся. — Я вартаўніком працую.

— А трактар?

— Ды забралі ў мяне правы, ужо болей як год. І халера з імі. Так спакайней, — трасянуў ён галавой.

— Ну, ты даеш. А што жонка кажа?

— Ды ну яе, тую жонку. Мне і аднаму добра. А, ты ж не ведаеш. Мая з дзецьмі з'ехала да бацькоў. Мо месяцаў з пяць. Нас і развялі ўжо.

— Валодзя, навошта ты так, — Ганна паклала яму руку на плячо, — кінь ты піць. Бачыш, да чаго даводзіць гарэлка.

— Ды што я там п'ю, — Вова набычыўся, — пасля працы трохі з мужыкамі кульнём. А маёй Галі, гадаўцы, я яшчэ прыпомню.

— Ой, Валодзя...

— А што? У калгасе не прападу. Ну, бывай. Сустрэнемся яшчэ. Ты надоўга?

— Ды во, на выхадныя. Хай яго, ледзь не забылася. У нас жа сёлета дваццаць год, як школу скончылі. Тэлефанаваў Міша Звярко. Мы хочам наладзіць сустрэчу. Міша абяцаў рэстаран. Будзеш?

— Мішка? Рэстаран? Канечне, буду. Я ж некаторых так пасля школы і не бачыў.

— Гэтак і я. Добра, Валодзя, я пайшла. А ты бярыся за розум.

Вова нешта хмыкнуў і падаўся далей. Ганна падняла ёмістую торбу і пакіравала да бацькоўскай хаты. Ісці было добрых паўкіламетра. Хоць дома і быў тэлефон, яна вырашыла не паведамляць бацькам, што наведае іх. Ганне падабалася прыязджаць не паведамíўшы, нечакана. Вось тады ў матчыных вачах свяцілася радасць. Бацька таксама шырока ўсміхаўся і прыціскаў яе да сябе:

— Дачушка, во добра, а мы і не чакалі.

Шэры з белымі плямамі Рэкс радасна мітусіўся, падбрэхваў, станавіўся на заднія лапы і шчасліва павіскваў. Але сёння яе ніхто не сустракаў. Хата была на замку. Дзіўна, дзе ж бацькі?

— Ганначка, добры дзень. А я бачу, нехта ходзіць па двары. Гляджу — гэта ты, — праз вуліцу яе гукнула суседка Крывошыха.

— Добры дзень, цётка Марыя. А дзе мае?

— Ды радоўку пасуць. Там, за выганам. А ты надоўга?

— Не, цётка Марыя, на выхадныя толькі. Выбачайце, я пайду да сваіх.

— Давай, дзетачка, ідзі, канечне.

Ганна паставіла торбу і пайшла праз агарод у бок выгана. Туды гаспадыні паціху падганялі сваіх Зорачак ды Ночак да статку, а затым пастух гнаў іх далей, на пашу. Было каля дзясятай гадзіны, і кароў, пэўна, не паспелі далёка адагнаць. У агародзе было ціха, адно грэбаліся куры каля нядаўна пасаджанай бульбы ды дакучліва стракатала за кустамі сарока. Ціха, утульна было ў родным двары. Такое знаёмае і трапяткое ўсё: груша за пуняй, з якой яна некалі ўпала, адрынак з сенам, дзе гулялі ў хованкі, старая яблыня. Як хораша дома. Няўжо некалі ўсяго гэтага не будзе і няўмольны час зруйнуе бацькоўскі куток? Ёй стала страшна ад адной толькі думкі, і яна паспяшалася з двара. Ганна выйшла на пустую вуліцу. Насустрач ёй нехта ішоў. Зблізіўшыся з незнаёмцам, яна са здзіўленнем пазнала ў ім Сашу Кашуцкага, аднакласніка. Той адслужыў у войску, ды і застаўся ў калгасе, бо любіў тэхніку. Яшчэ ў школе ён працаваў памочнікам камбайнера. Ён тады сябраваў з Вовам Шуманам. Саша быў невысокі, мо трохі болей, як паўтара метра, чарнявы, як чалавек з поўдня. Мусіць, праз гэта яму далі мянушку Грузін. У школе іх з Вовам звалі Штэпселем і Тарапунькам. Мабыць, гэтае сяброўства іх падвяло. Са слоў маці Ганна ведала, што Саша так і не ажаніўся, бо часта выпіваў. Бацькі яго памерлі рана, і ён жыў з братам. З Сашам яна іншы раз сустракалася, калі бывала ў вёсцы.

— Прывітанне. Як жыццё?

— О, каго я бачу. — Саша радасна заўсміхаўся. — Мне здаецца, што я цябе так даўно не сустракаў. Ты што тут робіш?

— Ды вось, да бацькоў іду, яны радоўку пасуць. Я толькі прыехала. А ты як, што ў цябе чуваць?

— А я, गануля, жаніўся. Вось сёння ўжо тры месяцы.
— О, віншую, віншую. Нават не чакала. І хто ж твая жонка, калі не сакрэт?
— Які сакрэт, уся вёска ведае. Ды Каця Сыцікава.
— Каця Сыцікава?! Дык ёй жа, мабыць, і васямнаццаці няма.
— Ну і што, — Саша задраў галаву,— а мы і не распісваліся. Яна да мяне перайшла. Жывём разам. Хутка бацькам стану.
— Што ж, яшчэ раз віншую. Слухай, Саша. Я вось нядаўна Вову Шумана бачыла, яму казала і табе кажу. Сёлета дваццаць год, як мы школу скончылі. Збіраемся. Міша Звярко рэстаран абяцаў.
— Дык я абавязкова буду, якое пытанне.
— Добра, бывай. Я пайду.
— Бывай, Ганулі, да сустрэчы.
Ганна ішла, абдумваючы нечаканую навіну. Сыцікавы былі ў вёсцы, як кажуць, нядобранадзейнай сям'ёй. Бацькі абое пілі. Дзеці гадаваліся самі па сабе. А было іх не то сем, не то восем. У школе ім пастаянна давалі матэрыяльную дапамогу. Але толку з гэтага было мала. Амаль усе дзеці ўдаліся ў бацькоў. Толькі Сяргей, другі ў сям'і, не п'е. Ён скончыў школу, стаў трактарыстам. Жыве ў суседняй вёсцы, мае добрую сям'ю. Летась Ганна бачыла, што ён нават прыязджаў у вёску на ўласным аўтамабілі. Каця ж была апошняй у сям'і Сыцікавых. Яна кінула школу і бадзялася дзесьці. А вось цяпер прыбілася да Сашы. Дарэчы, Каця толькі крыху старэйшая за яе Юльку. Божа, што ж гэта робіцца? Неўпрыкмет Ганна мінула вёску, выган і выйшла да поля, дзе пасвіліся каровы. Рэкс здалёку заўважыў, што нехта ідзе. Ён падняўся і ўтаропіўся ў незнаёмага чалавека, не ведаючы, што рабіць: брахаць на яго ці не?
— Рэкс, Рэкс, чаго стаіш? — гукнула яго Ганна.
Той з віскам сарваўся з месца і кінуўся да яе. Ён падляцеў да Ганны і стаў радасна скакаць вакол яе.
— Усё, Рэкс, усё, хопіць. Хопіць, табе кажу, — смяялася Ганна, мякка адштурхоўваючы сабаку, — годзе. Пайшлі да бацькоў.
Рэкс ірвануў наперад з гучным брэхам.
— Дачушка, родная мая, — маці расцалавала Ганну, — ты зноў знянацку, не папярэдзіла. Мы каб ведалі, то падмяніліся б.
— Ды нічога страшнага, мама. Вось пабуду з вамі на свежым паветры. Калі яно яшчэ такое выпадзе. Тата, добры дзень, — Ганна абняла бацьку.
— Як ты там? Як Віктар, Юлька? — бацька асцярожна прытуліў Ганну да сябе.
— Усё добра. Віця працуе. Юля вучыцца. Я вось на выхадныя да вас. Хачу сваіх аднакласнікаў сабраць. Сёлета дваццаць год, як мы школу скончылі. Мне Міша Звярко тэлефанаваў. Хоча, каб мы ўсе сабраліся. Абяцаў нават рэстаран за свой кошт. Такія вось справы.
— Бач ты, — бацька пакруціў галавой, — рэстаран. Багацей, значыць, твой Мішка. Можа, і так. Бо, як я чуў, ён недзе ў Цюмені жыве і працуе на нафце. А там, кажуць, за месяц атрымліваюць тое, што ў нас у калгасе за год не заробіш.
— Кажуць, кажуць, — перадражніла яго маці, — ты, стары, плётак збіраеш болей, чым я. Як там яно будзе — ім жыць. Ты, дачушка, ідзі дахаты. Ты ж з дарогі, стамілася. Ідзі, адпачні.
— Не, мама, што ты, я не стамілася. Ідзі лепей ты дахаты. Я з бацькам пабуду, дапамагу.
— Так, так, ідзі, — падтрымаў Ганну бацька, — прыгатуеш нам добрую вячэру. А мы з Ганнай тут пагутарым. З табой ужо пра што пагамоніш? Я ўсе твае плёткі ведаю. Ідзі, ды не забудзь бутэлечку нам на вячэру.

— Бутэлечку яму, — пабурчала маці, — абыдзешся. Глядзі, стары, не заганяй тут дзеўку.

Бацька моўчкі адмахнуўся і закурыў.

— Сустрэцца, кажаш, хочаце, — ён ляніва пусціў дымок. — Гэта вы добра задумалі ўсіх сабраць.

— Я таму і прыехала. Бо не ведаю тэлефонаў. А ўсім трэба патэлефанаваць. Мо хто з маіх аднакласнікаў прыязджаў сёлета?

— Можа, хто і быў. Ды не ўгледзіш. Вось бачыў нядаўна Колю Халевіча, бацьку Сашы. Вольга, жонка яго, нічога не кажа. А Коля жаліўся мне на Сашу. Кажа, зусім забыў бацькоў. Ужо год з восем не быў тут. Жыве ў Мінску, працуе юрыстам у банку, кватэру добрую мае. Дык Коля казаў, што калі брат Сашаў, Міша, цяжка захварэў, то Саша нават не паехаў яго праведаць. Вось так. А ты кажаш, сустрэча.

Дзіўная штука жыццё. У юнацтве яна нават не задумвалася пра такія рэчы, як дабрыня, міласэрнасць, справядлівасць. Як яна магла кахаць такога эгаіста, як Халевіч? Плакаць з-за яго? Яшчэ і на першым курсе інстытута яна часта думала пра Сашу. А потым усё неяк само па сабе адышло, затаілася. Можа, гэта было не каханне? Пэўна, што Халевіч можа і не паехаць на сустрэчу. Хай не едзе. Але патэлефанаваць яна проста абавязана. Трэба абысці вёску, запісаць усе тэлефоны. Тут засталіся толькі Саша Кашуцкі ды Вова Шуман. Ды яшчэ ў дзвюх суседніх вёсках трое аднакласнікаў: бібліятэкаркай працуе Валя Пушынская, шафёрамі — Саша Шчарбацэвіч і Вова Фёдараў. Да Валі трэба будзе абавязкова зайсці. А яна ўжо паведаміць навіну Сашу і Вову. Ага, першым чынам да класнай трэба заглянуць. Яна ж вельмі шанавала Ганну, лічыла яе ледзь не роднай дачкой, хоць у самой трое дзяцей. Старэнькая яна ўжо, іх Таццяна Пятроўна. Яны былі яе апошнім класам. Летась Ганна бачыла класную, сустрэліся каля крамы.

— Ганулька, мілая, — Таццяна Пятроўна адразу кінулася абдымаць яе, — як ты там, у сталіцы?

— Добра. Дзякуй вам. Вельмі рада, што сустрэла вас. Як вы, як вашы?

— Дзякуй, Ганначка, дзякуй. Старэйшыя мае добра жывуць. І кватэры маюць, унукаў во жаніць буду. Вось толькі малодшы мой, Сашка, не слухае мяне. І ціск скача, фельчар ледзь не кожны дзень бывае. А так нічога, — і яна цяжка ўздыхнула.— Ты лепей раскажы пра сябе.

— Ды ўсё, як і раней. Працую. Юлька мая ў школе. Шэрыя будні, як кажуць.

Яны яшчэ з паўгадзіны размаўлялі, успаміналі школу. Таццяна Пятроўна паведаміла, каго сустракала ў вёсцы з іх класа.

— Дачушка, — бацька ціха, нібы саромеючыся, што прыпыняе яе думкі, паклікаў Ганну, — я пайду зараз наперад. Трэба глядзець, каб каровы ў шкоду не ўлезлі. А ты падганяй статак, каб не засталася якая рагуля.

Ганна пайшла за статкам. Добра тут, на зяляніне поля. Няма той імклівасці, бурлівасці, што ў горадзе. Тут, здаецца, няма куды спяшацца. І нічога не хочацца, акрамя толькі як раскінуць рукі і ляжаць, гледзячы ў неба на такія ж няспешныя і далёкія белыя аблачынкі. Летуценні абдымаюць, адыходзіць у нікуды наваколле, застаешся толькі ты і Сусвет.

Рэкс крыху пакруціўся каля яе ды ірвануў да бацькі. Гаспадар ёсць гаспадар. За роздумамі ды бегатнёй за статкам прайшоў дзень. Каровы, цяжка падымаючы ногі, паціху брыдуць дадому. Яны ляніва махаюць хвастамі, адганяючы машкару. Вечар. Цяпер хуценька паесці і збегаць да Таццяны Пятроўны. Тым больш, што Ганна прыхапіла з сабой для класнай падарунак: надта прывабны з выгляду торт. Можна будзе пасядзець за кубкам гарбаты.

— Мыйце рукі і будзем вячэраць, — шчаслівая маці радасна завіхалася каля стала, накрытага пад яблыняй. — Я хуценька падаю нашу Зорачку.

Ганна стомлена прысела на лаву. Рэкс прытуліўся побач, паклаў галаву на лапы і адразу заплюшчыў вочы: таксама налётаўся за дзень. Яблыні толькі-толькі адцвілі. Водар яшчэ не паспеў знікнуць. Водар такі, нібы ён тут застаўся назаўсёды з школьных часін. Пах белых яблынь, пах далёкага юнацтва…

Амаль праз год пасля выпускнога Мішку павінны былі прызваць на службу. Калі Ганна прыехала ў вёску, маці з парога паведаміла:

— Гэта ж Звярко прыходзіў, казаў, каб ты заўтра была на праводзінах.

— Ой, а я ж не збіралася, — Ганна войкнула, — у чым жа я пайду?

— Кінь ты. Вядома, гэтакія тут артысты сабраліся. У чым прыехала — у тым і хадзі. А не — дык можаш уздзець тую сукенку, што на выпускным была. Ён вельмі прасіў.

Раніцай забег сам Мішка:

— Ганууля, прывітанне! Я так рады, што ты прыехала. Усё, я цябе чакаю.

На ганку ён яшчэ раз азірнуўся на яе і шчасліва ўсміхнуўся. А можа, нядобра яна робіць, што абыякавая да Мішы? Ён жа столькі год яе кахае. Яго пачуцці ёй добра вядомы. Можа, яна проста не ўсведамляе, што нельга іначай? Нешта варухнулася ў глыбіні душы. Не, мабыць, яна павінна хоць зараз быць іншай. Кажуць, што каханне прыходзіць пазней. Можа, і ў яе так будзе. Тым больш, што Мішка ідзе на два гады. Хто яго падтрымае?

Праводзіны былі не горш, чым у каго: гулялі добра. Моладзь спявала свае песні, а пажылыя сабраліся ў другім кутку сталовай і зацягвалі «Цёмную ноч».

— Эх, апошні свабодны вечар, — Вова Шуман прысеў каля Ганны. Ён не вельмі цвёрда трымаўся на нагах. — Сашу яшчэ ўвосень забралі. Пасля Мішкі мая чарга. Ты прыедзеш на мае праводзіны?

— Не ведаю, гэта ўжо як атрымаецца. Я і на гэты вечар трапіла, можна сказаць, выпадкова.

Хутка моладзь пашыбавала ў Дом культуры.

— Ганна, ідзеш? — Мішка схіліўся над ёй.

— Іду, іду, — Ганна падала яму руку. Вось яны ўжо каля клуба. У памяшканні шумна, усюды воклічы і рытмічныя хістанні.

— Давай пастаім на свежым паветры? — нясмела запытаў Міша.

— Так, але не тут, — нечакана пагадзілася яна, — давай выйдзем у сад.

Адразу за домам культуры быў калгасны сад. Яны прыселі пад яблыняй. Водар ад квецені, цёплая майская ноч і зорнае неба ператварылі вечар у чароўную казку. Далёкія зоры мільгацелі, прыцягвалі і ў цішыні белых пялёсткаў нараджалі ледзь улоўную знаёмую і незнаёмую мелодыю. Сэрца хвалявалася, рвалася з грудзей, прасіла пра нешта, чаго і само не ведала. Адчуванне неверагоднай страты чамусьці агарнула Ганну так, што ёй захацелася заплакаць.

— Эх, Ганна, не збылася мая мара, не паступіў я ў тэатральны. Цяпер буду служыць, што называецца, Радзіме, — Міша ўздыхнуў.

— Нічога, адслужыш і паступіш.

— Не ведаю, — хітнуў ён галавой, — я ўжо неяк перахварэў гэтым. Мо і не буду паступаць.

Ён змоўк. Маўчала і Ганна. З дыскатэкі даносіліся гукі музыкі.

— Ганна, — Міша павярнуўся да яе, — можна я цябе пацалую?

Яна ледзь кіўнула галавой. Міша абняў яе і стаў з жарам цалаваць. Ганна думала, што каханне — гэта такое пачуццё, калі губляюць галаву, калі ў цябе вырастаюць крылы. Але з ёй нічога такога не адбывалася. Міша ж увесь палаў:

— Ганна, я цябе кахаю, кахаю! Кахаю!

— Хопіць, Міша, хопіць ужо, — Ганна мякка адхіліла яго, — давай крыху так пасядзім.

— Эх, Ганначка, вось буду табе пісаць кожны дзень. Будзеш мне адказваць?

— Ой, кожны дзень — гэта замнога, — засмяялася яна, — мне ж трэба яшчэ і свае ўрокі рабіць. Адной латыні колькі вучыць. Ты паглядзеў бы. А так — адкажу.

— Тады пайшлі, — Міша нечакана падняўся, — будзем весяліцца. Бо ў наступны раз для мяне дыскатэка будзе толькі праз два гады.

Яны ўсталі, і Ганна зноў падняла галаву на зорнае неба. Раптам яна ўсвядоміла, якую страту панесла. Толькі цяпер, праз год пасля заканчэння школы, яна зразумела, што назаўсёды страціла сваё дзявочае дзяцінства. Яно прайшло назаўжды, саступіўшы месца новаму часу — юнацтву.

Той вечар прайшоў з шумам і весела.

— Дачушка, сядай вячэраць. Замарылася? — маці прысела каля Ганны.

— Не, не, нічога мама. Гэта я так, задумалася.

Пасля вячэры Ганна ўзяла падрыхтаваны пакунак:

— Мама, я да класнай на паўгадзінкі.

— Ды пазнавата ўжо, — маці заклапочана паглядзела на гадзіннік, — можа б, заўтра?

— Нічога, Таццяна Пятроўна яшчэ не будзе спаць. А назаўтра ў мяне хопіць спраў.

Таццяна Пятроўна жыла на другім канцы вёскі, на беразе маляўнічай рачулкі. Ганна дайшла хутка, нікога не сустрэўшы на вуліцы. Класная жыла з мужам, Сямёнам Міхайлавічам, таксама былым настаўнікам. Ён выкладаў у іх хімію. Надта не любіў, калі на ўроках хто няўважліва яго слухаў. Тады Сямён Міхайлавіч страшна нерваваўся і пытаў у парушальніка:

— Мо да дырэктара хочаш? Або я зараз правяду з табою хімічны дослед?

Ні таго, ні другога парушальнік, канечне, не хацеў. Дырэктар школы, Аляксандр Пятровіч, усім парушальнікам знаходзіў самую цяжкую «папраўленчую працу»: капаць клумбы, цягаць дровы, адкідаць снег. Пасля аднаго сеанса ў таго хлапца больш не ўзнікала жадання сваволіць. Што тычылася хімічнага доследу, то гэта таксама была пакута: Сямён Міхайлавіч прымушаў няўдачніка мыць усе прабіркі і колбы ў яго кабінеце, якіх было безліч. Ды яшчэ сам правяраў чысціню. Гэтай працы таксама ніхто не жадаў. Так, вясёлыя былі часы. А вось і ён сам у двары.

— Добры вечар, Сямён Міхайлавіч.

— Добры, добры, — ён крыху прыгледзеўся да Ганны, — ледзь пазнаў цябе, даўно не бачыў. Гэта ж ты Каласкова Ганна?

— Так, я, — пацвердзіла Ганна, — як вы тут, як здароўе?

— Дзякуй, пакуль змагаемся. А ты як там, у сталіцы?

— Усё добра. Вось, да бацькоў прыехала. Ды і да Таццяны Пятроўны завітала. Яна дома?

— А як жа. Праходзь, праходзь, гарбаты пап’ём.

Ганна зайшла ў цёмны калідорчык. Адчула знаёмы пах сырадою. Бач, малайцы, яшчэ трымаюць кароўку. Праўда, у гэтым больш заслугі Сямёна Міхайлавіча. Ён жвавейшы, дужэйшы. А Таццяне Пятроўне ціск не дае спакою. Яна жалілася Ганне падчас іх апошняй сустрэчы. Цяпер яна завіхалася каля печы: нешта накладвала ў вялікі чыгун.

— Ганулька! — яна радасна ўсміхнулася і кінулася насустрач, абняла Ганну. — А я толькі сёння цябе ўспамінала. Якая ты малайчына, што зайшла. Праходзь, праходзь. Зараз гарбаты згатую.

— Добры дзень, Таццяна Пятроўна. Гэта да гарбаты, — цмокнула класную ў шчаку і падала торт. — Як вы мацуецеся?

— Мая ты мілая, вось кідаемся паціху, — класная прысела каля яе. Вочы Таццяны Пятроўны свяціліся радасцю ад таго, што Ганна зайшла да яе, — усяго хапае, сама ведаеш.

Так, Ганна ведала. Таццяна Пятроўна ніяк не можа ўладкаваць самага малодшага. Яе Сашка на год маладзейшы за Ганну. Пасля школы ён нікуды не паступіў вучыцца, працаваў патроху ў розных месцах. Потым стаў выпіваць. Некалькі разоў жаніўся, мае трое дзяцей. Цяпер сышоўся з былой аднакласніцай. Таццяна Пятроўна за ім столькі пабегала, ды ён не слухаў нікога. Адсюль у яе і высокі ціск, і слабае здароўе: усё на нервах. Але яна не вельмі любіла скардзіцца. Вось і зараз стала распытваць Ганну.

— Ды ўсё добра, Таццяна Пятроўна, прыехала запрасіць вас на сустрэчу.

— Якую сустрэчу?

— Сёлета дваццаць год, як мы скончылі школу. Мне патэлефанаваў ведаеце хто? Міша Звярко. Прасіў, каб усіх папярэдзіла. Нават абяцаў рэстаран за свае грошы.

— Міша! — здзівілася Таццяна Пятроўна. — Які малайчына. І сапраўды, дваццаць год прайшло. Як гады прабеглі. Я памятаю, як вы ўсе прыйшлі да мяне ў чацвёрты клас. Такія маленькія, цікаўныя. А ўжо дваццаць год, як школу скончылі. Ох, Ганначка, чаму так час ляціць?

— Я і сама не разумею, Таццяна Пятроўна. Мне самой становіцца не па сабе. Хутка сорак, зусім старая стану. Але чаго гэта мы? Давайце лепш пакаштуем смачнага. Якраз і Сямён Міхайлавіч ідзе.

— Я не спазніўся, — пажартаваў Сямён Міхайлавіч, — і прысмакі на стале, і гарбата.

— Сядайце, Сямён Міхайлавіч, — Ганна па-гаспадарску падсунула невялікі плецены зэдлік.

— Чуў, што кажа, — Таццяна Пятроўна разліла духмяную гарбату ў кубкі, — на сустрэчу нас запрашаюць. Нават у рэстаран.

— А што? Рэстаран — гэта добра, — пагадзіўся Сямён Міхайлавіч, — я ўжо сто год у рэстаране не быў. Гэта вы збіраецеся з нагоды дваццацігоддзя?

— Так.

— Што ж, добрая справа. Толькі ці збяруцца ўсе. Цяпер такі час складаны.

— Так, час няпросты, — уздыхнула Ганна, — ды ўжо хто прыедзе, той прыедзе. Я таму і прыехала ў вёску: трэба ўсіх сабраць.

— Ох, мая Ганулька, — класная ласкава абняла яе, — ты такой і засталася: добрай, спагадлівай. Ды яшчэ актывісткай.

— Ці бачылі каго з нашага класа?

— Зімой неяк быў Вася Царукоў. Жыве ў Гродзенскай вобласці. Лена Акінчына была з малым сынам. Ды яшчэ Свету Мазур бачыла. Але яна, мабыць, не будзе на сустрэчы.

Чаму — Ганна здагадалася і сама. Света яшчэ ў школе стала сустракацца з старэйшымі хлопцамі. Бацька памёр рана, а маці не надта пільна глядзела, чым займаецца дачка. У выніку ўжо на выпускным Света была цяжарнай. У лістападзе яна нарадзіла дзяўчынку.

Ганне нават прыйшлося хрысціць яе. Света ўпрасіла. З таго часу ў Светы змянілася трое мужыкоў, усе пілі. Яна некалькі раз вярталася ў родную вёску, а потым зноў ад’язджала на Віцебшчыну. Цяпер яна там і жыве. Дзяцей у яе, здаецца, трое. Працуе на ферме, а заробкі невялікія. Наўрад ці паедзе. Вось так Света распарадзілася сваім жыццём.

— А я сёння Валодзю Шумана і Сашу Кашуцкага бачыла. Нешта ў іх таксама не ладзіцца.

— Ай, — класная махнула рукой, — калі няма мазгоў, то іх і не будзе. Як і ў майго.

— Як сёлета, бульбу садзілі? — Ганна вырашыла хуценька перавесці размову на іншае. Не хапала, каб Таццяна Пятроўна зноў успомніла пра Сашу, стала хвалявацца.

— Крыху пасадзілі, сотак пятнаццаць, — адказаў Сямён Міхайлавіч, — будзем мець занятак летам.

Потым яны яшчэ гаманілі пра рознае, успаміналі школу.

Ганна глянула на гадзіннік:

— Засядзелася я ў вас, хутка адзінаццаць. Я пабягу, ужо позна.

— Нічога, нічога. Адаспімся. Пабудзь яшчэ.

— Не, не, пара. Сустрэнемся летам.

— Ну дык заходзь, будзем рады. — Таццяна Пятроўна прыўзнялася, — заўжды заходзь, не толькі з нагоды…

— Абавязкова.

Ганна выйшла на вуліцу. Цемра ахутала вёску. Непаўторны, знаёмы з дзяцінства пах злёгку кружыў галаву. Было адчуванне нечага харошага, добрага. Ганна даўно разумела, што цішыня дорыць успаміны пра далёкае і такое блізкае дзяцінства, дорыць блізкасць да прыроды, да роднага наваколля. Быццам ты адна тут і на ўсім белым свеце.

## ЧАСТКА 3

Да суседняй вёскі Капцэвічы каля двух кіламетраў. Прайсціся дзеля здароўя — проста любата. Ганна мінула сажалку, дзве адзінокія бярозкі каля дарогі. Злева перад вёскай кідаліся ў вочы свежай зелянінай вясковыя могілкі, а справа ўзвышаўся на пагорку помнік загінуўшым воінам. Кожны год на 9 Мая яны ўскладалі тут кветкі. Валя Пушынская жыве пасярод вёскі. Неяк раз Ганна была ў яе. Пушынская ў школе вучылася сярэдне. Адразу нікуды не паступала. Потым ужо скончыла тэхнікум і цяпер працуе ў вясковай бібліятэцы. Вось і яе дом. Ганна пашукала званок і, не знайшоўшы яго, пастукала ў дзверы. У верандзе зарыпелі маснічыны.

— Ганна, прывітанне! — Пушынская прамовіла радасна і у той жа час здзіўлена. Расчыніла дзверы. — Не чакала, што ў мяне будуць такія раннія госці. Праходзь, чаго ты стаіш. Малайчына, што зайшла.

Яны прайшлі ў залу. У пакоі было небагата, ціха і ўтульна. Ганна адзначыла, што гэтай утульнасці спрыяе раскідзістая ліпа за акном, шматлікія сурвэткі, звязаныя ўмелай рукой гаспадыні, ды стракатыя дыванкі, зробленыя з грубых рознакаляровых нітак.

— Гэта ж гады са тры мы з табой не бачыліся, — Пушынская замілавана ўсміхалася, — ты надоўга?

— Ды не, во толькі на выхадныя.

— Ды чаго ж мы сядзім так, — Валя ўзнялася, — я зараз віна прынясу. Глынём па кроплі з табой. Не ўсё ж мужыкам піць.

— Не трэба, што ты, — замахала Ганна рукамі, але ўжо было позна. Пушынская хутка вярнулася, паслала невялікі абрусік, паставіла келіхі. Праз некалькі хвілін яна ўжо разлівала віно.

— Шустра ты справілася, — зазначыла Ганна.

— На вёсцы па-іншаму нельга, столькі клопатаў. Толькі варушыся, — адказала гаспадыня, прыгубіўшы з келіха, — лепей раскажы, як ты?

— Нічога. Усё там жа працую, нічога не змянілася.

— Малайчына. Такую пасаду займаеш. З нашых, мабыць, больш ніхто такой не мае.

— Што тая пасада. Я ж чаго заехала. Мне тэлефанаваў Звярко. І прасіў наладзіць сустрэчу ў знак дваццацігоддзя заканчэння школы.

— Міша Звярко? — Пушынская здзіўлена міргнула некалькі раз. — Дзе ж гэта ён прападаў? Я яго пасля школы і не бачыла.

— Ды ў Сібіры, на нафце. Я добра не ведаю, як ён і дзе, але маці казала, што быў нават начальнікам нейкім. А потым як бы правінаваціўся ў нечым, непрыемнасці меў. Падрабязнасцей не ведаю. Толькі калі тэлефанаваў, то казаў, што рэстаран будзе за яго грошы.

— Ух ты, — зноў здзівілася Валя, — багаты стаў, значыць. Але гэта, можа, і добра. Ты ведаеш, Ганна, так хочацца на ўсіх паглядзець. Пэўна, некаторых і не пазнаеш. Усе дзяцей маюць. Так цікава.

— А твае ў школе?

— Так. Сын у дзявятым, дачка ў сёмым. А муж на заробках цяпер. Бо якая ў мяне зарплата. Вось так і жывём.

— Ведаеш, ты накажы Сашы Шчэрбацэвічу і Валодзі Фёдараву. Збіраемся ў школе каля 18-ці гадзін. Ты хоць бачыш іх?

— А як жа. Саша працуе ў калгасе. Жонка, двое дзяцей. Фёдараў цяпер у лясніцтве шафёрам. Але ён не змяніўся. Які быў, такі і застаўся.

Пасля гэтых слоў Пушынская са смехам фыркнула. Ганна зразумела яе смех. Вова Фёдараў меў камічную знешнасць — выразнае падабенства з вядомым акцёрам Фрунзе Мкртчанам. І вельмі добра валодаў мімікай. Таму калі на ўроку клас пачынаў рагатаць, настаўнікі ведалі, хто на гэта здатны. Яшчэ на экзаменах у восьмым класе Вова рассмяшыў нечым экзаменацыйную камісію. Настаўнікі так рагаталі, што не маглі спыніцца, аж да ікоты. Вову хутчэй паставілі «траяк» і выставілі за дзверы. Прыгадаўшы гэта, Валя і засмяялася.

— А ты ўжо маеш тэлефоны? — звярнулася яна да Ганны. — Усіх знайшла?

— Не ўсіх, але, думаю, яшчэ абзваню. Галоўнае, ці збяруцца ўсе.

— Хто захоча, той прыедзе, — адказала Пушынская, — калі збярэцца паўкласа — і то добра.

— Вось сёння і займуся тым, што зайду да бацькоў, ды вазьму тэлефоны тых, чыіх не ведаю. Хаця, канечне, усіх не збяром. Света Збіран, напрыклад, жыве ў Томску. Яна наўрад ці прыедзе. У Расіі яшчэ жывуць Павел Дановіч, Саша Сяцькоў. Ці атрымаецца ў іх, невядома. Дзякуй, Ганна, за віно. Я пайду.

— Дзякуй, што зайшла. Вось пасядзелі крыху, і то прыемна. Няма з кім і паразмаўляць тут, у нашай вёсцы. Кожны дзень адно і тое: дом, праца, агарод, карова, — Пушынская цяжка ўздыхнула.

— Усё, да сустрэчы праз месяц.

— Да сустрэчы.

Ганна вярнулася ў вёску і адразу зайшла да бацькоў Сашы Халевіча. Дом Халевічаў знаходзіўся каля былой вясковай бальніцы. Дагледжаны, пафарбаваны, ён вылучаўся сярод шэрых прыземістых хат. Маці Сашы, Вольга Пятроўна, здымала ў двары бялізну.

— Добры дзень, Вольга Пятроўна, — павіталася Ганна, — памагай Бог.

— Дзякуй, Ганначка, — гаспадыня стомлена прысела, — даўно цябе не бачыла. Якой жа ты стала!

— Якой? — не зразумела Ганна.

— Жанчынай, сапраўднай жанчынай, — па-добраму, цёпла вымавіла Вольга Пятроўна.

— Дзякуй, — Ганна апусціла вочы. — Я да вас зайшла папрасіць тэлефон Сашы. Мы хочам сабрацца ў чэрвені нашым класам.

— Гэта добра, што вы так рашылі, — узрадавалася Вольга Пятроўна, — канечне, трэба сабрацца. Зараз, зараз я табе яго тэлефон знайду.

Праз хвіліну яна выйшла з хаты, трымаючы ў руках паперку з нумарам тэлефона.

— Дзякуй вам, — Ганна згарнула паперку.

— Няма за што, — Вольга Пятроўна неяк пасмутнела, — патэлефануй. Можа, і Сашка мой прыедзе.

Ганна не стала ў яе нічога пытацца. Навошта вярэдзіць ёй душу. Да абеду яна пабывала яшчэ ў трох хатах сваіх былых аднакласнікаў: Федзі Губара, Васі Царукова і Светы Зайковай. Высветлілася, што Федзя ўжо не ў войску. Ён пасля службы застаўся на звыштэрміновую, і Ганна думала, што ў яго нічога не змянілася. Ажно не, Федзя цяпер у Светлагорску, працуе будаўніком. Вася пад Гродна бурыць нейкія свідравіны. Бацька казаў, што жыве добра, мае свой дом і аўтамабіль. А Света Зайкова працуе настаўніцай у Мазыры. Ганна ведала, што ў яе не было сваіх дзяцей. І Света з мужам узялі з дзетдома маленькую дзяўчынку. Так, хто б мог здагадацца пра ўсё гэта дваццаць год назад?

Дахаты Ганна вярталася дарогай, што вяла праз стары панскі парк. Калісьці, да рэвалюцыі, там жыў пан. Як успамін пра яго, застаўся гэты парк ды паўразбураны маёнтак.

Кладка захавалася добра, але ўнутры ўсё было разбурана. Амаль дзесяцігоддзе там знаходзілася піларама. Дзецьмі яны часта гулялі там, расказваючы адзін аднаму байкі пра прывід старой пані ды вялізныя куфры з каштоўнасцямі, што схаваныя дзесьці ў былым панскім доме. Яна прыгадала: недзе ў пятым класе Міша Звярко сказаў хлопцам, што ведае, дзе тыя каштоўнасці. Ён так пераканаўча казаў, што пасля ўрокаў дзятва з рыдлёўкамі рушыла на маёнтак. Зацікаўленыя дзяўчаты паспяшаліся за імі ўслед. Усе хацелі знайсці скарб.

— Тут капайце, — рашуча паказаў Мішка. Хлопцы дружна ўзяліся за працу. Праз паўгадзіны выкапалі адно рэшткі нейкіх гліняных чарапкоў, адзін іржавы даўнішні відэлец і нейкую жалязяку. Раззлаваныя хлопцы ледзь не адлупілі Мішку, ды абышлося. Ён прызнаўся, што схлусіў дзеля таго, каб яго ўзялі ў хлапечую кампанію. Такая вось гісторыя.

Цяпер маёнтак яшчэ больш зарос, сцены растрэскаліся. Няма каму тут гуляць. Туга заварушылася ў грудзях Ганны. Туга па тым далёкім і блізкім дзяцінстве, па тым, што ніколі не вернецца. Так быццам бы ўсё добра: сям’я, праца. Але тое, былое, неадступна ступае за табой, раскалыхваючы душу салодкімі ўспамінамі пра бесклапотнае дзяцінства. Ганне раптам успомніўся і смешны выпадак, які здарыўся з імі яшчэ ў трэцім класе, на прадлёнцы. Нехта прынёс навіну, што можна наклікаць дух любога даўно памерлага чалавека. Альбо нават Бабы-Ягі, вядзьмаркі. Адным словам — каго хочаш. Толькі трэба накрыцца цёмнай коўдрай, пакласці перад сабой люстэрка і заклікаць, напрыклад:

— Баба-Яга, з’явіся!

Дрыжучы ад страху, дзеці вырашылі ўсё-такі правесці «страшны эксперымент». Яна, Ганна Ходзькава і тры хлапчукі: Міша Звярко, Саша Кашуцкі, Паўлік Дановіч залезлі пад коўдру, паклалі люстэрка і сталі дружна бубніць:

— Баба-Яга, з’явіся, Баба-Яга, з’явіся!

У Ганны са страху, што зараз і сапраўды з'явіцца Баба-Яга, зуб на зуб не трапляў. Пэўна, так было і ў іншых. Мо з хвіліну было ціха і цёмна. І раптам усіх асляпіла яркае дзённае святло. Яны дзіка завішчалі і кінуліся ўрассыпную па класе. Пасярэдзіне кабінета стаяў дырэктар школы Аляксандр Пятровіч і трымаў у руках коўдру. У той момант ім было не да смеху. А калі падраслі, то часта ўспаміналі пра той выпадак.

Ганна звярнула на сваю вуліцу. Яшчэ здалёк яна ўбачыла, што маці стаіць каля веснічак і з некім размаўляе. З кім маці размаўляла, яна не змагла пазнаць, бо той чалавек стаяў спінай да Ганны. Адно толькі было зразумела, што гэта жанчына. Маці, убачыўшы Ганну, памахала ёй рукой. Жанчына павярнулася. Божачкі, дык гэта ж Лена Акінчына!

— Ленка, прывітанне, — закрычала Ганна, — я хацела цябе шукаць, а ты мяне сама знайшла.

— Прывітанне, — Лена наблізілася да Ганны, і яны пацалаваліся. — Я якраз сёння прыехала да бацькі. А ён кажа, што бачыў Ганну Каласкову. Вось я і зайшла.

— Ну, то пайшлі ў хату, пагамонім.

Пакуль яны размаўлялі, маці паспела паставіць на стол.

— Навошта вы, — Лена замахала рукамі, — я не галодная.

— Во-во, — засмяялася Ганна, — а я з адных гасцей у другія. Я ж некалькі гадзін таму была ў Валі Пушынскай. Крыху нават выпілі. А зараз во мама... Да вечара зусім п'янай буду.

— Кажаш абы-што, — засмяялася і Лена, — каб усе так пілі, як ты.

— Добра, дзеля прыліку трэба наліць пакрыху, — прамовіла Ганна.

— Твая мама паспела мне ўсё расказаць. Кажа, у цябе ўсё, як і было? І ты цяпер загадчыца паліклінікі.

— Так, каля года ўжо. Нічога асаблівага. А ты?

— Можаш мяне павіншаваць. Нарэшце перабраліся ў сваю кватэру. Якая асалода жыць у сваёй кватэры — ты не паверыш. Я цяпер пайшла ў прадпрымальнікі, спрабую зарабіць.

Ганна моўчкі слухала Лену і радавалася, што ў яе ўсё добра. Лена была спагадлівай, добрай дзяўчынкай. Толькі з-за яе непрывабнасці і паўнаватасці ў малодшых класах хлопцы дражнілі яе Торбай. Вучылася Лена слабавата. Пасля школы паступіла ў прафесійна-тэхнічнае вучылішча, працавала на заводзе ў Гомелі. Наракала, што асабістае жыццё не склалася. Ды і ніхто не думаў, што яна выйдзе замуж. Але не, Лена недзе пазнаёмілася з разведзеным мужчынам, і яны пажаніліся. Выйшла замуж у трыццаць два, у трыццаць чатыры нарадзіла. Вось такая арыфметыка. Пра ўсё гэта Ганна даведалася, калі сустрэлася з Ленай некалькі год назад.

— Віншую, канечне. Дай бог табе прыбытку ў новай кватэры і ўсяго добрага. Давай за гэта па кілішку глынём.

— Давай.

Яны чокнуліся і выпілі.

— А з кім жа твой малы? — пацікавілася Ганна, смакуючы віно.

— Ды з мужам застаўся. Я вырашыла не цягнуць яго ў вёску. Тузайся з ім па гэтых аўтобусах, ды яшчэ з перасадкамі. Муж цяпер у адпачынку, пасядзіць.Слухай, я зусім забыла: твая маці казала пра нейкую сустрэчу. Калі гэта будзе?

— Я дзеля гэтага і прыехала. Пару тыдняў таму мне патэлефанаваў Міша Звярко. Я, канечне, памятала — сёлета дваццаць год. Але збіраць клас неяк не наважылася. Міша прапанаваў мне ўсім паведаміць, а сам абяцаў рэстаран за свой кошт. Вось так.

— Цікава, — працягнула Лена, — не чакала гэтага ад Мішкі. Наш мясцовы Абрамовіч. Цікава.

— Не ведаю, ці Абрамовіч ён, ці не, але ведаю, што ён у Цюмені працуе, на нафце. А там зарабляюць няблага. Ты як мяркуеш наконт сустрэчы?

— Я не супраць. Адно не ведаю, як будзе атрымоўвацца. Муж ужо на працу пойдзе. І мне рабіць трэба. Бо трэба кватэру абстаўляць, сама разумееш. Але я пастараюся. Хацелася б пабачыцца.

У двары яны пачулі гучны голас. Ганна зірнула ў акно: у хату цягнуўся Шуман.

— Да нас госці, — весела зазначыла Ганна.

— Усім прывітанне, — Вова ўжо паспеў «астаграміцца» і весела ўсміхаўся, — як гэта, думаю, ісці міма і не наведаць аднакласніц, га? Ды не зрабіць з імі па чарцы?

— Сядай, — Ганна пасунулася на канапе, даючы месца Вову, — толькі табе, мабыць, хопіць.

— Не-не, — запярэчыў Вова, — так гасцей не сустракаюць.

Ганна ўздыхнула і наліла Вову.

— За сустрэчу! — Вова кульнуў чарку.

Потым Вова пачаў вярзці нейкую лухту, і Лена не вытрымала:

— Вова, пойдзем дахаты, я цябе падвяду. Нам жа па дарозе.

— Не, я пайду адзін, — запярэчыў той, — а вы яшчэ пасядзіце. Жанчыны ж любяць пераказаць адна адной мясцовыя навіны.

Вова падняўся і ледзь не грымнуўся, зачапіўшыся за ножку стала.

— Ціха, ціха, ўсё добра, — Вова падняў руку, — я пайшоў.

Ганна з Ленай пераглянуліся, але прамаўчалі.

Потым Ганна дастала альбом, і яны доўга гарталі яго ды ўспаміналі школьныя гады. Так і адышоў у мінулае яшчэ адзін дзень з невядомай колькасці нам адведзеных. Ён можа запомніцца, а можа і бясследна кануць у вечнасць.

Пра гэта разважала Ганна, лежачы ў ложку. Заўтра зноў дахаты. Так, да свайго дому, бо гэты хоць і родны, але бацькоўскі. У яе цяпер сваё гняздо.

## ЧАСТКА 4

— Юля, пад’ём! Хуценька ўставай, а то спознішся. Вы ж у паход збіраліся, — Ганна сцягнула коўдру з Юлінага ложка.

— Мама, ну яшчэ крышачку. Яшчэ хвіліначку, — Юля, не расплюшчваючы вачэй, старалася зноў усцягнуць коўдру на сябе.

— Як хочаш, — Ганна павярнулася, глынула са шклянкі вады і пырснула на Юлю.

— А-а-а, мама, ты што? — завішчала Юля і падскочыла.

— Нічога, затое ты цяпер прачнулася, — смеючыся, сказала Ганна.

— Не люблю цябе, — Юля жартаўліва надзьмулася, кінула ў Ганну падушку і стала збірацца. У пакой заляцеў Паша і ўсеўся Юлі на плячо:

— Усё для Пашы, усё для Пашы. Дурань, — закончыў ён нечакана.

Ганна засмяялася. У папугая атрымаўся цэлы лагічны сказ. Але ўсё, хопіць забаў, трэба і самой збірацца. Сёння з раніцы ў яе напружаны дзень. Да таго ж сёння яна хацела патэлефанаваць нарэшце яшчэ тром аднакласнікам, у тым ліку і Халевічу.

Дзень абяцаў быць цёплым: на небе ні аблачынкі, ласкавы ветрык няспешна шамацеў маладым лісцем. Як добра зараз прайсціся па вуліцы. Нават не хочацца лезці ў перапоўнены аўтобус, стаяць у шчыльным натоўпе, прапускаць засяроджа-

ных з раніцы людзей. Зараз бы куды-небудзь у лес, пасядзець на аксамітнай траўцы пад пяшчотным сонейкам. Ды дзе там. Вунь ужо і яе нумар пад'ехаў.

Закруціўшыся ў будзённых клопатах, Ганна змагла ўздыхнуць толькі пад дванаццаць. Адсунула паперы на стале, падышла да акна, расчыніла яго. Свежае паветра палілося ў кабінет. Гэтае акно выходзіла на ціхую невялічкую вулачку. Насупраць акна рос малады клён. Пад клёнам амаль заўсёды нехта сядзеў: ці пенсіянеры, ці дзеці, ці закаханая парачка. Сёння ў цяньку на лавачцы сядзела пара: смуглявая маладая дзяўчына і спрытны малады салдацік. Ён нешта гаварыў ёй на вуха, а яна залівіста смяялася. Рука хлопца абдымала дзяўчыну за стан. Яны цешыліся самі сабою і нават не думалі, што з паліклінікі будуць назіраць за імі. Салдацкае абмундзіраванне. Некалі з яго ўсё і пачалося…

Ліст ад Мішы з войска прыйшоў хутка: не прайшло і двух тыдняў пасля прызыву. Ганна ў інтэрнацкім пакоі старанна завучвала шматлікія медыцынскія тэрміны. Дзверы прыадчыніліся, і ў шчыліну прасунулася ўскудлачаная галава Ірыны з суседняга пакоя:

— Ганна, танцуй! Табе ліст, салдацкі. А ты не казала, што ў цябе хлопец ёсць. Чаму маўчала?

— Ды няма ў мяне ніякага хлопца, — спачатку не зразумела Ганна. Потым да яе дайшло і яна адказала:

— Гэта мой аднакласнік. Проста ён прасіў, каб я яму пісала. Казаў, што так будзе весялей служыць. Вось і ўсё.

— Проста так не абяцаюць пісаць. Хітрыш. Давай танцуй.

— Ды ну цябе.

— Але ж ты, Ганна, і зануда. На, бяры. Больш не буду табе насіць з вахты лісты.

Ганна дастала ліст з канверта. Мішаў почырк быў такі ж адметны, як і ў школе: літары скакалі вышэй і ніжэй радка, то разбягаліся, то збіраліся ў кучку.

*«Прывітанне, мая любая Ганула. З салдацкім прывітаннем да цябе Міша. Вось пачалася мая служба. Буду я цяпер артылерыстам. А часць наша знаходзіцца каля Чэлябінска. Ад дома далекавата. Цяпер нас ганяюць, як сідаравых коз. Праходзім курс маладога байца.*

*Недзе праз месяц будзем прымаць прысягу. Нас, беларусаў, тут амаль палавіна. З некаторымі ўжо пазнаёміўся. А так цяжкасцей хапае, ды нам не прывыкаць. Ты толькі пішы мне. Я буду вельмі чакаць.*

*Твой Міша».*

Ганна ўважліва прачытала ліст. Ёй не вельмі хацелася адпісваць, але яна абяцала. Можа, і сапраўды яму будзе лягчэй служыць. Міша пісаў ёй часта, яна адказвала радзей, спасылаючыся на вучобу. Калі яна прыязджала на вёску, то Мішава мама пры сустрэчы абавязкова пыталася:

— Як Міша?

— Нічога асаблівага. У яго ўсё нармальна, — Ганне было крыху не па сабе ад таго, што Мішава мама лічыць яе амаль што нявесткай.

— Пішы яму, Ганначка. Ён жа такі рады, што ты яму пішаш.

Так, неўпрыкмет, праляцелі два гады. Ганна пачала задумвацца аб іх адносінах. Можа, і сапраўды: сцерпіцца — злюбіцца? Пакуль у яе няма ніякіх пачуццяў да Мішы. Але ён неблагі хлопец: добры, спагадлівы, працалюбівы. Кахае яе вунь колькі год, і ніхто яму больш не патрэбен. І ў яе нікога няма. Праўда, былі кавалеры тут, у інстытуце. Першым быў Віцька з іхняга курса. Але ён на першым жа спатканні палез да яе цалавацца. Ганна і заляпіла яму аплявуху. Пасля гэтага Віця да яе не падыходзіць. Потым на танцах, яна пазнаёмілася з Ігарам, які вучыўся курсам раней

за Ганну. Толькі і з ім у яе нічога не атрымалася. Пасля некалькіх спатканняў Ганна сама яму сказала, што больш ім не патрэбна сустракацца. Ігар ёй не падабаўся. Як цяпер модна казаць: ён не быў мужчынам яе мары. Таму, калі Міша ў апошнім пісьме напісаў ёй, што пасля «дэмбеля» адразу накіруе да Ганны, яна падумала: можа, гэта і да лепшага. Можа, пасля двухгадовага расстання ў яе прачнецца пачуццё да яго. За два гады Міша, мабыць, стаў сапраўдным мужчынам. У адзін з чэрвеньскіх дзён Міша прыехаў да яе ў інстытут. З кветкамі стаяў каля ўвахода. З ім побач, з невялікім чамаданчыкам у руках, стаяў статны, русавалосы, сімпатычны хлопец у салдацкай форме.

— Гануля, прывітанне, — Мішка шырока ўсміхнуся. Ён працягнуў Ганне кветкі і хуценька чмокнуў у шчаку.

— Дзякуй за кветкі, — Ганна прыціснула букет да твару.

— Знаёмся, гэта мой сябар Віктар, — Міша кіўнуў у бок свойго таварыша, — ён таксама з Беларусі. Мы з ім два гады адбарабанілі разам. Разам і вярнуліся.

— Вельмі прыемна пазнаёміцца, — Віктар галантна паціснуў працягнутую Ганнай руку, — мне Міша вельмі многа пра вас расказваў.

— Што ж ён такога пра мяне казаў?

— Не, што вы, — злёгку зніякавеў Віктар, — толькі добрае. Што вы самая прыгожая дзяўчына. Цяпер я гэта і сам бачу.

— Вось як, — Ганна зачырванелася ад нечаканага камплімента, — не думала.

Потым яны крыху пасядзелі ў кавярні, пагаманілі. Праз некалькі гадзін Міша з Віктарам пайшлі на цягнік. Ганна паабяцала Мішы, што праз тыдзень прыедзе дахаты. Віктар, адыходзячы, некалькі разоў азірнуўся на Ганну. Яна ж цэлы вечар думала. Думала не пра Мішу — пра Віктара. Чаму — яна зразумець пакуль не магла. Яго позірк, поціск рукі, яго голас — яна думала толькі пра гэта. Ды што з таго — яна ж зусім не ведае гэтага Віктара. Праз дзень, калі Ганна выйшла з інстытута, ёй падалося, што ў яе галюцынацыя. Каля ўвахода стаяў Віктар з букетам у руках. Але ўжо ў цывільнай вопратцы. У Ганны падкасіліся ногі і перасохла ў роце.

— Гэта вам, — Віктар працягнуў ёй букет.

— Дзякуй, — ледзь прашаптала Ганна.

— Вам дрэнна? — занепакоена спытаўся Віктар. — Вы такая бледная.

— Не-не, нічога, гэта хутка пройдзе, галава злёгку закружылася, — а саму нібы маланкай працяла, — я крышку пастаю.

— Давайце пойдзем, пасядзім на лавачцы, — прапанаваў Віктар.

Яны доўга сядзелі ў парку. Ганна нават не спыталася, чаму і як Віктар апынуўся тут. Ён трымаў яе за руку і нешта казаў. Яна чула і не чула яго словы. Ганна не разумела, што з ёй робіцца.Такога з ёю яшчэ не было. Сэрца замірала, калі Віктар браў яе за руку, трапятала, калі ён заглядаў ёй у вочы. Потым яны зайшлі ў кавярню. Віктар частаваў яе марожаным з лыжачкі, часам не трапляючы ў рот. Яна смяялася разам з ім. Пасля гэтага яны гулялі па горадзе. Ніколі Ганне не было так хораша. Усёю сваёю істотаю яна зразумела, што ў яе жыццё прыйшло нешта новае, чаго ніколі не было. Яна нібы трапятала і ўзлятала ў паветра, ёй хацелася спяваць і плакаць адначасова. Яна адчувала сябе самым шчаслівым чалавекам на зямлі. Ганна не памятала, як яны дайшлі да інтэрната. Віктар сказаў:

— Вось, прыйшлі.

— Што, прыйшлі? — Ганна азірнулася. — А колькі цяпер часу?

— Дванаццаць.

— Ой, ужо дванаццаць, — войкнула Ганна, — на вахце будуць на мяне сварыцца. Трэба ісці.

— Ганна, пачакай, — Віктар спыніў яе, — я нешта хацеў табе сказаць.

— Што?

— Ганна, — Віктар спачатку запнуўся, а потым выпаліў, — я цябе кахаю.

Увесь свет застыў у той час. Яна чула толькі стук свайго сэрца: тах-тах, тах-тах. Віктар яе кахае! Якое шчасце! Толькі цяпер Ганна ўсвядоміла: яна закахалася. Упершыню ў жыцці па-сапраўднаму. Калі не лічыць школьнага дзіцяча-юнацкага кахання да Халевіча. Ды яно даўно сышло. Цяпер яна кахае такога хлопца, як Віктар. І ён кахае яе. Ганна разгубілася: што адказаць Віктару. Яна ж зусім не ведае яго. Бачыць толькі другі раз у жыцці. Усе гэтыя думкі яшчэ больш ускружылі галаву. Віктар зноў паўтарыў:

— Я цябе кахаю, — а затым дадаў. — Можна я цябе пацалую?

— Так, — ледзь дыхаючы, сэрцам адказала Ганна.

Віктар павольна наблізіўся да яе і нясмела пацалаваў у вусны. Так жа нясмела ён абняў Ганну і ўжо з жарам, палка стаў цалаваць яе. Ганне здавалася, што яна ўзносіцца над зямлёй. Яна перастала ўсведамляць рэчаіснасць: засталіся толькі ён і яна. Яны несліся ў віхуры пачуцця ў далёкую далячынь. Ім свяціла тая зорка, што аб’яднала назаўсёды два лёсы. У той вечар Ганна так і не зайшла ў інтэрнат. Яны затуліліся ў самым далёкім кутку гарадскога парку і пад спевы салаўёў цалаваліся. Іх вусны прыпухлі ад пацалункаў, а яны не маглі адарвацца адно ад аднаго, хіба толькі дзеля таго, каб сказаць словы, якія кажуць усе закаханыя. Сваю першую, адну на дваіх, раніцу яны і сустрэлі там, на лавачцы ў парку. Раніцай Ганна пайшла ў інтэрнат, каб давесці сябе да ладу.

— Ганна, ты дзе была? — кінулася да яе суседка Вера. — Я думала, з табой што здарылася.

— Так, здарылася, — стомленая і шчаслівая Ганна звалілася на ложак, — я закахалася.

— Ух ты, — аж падскочыла Вера, — у каго?

— Ты не паверыш, — Ганна радасна ўсміхнулася, — я яго бачу толькі другі раз у жыцці. А ён для мяне самы лепшы ў свеце чалавек.

— Ды хто ён, дзе жыве, чым займаецца?

— Не ведаю. Ведаю толькі, як яго завуць. Віктар.

— Ганна, ты з глузду з’ехала, — Вера села на ложку, — так нельга. Ты ведаеш, што потым бывае. Ты ж можаш перакрэсліць усё.

— Не, не бойся, у нас нічога такога не было, — супакоіла Ганна сяброўку, — мы толькі цалаваліся. Віктар не такі. Ён сам першы прызнаўся, што мяне кахае.

— Ох, Ганна, ты такая шчаслівая, — уздыхнула Вера.

— Так, я самая шчаслівая дзяўчына на зямлі, — адказала Ганна і радасна засмяялася.

Віктар правёў яе ў інстытут і сказаў, што паедзе дахаты. У Ганны трывожна забілася сэрца: Віктар паедзе, а што далей? Калі яны сустрэнуцца? Як надоўга ён ад’язджае? Яны спыніліся каля інстытута, і Віктар раптам павярнуўся да яе:

— Ганна. Ведаеш, потым я магу і не рашыцца. Таму я хачу цябе спытаць.

— Што спытаць?

Віктар тут жа стаў на калені:

— Ганна, ты станеш маёю жонкаю?

Яна разгубілася:

— Хто, я? Тваёю жонкаю? Ты жартуеш?

— Якія жарты, — Віктар падняўся, — я хачу, каб ты выйшла за мяне замуж. Ты згодна?

У Ганны ў вачах заблішчэлі слёзы:

— Я згодна, мой любы.

Пра далейшае можна не распавядаць. На выхадныя Віця прыехаў да яе і павёз знаёміць са сваімі бацькамі, якім Ганна спадабалася. Выбар сына яны ўхвалілі. Дамовіліся, што Віця зноў прыедзе да яе, каб ужо пазнаёміцца з Ганнінымі бацькамі. Адразу пасля таго, як яна вярнулася ад Віці, прымчаўся Міша.

— Ганулячы, ты чаму не прыехала? Я цябе чакаў і бацькі твае чакалі. Што здарылася?

— Міша, зразумей мяне, — Ганна глядзела яму ў вочы, — я казала, што не кахаю цябе. Мне здавалася, што пачуццё з'явіцца з цягам часу, але яно не з'явілася. Як кажуць, сэрцу не загадаеш. Выбачай, я кахаю другога.

— Каго гэта другога?

— Віцю.

— Якога яшчэ Віцю? — не ўцяміў Міша.

— Таго самага, што з табою сюды прыязджаў.

— Як гэта? Калі? — разгубіўся Міша. — Як гэта магло здарыцца?

— Вось так. Я пакахала яго з першага позірку. Ён мяне таксама. Мы з ім ужо сустракаліся. Ён мне прапанаваў выйсці за яго замуж.

— Вось гад, — абурыўся Міша, — сябар называецца. Адбівае чужую дзяўчыну. Мярзотнік. Заб'ю.

— Міша, супакойся! — Ганна трасянула Мішу за плячо. — Як ты не можаш зразумець. Ніхто не зменіць майго рашэння.

Міша на хвіліну змоўк. Ён панура апусціў галаву.

— Ганна, ну чаму? Чаму ты не можаш мяне пакахаць? Чым Віця лепшы за мяне, га?

— Міша, я сама не ведаю, — Ганна лагодна дакранулася да Мішы. — Ты не хвалюйся так. І ў цябе з'явіцца новае каханне. Хай толькі пройдзе час. Усё будзе добра.

— Ды ну цябе! Ненавіджу вас усіх, і цябе, і Віцьку. Усіх! — Міша шпурнуў на траву пакунак, што трымаў у руках, і пайшоў прэч.

— Міша, пачакай! Чаго ты так? — гукнула ўслед Ганна. Толькі Міша нават не азірнуўся. Пасля таго Ганна больш яго і не бачыла. Міша больш не тэлефанаваў ёй, не пісаў і не рабіў захадаў пабачыцца. У вёску ён прыязджаў вельмі рэдка, і за ўсе гэтыя гады яны так ні разу і не сустрэліся. Са слоў маці Ганна ведала, што Міша з'ехаў у Цюмень. Там жыве і працуе. Быццам бы ажаніўся потым, нейкія непрыемнасці былі на працы, але падрабязнасцей маці не ведала. Ганна ж з Віктарам вырашылі зрабіць вяселле праз год, бліжэй да заканчэння Ганнінай вучобы. Віктар паступіў у тэхнікум. А далей…

Зацілімкаў тэлефон. Ганна падняла трубку:

— Мне Ганну Фёдараўну, — прагаварыў упэўнены мужчынскі голас.

— Я слухаю.

— Прывітанне, Ганна. Гэта Павел Дановіч.

— Павел! Ты! Вельмі радая цябе чуць. Адкуль ты?

— Ды во, сарока на хвасце навіну прынесла, што ты ўсіх збіраеш на сустрэчу. Вырашыў удакладніць.

— Малайчына. Але гэта проста фантастыка. Я якраз збіралася табе сёння патэлефанаваць. Дык ты ўсё ведаеш?

— Калі Пушынская ўсё правільна памятае, то збор ў школе 28 чэрвеня. Так?

— Усё так, Паўлік. Ты прыедзеш?

— Абавязкова.

— Малайчына, — пахваліла яго Ганна, — усё, больш не буду цябе распытваць. Пра ўсё пры сустрэчы. Будзем чакаць цябе.

— Да сустрэчы.

Настрой у Ганны падняўся. Ну вось, клас паціху збіраецца. Гэта прыемна. Усё, хопіць успамінаў. Працы многа. Яшчэ засталося патэлефанаваць Халевічу. Няма як больш адкладаць. Ганна набрала нумар. Праз некаторы час слухаўку паднялі.

— Слухаю вас, — адказаў мужчынскі голас.

— Мне б Аляксандра Мікалаевіча.

— Я слухаю вас.

— Саша, прывітанне. Гэта Ганна Каласкова. Памятаеш яшчэ?

— Чаму ж не, памятаю. Як жывеш?

— Дзякуй, добра. Я табе тэлефаную вось па якой справе. Мы тут класам збіраемся ў вёсцы. Ты як наконт сустрэчы?

— Хм… Я нават не ведаю, што сказаць, — Халевіч на хвіліну змоўк. — Ведаеш, працы шмат. Мабыць, у мяне не атрымаецца.

— Дык гэта ж будзе ў суботу.

— Я разумею. Але дзеля сустрэчы трэба раней ад'язджаць у пятніцу. А я не змагу.

— Няўжо табе не хочацца пабачыцца з аднакласнікамі? Мы ж столькі год не бачыліся. Ды і бацькоў наведаеш. Яны ўзрадуюцца.

— Не, у мяне не атрымаецца. Я ўспомніў, што якраз напрыканцы месяца мы з жонкай збіраліся ехаць да яе бацькоў. Так што ў мяне не атрымаецца.

— Што ж, глядзі сам. Усяго добрага, Саша.

— Бывай.

Ганна паклала слухаўку. Яе не пакідала ўражанне, што яна размаўляла з незнаёмым чалавекам. Так, гэта быў Саша Халевіч, з якім яна правучылася дзесяць год. Той Саша, праз якога яна нават слёзы пралівала. Але ж гэта і не Халевіч. Гэта чужы чалавек, эгаіст, абыякавы да аднакласнікаў, бацькоў і ўсіх іншых людзей. Нечакана ў памяці ўсплыла адна школьная гісторыя. Недзе ў шостым ці сёмым класе сярод хлопцаў распаўсюдзілася новая гульня. На грошы. Збіралася невялікая кампанія, пяць — сем чалавек, скідалі ў шапку грошы: любыя манеты, ад капейкі да рубля. У каго было больш за ўсіх, збіраў іх у жменю і пачынаў трусіць. Потым кідаў іх на стол. Усе манеты, што ляжалі арлом, ён забіраў сабе. Астатнія пачынаў біць адна аб адну дзеля таго, каб хоць адна манета перакулілася арлом угору. Калі ў яго гэта не атрымоўвалася, ход пераходзіў да наступнага гульца. Іншы раз той, у каго мала грошай, выйграваў даволі значную суму. Хлопцы, бывала, гулялі нават на перапынках. Усе ведалі, што на грошы нельга гуляць. Ды дзе ж ты ўтрымаешся ад такой спакусы. У той раз Халевіч угаварыў хлопцаў згуляць на вялікім перапынку. Усе згрудзіліся вакол стала і напружана сачылі, як Вася Царукоў біў па манетах. Ніхто і не заўважыў, як увайшоў дырэктар.

— Гэта мая, гэта мая і гэта мая, — адлічваў сабе манеты Вася.

— А ўсе астатнія мае, — паміж хлопцаў нечакана з'явілася дырэктарская рука і згрэбла жменю манет са стала.

— Так, хто распачаў гульню? Хто ўдзельнічае? — дырэктар павярнуўся да хлопцаў. — Ты? — звярнуўся да Халевіча.

— Не, — хуценька адказаў той, — я толькі ўвайшоў. Гэта яны гулялі.

Ён паказаў на тых, хто стаяў каля Васі Царукова. Дырэктар павёў хлопцаў да сябе ў кабінет. Там яны атрымалі сур'ёзную вымову, час «папраўленчай» працы і запісы ў дзённіку. Халевіч жа застаўся чыстым. Тады Ганна не надала асаблівай увагі той гісторыі. І толькі потым, праз гады, яна зразумела, што той учынак Халевіча — гэта здрада. Здрада свайму сумленню, сваім таварышам. Ну што ж, бог яму суддзя, як кажуць.

## ЧАСТКА 5

Дзень выдаўся на славу: цёплы, сонечны. Спякоты не было, як гэта часта здараецца ў чэрвені, а толькі лагоднае, мяккае цяпло. Жвавыя вераб'і купаліся ў пяску і гучна чырыкалі, радаваліся летняму святлу і добраму надвор'ю. У школьным двары было ціха. Двухпавярховы будынак школы падаўся Ганне такім родным і блізкім, што зашчымела сэрца і захацелася плакаць. Неяк так здарылася, што за ўсе гэтыя дваццаць год яна была ў школе толькі аднойчы: праз год пасля заканчэння. Тады яна заходзіла наведаць Таццяну Пятроўну. Крыху пазней Таццяна Пятроўна ўжо пайшла на пенсію. Прыехалі маладыя настаўнікі, а іх Ганна не ведала. У школу не было да каго зайсці. Маці казала, што новая дырэктарка вельмі актыўна ўзялася за добраўпарадкаванне. У школе з'явіўся свой музей. Прыкметна папрыгажэў двор. Яго аздобілі зялёнымі кветнікамі, альпійскімі горкамі, кампазіцыямі з камянёў. Нехта з настаўнікаў нават навыразаў з дрэва скульптур. Заглядзеўшыся і паглыбіўшыся ў свае думкі, Ганна і не прыкмеціла, як хтосьці раптоўна абняў яе за плечы.

— Цьфу ты, напужаў, — Ганна схапілася за сэрца. — Ты што, так можна і інфаркт атрымаць.

— Ды ўсё добра, я толькі пажартаваў, — смеючыся, Вася Царукоў абняў яе, — колькі лет, колькі зім. Якая ты стала!

— Якая? Тоўстая і непрыгожая?

— Не, не, — замахаў Вася рукамі, — ты стала такой жанчынай. Ведаеш, дзенебудзь у натоўпе я мог бы цябе і не пазнаць. Падумаў бы, што кінаактрыса ідзе.

— Добра, што хоць тут пазнаў. А вось і нашы Штэпсель і Тарапунька.

Да школьнага двара набліжаліся Кашуцкі і Шуман. Бадзёрым крокам яны падышлі да Ганны з Васілём.

— Прывітанне, прывітанне.

— Мы ў ліку першых, — заўважыў Вова.

— Гэта абнадзейвае, — адрэагавала Ганна, — сёння ты апрануты, як мае быць. І цвярозы.

— Ды я магу зусім не піць, — Вова задраў нос, — калі захачу.

Праз некалькі хвілін паказалася цэлая група. Здалёк Ганна пазнала Валю Пушынскую. З ёю было яшчэ трое: жанчына і двое мужчын. Толькі калі ўсе наблізіліся, Ганна пазнала Сашу Шчарбацэвіча, Вову Фёдарава і Ганну Ходзькаву. Адразу пасыпаліся гучныя воклічы, пацалункі і абдыманні. Некалькі хвілін толькі і чулася:

— Ну як ты? Дзе цяпер?

Ходзькаву Ганна не бачыла роўна дваццаць год. Таму яна стала распытваць першым чынам яе:

— Дзе ж ты прапала?

— Ды пад Масквой жыву. Працую бухгалтарам у краме. Дачцэ сёлета сямнаццаць будзе. Муж працуе на заводзе, сваю трохпакаёвую кватэру маем. Усё добра.

Пакуль яны высвятлялі хто дзе жыве, падышла і Таццяна Пятроўна з Сямёнам Міхайлавічам. Усе абступілі класную. Узрушаная, яна толькі абдымала іх, прыгаворваючы:

— Сашачка, Ганначка, Вова, мае любыя. Якія ж вы малайцы. Як жа вы выраслі, мае дзетачкі.

Неўзабаве размова пайшла спакайней. Тады і падышлі па чарзе, адзін за другім, Федзя Губар і Саша Сяцькоў. Кацю Хоцік падкінуў на аўтамабілі муж. За ёй з'явіўся Павел Дановіч.

— Сядайце каля мяне, — Таццяна Пятроўна, прысела на лавачку, — ды расказвайце хутчэй, дзе вы ўсе цяпер.

— Я жыву і працую на будоўлі ў Светлагорску, — Федзя Губар пачаў першым. — Жонка і двое хлопцаў у мяне.

— А я жыву ў Ленінградзе. Не падабаецца мне гэтая назва: Санкт-Пецярбург, — працягнуў Павел Дановіч, — працую шафёрам. Жонка — настаўніца. Маю дачку і сына. Вось так.

— Мяне лёс закінуў у Калінінград, — прыўзняўся Саша Сяцькоў, — пасля тэхнікума, як туды прыехаў, так і застаўся. Жанаты, дачцэ дзесяць год, працую ў порце брыгадзірам.

— Я, як і Ганна Каласкова, жыву ў Мінску, — вясёлая і смяшлівая Каця Хоцік скончыла кароткае прадстаўленне,— працую на велазаводзе. Нядаўна прызначылі на пасаду майстра. У мяне дачка.

— Мае дзетачкі, — Таццяна Пятроўна абняла Кацю і Паўла, — ніколі не магла падумаць, што вы разляціцеся так далёка. І ў Маскве, і ў Калінінградзе, і ў Томску, Санкт-Пецярбургу. Усе такія харошыя. Я так радуюся за вас, што вы ўсе жывыя, здаровыя, усе маеце сем'і. Няхай бог бароніць вас. Вунь яшчэ нехта ідзе.

— Гэта Лена Акінчына, — выгукнуў Вова Шуман, — сёння прыехала.

— Алё-алё-Алёна, кручу я дыск тэлефона, — праспяваў Вася Царукоў.

— Цяпер Алёна, а ў школе Торбай дражніў, — укалоў яго Павел Дановіч.

Усе дружна засмяяліся. Пасля Ленінага прыходу, крыху пагаманіўшы, аднакласнікі прыціхлі.

— Ужо палова на сёмую. Мабыць, больш нікога ўжо не будзе, — з нейкім сумам зазначыла Ганна Ходзькава.

— Як гэта не будзе? А Міша Звярко? Ён жа, быццам, усё гэта забаламуціў. Дзе ж ён тады? — Вова Шуман агучыў тое, аб чым думаў увесь клас.

Нейкі час стаяла цішыня. У гэтый цішыні з-за школьнай агароджы паказаўся шыкоўны белы «мерседэс». За ім так жа нетаропка прыстроіўся зялёны «пазік». Плаўна перавальваючыся па ямінах і выбоінах на разбітым асфальце, аўтамабіль наблізіўся да ўвахода ў школьны двор. Такога шыкоўнага «мерседэса» ў вёсцы, мабыць, яшчэ ніхто не бачыў. Усе маўчалі і напружана сачылі за аўтамабілем. Дзверы ў ім расчыніліся, і адтуль паказаўся незнаёмы русавалосы мужчына з невялікім жывоцікам. Калі ён павярнуўся і скіраваў да школы, усе ахнулі: гэта быў Міша Звярко. У Сашы Кашуцкага ад здзіўлення аж рот раскрыўся.

— Прывітанне ўсім, — Міша падняў рукі, — бачу, што амаль усе ў зборы. Што такія невясёлыя? Давайце хоць абдымемся, сябры-аднакласнікі.

Міша з усімі, па чарзе, з кім паздароўкаўся, з кім абняўся. Таццяну Пятроўну ён абняў са словамі:

— Мілая вы наша Таццяна Пятроўна, колькі разоў я ўспамінаў вас. Як нам пашанцавала, што вы былі ў нас класнай.

— Дзякуй, Мішачка. Дзякуй, што памятаеш, — ціха адказала Таццяна Пятроўна.

— Прывітанне, Ганулька, — Міша нахіліўся да Ганнінага твару, — ты такой жа прыгажуняй засталася.

Міша ласкава датыкнуўся вуснамі да яе шчакі.

— Скажаш, прыгажуня, — нервова ўсміхнулася Ганна, — я зусім не тая Ганна, што была дваццаць год назад.

— Ды і я не той Міша, што быў, — і ён паляпаў сябе па жывоціку. — Што, давайце сфатаграфуемся. Памяць усё ж будзе.

— Давайце, давайце, — зашумеў клас.

Таццяну Пятроўну з Сямёнам Міхайлавічам паставілі па цэнтры. Астатнія згрудзіліся вакол іх. Міша зрабіў некалькі фотаздымкаў. Потым ён стаў да ўсіх, а фатаграфаваў Федзя Губар.

— А давайце ў школу зойдзем, — прапанаваў Саша Шчарбацэвіч, — цікава глянуць, што там змянілася.

Усе пагадзіліся. Школа сустрэла цішынёй і прахалодай. Па калідорах гулка аддаваліся іх крокі і галасы. На сценах былі развешаны малюнкі і вырабы вучняў. Музей не змясціў усяго, што сабралі школьнікі. Таму на калідоры стаялі розныя старадаўнія прадметы: ад кроснаў да ночваў. Усе павярнулі ў свой клас. Таццяна Пятроўна ўзяла ключ і адчыніла дзверы. Рассеўшыся, аднакласнікі прыкметна пасур’ёзнелі.

— Вось мая родная парта, — Вася Царукоў сумна ўздыхнуў.

— Што засумавалі? А зараз, дзеці, пачнём урок, — Таццяна Пятроўна весела заўсміхалася. — Хто пойдзе да дошкі?

— Можна я, Таццяна Пятроўна? — падняла руку Ганна.

— Калі ласка.

Ганна выйшла на сярэдзіну класа. Падчас сустрэчы з Пушынскай яны дамовіліся, што Ганна купіць падарунак для класнай, а Пушынская потым збярэ грошы з аднакласнікаў.

— Мілая наша Таццяна Пятроўна. І вы, паважаны Сямён Міхайлавіч. Мы ўжо дваццаць год не збіраліся разам. Але кожны з нас памятае ўсё тое добрае, што зрабілі для нас, чаму навучылі нас. Дзякуй вам за ўсё. Дай вам божа доўгіх год жыцця. І прыміце ад нас гэты невялічкі падарунак.

Калі Ганна перадавала класнай падарунак, у Таццяны Пятроўны дрыжэлі рукі.

— Дарагія мае дзетачкі. Каб вы ведалі, як я радуюся за вас, такіх прыгожых, здаровых. Я памятаю, як вы увайшлі ў клас, маленькія, нясмелыя, цікаўныя. Колькі прыйшлося аддаць, каб вы сталі вось такімі. Я заўсёды вамі ганарылася, люблю вас і…

На гэтым старая настаўніца не стрымала эмоцый. З яе вачэй пацяклі слёзы радасці, смутку, надзеі. Ганна таксама не стрымала слёз і кінулася да яе.

— Што вы, Таццяна Пятроўна, усё добра. Не плачце, — суцяшала яна класнага кіраўніка.

— Гэта я ад радасці, мая харошая, ад радасці, — заспакоіла яе класная.

Дзяўчаты за партамі асцярожна выціралі вочы, каб не пашкодзіць макіяж.

— Што гэта мы сырасць развялі, — падняўся Міша, — пайшлі на вуліцу. У мяне ёсць ідэя: давайце глянем, як там нашы дрэвы растуць.

— Пайшлі, пайшлі, — усе яго падтрымалі.

Некалі, у чацвёртым класе, яны азелянялі тэрыторыю школы. Кожны клас садзіў дрэвы па перыметры школьнага двара. Ганна таксама пасадзіла свае дзве бярозкі. Цікава, ці жывыя яны? Аднакласнікі разбрыліся па ўчастку двара, што мясціўся за будынкам кацельні.

— Вось маё. А вось маё, — тут і там раздаваліся воклічы. Ганна стала шукаць свае бярозкі. Здаецца, яны. Жывыя яе саджанцы. А вымахалі як. Ганна дакранулася да шурпатай кары дрэў. Расціце і далей, расціце на радасць людзям.

— Так, а цяпер запрашаю ўсіх у аўтобус, — выгукнуў Міша Звярко, — адпраўляемся, так бы мовіць, абмыць нашу сустрэчу.

— А чаму ты пра сябе не расказваеш? Як жывеш, дзе? А то ніхто пра цябе нічога не ведае, — папракнуў Павел Дановіч.

— Ды нічога цікавага, — буркнуў Міша.

— Як гэта нічога цікавага, — Павел не стрымаўся, — на такім аўтамабілі ездзіш, і нічога цікавага.

— Што той аўтамабіль, — Міша махнуў рукой. — Жыву ў Ніжневартаўску. Працую начальнікам участка на нафтараспрацоўках. Быў жанаты. Усё, хопіць пра

гэта. Паехалі. Таццяна Пятроўна, Сямён Міхайлавіч, давайце да мяне. Там будзе ямчэй. І назад, у вёску, на маім аўтамабілі вас прывязе мой таварыш.

— Не, — адмовілася настаўніца, — мы лепей з класам. Я колькі іх усіх не бачыла. Хоць сёння ўволю наразмаўляемся.

— Як скажаце. Гануля, можа ты са мной, не жадаеш? — звярнуўся ён да Ганны.

— Не, Міша, ты толькі не крыўдуй, я таксама з усімі.

Міша нічога не адказаў, размашыста пакрочыў да аўтамабіля. «Мерседэс» плаўна развярнуўся і паціху паплыў па дарозе. Клас з шумам сеў у аўтобус. Да райцэнтра было каля дваццаці пяці кіламетраў. Неўпрыкмет, за вясёлымі размовамі, даехалі да горада. Праехаўшы некалькі вуліц невялікага райцэнтра, аўтобус спыніўся каля рэстарана. Мішаў «мерседэс» ужо стаяў каля ўвахода. Ён сам, там жа, задумліва дыміў.

— Прашу, усё накрыта, усё гатова. Праходзьце, калі ласка. Будзьце, як дома, — каля іх замітусілася нейкая жанчына ў светлай васільковай сукенцы. «Мабыць, адміністратар», — вырашыла Ганна.

— Будзьце, як дома, але не забывайце, што ў гасцях, — спрабаваў пажартаваць Дановіч, але яго ніхто не падтрымаў.

У цэнтры залы стаялі накрытыя сталы. Ганна адзначыла, што накрыта па вышэйшым разрадзе. На стале, акрамя гарэлкі і віна, былі каньяк, бутэрброды з ікрой, вэнджаная рыба, дарагія салаты. Мішка пастараўся.

— Чаго стаім, — падаў ён голас, — займайце месцы ды пачнём.

Усе паціху расселіся. Сямёна Міхайлавіча і Таццяну Пятроўну Міша пасадзіў па цэнтры стала. Сам ён выглядаў крыху ўсхваляваным.

— На правах як бы гаспадара, дазвольце адкрыць наш вечар, — ён падняўся для сваёй прамовы. — Я рады, што мы сабраліся. Рады бачыць усіх здаровымі і жыццярадаснымі. Шкада, канечне, што не ўсе прыехалі. Але ж нічога не паробіш. Я думаю, што найлепш скажа Таццяна Пятроўна. Можа, і Сямён Міхайловіч яе дапоўніць.

Ён сеў. Таццяна Пятроўна паднялася:

— Мае дарагія, любімыя дзеці, — голас яе злёгку дрыжэў. — Так, для мяне вы заўсёды застанецеся дзецьмі. Час бяжыць так хутка. Ні мне, ні вам не верыцца, што праляцелі цэлых дваццаць год. У некаторых хутка скончаць школу ўласныя дзеці. Вялікі дзякуй, што вы помніце сваю старэнькую настаўніцу. Дзякуй Мішы і Ганне, якія сабралі тут нас усіх. Я жадаю, каб вы заўсёды памяталі школу. Каб вы ўсе, жывыя і здаровыя, сабраліся яшчэ праз дваццаць год. Гэта тое, што я хацела вам выказаць. Сямён Міхайлавіч, будзеш што казаць?

— Ды нічога асаблівага казаць не буду, — ён быў таксама ўзрушаны, — лепш, чым Таццяна Пятроўна, я не скажу. Шчасця вам і дабрабыту, таварышы вучні. За ваша дваццацігоддзе!

Удзячныя вучні ўзнагародзілі сваіх настаўнікаў бурнымі воплескамі. Пасля першай чаркі ўсе налеглі на закусь. Некалькі хвілін было чуваць толькі бразгатанне відэльцаў ды прыціхлыя галасы. Але Міша, на правах вядучага, зноў падняўся:

— Паважаныя аднакласнікі. Я лічу, што час даць слова і нашаму камсоргу, нашай выдатніцы і арганізатару — Ганне Каласковай. Ці не так?

— Так, так, — падтрымалі некаторыя.

Ганна ўстала:

— Што казаць? Безумоўна, вельмі добра, што сабраліся. Мы цяпер хаця б будзем ведаць адно пра аднаго, дзе жывём. У нас будуць тэлефоны, будзем мець стасункі. Таму што забыць школу нельга. Карыстаючыся выпадкам, хачу падзякаваць ад нас усіх нашай любімай Таццяне Пятроўне. У тым, што мы сталі людзьмі, — немалая

і яе заслуга. Дай бог вам і Сямёну Міхайлавічу здароўя, шчасця і ўсяго найлепшага. Давайце ж вып’ем за нашых настаўнікаў!

Словы Ганны зноў былі сустрэты апладысментамі, пасля якіх усе дружна выпілі. Пасля некалькіх чарак гаворка пайшла вясялей, а тосты хутчэй: кожны хацеў выказаць сваё. Недзе праз гадзіны паўтары — дзве зрабілі перапынак. Большасць пайшла на вуліцу пакурыць і дыхнуць свежага паветра. Усё ж у зале было душна. Але Ганна вырашыла не хадзіць на вуліцу, а падышла да адчыненага акна. Вечаровы ветрык лёгенька гойдаў парыжэлы край фіранкі. Каля прыступак пра нешта гучна спрачаліся Вася і Павел. Некаторыя мужыкі моўчкі дымілі. Дзяўчаты збіліся ў сваю кампанію. З адчыненага акна віднелася цэнтральная плошча, па якой гуляла моладзь.

— Што сумуеш? — каля яе абапёрся на падваконне Міша.

— Я не сумую. Так, гляджу. Проста адпачываю.

— Як жывеш, Ганулядзячы? Як муж, дачка?

— Усё добра. А ты як? Я ж пра цябе нічога не ведаю, — Ганна павярнулася да Мішы.

Міша крыху памаўчаў. Потым плюхнуў сабе гарэлкі, выпіў кілішак.

— Ведаеш, Ганна, пасля таго як ты пайшла да Віцькі, я даў сабе слова, што забуду цябе і Віцю назаўсёды. Проста выкраслю са свайго жыцця. Прызнаюся, было цяжка. Усё ж такі я кахаў, павер. Я паехаў на старое месца і кінуўся ў працу. Працаваў дзень і ноч дзеля таго, каб у мяне не было вольнай хвіліны думаць пра цябе. У нейкім сэнсе мне гэта ўдалося. Дзе я толькі ні быў. Не паверыш, белыя мядзведзі па начах хадзілі каля палаткі. Зарабіў няблага. Знаёмствамі абзавёўся. А потым я яшчэ паступіў у тэхнікум, скончыў яго. Стаў падымацца па службовай лесвіцы. Потым пазнаёміўся з адной дзяўчынай. Яна мне спадабалася. Так у мяне з’явілася сям’я, нарадзіўся сын. Але ў нас не склалася. На працы было спачатку ўсё добра. Але неяк раз сарваўся. Нягоднік адзін вывеў, а я на падпітку быў. Адлупцаваў яго, мне ледзь тэрмін за гэта не далі. Сувязі дапамаглі. Пасля гэтага я меў яшчэ адзін шлюб, але таксама няўдалы. Цяпер пакуль адзін. Такая вось біяграфія.

Міша змоўк. Ганна адчувала: Міша не ўсё сказаў. Той пакруціў кілішак у руках і паставіў на стол.

— Я нядаўна зразумеў, чаму ў мяне не склалася сямейнае жыццё. Бо я не стрымаў сваё слова, я не змог выкрасліць цябе са свайго жыцця. Не, канечне, цяпер гэта не тое рамантычнае юнацкае каханне. Гэта ўжо іншае пачуццё, свядомае пачуццё дарослага чалавека. Я разумею, што нічога назад не вернеш. Таму я дараваў табе і Віцьку. Бо тут нічога не паробіш. Але душа баліць. Чуеш, Гануля, баліць. А што мне рабіць, не ведаю…

Ён павярнуўся да Ганны, узяў яе за руку. Іх вочы сустрэліся. Ганна хацела адвесці позірк і не змагла: у Мішавых вачах яна ўбачыла боль. Яго вочы шукалі ў яе ці то паратунку, ці то спагады. У гэты момант да іх падляцеў Вова Шуман. Яго язык злёгку заплятаўся:

— Чаго тут сумуем? Нашы кажуць, пара дыскатэку пачынаць. Як думаеце?

Міша з цяжкасцю адвёў позірк ад Ганны і адказаў Вову:

— Сёння можна ўсё. Хоць дыскатэку, хоць карнавал, — сёння ж у нас свята.

— О, лады. Ты, Мішка, класны хлопец!

Пад вясёлыя воклічы Вовы ўсе сталі збірацца за стол. Застолле пайшло па новай. Ганна адчувала сябе няёмка пасля Мішавых слоў. Як бы вінаватай. Чым яго суцешыць? Яна не знаходзіла адказу. Што яна магла зрабіць? Яна ж не кахала Мішу. Ён цяпер і сам гэта разумее. З роздуму яе вывела Таццяна Пятроўна:

— Што ты сёння нейкая задуменная, Гануля?

— Ды так, успомнілася ўсё тое, даўнейшае. Вось і задумалася.

— Не шкадуй таго, што было. Жыві сённяшнім, і ўсё будзе добра, — Таццяна Пятроўна ўздыхнула, — у вас яшчэ шмат добрага наперадзе. Гэта мы аджылі сваё. Старая я для такіх гуляў. Неяк нядобра мне, мабыць, зноў ціск падняўся. Трэба дахаты.

— Будзем збірацца?

— Не-не, вы гуляйце сёння. Міша ж казаў, што ў яго ёсць кіроўца. Ён падкіне нас з Міхайлавічам у вёску. А вы гуляйце.

Увесь клас спусціўся ўніз. Падпітыя хлопцы доўга абдымалі Таццяну Пятроўну і Сямёна Міхайлавіча. Таццяна Пятроўна кожнаму знайшла што сказаць, а пад канец зноў хустачкай выцірала вочы. Пасля таго, як «мерседэс» знік, усе дружна пайшлі ў банкетную залу. Міша больш не падыходзіў да Ганны. Сядзеў разам з хлопцамі за сталом. Каля гадзіны ночы да Мішы падышла тая ж самая жанчына ў светла-васільковай сукенцы і нешта зашаптала на вуха. Міша згодна кіўнуў.

— Як бы ні было добра, але ўсяму прыходзіць канец, — праз хвіліну Міша падняўся. Было відаць, што ён сёння на добрым падпітку. — Будзем збірацца. Але я прапаную: давайце збяром закусь, гарэлку і яшчэ спынімся ў ляску, на стаяначцы. Там сустрэнем світанне. Згодны?

У адказ усе дружна загалёкалі, падтрымліваючы Мішаву прапанову. Дзяўчаты сталі збіраць са стала. Большасць мужыкоў пайшла на вуліцу. Саша Кашуцкі і Вова Фёдараў ледзь трымаліся на нагах. Вова Шуман, спускаючыся ўніз, трымаўся за сцяну. Ганна ўздыхнула: ужо і так хапіла. Праз які час сталі ўладкоўвацца ў аўтобусе. Мішаў «мерседэс» паехаў наперадзе, за ім — «пазік». Тая стаянка была ў некалькіх кіламетрах ад вёскі. Мясціны маляўнічыя. Каля невялічкага і неглыбокага азярца біла крынічка. Спачатку нехта яе аздобіў. Пасля лясгас выцерабіў невялікую паляну і зрабіў драўляную альтанку. Месца стала папулярным, туды сталі часта прыязджаць розныя кампаніі. А сёння туды завітаюць і яны. Горад схаваўся ў цемры, затым мінулі Міхедава. Вёска спала, ані агеньчыка. Вось і стаяначка. Мішаў аўтамабіль спыніўся каля альтанкі, падсвечваючы фарамі стол. На палянцы стала шумна: мужыкі гаманілі, шумелі, дзяўчаты расставілі на стале ўсё, што прыхапілі з рэстарана.

— Усё, давайце за стол, — гукнула Ганна Ходзькава, — бяседа працягваецца.

— Гэта добра, — Вова Шуман задаволена пацёр рукі, — такія каманды мне даспадобы.

— Можа хопіць, Вова? — Ганна тузанула яго за рукаў, — ты ж дахаты не дойдзеш.

— Якая розніца, дайду ці не? — Вова ўпарта працягнуў руку па кілішак. — Колькі таго жыцця. Адзін раз жывём.

Саша Кашуцкі спаў, седзячы за сталом. Мужыкі дружна налілі сабе і дзяўчатам. Міша сядзеў нечым заклапочаны і ні з кім не размаўляў. Пасля чацвёртай чаркі ён падняўся і не вельмі цвёрдым крокам скіраваў да «мерседэса». Пакапаўшыся ў багажніку, выйшаў да альтанкі … з аўтаматам у руках. Спачатку пераважная большасць ніяк не адрэагавала на гэта. Ганна таксама не магла ўцяміць: што гэта і навошта? Але хутка, штурхнуўшы адзін аднаго, ужо ўсе глядзелі на Мішу. Ён жа стаяў з аўтаматам у руках і моўчкі глядзеў на аднакласнікаў. Першым цішыню парушыў Вася Царукоў:

— Міша, ты чаго? Дзе ты ўзяў аўтамат?

— Дзе ўзяў, там няма, — адрэзаў той, — а зараз будзем разбірацца.

Пасля некаторай паўзы прыўзняўся Павел Дановіч:

— Міша, ты што, перапіў? Што ты робіш?

— Я не перапіў, — з надрывам крыкнуў Міша, — не. Зараз кожны адкажа за тое, што зневажаў мяне калісьці ў школе. Я нічога не забыў, ніводнай той крыўды. Вось

ты, Вася. Памятаеш, як ты мне разбіў твар у чацвёртым класе? А ты, Паша, мне нос разбіў. Федзя, а памятаеш, як ты мяне ганяў, вы не хацелі браць мяне з сабою нікуды? Я ўсё памятаю. Вось так.

— Міша, дык гэта ж было дзяцінства. Мы ўсе адно аднаго крыўдзілі, — спрабавала супакоіць яго Лена Акінчына, — супакойся. Гэта ж зброя, не жарты.

— А я і не жартую, — Міша ўзняў аўтамат, — цяпер адкажам па-даросламу.

— Міша, хопіць палохаць нашых дзяўчат, — Федзя Губар рашуча падняўся з-за стала.

— А ну, стаяць, — Міша павёў ствалом у бок Федзі і кляцнуў затворам. Усе прыціхлі. Вова Шуман, здаецца, працверазеў. Ён сядзеў з разяўленым ротам. Стаяла мёртвая цішыня. Нечакана Міша сумеўся, абмяк і неяк вяла крыкнуў:

— Што, спужаліся? Страшна стала, га? Усе паверылі, што я не жартую? Вось так, усё. А я ж жартаваў, эх вы.

Потым ён апусціў аўтамат:

— Ды ну яго. Абрыдла ўсё. І жыццё такое недарэчнае. Усё дрэнь.

Ён павярнуўся, падышоў да машыны і закінуў зброю ў багажнік. Азірнуўшыся, Міша пайшоў у лес. Ганне было трывожна. Яна разумела, што сённяшняя сустрэча разварушыла Мішавы ўспаміны, растрывожыла душу. Ён не можа супакоіцца, знайсці адказу на свае пытанні. Яна паднялася і пайшла за ім. Міша адышоўся на некалькі метраў ад паляны і сеў на купіну. Ганна прысела каля яго. Той сядзеў, апусціўшы галаву.

— Міша, што на цябе найшло? Чаго ты? — Ганна правяла рукой па яго валасах. Ён рэзка павярнуўся, кінуўся да яе, стаў цалаваць. Ганна мякка разняла яго абдымкі:

— Не трэба, Міша, не трэба так.

Міша крыху адсунуўся, абхапіў галаву рукамі.

— Ганна, чаму жыццё такое складанае, — ціха-ціха, з нейкай роспаччу сказаў ён, — чаму ўсё не так, як хочаш? Навошта я жыву? Ды і ніхто толкам не ведае, дзеля чаго ён жыве. Вось жаніўся я. А навошта? Нічога не склалася і нікому я не патрэбны. Разумееш, нікому. Я адзін на белым свеце. Шукаю сабе месца на зямлі і не знайду. Ганулял, як мне жыць далей? Скажы? Як?

— Міша, супакойся, — Ганна зноў асцярожна дакранулася да яго валасоў , — не трэба так. Усё яшчэ наладзіцца. І ў цябе ўсё будзе добра. Ты яшчэ сустрэнеш сваё каханне, абавязкова сустрэнеш. Трэба толькі верыць. Вось пабачыш. Ты проста абавязаны быць шчаслівым. Усё будзе добра.

Міша апусціў галаву і прыціх. Прыціх, як сцішваюцца перад світаннем верхавіны старога лесу ў надзеі сустрэць светлы, спагадлівы і ласкавы дзень. А над лесам ужо забарвовеў той новы дзень. Першыя, ледзь прыкметныя промні пазалацілі вершаліны дрэў. Цішыня стала знікаць. Закалыхаліся дрэвы і кусты, затрапятала росная трава, затрымцела павуцінне, асцярожна падалі голас першыя птушкі. Усё жывое пацягнулася да сонейка.

Пачынаўся яшчэ адзін дзень людскога жыцця на зямлі. Дзень новых надзей, новых спадзяванняў.



*Валерый Пазнякевіч нарадзіўся ў 1968 годзе ў вёсцы Сінкевічы Лунінецкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Друкаваўся ў часопісах «Полымя», «Бярозка», «Першацвет», «Беларусь», «Маладосць», альманаху «Дзень паэзіі», газетах «Літаратура і мастацтва», «Мінская праўда» і інш. Жыве і працуе ў Мінску.*

Валерый ПАЗНЯКЕВІЧ

# ВОСТРАЯ СТРАЛА ЛЮБОВІ

## МОЙ СКАРБ

Незакончаны верш напасля пакідаю.
Нібы скарб, адшукаю яго між папер.
Незакончаны верш, бы дзяўчыну, кахаю,
Спалучаю радкоў таямнічы памер.

Ён свой час прычакаў. Адстаяліся словы,
Нібы коні пасля пераправы цяжкой.
Усміхнуцца радкі сакавітаю мовай
І жыццё ахіне яго доўгі спакой.

І мелодыя слоў у душы заіграе,
Бы аркестр сімфанічны на ўсе галасы.
Паляціць над Палессем,
Над лугам,
Над гаем,
Жаўруком заспявае ён песню вясны.

## МОВА

Вырастала маладой атавай,
Абмывалася духмянай расою
Мова мая.
То яе смачна елі з хлебам і соллю
І дзякавалі.
Бо толькі моваю можна адужаць
Чэрствасць і хцівасць,
Хамства і бескультур’е.
І пакуль наліваецца колас
Сакавітасцю сонца і глебы —
Мова — мой дужы голас,
Голас зямной патрэбы.

* * *

Я — свой сярод чужых,
Чужы сярод сваіх.
На сэрцы дзве мяжы
І шнары два ад іх.
Такі, відаць, мой лёс,
Сябе ў жыцці шукаць.
І ў акіяне слёз
Сяброў сваіх гукаць.
Ды толькі ўсе яны
Ў зямлі сырой ляжаць.
Няма ў тым іх віны,
Што жыта трэба жаць,
Што сонца на дварэ
Калоссямі звініць,
І што на голлі дрэў
Павук звівае ніць.
Жыццё цячэ без тых,
Хто марыў аб жыцці.
Разведзены масты —
Няма куда ісці.

## ЗАСЯВАННЕ ДУМАК

Перапоўнены вершамі сшытак,
Нібы глечык парным малаком.
Сею думкі свае, быццам жыта,
Аддаю глебе нізкі паклон.
Прарастай, Беларусь маладая,
Духам веры і воляй надзей!
Няхай жыта да неба ўзрастае,
Выспявае ў святочны свой дзень.
Жыта-жыта… Узор карпатлівы
Каласкоў на кашулі маёй…
Жыта — вера ў жыццёвыя сілы,
І спрадвечная еднасць з зямлёй.
Чуеш, вершы ў стале вырастаюць
Васільковаю песняй надзей? —
Бо і ў вершаў, і ў жыта ёсць памяць,
Што ўдыхае надзею ў людзей.
Што б рабілі мы ўсе без надзеі,
Як жылі без яе на зямлі?
Сеяць жыта ў раллю не схацелі б,
І сабраць каласкі не змаглі.

## МАЛІТВА

У горы я, у радасці ці скрусе —
Я думкаю жыву для Беларусі.
Яна мой крыж
і мой вянок цярновы,
Яна мой лёс,
маіх малітваў словы,
Якія ў сэрцы палкім я хаваю,
Бо зноўку прыйдзе час
і будзе суд…
Я гэта рыфмай вершаў адчуваю
І Боскі крыж
свой праз жыццё нясу.
О, Божа, уратуй усіх нас грэшных.
Хай свеціцца імя тваё. Амін!
За Беларусь малюся
новым вершам,
Прашу цябе, даруй яе грахі.

## СКРАЗНЯКІ

У нас няма ні слуцкіх паясоў,
Ні крыжа Еўфрасінні...
Што мы маем?
Разлівы рэк, балот, абсяг лясоў,
Прасекі дзе, бы ехаў хто трамваем.

Тут дрэвы ўсе падсочаны лязом…
З такога лесу не збудуеш хату.
Гляджу на ўсё, нібы на страшны сон,
І не шукаю ў лесе вінаватых.

Так і жыццё: то сцеле ручнікі,
То між галля сплятае павуцінне…
А ля дамоў гукаюць скразнякі,
Нібыта крыж шукаюць Еўфрасінні.

**А…**

Сэрца разбіта на часткі
Вострай стралою любові.
Думкі трапляюць у пасткі,
Звязваюць волю пятлёю.
Трэба ж было закахацца
Мне ў прыгажуню-дзяўчыну.
Трэба ж было запытацца
Вуліцу Янкі Лучыны.

Белых пялёсткаў завея
Кружыць над намі каханне.
Словаў знайсці я не ўмею,
Каб разбудзіць яе ўранні.
Косы на белай пасцелі,
Як залацістае жыта.
Лашчацца промні на целе
Фарбай вясёлкі размытай.

Ах, што за стан, што за вочы,
Проста мадонна, дый годзе!
З ёй не патрэбны і Сочы,
З ёю лагодна прыродзе.
Дзе б тады браліся словы,
Калі б не тое спатканне?
Позірк яе адмысловы —
Белых пялёсткаў дыханне.



Васіль ГІГЕВІЧ



*Васіль Гігевіч нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Жыцькава Барысаўскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў фізічны факультэт і факультэт грамадскіх прафесій па спецыяльнасці «Журналістыка» Харкаўскага ўніверсітэта. У 1979 годзе скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. Працаваў намеснікам галоўнага рэдактара аб'яднання «Летапіс» на кінастудыі «Беларусьфільм», рэдактарам аддзела прозы часопіса «Маладосць». Аўтар празаічных кніг «Спелыя яблыкі», «Калі ласка, скажы...», «Астравы на далёкіх азёрах», «Доказ ад процілеглага», «Мелодыі забытых песень», «Карабель» і інш.*

# ВЫ НЕ КЛІЧЦЕ МЯНЕ

***Апавяданне***

**Весна, — мы сидели**
**под ивой плакучей.**
**И плакали, плакали мы.**
А. Фет

*У адлiжны дзень паехаў у вёску.* Першы снег амаль паўсюль сагнала, здавалася, што пачынаецца вясна, але ж я ведаў: наперадзе студзень, наперадзе халадэча і сцюжы.

Хацелася схадзіць на могілкі. Яны ў нас знаходзяцца наўскрай вёскі на высокім абрывістым беразе рачулкі. Адтуль далёка ўсё бачна: і шэрагі хат, над якімі тырчаць крыжастыя тэлевізійныя антэны, і зарэчны лес, і зялёны прырэчны луг, і агароды, улетку зялёныя ад бульбоўніку, а цяпер цёмна-шэрыя і пустыя. З другога боку могілак пачынаецца лугавіна, на якой рачулка кружыць, пятляе, хаваючыся ў кустах алешніку. На могілках поўна бяроз. Цішыня і адзінота — тое, дзеля чаго і ехаў з горада.

Пастаяўшы ля магіл бацькоў, пачаў хадзіць між агароджаў, адчуваючы, як цела напаўняецца сцішанасцю.

Яшчэ здаля кінуўся ў вочы чорны мармуровы помнік. Яго дагэтуль не бачыў. На тыльным баку помніка бялелі словы, напісаныя па-руску:

***Меня не зовите,***
***к вам не приду.***
***Вы ко мне не спешите,***
***я вас подожду.***

Ці то настрой быў такі, ці то яшчэ чаго, ды гэтыя словы чамусьці кранулі.

Абышоў чорны гладкі помнік з другога боку і ўбачыў партрэт.

Гэта быў Сергіевіч. У свой час пасля вайны, калі вяскоўцам на рукі не давалі пашпартоў, а галеча несусветная выціскала моладзь з вёсак, Сергіевіч завербаваўся і паехаў, як у нас казалі, на шахты. Сергіевіч быў старэйшы за мяне. Мне, маламу, тады думалася, што на далёкіх загадкавых шахтах Сергіевіч шыкаваў, думалася, што там жыццё нашмат лягчэйшае і цікавейшае. Тады я не надта прыслухоўваўся да слоў маці: добра там, дзе нас няма…

Калі Сергіевіч выйшаў на пенсію, — а было яму каля пяцідзесяці гадоў — ён чамусьці вярнуўся ў вёску. Не ска-

заць, што ён быў мне сябруком вялікім, не, але запомніўся звонкім ясным голасам. Звычайна кажуць, што ў такіх людзей голас з серабрынкаю... У Сергіевіча быў малады светлы твар, як і большасць адкрытых людзей, ён падоўгу глядзеў з усмешкаю ў вочы, сівізна па-свойму маладзіла яго і ўвогуле, як часта бывае, у іх сям'і пакаленнямі вяліся разумныя і прыгожыя ад прыроды людзі.

Пастаяўшы ля чорнага помніка, я спусціўся на лугавіну да берага рачулкі. Вада ў ёй была, як шкляная, роўная, паўсюль праглядвалася дно, — у завадзях, на перакатах. Здавалася, што ў ёй няма ды і не водзіцца нічога жывога, — ні рыбы, ні ракаў, ні нават маленькіх калючак, якія надта распладзіліся ў апошнія гады. За ракою на ўзгорку чарнела разбураная цагляная ферма. Людзей не было, — ні там, ля фермы, ні бліжэй, на мокрым зялёным лузе, перарытым канавамі. Мабыць, тут некалі хацелі пасадзіць нешта, а потым, агледзеўшы пад дзёрнам глеістую ліпкую зямлю, махнулі рукою... Насыпная дарога бялела ўздоўж берага, — туды вяла, дзе некалі быў мост драўляны, дзе ферма была.

Памяць мяне тут жа аднесла да летняга поўдня, калі сядзеў побач з Сергіевічам на гэтым беразе, дзе была завадзь, дзе рачулка рабіла рэзкі паварот. Было тады цёпла і сонечна. Ціхая цёмная плыткая вада несла апалае лісце з блізкага алешніка, паварочвала ля чорнай, напалову схаванай карчавежыны, на паверхню вады часам падымалася рыба, ловячы жыўнасць. Рака ўвесь час падмывала нізкі тарфяністы бераг, зрыты норамі выдраў. Тады яшчэ не было на лузе ні канаў, ні жаўтаватай ад пяску і гліны дарогі, тады ўздоўж ракі вілася травяністая сцежка, а на луг штораніцы выганялі пасвіцца калгасных кароў. Яны вольна разбрыдаліся па зеляніне, і зверху над іх чорна-рыжымі спінамі знізу-ўгору насіліся з жалобным кугіканнем кнігаўкі.

Пасяўныя работы ў вёсцы закончыліся, — ці не на Тройцу мы тады сядзелі з Сергіевічам на беразе з вудамі... Мы ўсё яшчэ спадзяваліся, як шчасце недасяжнае, вялізную рыбіну злавіць.

За ракою цямнеў на ўзгорку лес, — зверху зялёны, а ніжэй медна-жоўты ад гладкіх ствалоў сасонак. У лесе ўсё яшчэ не сціхалі птушкі, якіх шэрая варона, седзячы на вершаліне елкі, час ад часу прыструньвала: кар-рр, каррр... І ціха-ціха было тады не толькі ў наваколлі, але ў душы маёй. Кугіканне кнігавак, птушыны перасвіст яшчэ болей напаўнялі душу спакоем і суладдзем.

Сергіевіч, вярнуўшыся, неяк надта хутка загаварыў па-вясковаму, быццам і не бываў на далёкіх шахтах, дзе прывучаўся да іншай гаворкі. Мы гаварылі пра бацькоў, пра іх сяброўства, якое пасля вайны надта шанавалася, як яно звычайна шануецца сярод небагатых людзей. І маіх бацькоў, як і бацькоў Сергіевіча, ужо даўно не было на зямлі, але гаварылі мы пра іх так, быццам былі яны побач, толькі адышліся недалёка, дзе чуць нас маглі... Больш за тое, мы гаварылі пра іх так, быццам бы ўсё было наперадзе: і бацькі нашы, і жыццё наша...

—А вось бацька мой тады і будзе казаць твайму бацьку, — так гаварыў Сергіевіч.

І яшчэ ён казаў:

— Ведаеш, калі ўспамінаю пасляваенную беднату, калі ўспамінаю бацькоў нашых, то думаю, што хрысціянства якраз і зарадзілася з-за сяброўства. Рабы і галота еднасць сваю адчулі. А пасля гэтага ім ужо ніякія нероны, ніякія ўкрыжаванні, ніякія вогнішчы і ніякія львы не былі страшнымі. Гэта цяпер багацце людзей раздзірае, ад яго людзі розум трацяць.

У тое лета я пакінуў вёску з радасным адчуваннем блізасці да чалавека, якога нечакана ўведаў і з якім, як думалася, яшчэ не раз буду лавіць нябачаную рыбіну.

Здавалася, я застыў на беразе рачулкі, мне захацелася зноўку адчуць спакой і суладдзе, якія некалі зыходзілі адусюль: ад плыткай вады як ад чагосьці жывога, ад кугікання кнігавак, ад зялёнага лугу, на якім блэндалі каровы. Але цяпер усё было інакшым, і чамусьці крыўдна было, што ўсё вакол змянілася...

Час, няўмольны час...

Вярнуўся назад, туды, дзе між агароджаў высіліся скамянелыя ў бязветраную пару бярозы, сярод якіх дзе-нідзе віселі і не гайдаліся пачарнелыя лісты.

Зноў спыніўся ля партрэта Сергіевіча. Здавалася, ён быў побач, толькі знаходзіўся за чорнай, як мармур, сцяною і адтуль казаў звонкім сярэбраным голасам:

— Вы не клічце мяне,
Да вас не прыйду...

З гэтым я і паехаў з вёскі, — не з супакаеннем, а з незразумелай трывогаю. Штосьці мне трэба было праясніць, разабрацца ў рэшце рэшт, — ва ўсім, пра што і дагэтуль думалася неаднойчы, ды змывалася працаю, абавязкамі — усім, што жыццём называюць.

Сергіевіч быў яшчэ не стары, ён мог бы яшчэ жыць ды жыць. І ў тым, што ён нечакана адышоў, як часцяком нечакана адыходзяць з жыцця многія маладыя людзі, мне бачылася несправядлівасць. Усе аднолькавыя перад гэтай найвышэйшай непадуладнай несправядлівасцю, — як касою змятаюцца і праведнікі, і грэшнікі, адносяцца ад нас назусім, навечна.

...Як быццам у гэтай несправядлівасці меўся пэўны сэнс, які мне абавязкова трэба было разгадаць.

Потым цісканулі халады. З нізкіх хмар пасыпаўся снег, дзень за днём ён хаваў чорную скалелую зямлю, але ў горадзе не было пачуцця свята з нагоды першага снегу. Машыны і людзі снег разбівалі, рабілі брудным і чорным. Раніцаю маразы апякалі шчокі і рукі. Зіма аказалася сцюдзёнай.

Гледзячы з акна гарадской кватэры на вуліцу, дзе бесперастанку несліся машыны, дзе людзі спяшаліся дабрацца да цяпла і зваблівага тэлевізара, я часта думаў пра чорны мармуровы помнік, які недзе высіўся між стылых бяроз. Там, як мне думалася, снег быў бялюткі і застылая гнуткая рачулка была прыцярушана іскрыстаю беллю, і ўсюды там было ціха і бязлюдна.

Пачуццё еднасці з Сергіевічам ніяк не міналася. І не так думалася пра Сергіевіча, як пра гэту чорную непераадольную заслону, з-за якой я выразна чуў звонкія ясныя словы Сергіевіча. Штосьці няяснае выспявала ўва мне, штосьці павінна было надарыцца ў маім жыцці і мо таму дні пацяклі хутка, былі яны аднолькавыя, і на людзей, на свет навакольны я пачынаў глядзець іначай. Усё выразней з’яўлялася адчуванне нечага штучнага, фальшывага, што віравала ў жыцці і што дагэтуль цешыла і смяшыла. Гэтыя бясконцыя шоу з аголенымі дзяўчаткамі, якія адна адну не іначай, як зоркамі, называлі, гэтыя мужчыны, што ў жанчын пераапраналіся, бясконцыя пародыі, пародыі з пародый, оскары, нікі, паказы мод, на якіх паўраздзетыя схуднелыя ў трэсачку дзяўчаткі, ненатуральна соўгаючы нагамі, швэндаліся ўзад-уперад па памосце, які подыумам называўся, штодзённыя з крывёю і забойствамі серыялы, да якіх дзеці з маленства прывыкалі, і даўно ўжо, даўным-даўно не бачылі людзі ніякай таямніцы як у нараджэнні чалавека, так і ў смерці ягонай — усё, куды ні кідаў вокам, бачылася мне нейкім скасабочаным, нейкай пародыяй на чалавечую сутнасць, але між тым усё гэта культураю называлася і грашыма аплачвалася… З’яўлялася адчуванне, што звяруга біблейскі ў абліччы чалавечым усё смялей і смялей выпаўзаў на свет белы.

А потым, калі надышла пара класціся ў бальніцу, я зразумеў — то хвароба падбіралася...

У бальніцу адразу не паклалі — не было месцаў: на свае вочы бачыў шэраг ложкаў у калідоры, на іх хворыя ляжалі. А чаму б ім не ляжаць — на двухмільённы горад усяго два аддзяленні, пяцьдзясят ложкаў у кожным…

Праз тры дні знайшлося месца і мне.

У палаце месцілася пяцёра мужчын.

У куце палаты ля глухой сцяны ляжаў, як падалося на першы погляд, хлопча гадоў трынаццаці. Кропельніца ля ложка высілася. Кап, кап, кап... — раствор з лекамі ў тонкую руку перацякаў. Хлопец абыякава глядзеў на белую столь. Побач на ложку прысела ўрач. Трымала за запясце, пульс замярала, дапытвалася: «Як сябе адчуваеш?».

— Жывот баліць. Тэмпература скача…

Мужчыны глядзелі на хлопца і ўрача. Маўчалі.

Як пазней уведаў, яго прывезлі сюды з рэанімацыі і ён ляжаў тут каля месяца. Яго звалі Алікам. Было яму то горш, то лепш, — калі станавілася лепей, тады прыкладаў да вуха мабілу і з некім гаварыў пра Інтэрнэт, пра файлы… Некалькі разоў на дні яму рабілі ўколы — моршчыўся, пакусваў бледныя вусны.

Калі ўрач пайшла, Алік, усё гэтак жа гледзячы на столь, невядома каму сказаў: «Яны нічога не ведаюць пра чалавека… Колюць, колюць…»

Было Аліку не трынаццаць, а ўсе дваццаць пяць гадоў.

Пазней мой новы сябрук па палаце Рулеўскі казаў: «Ты б паглядзеў, якім яго прывезлі з рэанімацыі. І як ля яго ўрачы спалохана бегалі…»

Пасля абеду да Аліка прыйшла маці — ёй было каля сарака гадоў. І выглядала яна молада, прыгожа. Прынесла прадуктаў. Але Алік еў мала і неахвотна, хоць яна і карміла яго з лыжкі. Яны гаварылі між сабою прыглушанымі галасамі. Потым Алік неяк па-дзіцячы заплакаў, уткнуўшыся тварам у калені маці. Жаліўся ціхім голасам...

Пачалося маё новае бальнічнае жыццё.

Яшчэ звечара ўсмешлівыя медсястрычкі разносілі лекі. З радасцю, адчуваючы сваю ўладу і значнасць, яны камандавалі пажылымі, нашмат старэйшымі людзьмі, аддавалі загады, калі каму на ўколы, каму ісці на працэдуры. Ранкам хворыя ішлі ў асобны пакой снедаць — кожны са сваёй лыжкаю і кубкам, амаль што ўсе ў аднолькавым адзенні — у сініх ці чорных трыкатажных касцюмах, стаялі ў чарзе ля раздатачнага акна, елі моўчкі, не адрываючы вачэй ад сваіх казённых жалезных місак, а затым гэтак жа моўчкі разыходзіліся па палатах. І было ва ўсім гэтым сняданку штосьці, я сказаў бы, цяжкаватае. Мо ўсё гэта было таму, што кожны чалавек насіў у сабе свой боль і сваю трывогу. Былі працэдуры, у кожнага свае, былі кропельніцы. Было чытанне кніг у мяккіх вокладках, былі размовы пра жыццё, пра хваробы і, канечне ж, пра палітыку і палітыкаў. Як казаў Рулеўскі, калі б чулі тыя палітыкі, што пра іх гавораць хворыя — вушы ў іх тут жа ў трубачкі паскручваліся б…

Справа ад мяне ляжаў трыццацігадовы прыгажун Сашка, які, трапіўшы ў палату, тут жа пачаў заляцацца да медстрычак: разносіў па палаце штатывы з растворамі, хадзіў разам з медсястрою курыць... У бальніцах розных, як зразумеў, Сашка бываў не раз. Першы раз яго забралі на «хуткай», — казаў, што на ўласныя вочы бачыў свой чырвоны ад крыві спаласаваны жывот падчас аперацыі.

З левага боку быў вясёлы Рулеўскі. Ён звычайна жменькаю глытаў таблеткі і казаў: «А мы іх бэмц і — парадак будзе». У Рулеўскага ўсё ішло парадкам. Ён не падаў духам. На ўсё ў жыцці ён глядзеў вясёлымі прымружанымі вачыма. Ля такіх людзей, як Рулеўскі, душа пачувае сябе вальней… Рулеўскі вазіў з далёкага замежжа сыравіну на фабрыку, дзе рабілі апараты для ачышчэння крыві — тым людзям, у якіх былі хворыя ныркі. Ён так казаў: «Мы яшчэ не хворыя. У нашу бальніцу на першы паверх прыходзяць людзі на працэдуры. Хто — раз у тыдзень, а хто — часцей. Ля чатырох-пяці гадзін працэдура цягнецца. Без працэдур ім не выжыць. І гэтак людзі жывуць гадамі».

Рулеўскі многае ведаў…

— Іспанія… Партугалія… Бачыў я гэта ўсё… Ты думаеш, там усе шыкуюць? Ад’едзь ад узбярэжжа туды, дзе горы… У людзей рукі чорныя, мазолістыя, пад пазногцямі зямля…

Больш складаная сітуацыя была ў Ігара: невысокага энергічнага чырванатварага

мужчыны гадоў сарака. У маладосці ён займаўся боксам, цяпер ён працаваў забеспячэнцам на заводзе, але сваіх баксёрскіх замашак не кідаў: камандаваў хворымі, у калідоры паспеў перасварыцца з цыганом Яшкам, які важыў за сто пяцьдзесят кілаграмаў, даваў усім парады і ўвогуле атрымлівалася, што без Ігара завод умомант счахне і спыніць сваю работу. Ігар ужо мо месяц ляжаў у бальніцы, і яму не маглі падабраць патрэбную дозу інсуліну. Баявітая натура з гэтым бязладдзем ніяк не магла змірыцца, ён злаваўся, казаў, што айчынны інсулін дрэннай якасці, трэба перайсці на імпартны, ды яго не даюць. Вечарамі горотны Ігар вымаў з-пад матраца бутэлечку, сёрбаў з яе, затым, прыхапіўшы Сашку, ішоў на вуліцу курыць.

Перад сном гулялі ў карты. У дурня. Два на два. Карцёжнік я кепскі. Так выпадала, што я быў у пары з Ігарам. Мы прайгралі. Ігар злаваў на маю някемлівасць:

— Ты дзе работаеш? Ну і дурак жа ты!.. Ты думаеш чым ці не?.. Як з табою людзі жывуць? Як ты ваабшчэ жывеш?

Ігар пільна, як следчы на допыце, глядзеў у мае вінаватыя вочы.

Каб жа ведаў я пра ўсё тое, пра што Ігар дапытваўся!..

Нарэшце, каб адвязацца ад настырнага Ігара, мямліў паціху:

— Пісарам…

— Я цябе і пісарчуком на работу не ўзяў бы, — усё не супакойваўся Ігар. Кідаў на стол перада мною карты, камандаваў:

— Здавай, боўдзіла…

Насоўвалася ноч. У палаце гасла святло.

З калідора, дзе, як і раней, ляжалі на ложках хворыя, час ад часу даносіўся жаночы голас:

— Коля… Коля…

Там жа на ложку ляжала старая. У яе было грузнае цяжкое цела, якім яна мала валодала. Суседзі па палаце казалі, што Коля — яе адзіны сын, ён зламаў нагу і не мог да яе прыходзіць. Не дачакаўшыся Колю, старая гучна клікала: «Памажыце… Баліць... Ой, баліць!» Медсёстры, як і ўрачы, ужо, здаецца, прывыклі да яе крыкаўтрызненняў… Днём да старой прыходзіла маладая жанчына, карміла яе з лыжкі, абмывала і працірала белае цела. Тады старая супакойвалася і ўжо не клікала Колю, не жалілася. Толькі позірк яе затуманеных вачэй быў невыразны, незразумела было: ці помніць, ці ведае яна, дзе знаходзіцца?

Калі праходзіў міма, кожны раз апякала адно і тое: цякучы чалавек, надта цякучы… Глядзеў на бледны азызлы твар, на рэдкія сівыя валасы, на поўныя нездаровыя ногі, што калодамі бессаромна выторкваліся з-пад коўдры, і спрабаваў уявіць яе тонкай смяшлівай дзяўчынкаю, у яе, мабыць, было каханне, потым з’явіўся Коля, якога яна насіла на руках, якога карміла і гадавала...

Нейкія простыя наіўныя пытанні аблытвалі мяне. Я думаў пра час, які бязгучна струменіць вакол нас і ўсё ўладна мяняе, перакручвае, але аднаго ён не можа і не смее зрабіць — змяніць нашу сутнасць...

Мы ўсё жыццё адны і тыя ж, — наіўна-безабаронныя, вечна самотныя...

І тады, калі жанчына са здзіўленнем знаходзіць у сваіх чорных валасах першы сівы волас, калі ў люстэрку заўважае першыя зморшчынкі-сетачкі ля вачэй, і пазней, калі са здзіўленнем бачыць, што позірк мужчынскі затрымліваецца не на ёй, а на значна маладзейшай, — ёй не верыцца, што яна мяняецца. Не, не... Гэта толькі цела мяняецца, а яна ўсё такая ж, якой была некалі, калі ўпершыню ступіла босай нагою на гарачы пясок, калі ўпершыню адчула нясмелы дотык хлапечай далоні.

І мужчыны не горшыя і не лепшыя. Хаваючы доўгімі пасмамі валасоў бліскучыя лысіны, зазіраючы ў агністыя дзявочыя вочы, яны ўвесь час адчуваюць сябе гэткімі ж, якімі помняць сябе з маленства, якімі будуць помніць аж да той заслоны, ля якой толькі і могуць усклікнуць: «Вы не клічце мяне...»

Што ж гэта такое — час, які ўсё мяняе, але не можа змяніць нашу сутнасць?

І праўду Ігар казаў — боўдзіла я, сапраўдны боўдзіла, які не ведае жыцця.

У дзве ночы прачынаўся Сашка, седзячы на ложку, замяраў прыборам цукар. Затым укалоўшы ў нагу інсулін, выключыўшы святло, Сашка зноўку накрываўся коўдрай. Было душна. Але акно ў палаце мы не маглі адчыніць — на скразняку Алік мог застудзіцца.

Выходзіў у асветлены калідор і кіраваў да акна. Ішоў міма медыцынскага паста, дзе за сталом сядзела медсястра і штосьці пісала ў сшытку. Мінаў ложак, на якім спала Валечка. Яе ўсе шкадавалі.

На выгляд Валечцы было гадоў сем, не болей… Яна і ростам была з сямігадовае дзіця. Толькі цела ў яе было надта апухлае, пакрытае балячкамі, — і твар, і рукі, і ногі. Гэтыя балячкі былі вымазаны зялёнкаю. Мо праз балячкі, а мо яшчэ чаму, ды Валечка часта плакала, бязгучна плакала, седзячы на ложку, звесіўшы апухлыя ногі, ківаючы невялікай галавою. Да Валечкі падыходзілі медсёстры, суцяшалі, ды яна ўсе адно плакала.

Звычайна пасля абеду да Валечкі прыходзіла маці — саракагадовая сімпатычная жанчына. Хворыя, — а яны невядома як, ды ўсё ведаюць, — казалі, маці Валечкі працуе настаўніцай, атрымлівае… Усе мы ведаем, што атрымліваюць сёння за сваю працу настаўнікі, вучоныя, бібліятэкары — уся так званая інтэлігенцыя…

Маці ўсаджвалася ля ног Валечкі і пачынала яе суцяшаць, прычэсваць. Яна рабіла ўсё амаль гэтак жа, як рабіла маці Аліка. Толькі ў Аліка быў яшчэ і бацька, а Валечка бацькі не бачыла.

Было Валечцы дваццаць гадоў. Некалі ў чатырохгадовым узросце яна спалохалася сабакі, і вось з таго часу ўсё і пасыпалася…

Цяпер Валечка спала. Цяпер яна не жалілася, не плакала. Заплюшчаныя вочкі, бледная папяровая скура, вымазаная зялёнкаю, самкнёныя бледнаватыя вусны — усё гэта было нерухома-безабаронным, якім звычайна бывае чалавек падчас сну...

Падыходзіў да чорнага шкла. Насупраць высіўся бальнічны корпус, у якім вокны не свяціліся.

Бралася на вясну. Першага ачышчальнага дажджу яшчэ не было, але снег у горадзе злізала мяккімі вятрамі, і толькі дзе-нідзе ля сцен і перад уваходамі будынін чарнелі брудныя груды. Днём жанчыны ў чорных халатах жалязнікамі дзяўблі гэтыя груды і тады з сярэдзіны іх, як нечаканае шчасце, паказваўся іскрысты бялюткі спрасаваны снег.

Зор не было бачна. Як і звычайна, у горадзе іх святло перабівалася агнямі, што ліліся ад вулічных ліхтароў, з рэкламных шчытоў, на якіх шчасце прадавалася, ад легкавушак, што ўздоўж і ўпоперак насіліся як па цэнтры горада, так і па ўскраіне, дзе высілася шматпавярховая аграмадная махіна крытага стадыёна, разлічанага на тысячы месцаў. І была яна, гэтая крытая аграмадзіна, для цяперашняга чалавека тым жа, чым калісьці для рымлян калізей быў…

Нічога ў свеце за стагоддзі так і не памянялася…

Недзе там, за ўсім гэтым, злепленым рукамі чалавечымі на патрэбу сваю ці на згубу, у лясах яшчэ бялелі халодныя гурбы снегу і, першыя птушкі, прыляцеўшы з выраю, седзячы на голлі, мерзлі ў чаканні яркага малінавага сонца. Імклівыя ручаіны сцякалі лагчынамі да рэк, у якіх рыбы хмялелі ад свежай талай вады, цурчала і цурчала з ледзь чутным булькатаннем вада, і сівы туман даядаў апошні снег на палях. Ціха было там, дзе маўклівыя бярозы з доўгім веццем пачыналі цягнуць з адталай зямлі салодкі сок, без якога яны не маглі жыць, і зоркі там ахіналі бязмежны купал сваім мігценнем, бесперастанку нагадваючы чалавеку пра штосьці надта важнае, што ён помніць павінен і ад чаго ніколі і ніяк адрачыся не можа.

Адчуваючы лбом халадок чорнага шкла, я намагаўся паяднаць усё, што бачыў і чуў, у нешта адно, суцэльнае, што магло суцешыць і супакоіць. Ды чамусьці нічога ў мяне не атрымлівалася...

Кастусь ЖУК

# ПРОМНІ НАДЗЕЙ



*Кастусь Жук нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Затур'я Нясвіжскага раёна. Пасля заканчэння сярэдняй школы служыў у войску, быў рабочым Мінскага трактарнага завода і адначасова вучыўся на вячэрнім аддзяленні філфака БДУ. Працаваў карэспандэнтам газет, рэдактарам на тэлебачанні і старшым рэдактарам выдавецтва «Мастацкая літаратура». Аўтар кніг паэзіі «Планета маёй душы», «Зямная ноша», «У найме ў сонца», «Галгофа» і іншых. Лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Рэспублікі Беларусь.*

## БОСАЯ ПАМЯЦЬ

Па босай памяці слядоў
Памкнуся ў край нессірацелы,
Дзе столькі ў замеці садоў,
Што кожны закуточак белы.

Бялі, бялі, мая зямля,
Адбелены ў старосах кіпень!
Ты сёння, заўтра, апасля —
Мне і нашчадкам бель пакінеш.

Красуй, пакуль цвітуць сады!
Звіні птушынай асалодай!
Хай пасмы белай барады
Забеляць край мой назаўсёды…

Не пакідай мяне, мой край,
Мой рай, яшчэ не звар'яцелы.
Аблокаў бель — за небакрай…
І белы бэз — ля прызбаў белых…

Буслом крылатым пралячу
Ці проста — белай аблачынай,
Калі памерці захачу,
А не схачу цябе пакінуць…

## ЛЯСНАЯ РЫБАЛКА

Заляглі звяры ў дазоры —
Ходзіць тут лясун з кавенькай.
У туман густы, як морак,
Дрэў лісцю замружыў вейкі.

Канапатыя ад дуплаў
Старадрэвін амулеты.
Ветрык шорхнуў, ветрык дунуў —
І звіняць кары браслеты.

Хоць не ўчуць ваўкоў, не ўбачыць,
Але страх казыча пяткі.
Не лайдачу, а рыбачу
З поўняй-ліхтаром ля кладкі.

Стала гладзь ракі рабою,
Быццам забрадзіла цеста:
Лось прыйшоў да вадапою —
І рачулцы стала цесна.

Па-зямлячы рыбку-ўдачу
На кручок  начэпіць золак.
А русалка (вось дабрача!)
Шчупакоў прыкорміць сорак…

Хвост русалкі!.. Заміраю —
Паплавок нырае чынна..
Прысядаю. Падсякаю:
Дар русалкі — шчупачына.

**СОНЦА**

Жвірыцца дно ракі,
Вецер асвежыў прастор.
І
На крысе асакі
Сом свой шацёр распрасцёр.

Сонца нырне паплаўком,
Вынырне потым — мальком,
Каб
Пасля ночы, як гном,
Зноў заявіцца ў мой дом.

Божухна,
Дай не праспаць,
Промнямі ўмыцца ў расе…
Хай,
Як схачу паміраць —
Промень надзей прынясе.

* * *

Захлынуўшыся цёмнай вадой,
Я пра светлую ўспомніў ваду.
І хоць сотня галгофаў за мной, —
Зноў жыццё
зычыць мне злыбяду.

Не паклаўшы, як трэба, ў труну,
Зноў распялі паэта — жывым…
Я трымаю за рог — сатану,
А мяне за руку — Херувім.

* * *

Луг — сёння модны.
І за спіною
Квота на водар
Разам з вясною.

Там, дзе гарлачык,
Займішча зёлак —
Стогне і плача
Жаўранка голас.

Я ў разважанні:
Неба, ці зёлкі, —
Падперазалі
Пасак вясёлкі?

**ПРЫТЧА**

На пераправах
не мяняюць коней,
Старых —
не адпраўляюць на пастой:
Харошых коней —
вецер не дагоніць,
Маланак бляск —
у іх з-пад капытоў.

Конь, скрухай гартаваны,
не заплача
І не лягне ў бядзе
гаспадара.
Конь састарэлы —
не якаясь кляча —
Крутых дарог
жывучы ветэран.

Пегас
на схіле дня
не на Парнасе,
Ды ўвесь
(душой і сэрцам) —
малады,
Бо цвёрда знае:
на жыцця папасе —
І ён пакінуў
капытоў сляды.

* * *

Ад ляску паўзе туман
Да сяла,
Дзе ты шчасце мне дала,
Як змагла.

Дзе чупрына зелянее
Альхі —
Нас туман
Увёў у зман
Ля ракі.

Там дыміўся
Поўні цьмяны касцёр,
Ветрык цёрся
Аб трысцё —
Валанцёр.

Там гармонік
Аж асін ля сяла,
Дзе ты шчасце мне дала,
Як змагла.

Вастрагрывістых маланак
Мячы
Не палохалі здаля
Нас нічым.

Бо ў грудзях, як гром,
Стыхія гула.

Я — не Бог,
Што сам не змог —
Ты змагла..



Андрэй ЖВАЛЕЎСКІ,
Яўгенія ПАСТАРНАК

# ГІМНАЗІЯ № 13*

***Раман-казка***

ЧАСТКА 1

## КЛЮЧ З ЧАТЫРОХ ЧАСТАК

Глава 7

### КЛЮЧ. АГОНЬ

* * *

А ў сталоўцы поўным ходам ішло абмеркаванне.

— Ды зразумей жа ты, — даводзіў Мішка Антону, — не вада ахоўвала гэтую штуку, а змеі. А вада дапамагла нам яе здабыць. Значыцца, наступныя тры штукавіны мы дастанем з дапамогай агню, паветра і зямлі. Дзе можа быць, напрыклад, агонь?

— Вечны агонь ёсць, — сказаў Сеўка, — Алімпійскі агонь. Зварка калі працуе — агонь гарыць. І вогнішча яшчэ распаліць можна...

— Добра, але толькі гэта не пра нас. Дзе ў нас ёсць агонь у школе? — запыталася Лёля.

— У кабінеце хіміі, — сказала Маша. — Мы там спіртоўкі запальвалі.

— Добра, — сказаў Антон, — тады давайце так: мы з Лёляй, Машай і Любаю ідзём у кабінет хіміі. Адна галава добра, а многа — лепш. Мішку пакінем з Сеўкаю рабіць усім ліхтарыкі.

Усе ўсталі з-за стала і амаль хорам сказалі:

— Дзякуй, Сталавік-бацюхна!

— Малайцы, — прагрымела з кухні, — заўжды б гэтак!

Уся кампанія рушыла на трэці паверх.

— Цікава, а які тут кабінетавік? — запыталася Люба, пацягнуўшы дзверы.

Дзверы кабінета хіміі, як звычайна, моцна зарыпелі — у адказ у кутку аглушальна завішчала.

— Вуіііііііі! Зараз як выскачу, як мазгаўні ўсім паадкручваю!

З дальняга кутка кабінета вылецела раздражнёная, ускудлачаная істота, якая крыху нагадвала настаўніцу хіміі — Марыю Іванаўну. Крыху — таму што хімічка была вельмі лагодная, але страшэнна няўклюдная. Заўжды ў яе ўсё падала, валілася, рэактывы пераблытваліся, доследы не атрымліваліся. У гімназістаў яна выклікала хутчэй шкадаванне, чым павагу. Кабінетавік жа быў зласлівы і агрэсіўны. Ніякага шкадавання не выклікаў, наадварот, жаданне схавацца як мага далей.

---

* Працяг. Пачатак у № 1, 2, 3 г. г.

— Добры дзень, кабінетавік-бацюхна, — сказаў Антон.

— Ды ўжо ж буду пры добрым дні, — зашыпеў у адказ кабінетавік. — Не дачакаецеся, не загубіце! Многа вас тут ходзіць, а я ўсё роўна тут жыць буду! Усіх вас перажыву, звяду, адваджу...

Антон разгубіўся. Маша залыпала вачамі. Лёля выглядала азадачанай.

Кабінетавік тым часам не пераставаў скрыгатаць:

— Вось ужо я вас усіх! Як вы мяне, гэтак і я вас!

Антон патрабавальна зіркнуў на Лёлю, але тая толькі вінавата развяла рукамі. Ад гэтага жэсту кабінетавік завёўся яшчэ больш і перайшоў ад выразных пагроз і зняваг на штосьці зусім неразборлівае і рыпучае.

Антон адчуў ледзь не радасць, гледзячы на бяссілле Лёлі: «Ага! І ты не з усімі дамовіцца можаш!»

— Даруй, што патрывожылі, кабінетавік-бацюхна, — Антон паважна пакланіўся, але скрыгатанне з кутка толькі ўзмацнілася.

Усе трое няпрошаных гасцей асцярожна падаліся назад, акуратна зачынілі за сабою рыпучыя дзверы... і знерухомелі. Рыпенне дзвярэй і скрыгатанне кабінетавіка аказаліся такімі падобнымі, што зліліся ў адзін непрыемны працяглы гук.

— Яны рыпяць аднолькава! — прашаптала Маша.

— Гэта невыпадкова, — Лёля трывожна паглядзела на Антона, які ўчапіўся ў валасы дзвюма рукамі, як быццам збіраўся сарваць скальп.

На самай справе Антон спрабаваў не ўпусціць важную думку, якая мільганула і ледзь было не прапала. Нават не думку, а прыгаршчы думак. Ён адчуў сябе трошкі Сеўкаю.

— Усё зразумела, — прамовіў Антоха. — Ён жа сказаў... «Многа вас тут ходзіць»... А потым: «Як вы мяне, гэтак і я вас». І гэтае рыпенне... Дзверы...

— Ты думаеш, гэта з-за дзвярэй? — здзівілася Маша.

— А ўвогуле, я яго разумею, — сказала Лёля. — Калі табе цэлы дзень над вухам гэтак рыпяць, вядома ж, азвярэеш.

І пацягнулася да дзвярэй.

— Стоп! — Антоха паспеў перахапіць яе руку. — Ты што сабралася рабіць?

— Паразмаўляць з ім... Растлумачыць, што мы не хацелі...

— Паразмаўляць, — пагардліва пасміхнуўся Волкаў. — Дзяўчынкі... Вам толькі б паразмаўляць. Добра, чакайце тут, я хутка!

І Антон ваўчком скаціўся па лесвіцы. Дзяўчынкі правялі яго здзіўленымі позіркамі, а потым, доўга не раздумваючы, селі на падлогу каля дзвярэй.

— Слухай, — сказала Маша, — а адкуль ты гэтак умееш з гэтымі... кабінетавікамі размаўляць?

Лёля пацiснула плячамі:

— Не ведаю... У нас у сям'і ўсе ўмеюць. І мама, і бабуля. І прабабуля ўмела.

— А бацька?

Лёля трошкі памарудзіла, але адказала:

— Я яго ніколі не бачыла.

— Даруй, — сумелася Маша.

— Нічога, гэта ў нас сямейнае.

Маша, каб замяць няёмкасць, паспешліва запыталася:

— А ў вас дома таксама дамавікі жывуць?

— Яны паўсюль жывуць.

— І ты іх бачыш?

— Не-а. Але і так зразумела...

І Лёля, прыхінуўшыся да сцяны, пачала расказваць Машы незвычайна дзіўныя рэчы пра дамавікоў. І што ў іх абліччы з'яўляюцца памерлыя продкі. І што дом без дамавіка развальваецца. І што ў яго трэба пытацца, якую масць жывёлы ён любіць — а не тое купіш каня не той масці, і дамавік яго знішчыць. І што на вочы дамавік з'яўляецца толькі перад важнымі падзеямі, якія ён прадчувае наперад, а вось кошкі іх заўжды бачаць. І што нельга спаць — нават ляжаць! — на любімым месцы дамавіка, а то ён раззлуецца. І што якраз з-за гэтага дамавікі і коткі часта не любяць адно аднаго, таму што котак малаком не кармі, а дай заваліцца на чужую ляжанку. І што дамавіка трэба абавязкова падкармліваць, а калі панадзіцца да цябе чужы дамавік — выжываць яго, завёўшы ў двор казла, а лепей — мядзведзя...

— Ты так многа ўсяго ведаеш! — зайздросліва ўздыхнула Маша, якая заўжды лічыла сябе калі не самай разумнай у класе, дык ва ўсякім разе самай дасведчанай.

— Глупства! — адмахнулася Лёля. — Раней гэта ўсе ведалі, проста цяпер забыліся. Вось ты на самай справе шмат чаго ведаеш! Я гэтак бы не змагла!

— Ну, — сціпла ўсміхнулася Маша. — Я вучу...

— Ты, відаць, вельмі любіш вучыцца!

Тут Маша раптам зладзеявата азірнулася і нахілілася да самага вуха Лёлі:

— Наогул жа я вучыцца не люблю! Я ведаеш, што люблю... — Маша яшчэ раз азірнулася і зашаптала зусім ціха: — Біцца на шпагах!

Лёля не паспела толкам здзівіцца, як па сходах ужо ўзляцеў Антоха.

— Вось, — прадэманстраваў ён дзяўчынкам масленіцу. — Справу трэба рабіць, а не языком малоць! Зараз мы яго хутка ўлагодзім.

«Хутка ўлагодзіць» не атрымалася. Каб як след змазаць завесы, давялося дзверы разоў дзесяць адчыніць і зачыніць — і кожны раз кабінетавік злосна скрыгатаў са свайго кутка. Праўда, завесы рыпелі з кожным разам усё цішэй, таму і яго скрыгат патроху заціхаў. Калі Антоха ў апошні раз адчыніў цалкам бязгучныя дзверы, кабінетавік моўчкі ўзлез на стол настаўніка і сурова ўтаропіўся на гасцей.

Госці цярпліва чакалі.

— Ну, — не вытрымаў кабінетавік, — а вітацца хто будзе? Мендзялееў?

— Добры дзень, кабінетавік-бацюхна, — хорам праспявалі госці.

— Чаго прыйшлі?

— Парада твая патрэбна, — сказала Лёля.

Кабінетавік злёгку падабрэў.

— Аааа, параду... Ну, параду — гэта можна, параду магу і даць, парад мне не шкада.

— Нам трэба знайсці адну рэч, падобную вось на гэтую, — Лёля паказала срэбную «адзіначку» ў сябе на шыі.

Кабінетавік паглядзеў на штуковінку з павагай.

— Знайшоў бы такую — пакінуў бы сабе, — сумленна прызнаўся ён.

— Зразумела, — сказаў Антон. — Даруй, што патрывожылі. Пайду-тка я завесы на дзвярах вадою залью, а яшчэ лепш знайду тут у цябе які-небудзь хімікацік, каб рыпела гучней.

— Не трэба, — спыніў яго кабінетавік. — Які ж ты гарачы... Але дурны.

Антон так і застаўся стаяць, не вельмі разумеючы, як рэагаваць. Буяніць? Пакрыўдзіцца?

— Добра, Воўк, не злуйся, — сказаў кабінетавік. — Дурны не таму што дурань, а таму што многага яшчэ не ведаеш. Зараз бы пасварыўся са мной, а таго не разумееш, што я такую штучку сабе пакінуць не магу.

— Чаму? — запыталася Лёля.

— А па качану! — адказаў кабінетавік.

Антон пачаў патрошкі заводзіцца, і невядома, чым бы гэта закончылася, калі б у кабінет не ўварваўся Сеўка.

— Там у двары, — гучным шэптам сказаў ён, — ТАКОЕ!!!

Усе кінуліся з кабінета ў калідор і прыпалі да вокнаў, якія выходзяць на ўнутраны двор.

* * *

Дуб практычна быў нябачны.

Двор аказаўся падзеленым напалам: з аднаго боку вісела белая хмара, з другога — чорная. Хмары раўнамерна калыхаліся, з іх высоўваліся рукі, крылы, хвасты, лукі, пікі, дубіны і мячы. Хмары пішчалі, крычалі, сыкалі, вішчалі і вухкалі.

— Дзе Мішка? — запытаўся Антон.

— Сядзіць пад сталом у сталоўцы, — адказаў Сеўка, цяжка дыхаючы.

— Дрэнна, што ён там адзін.

— Ён не адзін, ён са Сталавіком. Той абяцаў яго прыкрыць.

— Добра... — сказаў Антон. — А як вы пра гэта даведаліся?

— Ды нехта нёсся па калідоры з лямантам: «Бітва! Зараз пачнецца бітва! Усе ў двор!». Мішка пад стол палез, а я да вас пабег.

У гэты час хмары пачалі павольна абыходзіць дуб. Хто з іх даганяе, а хто ўцякае, ці хто нападае, а хто бароніцца, ніхто так і не зразумеў. Віскат і крыкі ўзмацніліся, пачуўся бразгат зброі.

— Лёля, выведзі дзяўчынак, — загадаў Антон і азірнуўся.

Дзяўчынак побач ужо не было.

І зноў нешта непрыемна яго драпнула. Як быццам Лёля ўсё зрабіла так, як трэба, але ж нават не запыталася...

* * *

Хмары ў двары паскорыліся. Крыкі зліліся ў адно безупыннае скавытанне. Свісталі крылы, ляскалі хвасты і дзюбы. Міма акна праляцела нешта настолькі жудаснае, што Антон пакрыўся халодным потам. Але пайсці ён не мог, ён адчуваў, што павінен паглядзець гэта да канца. А кручэнне рабілася ўсё хутчэйшым, і ўжо не адрозніць, дзе чорнае, а дзе белае, усё злілося ў адну суцэльную шэрую масу, якая, не ўпісваючыся ў павароты, білася незразумелымі часткамі тулаваў у вокны, верашчала і ляскала жалезам.

Антон, напэўна, пайшоў бы з калідора, але ўсё сапсаваў Сеўка, які прыліп да вакна і ва ўсе акуляры вытарашчваўся на тое, што адбывалася. Давялося заставацца — інакш атрымлівалася, што Сеўка не баіцца, а Антоха спалохаўся.

— Гэта мала падобна на бітву, — сказаў Антон Сеўку.

Той не адказаў, любуючыся забаўным відовішчам: ці-то змяя, ці-то абрубак шчупальца праляцела міма акна. Затое адказаў нехта іншы.

— Ага, — сказала Лёля, — гэта больш падобна на карусель.

Па шкле мазанула чымсьці брудным.

— Ты чаго тут? — узлаваўся Антоха.

Пачулася, здаецца, грукатанне грома.

— А ты чаго тут? — спакойна запыталася яна.

У адказ бязгучна з’явілася і пачала распухаць чорная пляма, як быццам звар’яцелая каракаціца вырашыла таксама паўдзельнічаць у забаве.

— Я табе загадваў вывесці дзяўчынак.

Нейкая буйная птушка залапатала крыламі, разганяючы чорную пляму.

— Я вывела. Яны ў кабінеце хіміі ў поўнай бяспецы.

Пачуўся глухі грукат, быццам баран з усяго маху не ўпісаўся ў вароты.

— А ты?

— А я ў поўнай бяспецы тут.

Шэры паветраварот у двары ўміг імкліва закруціўся, і нейкая страшэнная пачвара ўваткнулася ў вакно, ледзь не разбіўшы яго.

— Чаму ты ў гэтым так упэўнена? — з'едліва запытаўся Антон, адхінуўшыся ад шкла.

— Таму што я з табою, — спакойна адказала дзяўчынка.

Як быццам Антон толькі на імгненне адхінуўся ад вакна, толькі на імгненне зірнуў у Лёліны вочы, каб зразумець, здзекуецца яна ці кажа сур'ёзна, але калі пагледзеў зноў у двор, там ужо нікога не было. Выключная цішыня і чарнее аграмадзіна дуба. Сеўка сядзеў на падаконніку з пакрыўджаным выглядам і акулярамі ў руках.

— Сеўка! Што здарылася?

— Не ведаю, — сказаў Сеўка, праціраючы акуляры шторкаю. — Я акуляры зняў, а яно раптам закончылася.

— Ты што-небудзь разумееш? — запытаўся Антон у Лёлі.

— Не, — адказала Лёля. — Але ты разбярэшся.

— Мы разбярэмся, — сказаў Антон, зноў сустрэўся з Лёляй вачамі, і яму здалося, што ён паставіў свой подпіс на вельмі важным дакуменце. На сёння — самым важным у сваім жыцці.

Яму стала няўтульна і адразу схацелася збегчы.

— Так, пайшлі да дзяўчынак, — загадаў ён, — нам лепей зараз не разбрыдацца.

* * *

У кабінеце хіміі панавалі спакой, парадак і прымірэнне. Кабінетавік сядзеў у цэнтры стала, загорнуты ў ручнік, а вакол яго круціліся Люба з Машаю, акуратна расчэсваючы ўскудлачаную бараду.

— Што вы робіце? — здзівіўся Антон.

— А я мульцік згадала пра дамавічка Кузьку, — сказала Маша. — Памятаеце, ён там казаў, што спачатку добрага малайца трэба памыць, пакарміць, а потым ужо распытваць? Вось мы і вырашылі…

Кабінетавік выглядаў выключна задаволеным жыццём, толькі што не бурчаў ад задавальнення.

— Ну як? — запытаўся ён, перахапіўшы позірк Антохі. — Скончылася?

— Скончылася, дамавік-бацюхна, — не надта ветліва адказаў той. — Толькі вось што скончылася?

— А што трэба, тое і скончылася, — адказаў кабінетавік у тон Антону. — Ды і не скончылася яно, а толькі часова перапынілася… Дзякуй, дзяўчаты-прыгажуні, адмылі, прычасалі. Цяпер слухайце, я вам казку раскажу.

І дамавік распачаў доўгую гісторыю пра Івана-царэвіча, Шэрага воўка і шматлікіх цароў, якіх яны па дарозе падманулі.

— І вось кажа яму тады Шэры воўк…

— Каня бяры, ды аброць не чапай, — перабіла яго Маша.

— Ха! — выгукнуў кабінетавік. — Дык вы ў курсе?

— Вядома! Гэтую казку ўсе дзеці ведаюць, яшчэ ў садку.

— Ды ну? — прымружыў вочы дамавік. — Ведаць гэта адно, а вось зразумець — справа іншая. Ну, калі вы такія разумныя…

Антон злосна наступіў Лёлі на нагу. Маўляў, калі мы ўжо дамовіліся разам разбірацца, дык дапамагай! Лёля ў адказ лёгенька наступіла на нагу Антону і завяла сваю песню:

— Бацюхна-кабінетавік, ці не хочаш ты цяпер паесці?

— Не хачу, — адказаў той тонам купца са старога фільма. — А вось выпіць жадаю! Гарэлкі! Царскай!

Лёля такога павароту не чакала, ды і Антоха злёгку разгубіўся. Пітушчы дамавік — гэта неяк не ўкладвалася ва ўсё тое, што ён паспеў уведаць пра гэты дзіўны народ. Затое Сеўка ажывіўся.

— Гэта мы мігам! — паведаміў ён таксама на нейкі старадаўні манер. — Будзьце ласкавыя не сумнявацца!

І кінуўся ў лабаранцкі пакой.

— Мабыць, культурны? — з неадабрэннем пацікавіўся кабінетавік.

— Чытае шмат, — адказала Лёля.

Сеўка тым часам прыцягнуў і паставіў на стол дзве вялікія колбы, закрытыя прыцёртымі шклянымі коркамі. Па тым, як асцярожна ён з імі абыходзіўся, стала зразумела, што вадкасці ў колбах няпростыя. Прыхопленую з сабою мензурку Сеўка паставіў у цэнтры стала і асцярожна, паглядаючы на дзяленні на баку мензуркі, наліў маслістай вадкасці з адной колбы. Адразу пачуўся пах хлоркі. Маша збялела, і заклапочаная Люба вывела яе ў калідор. Лёля паморшчылася, але нічога не сказала. Кабінетавік з задавальненнем уцягнуў едкі пах у касматыя ноздры. Сеўка тым часам першую колбу заткнуў і гэтак жа акуратна дадаў трошкі вадкасці з другой.

Тут хлоркаю ўжо не патыхнула, а засмярдзела так, што Лёля адышла бліжэй да дзвярэй. Нават у Антона заслязіліся вочы, а прывыклы да рэактываў Сеўка толькі чхнуў, працягваючы гатовую сумесь кабінетавіку:

— Выпі, бацюхна!

Кабінетавік узяў мензурку, яшчэ раз з задавальненнем панюхаў (Лёля высунулася ў калідор і дыхала носам), потым павольна, па глыточку, пачаў уліваць кактэйль у горла.

— Супер! — захапіўся Сеўка. — Гэта ж сумесь салянай кіслаты з азотнаю! Золата распускаецца, а ён…

— А мне ў самы раз, — сказаў кабінетавік, ставячы мензурку на стол. — Малайчына. Так, а зараз аднясі прадукты ў кладоўку, ды прыцягні адтуль купаросу!

Сеўка, які зноў увайшоў у ролю слугі, пакланіўся да падлогі і павалок колбы ў лабаранцкі пакой. І як толькі ён ступіў на парог, кабінетавік шчоўкнуў пальцамі. Дзверы ў лабаранцкі пакой тут жа зачыніліся, злёгку паддаўшы Сеўку пад худы зад.

— Гэй! — абурыўся Сеўка з-за дзвярэй. — У чым справа?

— Сапраўды, — ступіў да кабінетавіка Антоха, — што за фокусы?

— А вось такія і фокусы, — захіхікаў кабінетавік. — Забіраю я вашага Сеўку ў рабства.

— Штоооо? — з абурэннем запыталіся Антоха і Лёля.

— Ну не зусім рабства… — кабінетавік агледзеў кабінет. — Мяне адмылі, прычасалі, напаілі, за гэта дзякуй. А ў лабаранцкім бардак! Рэактывы абы-як зваленыя. Вось ён дапаможа мне ўсё прыбраць, тады я і адпушчу яго з мірам.

— Але навошта ж падманваць было? — абурылася Лёля. — Папрасіў бы ты нас па-добраму, мы б і так дапамаглі!

— А чаго гэта я павінен па-добраму, а-а? — прымружыўся кабінетавік. — Чаго гэта я вам увогуле дапамагаць павінен? Вас, між іншым, ніхто сюды не клікаў, самі ва ўсім вінаватыя…

Антон сціснуў кулакі. Дамавік адным скачком апынуўся на стале.

— Карацей, — працягнуў ён адтуль, — Сеўка пакуль у мяне пасядзіць. Надта ж ён разумны. Паспрабуйце без яго справіцца.

Кабінетавік прайшоў скрозь сцяну ў падсобку, але на паўдарозе развярнуўся назад.

— Ежы нам прынясіце. І паболей. Сталавік у курсе, што я люблю.

На гэты раз ён пайшоў канчаткова.

Антон, раскідваючы ўсё, што траплялася на яго шляху, накіраваўся да лабаранцкага пакоя, сыкаючы ад раз’юшанасці:

— Ды я зараз гэтыя дзверы выб’ю, ды косці гэтаму «хіміку» пералічу…

Лёлі давялося літаральна павіснуць на ім, каб ён сапраўды не пачаў граміць дзверы.

— Антон, Антоха, Антоша, ну, калі ласка, не трэба…

Антон паспрабаваў скінуць яе з сябе, але яна трымалася ўчэпіста.

— Калі ласка, не сячы з-за пляча! Нельга з імі сілаю, толькі горш будзе. Узарве яшчэ што-небудзь, а там Сеўка.

На шум з’явіліся Маша з Любаю, якія, нядоўга думаючы, пачалі дапамагаць Лёлі. Гэта Антона злёгку прытармазіла, але да таго, каб ён цалкам спыніўся, было яшчэ далёка.

— Паслухай, — хутка забалабоніла Лёля. — Гэта ж зноў загадка, заданне. Толькі на гэты раз мы павінны без Сеўкі справіцца.

— Нічога мы нікому не павінны! — абурыўся Антон.

— Павінны. Сабе, — ціха сказала Люба. — Мы павінны дадому трапіць. Да мамы вельмі хочацца…

Пры ўпамінанні мамаў усе прыціхлі, Машка захлюпала носам, а ўся Антонава злосць павольна знікла. Знаходзіцца ў акружэнні трох дзяўчынак, у якіх вочы на мокрым месцы, было вельмі няўтульна.

— Рабіце, што хочаце! — заявіў ён.

І пайшоў, ляпнуўшы дзвярыма.

Нейкі час у кабінеце хіміі чулася толькі засяроджанае хлюпанне. Маша хацела да мамы, Люба яе шкадавала, а Лёля ачувалася ад сцэны з Антонам.

Нарэшце, дзяўчынкі апамяталіся, агледзеліся…

— Што будзем рабіць? — запыталася Люба.

— Шукаць, — паціснула плячамі Лёля.

Яна сядзела на першай парце, і выгляд у яе быў зусім замучаны.

— У цябе ідэі ёсць? — запыталася Люба.

Лёля матнула галавой. Ідэй у яе не было.

Люба ўздыхнула. Яна зразумела, што давядзецца часова браць руль кіравання ў свае рукі, і сказала:

— Добра. Сядзіце тут, а я пайду да Мішкі, вазьму ліхтарык. У цемры мы тут дакладна нічога не знойдзем.

Лёля зноў вяла кіўнула.

Люба пайшла, і Маша тут жа пачала хінуцца да Лёлі. Села побач з ёю, доўга разглядвала яе пануры твар і не вытрымала нарэшце:

— Лёль, ты не перажывай, ён вернецца.

— Сеўка? Зразумела, вернецца.

Машка збянтэжылася:

— Не, Антон…

— Антон? Куды вернецца?

Машка збянтэжылася яшчэ больш.

— Да цябе, — амаль шэптам сказала яна.

— Да мяне? — здзівілася Лёля.

Маша захіхікала:

— Ну, добра ўжо табе, ты што, не разумееш?

— Што?

— Што Антон у цябе ўтрэскаўся!

Лёля нават закашлялася ад нечаканасці.

— Антон што?

— Ды што ты на самай справе! Няўжо не бачыш? Ён з табою спрачаецца ўвесь час і злуецца на цябе. А калі цябе побач няма, злуецца яшчэ больш.

Лёля змучана паглядзела на Машу:

— Дык гэта злосць, а не… не… Карацей, ні ў кога ён не ўтрэскаўся.

Тут на Лёліна шчасце дзверы кабінета расчыніліся і ўляцела Люба з ліхтарыкам і вялікім кошыкам.

— Прывітанне! Я вам перадачку прынесла. Ад Сталавіка.

Лёля і Маша кінуліся да кошыка. Там аказалася тое, што было патрэбна менавіта зараз. Гарбата з мёдам, каб набрацца сілы, і шмат піражкоў з рознымі начынкамі.

— А гэта, — сказала Люба, — Сеўку перадалі.

Яна паставіла на стол каструльку, ад якой сыходзіў дзівосны пах.

— Вой, дзяўчаткі, — сказала Маша, — калі мы будзем гэтак есці, дык дома я ў ніводныя штаны не ўлезу.

— А ў нас тут увесь час стрэс, — супакоіла яе Лёля, адкусваючы піражок. — Шмат калорый згарае.

— Можа, папросім Сеўку нам вагі зрабіць? — запыталася Люба.

І дзяўчынкі дружна засмяяліся.

— Я сабе ўяўляю твар Антона, — смяялася Лёля. — Ды ну іх, вашы ключы, зрабіце нам вагі…

— І пакуль не схуднеем, дадому не пойдзем! — залівалася Маша.

* * *

— Вой, якія піражкі смачныя! У мяне бабуля такія пякла, — сказала Лёля, аблізваючыся.

— А раскажы пра сваю бабулю, — папрасіла Маша.

— Ды што расказваць… Бабуля… Жыла ў вёсцы. Цяжка ёй было…

— Чаму?

— Таму што зайздросцілі многія. А многія баяліся. Сёй-той вядзьмаркаю называў…

— Чаму?

— А яна адразу бачыла, добры чалавек ці кепскі. І казала заўжды толькі тое, што думала. Хоць многім дапамагала. Яна ўсё-ўсё ўмела — і ад хваробы вылечыць, і вяселле справіць.

— Гэта як? — загарэліся вочы ў Машы.

— Ну як-як… Зёлкі прываротныя рабіла.

— Ух ты! А ты ўмееш?

— Умець дык умею, там і ўмець няма чаго. Толькі не буду.

— Чамууу? — расчаравана запыталася Маша. — Так бы было здорава. Раз! І ўсё каля нашых ног!

Маша прыкінулася каралевай на троне, а Люба захіхікала.

— Прычараваць лёгка, — спакойна сказала Лёля, — але калі ты хоць камунебудзь сваім прываротам балюча зробіш, гэты боль на цябе перакінецца. І шчасця такі прыварот нікому не прынясе.

— Ай, — адмахнулася Маша, — неяк усё ў цябе складана. А здорава, калі б можна было ўсіх хлапчукоў у сябе закахаць! Вось гэтак бы і хадзілі вакол мяне…

— Навошта? — здзівілася Люба.

— Ну як навошта? Каб я была самая-самая на свеце.

Люба з Лёляй разрагаталіся.

— Чаго вы рагочаце? — пакрыўдзілася Маша.

— Ды ты як маленькая, — сказала Люба. — Ну навошта табе ўсе хлапчукі? Яны цябе праз гадзіну дастануць так, што жыццё будзе не мілым.

— Ну і што! — тупнула нагою Маша. — Затое не трэба будзе ўвесь час усім даказваць…

Яна запнулася на паўслове і сарамліва ўткнулася ў піражок.

— А ты не даказвай, — спакойна сказала Лёля. — Проста жыві — і ўсё.

— Добра табе казаць, — пакрыўдзілася Маша, — ты вунь якая…

— Якая?

— Ну… не такая, як усе. На цябе ўсе глядзяць, нават Антон цябе слухаецца. А я што? Машка тое, Машка сёе… Люба вунь плаваннем займаецца, медалёў цэлы груд. А мяне ніхто за чалавека не лічыць. А калі я яшчэ і зубрыць кіну — увогуле ўсе забудуць, што я ёсць.

— Маша, ну што ты на сябе нагаворваеш…

— Я не нагаворваю, я праўду кажу! Вунь Сеўка… Ён жа не вучыць, як я. Я ведаю, што не вучыць! Але чамусьці заўжды ўсё рашае хутчэй. І на алімпіядах выйграе. І мяне ўвогуле не заўважае…

— А трэба, каб заўважыў? — пасміхнулася Лёля.

— Сеўка! — стукнула сябе па лбе Люба. — Мы ж яму ежу аддаць забыліся!

Дзяўчынкі азірнуліся на стол, кінуліся да каструлькі, якая аказалася парожняй. Там жа была і запіска «Вельмі смачна, але мала!»

— Добра, — сказала Лёля. — Весела пасядзелі, але трэба і справай заняцца. Давайце шукаць ключ.

Тры дзяўчыны агледзеліся.

— Можа тут трэба пашукаць? — безнадзейна выказала сваё меркаванне Люба.

Лёля паціснула плячамі:

— Давай лічыць, што тут. Не знойдзем — далей пойдзем. Толькі мне здаецца, што гэта недзе тут.

— Прапаную, — ускочыла Маша, якая пасля піражкоў і шчырай гаворкі прыкметна павесялела, — прайсціся па радах. Якраз кожнай па раду.

Яны прайшліся па радах. Потым па шафах. Аблазілі настаўніцкі стол — і знайшлі там журнал 9 «Б», які заваліўся ў цёмны куток і з-за прапажы якога было многа шуму мінулай восенню. Маша выказала меркаванне, што гэта і ёсць той самы ключ, але Лёля і Люба з ёю не пагадзіліся. Надта ж звычайным быў класны журнал, нічым ён не нагадваў першую драўляную штуковіну, якую давялося вылаўліваць з басейна. Зазірнулі нават у ракавіну для мыцця прабірак, але нічога цікавага не знайшлі.

У парыве запалу Маша вырашыла нават прастукаць школьную дошку — а раптам там двайная сцяна і патайнік? Але пасля першага ж стука са сцяны высунуўся кабінетавік і нядобра рыкнуў:

— Па галаве сабе пастукай!

Маша спалохана схавала рукі за спіну, а калі кабінетавік знік у сцяне, усё-ткі пастукала сабе па галаве.

— Ты чаго? — здзівілася Люба.

— Ну, — сумелася Маша, — а раптам гэта такая падказка?

Праз гадзіну дзяўчынкі стаялі пасярод старанна перакапанага кабінета.

— Пайшлі ў іншае месца, — прапанавала Люба. — Мы тут усё дагары нагамі перавярнулі.

— Калі дагары нагамі, — хіхікнула Маша, — дык мы, значыцца, на столі стаім, ага?

— На столі, — задумліва сказала Лёля і паглядзела на столь.

Люба і Маша аўтаматычна зрабілі тое ж самае.

— Оп-па! — сказала Люба.

— Гэта ён! — упэўнена пацвердзіла Маша.

Паміж лямпамі вісела штосьці, вельмі падобнае на асінае гняздо. Альбо на загадкавы ключ, які схавалі, павесіўшы на бачнае месца.

— Трэба зняць! — Люба пацягнулася ўжо за крэслам, каб узабрацца вышэй, але Лёля схапіла яе за руку.

— Пачакай, тут нешта не так! Надта ж проста ён вісіць!

— Нічога сабе «проста»! — абурылася Маша. — Мы тут кожную шчыліну праверылі, пакуль знайшлі.

— Памятаеце, — працягнула Лёля, — у басейне змеі былі, давялося з імі змагацца. А тут… бяры ды здымай… Падазрона.

Маша схапіла ўказку, асцярожна датрнулася да загадкавага прадмета… і ледзь паспела выпусціць яе з рук.

— Ффу… — з жахам выдыхнула Люба.—А я яе голымі рукамі збіралася браць!

З-за сцяны пачуўся смяшок кабінетавіка.

— Нахабны які! — абурылася Маша. — Не, каб папярэдзіць!

— У прынцыпе, — заўважыла Лёля, — ён і папярэджваў. «Каня бяры, але аброць не чапай!»

— Можа, ён яшчэ падкажа, — задзірыста сказала Маша, — як гэтую штуку адтуль зняць і рукі не папаліць?

Але дамавік больш ніяк сябе не праяўляў, і дзяўчынкам давялося разбірацца самім. Пасля бурнай дыскусіі яны зразумелі, што зняць «гняздо» немагчыма. Дакладней, зняць дык не праблема ( напрыклад, збіць крэслам, як прапаноўвала Люба), але ж штуковіна зваліцца на падлогу, падлога ўспыхне… Адным словам, без пажару не абыдзецца.

— Ага, — уздыхнула Люба, — агонь — гэта не жартачкі. Ад агню мы не ўратуемся.

— Не разумею, — паскардзілася Маша, — чаму вада ў басейне нам дапамагала, а тут агонь толькі перашкаджае.

— А можа, — выказала меркаванне, — не толькі перашкаджае. Слухайце, а з чаго гэтая рэч, га?

Пры больш блізкім разглядванні аказалася, што «гняздо» зроблена з бяросты. Ці з нечага вельмі падобнага на яе.

— Я думаю, — заявіла Маша, — бяроста — гэта толькі абгортка… ну, як у цукеркі. А самае смачнае… іншымі словамі, самае важнае… яно ўсярэдзіне! Трэба гэтую абгортку нейкім чынам зняць.

— Спаліць! — удакладніла павесялелая Лёля.

— Вось-вось! — узрадавалася Маша. — Бяроста ж гарыць!

— А ты кажаш, — дадала Лёля, — агонь толькі перашкаджае.

Спаліць берасцяны кокан атрымалася не адразу. Люба прапанавала закідаць «гняздо» паперай.

— Папера дакранецца да кокана, запаліцца, — разважыла яна, — а ад яе і ён сам успыхне!

Дзяўчынкі перавялі палову знойдзенага журнала, але выніку не дамагліся. Папера гарэла ажно люба было глядзець, а бяроста нават не пацямнела.

І толькі калі працавітая Маша згарнула са старонак штосьці накшталт паходні, падпаліла яе і паднесла да кокана — толькі тады «гняздо» ўспыхнула вясёлым бяздымным полымем.

Дзяўчынкі замерлі і як зачараваныя глядзелі на дзівоснае вогнішча пад столлю. Нарэшце, яно прагарэла, і на парту проста пад ім бухнулася штосьці цяжкае і пакрытае сажаю.

Лёля акуратна ўзяла ў рукі металічную скрыначку, ачысціла яе ад сажы, пакруціла ў руках.

— Не адчыняецца… дзіўна, мая, — Лёля пакратала рукой падвеску, — адразу адчынілася.

— Тая была драўляная, а гэтая жалезная, — сказала Люба.

— Ну і што? Проста тая павінна была не патануць, а гэтая не згарэць. Цікава, дзе ў яе замочак?

Дзяўчынкі па чарзе тармасілі скрыначку, але нават не змаглі вызначыць, з якога боку яе патрэбна адчыняць.

— Трэба было б падчапіць чым-небудзь вострым, — сказала Люба. — Давай запытаемся ў Сеўкі.

— Дарэчы, — згадала Лёля, — бацюхна-кабінетавік, ану выйдзі да нас. Мы знайшлі ключ, цяпер ты павінен адпусціць Сеўку.

— І нічога я не павінен, — сварліва паведаміў кабінетавік, не з’яўляючыся. — Мы яшчэ і палову падсобкі не разабралі, нікога я не адпушчу.

— Ах, гэтак… — задумліва сказала Лёля, — ну пачакай… Пайшлі, дзяўчаткі!

Лёля сціснула вусны і выйшла з класа.

* * *

Лёля, Маша і Люба ўварваліся ў сталоўку.

— Прывітанне, Сталавік-бацюхна, — выпаліла Лёля. — Антон, цыгарэту дай!

Маша і Люба не ведалі на каго глядзець, ці-то на Лёлю, якая відавочна звар’яцела, ці-то на Антона. Такіх вытарашчаных вачэй дзяўчынкі яшчэ не бачылі. Лёля ж, гледзячы на Антона, сама заходзілася ад смеху.

— Вой, даруй… Проста дамавікі вельмі не любяць тытунёвага дыму. Я думала, мы надымім у кабінеце — ён і аддасць Сеўку.

Антона паступова адпускала, ён нават усміхнуўся, пазіраючы на вельмі ж вясёлую Лёлю.

— Я ўжо думаў, ты не ты, а пярэварацень… Нельга ж так рэзка. І цыгарэт у мяне няма.

— Можа, ёсць свісток? — запыталася Лёля.

— Я ўмею і так свістаць! — Мішка склаў пальцы і выдаў заліхвацкі пошчак.

Дзяўчынкі нават зажмурыліся, а з буфета зараз жа выскачыў Сталавік.

— Ну і як гэта называецца, — загаласіў ён, — я для іх стараюся, выгатоўваю, а яны тут свішчуць! Няма ў вас ні сораму, ні сумлення!

— Даруй, Сталавік-бацюхна, — адазвалася Лёля, — гэта ён выпадкова. Мы больш не будзем.

— За выпадкова б’юць адмыслова! — заявіў Сталавік.

Мішка ўціснуў галаву ў плечы.

— Не, біць не трэба. Давай мы табе лепш посуд памыем, хочаш? — прапанавала Люба.

— Посуд? А чаго яго мыць, ён і сам памыецца… Вы мне лепш прынясіце з кладоўкі тазік стары, медны. Вынеслі яго, а варэнне толькі ў такім і можна варыць.

— У якой кладоўцы?

— Недзе ў вартаўніка валяецца.

— А чаго сам не пойдзеш? — падазрона запытаўся Антон.

— Ды нельга мне, — Сталавік сцепануўся, — небяспечна.

— А нам не небяспечна? — прыжмурыўся Антон.

— Вам пакуль не! — заявіў Сталавік і, адыходзячы, на ўсякі выпадак пагразіў Мішку пальцам.

— Крута! — узрадаваўся Мішка, калі гаспадар сталоўкі выйшаў. — А яны ўсе свісту баяцца?

— Дамавікі — усе! — сказала Лёля.

— Клас! — Мішка відавочна адчуваў сябе больш упэўнена. — А яшчэ чаго яны не любяць?

Лёля азірнулася па баках.

— Яшчэ вось гэтага, — яна ўзяла ў рукі венік. — Хто са мною?

Выгляд у Лёлі быў крайне ваяўнічы.

— Я! — тут жа падрадзілася Маша і стала побач.

Антон ляніва вылез з-за стала.

— Ну пайшлі, паглядзім, як вы ваюеце, — сказаў ён.

* * *

Як толькі яны ўвайшлі ў кабінет хіміі, Мішка свіснуў. Добра свіснуў, магутна.

Кабінетавік з'явіўся адразу. Мішка паўтарыў маладзецкі посвіст. Кабінетавік прысеў і заціснуў рукамі вушы. Выглядаў ён так, быццам з'еў дзясятак лімонаў і цяпер у яго нясцерпна балелі зубы.

Мішка збіраўся свіснуць у трэці раз.

— Вой-вой-вой-вой-вой! — закрычаў дамавік. — Ды што ж гэта такое, ды ва ўласным доме, ды здзекуюцца!

— Сеўку адпусці, — спакойна сказала Лёля.

— А чаго гэта я павінен яго адпускаць, га? — насупіўся кабінетавік.

Мішка свіснуў яшчэ раз.

— Вой… Ну што ж вы як нелюдзі нейкія, — зарумзаў кабінетавік. — Ну навошта ён вам, га? Вы ж усё роўна нічога не разумееце, што ён кажа. А мне такі памочнік, ведаеце, як патрэбен?!

— Навошта? — запытаўся Антон.

— Ну як навошта?! У мяне ж там, у кладоўцы, скарбы вялікія, хімікаліі розныя. А падручнікаў жа і мала, усё больш задачы ды кантрольныя. Ды я чытаць жа не вельмі люблю… А настаўніца ваша мне нічога расказаць не хоча…

— Чаму не хоча? — здзівілася Лёля.

— Ды не верыць яна ў мяне! Ну і добра, ну і няхай не верыць. Ужо я з яе таксама нацешыўся так, як хацелася. То пад руку штурхану, то прабіркі памяняю.

Кабінетавік захіхікаў, прымружыўся ад прыемных успамінаў:

— Памятаеце, як на апошняй лабараторцы дым шызы паваліў?

Антон кіўнуў. Дым быў не толькі шызы, але і смярдзючы.

— Во! — горда сказаў кабінетавік. — А ўсяго толькі адзін парашок замяніць трэба было.

— Але навошта? — узрушана запыталася Маша.

— А чаго яна? — агрызнуўся кабінетавік, потым паглядзеў на гасцей. — А чаго вы ўсе? — І загаласіў: — Ай, я бедны-няшчасныыы, ай, ніхто мяне не любіііііць!

— Сеўку адпусці! — спакойна сказала Лёля.

— Не-а! — заявіў кабінетавік, у момант пераходзячы ад істэрыкі да манументальнай цвёрдасці.

— Тааак! — сказала Лёля. — Значыцца, будзем прымяняць крайнія меры.

Яна падняла венік і пагрозліва сказала:

— Вымятаю цябе, чужы, шкодны дамавік, выганяю…

А Мішка зноў заліхвацкі засвістаў.

— Ааа! — заверашчаў кабінетавік, заціскаючы вушы так, што, здаецца, галава яго расплюскалася. — Ды вы што! Ды я ж жартуючы, ды ці ж вы жартаў не разумееце! Куды ж вы мяне? Там жа монстраў поўная школа! Злыдні!

Антон узяў яго за каўнер і прыўзняў над падлогай.

— Ды забірайце свайго Сеўку! — здаўся дамавік. — Дзверы адчынены.

Антон расчыніў дзверы ў кладоўку і пабачыў там Сеўку, які корпаўся ў рэактывах. Толькі пасля гэтага кабінетавік быў адпушчаны, але знікаць не стаў.

— Сеўка, пайшлі хутчэй, пакуль ён не перадумаў! — крыкнуў Антон.

— А? Ды, зараз… Я толькі… А што, трэба ісці? — запытаўся Сеўка жаласна.

— Ну нахабнік! — абурыўся Антон. — Мы з-за яго жыццём рызыкуем, а ён ісці не хоча.

— Вось бачыш, не хочуць яны, — задаволена паведаміў кабінетавік.

— Ды хачу, хачу, — адмахнуўся Сеўка, — проста трэба адну рэч дарабіць. Давай, Хімішка, я табе хуценька растлумачу, а заўтра прыйду, пакажу, што далей.

— Як ты яго назваў? — уражана запытаўся Антон.

Сеўка засаромеўся.

— Хімішка… Ну трэба ж было яго неяк называць, а Мар'яй Іванаўнай няёмка, ды і не падобны ён на яе.

— Вооось, — заплакаў кабінетавік. — Мяне ніхто так не называаааў, ніхтоооо! Ніхто мянее не любііііць! І вы мяне венікааам!

— Венікам? — здзівіўся Сеўка. — За што?

— Ды так, — сказала Лёля, — маленькае непаразуменне. Пойдзем, заўтра прыйдзеш да свайго… Хімішкі.

— А вы ключ знайшлі? — запытаўся Сеўка.

— Вой так, ключ! Знайшлі!

Маша працягнула Сеўку скрыначку.

— Пойдзем, дапаможаш адчыніць.

Усе гуртам вываліліся з кабінета, чуючы за спінамі бурчанне кабінетавіка:

— Прыйшлі, натапталі, запаскудзілі столь…

— Вось шкодны! — не вытрымала Люба.

— Ага, з дамавікамі заўжды так, — уздыхнула Лёля. — Калі ўжо характар сапсаваўся, дык назаўжды.

— Ды ён добры, — сказаў Сеўка, — проста адзічэў. І знудзіўся. Я яму, дарэчы, абяцаў падручнікаў з бібліятэкі прынесці. Дапаможаш знайсці? — запытаўся Сеўка ў Машы.

Машка пачырванела ад задавальнення і радасна заківала.

Глава 8

## ЦЬМЯНЫЯ НАМЁКІ

— Ды як вы маглі? — бушаваў Антон. — Гэта ж небяспечна! А калі б гэты кокан вам на галаву зваліўся? А калі б падлога загарэлася? А калі б…

— Ну чаго ты крычыш? — сказала Люба. — Усё ж абышлося.

— Ага, на гэты раз абышлося! Але ў наступны раз вы ўжо, калі ласка, не лезьце, куды не просяць!

— Ты кажаш, як мая мама, — уздыхнула Маша.

— І як мая сястра, — захіхікаў Мішка.

— І як класная, — хмыкнуў Сеўка, працягваючы калупаць жалезную скрыначку адвёрткаю.

Антон спачатку збіраўся раззлавацца, а потым усё-ткі рассмяяўся разам з усімі.

— Добра, — сказаў ён. — Праехалі. Але больш каб ніякай самадзейнасці!

— Слухаемся! — адказаў Сеўка, і раздражнёна адкінуў інструмент. — Не адчыняецца, — сказаў ён, — ніяк.

Усе зажурыліся.

— А паразмаўляць са скрынкаю спрабавала? — запытаўся Антон у Лёлі.

— Спрабавала, — уздыхнула тая, — не адчыняецца…

— А як ты тую, першую, адчыніла?

— Ды не ведаю, — злосна адказала Лёля, — узяла яе ў рукі, яна сама адчынілася.

— Добра, — сказаў Антон, — не злуйся. Давай думаць, што рабіць далей. А гэтую жалезіну адкладзем на час.

— Думайце, — сказала Лёля і ўстала, — а я пайду прагуляюся.

— Ну куды цябе зноў нясе! — натапырыўся Антон.

— Ката пакармлю, — патлумачыла Лёля. — У нас там коцік сядзіць. Галодны.

— Я з табою! — падхапілася за ёю Маша.

— Ды ён хутка трэсне, ваш коцік, — прабубніў Мішка.

— А ты не бубні, лепей прынясі Сталавіку таз з кладоўкі, — заявіла Лёля і пайшла да выхада.

Антон глядзеў ёй услед, сціснуўшы зубы. Ён зразумеў, што ён зараз можа колькі заўгодна загадваць, але Лёлю ён усё роўна не спыніць, яна будзе рабіць толькі тое, што сама лічыць патрэбным. Антон вырашыў зрабіць выгляд, што ўсё нармальна.

— Добра, — пагадзіўся ён, — Лёля з Машаю кормяць коціка, Мішка з Любаю ідуць у кладоўку за тазікам. А мы з Сеўкаю тут пасядзім, падумаем, што рабіць далей.

Люба толькі кіўнула і накіравалася да выхада, Мішка пацягнуўся за ёю, па дарозе прыхапіў з сабою венік і панёс яго наперавес, як стрэльбу — відаць, на выпадак раптоўнага нападу дамавікоў.

* * *

Калі зайшлі ва ўнутраны дворык гімназіі, Лёля аўтаматычна прывіталася:

— Добры дзень, дамавік-бацюхна! Вой… Іншымі словамі… Васька, прывітанне!

— Прывітанне, прывітанне… — задумліва адказаў кот. — Нешта ж вас даўно не было. Усё ключ збіраеце?

— Збіраем, — уздыхнула Маша.

— Ну-ну…

— Вась, ты нам нічога не хочаш сказаць? — запыталася Лёля.

— А ты мне нічога не хочаш даць? — з'яхіднічаў кот.

— Вой, даруй…

Лёля хутка паставіла перад катом міску з ежаю. Ён, як заўжды, зрабіў выгляд, што ежа яго не ўразіла, пакруціў носам, і праз імгненне пачаў аплятаць так, што трашчала не толькі за вушамі, але і ва ўсім дворыку.

— Мрау, — сказаў Васька, вылізаўшы міску і адсунуўшы яе лапаю, — цяпер можна і паспаць.

— А паразмаўляць? — жаласна запыталася Маша.

— А які сэнс з вамі размаўляць? — запытаў кот. — Вы ж усё бегаеце, бегаеце…

Кот пачаў улягацца на сваю ляжанку паміж вялікім карэннем дуба. Але, мяркуючы па ўсім, апошнім часам коцік добра еў — яго задняя частка адмаўлялася там размяшчацца.

— А што нам рабіць? — запыталася Лёля.

Кот зноў, як у мінулы раз, выразна пастукаў сябе кіпцюром па ілбе. Ён запіхнуў паміж карэннем заднія лапы і цяпер раздумваў, як бы яму больш зручна прымасціцца.

— Дзе нам шукаць частку ключа, якая звязана з паветрам? — запыталася Лёля.

— Ды вядома дзе, — сказаў кот, — у школе.

— У якой частцы школы? — працягвала гнуць сваё Лёля.

— У паветранай, — адказаў кот, прыціснуў адну лапу да вуха і агідным голасам зашыпеў. — Паветра, паветра, я — зямля! Як чуеце, прыём!

— У радыёрубцы? — запыталася Маша.

— Якія вы ўсё-ткі дурненькія, — пазяхнуў Васька і паспрабаваў мудрагелістым спосабам выгнуцца вакол уласных задніх лап.

Маша бездапаможна паглядзела на Лёлю.

— Я не ведаю, што яшчэ спытаць, — сказала яна.

— А дарэмна, — адазваўся Васька, — зараз самы час пытацца, я зараз нікуды хадзіць не буду, значыцца, ні казак, ні песень часова не прадбачыцца.

Лёля напружана думала, а Маша прыкметна ажывілася.

— А хто гэта тут біўся ў двары, ты ведаеш?

— А як жа, — адказаў кот, — хто ж не ведае! Белыя з чорнымі.

Васька стаміўся выкручвацца, вылез са шчыліны паміж карэннем і пачаў укладацца на ім зверху. Бяда была ў тым, што адна з лап абавязкова сазлізгвала, і даводзілася пачынаць усё спачатку.

— А хто такія гэтыя белыя і чорныя? — уступіла ў размову Лёля.

— Ну, дабро і зло, як варыянт…

— Нашы і не нашы? — запыталася Маша.

— Неее, — працягнуў кот, — яны ўсе вашы. Так што вашы і… вашы. Вох, нешта непрыемна мне… Заўтра мне дыетычнага чаго-небудзь прынясіце…

Васька сеў на корань і з тугою глядзеў на сваё законнае, але такое недаступнае месца. Лёля злітавалася, узяла яго ляжанку і перанесла ў іншае месца, больш прасторнае.

— О! Гэта ж зусім іншая справа! — узрадаваўся Васька, разваліўся ўпоперак падсцілкі і супакоена забурчаў.

— А гэтыя, якія нашы і… нашы, яны на нас не нападуць?

— А навошта? — здзівіўся кот. — Яны, хутчэй за ўсё, пакуль нават не прыкмецілі, што вы тут…

— Не падабаецца мне гэтае «пакуль», — задумліва сказала Лёля. — Нехта з дамавікоў сказаў, што «пакуль» яны для нас бяспечныя. Такое ўражанне, што ўсё самае цікавае ў нас яшчэ наперадзе…

— Разумная дзяўчынка! — пахваліў яе Васька.

Потым пацягнуўся, хіхікнуў, выцягнуўся ва ўвесь свой кашэчы рост і горда заявіў:

— Ёсць яшчэ такая хвароба… лянота.

— Гэта ты да чаго? — запыталася Лёля.

— Гэта цытата, — сказала Маша, — амаль цытата. З «Панядзелак пачынаецца ў суботу». Нам яго як пазакласнае чытанне задавалі. Можа, гэта намёк на нешта?

— Ды вам намякаць — сябе не паважаць, — пазяхнуў кот. — Я ўжо абнамякаўся ўвесь. І спаць хачу. Усё! Кот не працуе. Адміністрацыя.

І Васька салодка захроп.

— Трэба браць дапамогу клуба, — сказала Маша.

* * *

У гэты час у кладоўцы Мішка стаяў на варце з венікам наперавес. Люба лазіла па паліцах і вяла адмахвалася ад пылу, павукоў і парад Кладавіка.

— Ты шукай, шукай, дзетка, — казаў Кладавік ледзь чутна, — тут шмат усялякага дабра. Усе прыходзяць, усе шнараць… А мне што? Мне нічога… Мне пасядзець бы ў цішыні, ды каб цёпленька было.

Прамаўляў Кладавік няспешна, як быццам бы нават лянотна, але кожную рэч, якую брала Люба, праводзіў спалоханым позіркам. Пад руку не лез — скурчыўся ў кутку.

— А даўно ты тут жывеш? — запыталася ў яго Люба.

— Ды я тут заўжды жыву, — сказаў Кладавік. — Як дом, значыцца, пабудавалі, так я тут і жыву.

— А колькі табе гадоў, дзядулечка?

— Гэта мне? Вой, шмат, унучачка… Не ведаю колькі… Даўно стаміўся лічыць.

— А да школы ты дзесьці жыў?

— Як не жыць, жыў, канечне… Хутар тут быў, недалёка, там жыў. Гаспадыня ў мяне была добрая, заціркаю мяне частавала. Потым у дачкі яе жыў, потым нехта з праўнучак яе мне куточак даў… А пасля памерла яна ад старасці…

— Хто, гаспадыня?

— Ды не, праўнучка. Гаспадыня таксама, зразумела, памерла… І падумаў я на старое месца падацца. А тут вось што… Ну, я ў кладоўку і залез. І сяджу. Бардак тут у мяне, а мне і ўсё роўна… Трэба ж недзе свой век дажываць.

Слова «бардак» Кладавік асабліва вылучыў, як быццам хваліўся: «Вось я якія выразы ведаю!»

— А які ў вас, дамавікоў, век?

— Ды звычайны, як і ва ўсіх…

— Любка! — не вытрымаў Мішка. — Ты доўга там?

Люба не адказала, закапаўшыся ў хлам па вушы. З кучы яна выцягвала то адну рэч, то другую, з прыкрасцю хмыкала і кідала сабе за спіну.

— Ты, дзядуля, даруй, — мармытала яна. — Мы зараз хуценька…

— Эх, — уздыхнуў Кладавік, — усё ў вас цяпер хуценька… Не, каб пасядзець… пакумекаць…

Мішка ўсё больш нерваваўся, таму што за кучай барахла Люба з цяжкасцю

пазнавалася. Для надання сабе дадатковай адвагі ён выбраў з кучы важкую медную трубку і ўзброіўся яшчэ і ёю.

— Папрасіць па-добраму дамавіка, — працягваў мармытаць Кладавік, — ён і сам усё аддасць… Не — трэба хуценька… быстранька…

Люба перастала перабіраць завалы.

— Вой! — сказала яна. — Дык давайце я вас папрашу па-добраму!

— Давай, — лёгка пагадзіўся Кладавік.

Люба паглядзела на Кладавіка. Ён не адводзіў ад яе позірку, у якім было чаканне. У Мішкі рэзка засвярбела паміж лапаткамі, і ён скарыстаўся меднаю трубкай, каб пачухацца.

— Я люблю, калі мяне па-добраму просяць, — усміхнуўся Кладавік. — Адразу ўсё аддаю.

— Дык і мне аддай, — сказала Люба як мага больш душэўна, — калі ласка!

— Аддам, як не аддаць. Толькі ж ты, як след папрасі.

— Дык я і прашу!

Кладавік з горыччу пакруціў галавой:

— Забылі… усе ўсё па-за-бы-валі…

Мішка нечакана для сябе павярнуўся да Кладавіка і выдаў:

— Дамавік-кладавік, будзь чалавекам, нагуляўся — аддай!

— Амаль дакладна, — ухвальна кіўнуў Кладавік. — Толькі не «нагуляўся», а «пагуляў» трэба было сказаць!

— Пагуляў — і аддай! — паслухмяна выправіўся Мішка.

— Вось і добранька! — з гэтымі словамі Кладавік падняўся і выцягнуў з-пад сябе памяты медны таз.

Мішка пачухаў патыліцу. Люба прыняла ад старога таз і здзіўлена ўдакладніла:

— Дык ты на ім увесь час сядзеў?

— Ага. У ім добра. Спакойна.

— Але ж я шукала…

— Ага. Калі не шукаць — як знойдзеш?

Люба зразумела, што наступнае пытанне будзе гучаць зусім па-дурному, але задаць яго не магла:

— А чаму ты мне яго адразу не аддаў?

— Дык ты ж не прасіла! — шчыра здзівіўся Кладавік.

Люба бездапаможна паглядзела на Мішку, як быццам хацела сказаць: «Ну і як вось з такімі справу мець?»

— Ну, — бадзёра прамовіў Мішка, — мы пойдзем ужо! Дзякуй за таз!

— Але, ідзіце мілыя, — заківаў Кладавік. — Толькі дабро на месца пакладзеце, угу? А то я ўжо старэнькі, мне самому цяжка…

* * *

Лёля і Маша сядзелі побач з Васькам і чухалі яго ў чатыры рукі. Кот быццам бы спаў, але як толькі дзяўчынкі пераставалі яго ўлагоджваць, тут жа незадаволена бурчаў і расплюшчваў адно вока. Металічная скрыначка, здабытая ў кабінеце хіміі, ляжала ў Лёлі на каленях.

Маша ціхенька, каб не патрывожыць свяшчэнны сон ката, рассмяялася.

— Нічога сабе! — адказала яна на нямое Лёліна пытанне. — Цалюткі дзень дамавікоў улагоджваем, нейкіх чарадзейных змей вадой разганяем, гаворачага ката за вухам чухаем… І быццам бы ўсё гэта так і трэба!

— Ды ўжо ж, — усміхнулася Лёля, — у казку трапілі… і завязлі ў ёй.

— А я, — летуценна прамовіла Маша, — лепш бы не ў казку трапіла. Я лепей бы ў «Трох мушкецёрах» апынулася.

— А хіба нам іх задавалі? — здзівілася Лёля.

— А я іх так прачытала… Для сябе! Вось там было б класна!

Маша нават ускочыла, каб лепш паказаць, як здорава было б у вялікім творы Аляксандра Дзюма-бацькі. Васька сярдзіта расплюшчыў вока, але Маша гэтага не заўважыла.

— Уяўляеш, Лёля! Ты была б у такой шыкоўнай сукенцы! Як… як святочны торт! Ну і прычоска там… вэлюм… веер!

Маша прысела ў глыбокім рэверансе.

— А ты? — засмяялася Лёля. — Ты ў якой бы сукенцы была?

— Я? — Маша на імгненне збянтэжылася, але ўсё-ткі прызналася. — Я была б у штанах, камізэльцы, батфортах… І ў плашчы мушкецёра!

Маша схапіла нейкую галіну і пачала ёю размахваць.

— Абараняйцеся, гвардзейцы кардынала! Адзін за ўсіх — і ўсе за аднаго!

Лёля ўжо не смяялася, толькі галавою круціла. Зараз Маша зусім не была падобная на зубрылку з першай парты, да якой усе прывыклі. І галінай махала гэтак умела, што адразу можна было зразумець — трэніравалася.

Васька вырашыў прачнуцца канчаткова і незадаволена сачыў за скачкамі ашалелай дзяўчынкі, якая замест таго, каб коціка гладзіць, рабіла выпады і блакіравала нябачныя ўдары.

— Вось табе! — весела крычала Маша. — І табе! Шэльма! Тысяча чарцей!

Нечакана Маша замерла каля Лёлі, пераможна ўзняўшы галіну да неба:

— Усё! Ворагі пераможаны! Гонар каралевы ўратаваны!

Лёля са здзіўленнем глядзела на Машу.

— А дзе ты фехтаваць навучылася? Ты на секцыю ходзіш?

Машка адразу скісла.

— Калі б… — уздыхнула яна.

— А што? У нас жа недалёка, у «Спартаку», гурток ёсць, у мяне там аднакласніца займаецца, са старога класа. Калі хочаш, я даведаюся…

— Ну… — замялася Маша. — Разумееш, гэта ж не па-жаночы, і ўвогуле…

— Чаго? — здзівілася Лёля. — Што не па-жаночы? Гэта ж цэлы від спорту, і дзяўчынак там нават больш, чым хлопцаў.

— Ну а раптам гэта будзе перашкаджаць вучобе… — зусім сумна сказала Маша.

— Табе?! — Лёля ажно прыўстала ад здзіўлення. — Перашкаджаць вучобе?! Маш, ты даруй, канечне, але калі ты будзеш трошкі менш вучыцца, дык яно толькі да лепшага. Маш, ты чаго? Ты што, плачаш, ці што?

Лёля замітусілася, стараючыся зазірнуць Машцы ў твар, а тая ўсё адварочвалася і спрабавала схаваць слёзы.

— Маша… — разгублена сказала Лёля. — Што здарылася?

— Ды я пайшла б, — хлюпнула Маша носам, — я пайшла б, канечне… Мяне мама не пускае-е-е… Яна кажа, што няма чаго без толку кіем махаць… што вучыцца трэба… вось я і вучуся…

— Але, Маша, — яшчэ больш разгубілася Лёля, — ты і так выдатніца, куды табе яшчэ вучыцца…

— Ну так, выдатніца, — хлюпнула носам Маша, — у мяне ў мінулай чвэрці за кантрольную была «васьмёрка», а па фізіцы наогул «сем» за самастойную…

— Але за чвэрць жа ўсё роўна «дзявятка», — сказала Лёля, — немагчыма ж на ўсе «дзявяткі» і «дзясяткі» вучыцца…

— А мама кажа, што можна, — заплакала Маша, — што гэта ўсё ад ляноты. І што я павінна, таму што потым трэба будзе паступаць, і што ва ўсіх блат, а ў мяне няма, і мне трэба будзе самой…

— Ты хоць на вуліцы гуляеш?

— А з кім мне гуляць? — уздыхнула Маша. — Ды і пакуль усе ўрокі зробіш, ужо амаль ноч. Я ж яшчэ на нямецкую мову хаджу, і музыка ў мяне…

— А музыка табе вучыцца не перашкаджае?

— Не, музыка — гэта таму, што ўсе прыстойныя дзяўчаты павінны ўмець музіцыраваць.

— Ведаеш, — усміхнулася Лёля, — ты не надта ж падобная на прыстойную дзяўчыну, калі з кіем скачаш.

— Вось і мама гэтак кажа, — сумна сказала Маша, — я спрабавала растлумачыць… Я з Інтэрнэта падручнік скачала і трэніравалася дома… Пакуль нікога няма… Але давядзецца мне ўсё гэта кінуць… Накрыецца мая мара медным тазікам…

— Можа, і не накрыецца… — задумліва прамовіла Лёля і тут жа змяніла тэму, — але зараз мы лепш пойдзем да астатніх. Спаць даўно трэба, пераначуем — болей пачуем.

Маша паслухмяна пайшла ўслед за Лёляю ў спартыўную залу.

* * *

— Усё, адбой, — загадаў Антон.

Гімназісты ляжалі на матах у спартзале і слухалі начное школьнае жыццё. Дамавікам не спалася. Па ўсім будынку ляпалі дзверы, сюд-туд чуўся тупат, шастанне ці прыглушаны, ледзь чутны шэпт.

— Цікава, — запытаўся Антон, — яны заўжды ноччу гэтак шастаюць?

— Угу, — адказала Лёля, — толькі звычайна людзі іх не чуюць. У іх жа ноччу самае жыццё пачынаецца. А ты ўжо ведаеш, што мы будзем рабіць заўтра?

— Шукаць, — паціснуў плячамі Антон. — У нас пакуль адна справа.

— А дзе?

— Добрае пытанне, — пасміхнуўся Сеўка. — Слухайце, калі ўжо мы не спім, давайце паспрабуем знайсці ў словах ката што-небудзь карыснае. Раптам атрымаецца!

— Ну хіба што «раптам», — прабурчаў Мішка.

— Так, Лёля, Маша, расказвайце, што вам гэтая жывёліна нагаварыла?

— Ён Стругацкіх цытаваў, — сказала Маша, — «Панядзелак…».

— О! Мая любімая кніжка! — выгукнуў Сеўка. — А калі гэта намёк? Можа, што-небудзь з днямі тыдня? Сёння ў нас што?

— Серада, — адказаў Антон.

— Зразумела… Ні панядзелка, ні суботы… Можа, трэба пачакаць, і ў суботу што-небудзь праясніцца? Хоць час жа застыў… А можа, трэба ад прозвішча танцаваць? Стругацкія… Можа, нам трэба што-небудзь абстругаць?

Слухаць Сеўку, які сам прапаноўваў ідэі і сам жа іх адкідваў, было складана.

— А вы габлюеце на ўроках працы? — запыталася Лёля, каб перавесці размову ў больш практычнае рэчышча.

— Не, — адказаў Антон, — мы тэрыторыю прыбіраем. А можа, трэба дуб абгабляваць? Кот пра дуб нічога не казаў?

— Не, — уздыхнула Маша, — ён толькі дурыўся. Мы яго запыталі: «Дзе паветраная падказка?», а ён такім дурным голасам адказвае: «Паветра, паветра, я — зямля!»… А потым яшчэ і хіхікаў над намі, што мы намёкаў не разумеем…

Сеўка задумаўся, потым адным рыўком сеў і пляснуў рукамі.

— Ну вядома! — закрычаў ён. — Гэта ж нават не намёк, ён жа прамым тэкстам сказаў! У яго земляная падказка! Ён — зямля! Дакладней, дуб — зямля! А яшчэ больш дакладней, там гэтая зямля вакол дуба! З паветрам потым разбярэмся! Пайшлі туды!!!

— Чаго вы так гарлапаніце? — сонна запыталася Люба. — Спіце! Выспіцеся, дык і пойдзеце, куды хочаце.

— Ды чаго час губляць? — сказаў Сеўка.

Ён ужо гатовы быў бегчы, хапаць, змагацца…

— А Люба ж мае рацыю, лепш нам паспаць, — сказала Лёля. — Заўтра раніцай Васька будзе галодны, і з яго падчас сняданку хоць нешта можна будзе выцягнуць. А зараз мы яго і пабудзіць жа не зможам.

— Я змагу, — сказаў Мішка і пагрозліва патрос меднай трубкай, якую ён прыхапіў з сабой з уладанняў Кладавіка, — я яго пабуджу… Назаўжды…

— Сеўка, кладзіся! Мішка — ціха! — сказаў Антон. — У нас адбой. Усім спаць! Пад'ём у…

— У 18-35, — хіхікнуў Сеўка, прадэманстраваўшы мабільнік з намертва спыненым гадзіннікам.

— Як я падымуся, так і пад'ём! — адрэзаў Антон.

Усе запоркаліся, уладкоўваючыся больш зручна, і ўжо праз некалькі хвілін усіх змарыў сон. Лёля ціхенька паднялася, азірнулася, пстрыкнула пальцамі, пашаптала нешта… Паменшаны Аркадзь Іваныч узнік каля яе амаль адразу. Яны сакрэтнічалі даволі доўга.

— Ды не змагу я гэтак хутка! — шаптаў фізрук. — Не паспею. Давай крыху пазней…

— Толькі, каб як па-сапраўднаму! — сказала Лёля.

— Крыўдзіш! — адгукнуўся Аркадзь Іваныч. — У мяне, ведаеш, якія хлопцы? Арлы!

— Дзякуй! — прамовіла Лёля.

— Рана яшчэ, — сказаў фізрук, — і з цябе пачастунак.

— А як жа! — усміхнулася дзяўчынка.

Дамавік знік, быццам яго і не было. Хвілін праз пяць заснула і Лёля.

На гэты раз нікому нічога асаблівага не снілася — нейкая каша з дамавікоў і катоў. Нават Антоха ў сне пабачыў сябе спячага. Прычым ён глядзеў на сябе як бы збоку, нават успомніў гісторыі пра мёртвых, душа якіх адлятае і бачыць цела аднекуль зверху. Антон прыслухаўся да сябе, але нічога асаблівага не ўчуў. Ніякай такой асаблівай смерці. І нават далёкая небяспека, да якой яны з сябрам беглі два мінулыя сны, неяк прытупілася — відаць, таксама адпачывала. Антоха тройчы перакуліўся вакол сябе і лёг.

## Глава 9

## РУСАЛКА НА ГАЛЛІ

«Раніца» аказалася больш мудронай, як «вечар». Сеўка ўжо не ірваўся зараз жа капацца пад дубам, Мішка паглынаў сняданак, утаропіўшыся ў адну кропку, здаецца, не разумеючы, што ён есць. Антону нават прыйшла ў галаву шалёная думка падсунуць яму ў талерку што-небудзь неядомае — сурвэтку, напрыклад, — і паглядзець, што будзе. Але ён стрымаўся. Ён тут галоўны, не хапала яшчэ лухтою ўсялякай займацца.

Усе астатнія таксама былі нешматслоўныя, а Маша чамусьці ва ўсе вочы пялілася на Лёлю, але калі тая ўсміхалася ў адказ, Маша палохалася і пачынала паспешліва жаваць.

Ніхто не прамовіў ні слова, акрамя дзяжурных падзяк Сталавіку. Той не адказаў — толькі вусны пакрыўджана падціснуў і пачаў бурчаць пад нос: «Ну хто так есць? Трэба ж з радасцю, з задавальненнем…».

Да дуба падышлі ў засяроджаным маўчанні. Кот спаў, прыкрыўшы хвастом нос.

— Ну што, — запытаўся Антон, — нешта надумалі?

Ён спадзяваўся, што ўсеагульны ранішні пануры стан выкліканы імкненнем што-небудзь такое прыдумаць — і, магчыма, хто-небудзь што-небудзь скеміў. Антоха меў рацыю напалову. Усе думалі, што ніхто ні да чаго не дадумаўся.

— Гэтак і будзем стаяць? — запытала кашэчая спіна. — Ці ўсё-ткі пакормім няшчасную жывёліну, пазбаўленую самага святога — свабоды?

Лёля паставіла перад спінай латок са свежай смятанай. Васька зрабіў ласку павярнуцца супрацьлеглым хвасту бокам.

— Смятана, — жалобна прамовіў ён. — Зноў смятана!

І пачаў есці з такім выглядам, як быццам ратуе Сусвет ад страшнай атруты цаною свайго жыцця.

— Дык учора ж смятаны не было! — здзівілася Маша.

Кот не палічыў неабходным адказваць на ўсялякую бязглуздзіцу.

— Васечка, — ласкава сказала Лёля, — а што ты пра зямлю ўчора казаў?

Васечка таргануў кончыкам хваста ў тым сэнсе, што пайшлі вы ўсе са сваімі праблемамі, не бачыце — жывёліна занятая?

Мішка ўздыхнуў, запытальна зірнуў на Антоху і, атрымаўшы падбадзёрваючы ківок у адказ, падняў нахабнага ката леваю рукою за шкірку. У правай ён сціскаў медную трубку, якая палюбілася яму.

— Ты! — грозна зароў Мішка. — Нашу смятану жэрці — і нам жа хаміць?

— Мяу! — прахрыпеў Васька.

Мішка страсянуў яго так, што ў сярэдзіне ў ката нешта выразна булькнула.

— Мяу! — цвёрда адказаў Васька і зажмурыўся.

— Можа, дарэмна ты яго гэтак? — асцярожна запыталася Лёля.

— Магу і не гэтак, — з пагрозай адказаў Мішка. — Магу і мазгаўнёй аб дуб! Ці трубкай па мазгаўні, выбірай!

Мішка, усё з той жа пагрозлівасцю, адвёў руку з трубкай. Кот зажмурыўся яшчэ больш. Па яго выгляду было відаць, што ён хутчэй памрэ, чым падпарадкуецца грубай сіле. Грубая сіла ў асобе Мішкі пачала раз'юшвацца. Невядома, чым бы гэта ўсё скончылася, калі б зверху, з галін не пачуўся булькатлівы, як быццам нават падобны на кудахтанне, голас:

— Юнак, вы яго добра трымаеце?

Усе прысутныя, акрамя Ваські, дружна паглядзелі ўгору, але ў густым голлі дуба нічога не разгледзелі.

— Моцна трымаю! — адказаў Мішка і, відаць, каб пераканацца ў праўдзівасці сваіх слоў, яшчэ раз страсянуў ката.

Васька коратка мяўкнуў.

— Вы ўжо як мага мацней, калі ласка!

І з гэтымі словамі на зямлю спланіравала дзіўная істота. Памерам яна нагадвала курыцу. Зрэшты, курыцу яна нагадвала ўсёй сваёй ніжняй часткай: кіпцюрастыя лапы, пух, пер'е, крылы… А вось галава на гэтым птушыным цельцы была бясспрэчна чалавечая, больш таго, жаночая. І вельмі знаёмая…

— Добры дзень, цёця Ларыса! — аўтаматычна прывіталася Люба.

Галава цёці Ларысы — тэхнічкі, якая трымала ў страху ўсю школу, — дакорліва зірнула на Любу і звярнулася да Антона:

— Вы не супраць, калі я паем?

— Ды калі ласка, — адказаў Антон паспешліва.

Тэхнічка была адзіным чалавекам у школе (акрамя дырэктара), якога Антон пабойваўся і нават не саромеўся ў гэтым прызнацца. Цёцю Ларысу ўсе пабойваліся. І дырэктар, дарэчы, таксама.

Паўптушка-паўтэхнічка з апетытам узялася за смятану. Васька нема завыў.

— Глядзі ў мяне! — на ўсялякі выпадак Мішка падняў ката як мага вышэй.

Васька завываць не перастаў.

Нейкі час усе моўчкі глядзелі, як цёця Ларыса-птушка аплятае kaцінуюежу, час ад часу кідаючы чэпкія позіркі на Ваську і выціраючы вусны крылом.

Калі яна, нарэшце, наталіла свой птушына-чалавечы апетыт, Сеўка адважыўся запытацца:

— Даруйце… а вы хто?

— Райская птушка! — горда адказала паўкурыца.

— О! — выказаў агульнае здзіўленне Антон.

У яго ўяўленні райская птушка павінна была выглядаць крыху па-іншаму.

— Ну добра, — незадаволена кудахтнула райская птушка, — можаце называць мяне русалкай.

На гэты раз ніхто не вымавіў нават неўразумелага «О!». Усе проста вытарашчылі вочы. На русалку цёця Ларыса ў курыным абліччы была падобная яшчэ менш.

І тут Мішку, што называецца, прабіла на хі-хі…

— Вой, не магу, — зарагатаў ён, — Русалка… Вой, ха-ха-ха… Вось яны якія, аказваецца… Вой, я зараз лопну ад смеху…

Мішка нават ката выпусціў, той адбегся ад яго на адлегласць выцягнутага ланцуга і пачаў нервова вылізвацца. «Русалка» на ўсялякі выпадак узляцела на галіну дуба.

— Вой, усё, гэта ўжо мяжа, — рагатаў Мішка. — І так ад гэтых дзівосаў дах едзе, дык яшчэ і гэта… Яна — русалка… Ха-ха-ха… Усё, я зараз памру…

Цёця Ларыса глядзела на Мішку з выразам такой спапяляючай пагарды на твары, што, па ідэі, ён павінен быў самаўзгарэцца і знікнуць.

— Вой, — сказала Маша, якая як зачараваная глядзела на птушку-тэхнічку, — «Русалка на галлі сядзіць»…

Лёля ляпнула сябе па лбе і сказала:

— Ну канечне! Цёця Ларыса! А я ж думала ўвесь час, навошта Пушкін русалку на дуб пасадзіў, ёй жа там нязручна, і ўвогуле суха.

— Разумная дзяўчынка, — сціснуўшы губы, паведаміла цёця Ларыса.

— Як гэта разумець? — запытаўся Мішка, перастаючы смяяцца.

— Падобна на тое, — патлумачыў Сеўка, — што ў даўніну русалкамі называлі вось такіх куры… э-э-э-э… птушак. Райскіх.

Райская курыца велічна кіўнула.

— І Пушкін, калі пісаў, меў на ўвазе менавіта такую русалку, — працягнула Лёля.

Цёця Ларыса прыняла карцінную позу, пакланілася спачатку ў адзін бок, а потым у другі.

— Вой, я такую ў кніжцы бачыла. У казках, — сказала Маша.

— А я ў старым мульціку, — сказала Люба.

— Ну вось і пазнаёміліся, — з царскім выглядам кіўнула цёця Ларыса.

Мішка прыгнечана маўчаў.

— Вы не перажывайце, малады чалавек, я вам дарую ваша невуцтва, — міласціва паведаміла Русалка. — Я, калі пад'еўшы, — добрая.

Васька зашыпеў.

— Вой, баюся, баюся, — карцінна лапатнула крыламі цёця Ларыса. — Знайшоўся тут мне, вешчы Баян, трапло казачнае…

Васька паімкнуўся заскочыць на галіну, але не змог.

— Жэрці менш трэба! — сказала Русалка. — Хутка ў школу не пралезеш.

Васька выдаў вантробнае кашэчае завыванне і адышоў як мага далей, рыхтуючыся да скачка.

— Глядзі-тка, — захіхікаў Мішка, — у Ваські чалавечую мову адняло.

— Вы абудзілі ўва мне звера! — паведаміў кот скрозь зубы. — Даўнавата я не снедаў русалкамі…

— Вох-хо-хо, — заквахтала цёця Ларыса, — лапы кароткія!

— Мррраy!

— Морда трэсне!

— Урррр!

— Пуза падбяры, якая ганьба! І прыбіраць за сабою трэба!

— Слухай, падобна, яны ўжо не першы год сварацца, — шэптам сказала Лёля Антону.

Антон кіўнуў.

— Даруйце, — сказаў ён, — можа, вы нам раскажаце што-небудзь пра зямляную частку ключа, ды і сварыцеся на здароўе, а?

Кот і Русалка са здзіўленнем паглядзелі на прысутных, яны паспелі цалкам забыцца пра іх існаванне.

— А? — запыталася Русалка. — Ах, гэта!

Яна зноў прыняла карцінную позу, адкашлялася і праспявала, расцягваючы галосныя, як бацюшка на службе:

— Капайце ўглыб чацвёёёртага вымярэння. І там на ўзроўні вяліііікай бітвы вы знойдзеце тое, што вам патрэээбна. Тоўстая морда! Тоўстая морда!

Русалка звесіла з галіны крыло, Васька сутаргава паспрабаваў да яе даскочыць, зачапіў кіпцюром і зваліў уніз, проста сабе на галаву. Райская птушка зараз жа падхапілася, і пакуль Васька выплёўваў пер'е, стала і адбеглася па зямлі на бяспечную адлегласць.

— Бе-бе-бе, бе-бе-бе, — пачала дражніцца яна, скачучы ў сантыметры ад Васькавай лапы. Далей беднага ката не пускаў ланцуг.

Усе ўзрушана глядзелі на гэтае вар'яцтва.

— Вось ужо ніколі не думала, што ў цёці Ларысы такі характар, — сказала Маша. — А з выгляду прыстойная жанчына…

— Ну, ты з выгляду таксама… — Сеўка запнуўся. — А аказваецца, нічога, нармальная…

***Працяг у наступным нумары.***

***Пераклад з рускай Раісы БАРАВІКОВАЙ.***

Ян РАДВАН

# РАДЗІВІЛІЯДА,*

## або ПРА ЖЫЦЦЁ І ДЗЕІ, СЛАЎНЫЯ ПОДЗВІГІ БЕССМЯРОТНАЙ ПАМЯЦІ НАЙСВЯТЛЕЙШАГА ПАНА Мікалая Радзівіла, князя ў Дубінках і Біржы Віленскага княства, а таксама наймацнейшага ваяводы войскаў Вялікага Княства Літоўскага

### *Кніга першая*

Смела пагнаўшы каня, разагнаўся і скочыў да продкаў![1]
Цяжка паверыць, што ён змог адзін немагчымае здзейсніць,
Смела закрыўшы сабой апраметнай адкрытую пашчу!
Гэткай ахвяры яго і багі пазайздросцілі нават…
Вось сярод мілых дзяцей пачынае (пакуль што ў забавах)
Княжыч сябе рыхтаваць, каб жыццём абмяняцца з хвалою.
Сёння вітаюць цябе і Масілья[2], і Сірты, а з імі
Людзі шматлікіх краін пад гарачымі зоркамі Рака…
Гэтым юнацкім жыццём апякуецца Вечная Слава.
Помнячы добра пра вас, о героі, вялікія справы
Хоча ўчыніць Радзівіл — і жыве, не марнуючы часу.
Сэрца гартуе сваё для суровых і цяжкіх турботаў,
Сам патрабуе каня, сам нацягвае марсавы стрэлы.
Вось аднагодкаў сваіх да ваеннай гульні прыцягнуўшы,
Вершнікам смелым нясецца — наперад, назад, развароты…
Гоняць яны па лясах хутканогіх пужлівых аленяў,
Потым у марсавай бітве драўляных праціўнікаў пляжаць, —
Вучацца разам вайне: як змагацца завостранай шабляй,
Як паварочваць яе, як спрытней ухіліцца ад дзіды.
Гэтак праходзіць дзяцінства ў занятках суровага Марса:
Конік пярэсты пад ім, у бакі яго моцна ён шпорыць,
Зззяючы ясным шчытом, непахісна нясецца ў атаку.
Шлем яго медны, глядзі, упрыгожаны пер’ем наверсе.
Вось калясніцай кіруе, каб біцца на полі адкрытым:
Коні ляцяць пад ярмом, ажно полымя з ноздраў ірвецца.
Вось ён нацягвае лук, аж пакуль між сабой не самкнуцца

* Працяг. Пачатак у № 1, 2, 3 г. г.

1 Згодна старажытнарымскаму паданню, у 362 г. да Р. Х. пасярод рымскага форуму з’явілася шчыліна невымернай глыбіні. Пракокі абвясцілі, што яна павінна быць запоўнена, інакай горад напаткаюць вялікія няшчасці, а запоўніць яе можна толькі самым каштоўным, што ёсць у Рыме. Тады юнак Марк Курцый Руф са словамі “няма ў Рыме нічога больш каштоўнага за зброю і адвагу” ўскочыў на каня і ў поўным узбраенні кінуўся ў бездань, якая пасля гэтага адразу ж закрылася.

2 *Масілья* — антычная назва горада Марсэля.

Верхні і ніжні канцы, так што можа намацаць лявіцай
Востранькі кончык стралы, а правіцу заводзіць за вуха.
Вось ён шыбае мячом, вось кідае спічастую дзіду,
Грозны, суровы ў душы, ён рыхтуецца з ворагам стрэцца,
Вучыцца, як расстаўляць лепшым чынам на полі атрады,
Як навучыцца трываць пасля першай магчымай паразы,
Як ваяроў наймудрэй па шарэнгах бяспечна пастроіць.
Ратныя хітрасці ўсе і законы ваеннай навукі
Ён спасцігае: як роў вакол лагера выкапаць хутка,
Валам абнесці муры, уварвацца ў высокую крэпасць
(Спосабам лёгкім, цяжкім), і, калі выступае ўжо вораг,
Як навучыцца складаць мудры план пераможнае бітвы.
Ён патрабуе дадаць да сутычак няўмольнага Марса
Пасткі падманаў ліхіх; і вайной, і бязлітаснай сечай
Сам пагражае мардве, а ў душы перамогі з трыумфам
Прагна чакае, і вось ён з пытаннем звярнуўся да бацькі:
«Бацька, няўжо ты мяне як саюзніка ў бой не паклічаш?
Мушу цябе аднаго адпусціць у агонь небяспекі?
Гэтак імкнешся цяпер перамогу здабыць над маскоўцам,
Крэпасці там разбурыць ды спустошыць гаротныя землі!
Ты ж мне, мой бацька, цяпер не дазволіш пайсці за хвалою?
Славай не грэбую я, і такі ж маіх продкаў быў звычай,
Я — з гэтай самай крыві, і хачу быць дастойным нашчадкам.
Дух мой, правіца мая выракаюцца марнай пацехі.
Бацька! Дазволь жа цяпер далучыцца да бітвы крывавай!
Ясная Цнота праз цяжар узносіць мужоў да нябёсаў,
Толькі ў суровым баі праяўляецца моц і адвага:
Гэтак героі заўжды заслугоўваюць памяць народа,
Гонар Айчыны сваёй. Гэтак крочаць героі да зораў».
Гэтымі словамі ён моцна ўзрушыў бацькоўскае сэрца:
Сына імкнецца абняць і не можа стрымаць хвалявання:
«Любае сэрцу дзіця, для мяне ты — адзіная радасць.
Цешуся, сыне, што ты хочаш быць годным продкаў вялікіх.
Ясна, што ўбачу тваю, Радзівіле, вялікую славу.
Наш Усявышні Айцец — Ён усё заўважае, кіруе
Лёсам, нязменным заўжды — хай спрыяе вялікім задумам.
Хлопча, не рвіся ў вайну, разумею я добра, што значыць
Водар чаканай хвалы, першы плод перамогі здабытай,
Шмат застанецца яшчэ на твой век розных войнаў, мой сыне,
Брамы для войнаў яшчэ не зачыняць нябёсы, і нельга
Сёння пакласці адлік залатому спакойнаму веку.
Ты ж выпраўляйся цяпер у палац каралеўскі, і будзь там
З Аўгустам побач, а ён запануе ў Літве неўзабаве:
Хутка ён будзе прымаць каралеўскую ўладу ўрачыста.
Аўгуст цяпер валадар аўгусцейшы літоўскага краю.
Ты роўны векам яму, роўны гожай аздобай юнацтва:
Шчокі аднолькава вам пакрывае пушок так пяшчотна!
Там дзеля славы сваёй прыкладай намаганні старанна,
З ім навучайся ўсяму, паслядоўна дарогаю цноты
Гонар пачні здабываць, гэта будзе найлепшым зачынам».

Што мне яшчэ тут дадаць? Як сябе паказаў ён выдатна?
Як ён заслугі здабыў перад цэлым дваром каралеўскім?
Вернасць Айчыне сваёй, каралю паслухмянасць без змусу
Ён праявіў, хоць і быў у такім маладым яшчэ веку!
Князь жа літоўскі, даўно сваю ўвагу на гэта звярнуўшы,
Робіць выснову тады, што адзначыць належна і годна
Трэба заслугі яго, і, зірнуўшы на хлопца прыязна,
Кажа: «Ты слаўны і сам, але справаю ратнай слаўнейшы,
Князь Радзівіл! Гэткі дух даражэйшы за ўсе падарункі.
Як жа цябе ўшанаваць і якою аддзячыць адзнакай?
Што ўзнагародай табе і належнай аздобай прызначыць?
Слава ў дзяяннях маіх без цябе не народзіцца, пэўна.
Будзе вайна альбо мір — ты мяне падтрымаеш, як толькі
Дойдзеш да сталых гадоў, станеш мужам магутным дзяржаўным.
Годны прывабны арол і славуты трырожац[1], цябе я
З ласкай прымаю цяпер, і мой голас — праўдзівейшы сведка.
Што б ні прызначыў мне лёс, я ахвотна табе давяраю
Дбаць пра здароўе маё: наліваць у мой келіх напоі
Рознага кшталту, калі пры двары каралеўскім — застолле.[2]
Вось жа, за вернасць тваю атрымай гэты дар мой вялікі!»
Так адказаў Радзівіл: «О кароль найвялікшы, ты ўбачыш:
Дзень не засведчыць ніводзін, што я да адвагі няздатны.
Буду гатоў да ўсяго, што захочаш — і ў міры, і з Марсам,
Што б надалей ні прынёс мне ліхі пераменлівы шанец:
Цешыцца буду жыццём, ці загінуць прызначыць Узвышні,
Воля якога заўжды ўсімі справамі ў свеце кіруе.
Хоць бы гадзіны жыцця для мяне працягнуліся троху!
Хай не так хутка душу смерць аддзеліць сурова ад цела!
Першы пачну за табой уздымацца да самага неба,
Толькі б ставала жыцця для цябе, княжа Аўгуст! Я буду
Подзвігам верным сваім пашыраць твае гонар і славу,
Толькі б нябёсы маім паспрыялі задумам высокім!
Што Сцыпіён! (Ён імя з перамогі над Афрыкай мае)
Што Ганібал-афрыканец! Хай той — улюбёнец Фартуны,
Гэты — суровага Марса… Мяне ім ніяк не адолець!
Княжа! Ад войска твайго, пад камандай маёй, маскавіты
Кінуцца разам наўцёк, а іх цар аж у Белых Азёрах
Будзе хавацца. І так пад жалезным абстрэлам памчацца
Праз Танаіс ды наўпрост аж да царства Каспійскага скіфы.
Хай пачынаюць цяпер нашы ворагі бітву — дазволь ім!
Потым маскоўскай крывёй я адпомшчу бязбожнаму люду…
Вось на вачах у цябе ваяры пераможаных рацяў
Пройдуць даўжэзнай чаргой, непадобныя зброяй і мовай:
Племя казанцаў і пераяслаўцаў, пазбаўленых зброі,
Дужых разанцаў і мурамцаў, моцна пускаючых стрэлы;
З імі — растоўцы, свавольныя тверцы, сяверцы таксама,

[1] Паэтычны перыфраз на аснове геральдычных знакаў герба Радзівілаў.

[2] Аўтарская глоса: За заслугі і доблесць стаў падчашым Вялікага Княства Літоўскага. На гэтай пасадзе Мікалай Радзівіл знаходзіўся з 1544 па 1551 гг.

Строй астраханскіх мужоў, што аж дыхаюць сілай; з ускрайкаў
Людзі — яны ад Дзвіны да халоднага мора вандруюць, —
Словам, вялікіх народаў і іх ваяводаў шарэнгі!
Здзівіцца моцна такой перамозе сястрыца-Еўропа,
Гожа адорыць цябе, мноства медных калонаў узвысіць,
Нават нязведаны край будзе славай тваёй захапляцца!
Хутка ўладарства тваё край Лібона прызнае, о Аўгуст,
Каб адламіць для сябе твайго поспеху нейкую частку».
Вось што тады Мікалай абяцаў каралю і прадказваў
Гонар вялікі, які неўзабаве павінен з’явіцца.
Сонца па колу свайму ідучы, пяць гадоў абярнула,
Мірнае даўшы жыццё ды бясхмарны спакой у дзяржаве:
Гэткае мора заўжды, калі сам уладальнік трызубца
Шляхам спакойным вядзе беласнежныя ветразі ў моры.
Сцішыўся сіні прастор і вятры навальнічныя змоўклі.
Спрытна вясёлы марак распускае над морам свой ветразь.
Гэтак літвіны жылі, супакой дабрадатны іх цешыў.
Эх, нетрывалае ўсё між смяротных!.. З Эўксінскага Понту
Раптам нападнік прыйшоў, навальніцу ўздымаючы люта.
Людзі бяспечна жылі — ён прынёс ім уміг небяспеку!
Ёсць гэткі край, дзе зямля амываецца хвалямі мора.
Полаўцы з племені готаў яго насялялі спрадвеку.
Тут шпацыруючы Марс для сябе меў найлепшы прытулак.
Скіфы адгэтуль паходзяць. Яны з гор Каўказскіх высокіх
Цэлай прыйшлі грамадой і, прайшоўшы цясніны Імая[1],
Разам напалі, адтуль жыхароў папярэдніх прагнаўшы.
Бедны раслiннасцю край, каласоў небагата зразае
Жнец сваім вострым сярпом, рэдкі плуг тут узворвае глебу.
Ніва ўрадлівым жнівом вельмі рэдка аратага цешыць.
Тут гарадоў не зашмат, жыхары ў абарону ад смерці
Мур не будуюць даўгі, здавальняюцца лёгкай здабычай,
Ставяць намёты кругом, а арда па прасторах вандруе.
Дзікі народ: іх душу не ўлагоджвае мірная праца,
Лютыя твары ва ўсіх, бессаромны і жудасны позірк.
Марс — у вачах іх, а смерць — у калчане, бо хуткія стрэлы,
З імі й падступны клінок яны пояць смяротнай атрутай.
Гэткую пошасць, багі, адвярніце, прашу, ад літвінаў!
Частка ардынцаў цяпер нападаюць на землі Манкопа,

[1] Згодна з тагачаснай гістарыяграфічнай традыцыяй, Ян Радван паведамляе, што татары (якіх у помніках лацінамоўнай літаратуры называлі скіфамі) раней жылі ў Каўказскіх і Імайскіх гарах. Адносна апошняй назвы расійскі вучоны Васілій Тацішчаў піша: «В Азии скифы ––перед Имаем или за горами Имайскими, их же иногда и Таурос именуют, однако ж о горах сих древние весьма не согласно пишут. Геродот их указывает за горами Тауринскими или Каспийскими, от которых Имаус в Индии происходит, и посему под местом скифов надлежит разуметь всю Персию и где были туркоманы, а также и Дагистань. Птоломей же указывает их на восток от Каспийского моря, где от них разные реки, в Каспийское море текущие, положил, Яксарт, ныне именуемая Аму, Оксус... Но Аральское море и текущие в него великие реки Амунь, Кувакан и Сыр ни под каким именем не помянуты... Посему оные Имайские горы, как думается, надлежит разуметь в Бухарии, отдельные или отрог Великого пояса, которые ныне Кичик Тау, т. е. Малые горы, и Алтау именуются».

Іншыя б’юць у свінец, што Авідзій пакінуў (пабачыць
Можна і сёння яшчэ мур даўжэзны свінцовы, што ў моры
Толькі знікае): аб мур выпрабоўваюць стрэлы ардынцы,
Скачучы конна дугой, у спаборніцтвах спрыт праяўляюць.
Там каняпас-азіят на павозку з быкамі складае
Дом свой, рыштункі свае, ды вандруе з усім гэтым скарбам
Полем шырокім, прытым ён вядзе мноства жонак з сабою.
Хіжы спрадвеку народ, ён ахвочы да новай здабычы;
Моладзь з дзяцінства заўжды здавальняцца малым мае звычку.
З добрага мяса каня, што спаткаў сваю смерць ці праз старасць,
Ці то ад пошасці злой, яны дружна прыносяць ахвяру,
Потым і самі ядуць той каніны падвяленай часткі,
Радасна цёмнае мяса з пладамі зямлі спажываюць.
Голад прагнаўшы, яны кабыліц набрынялае вымя
Тузаюць дойкай, і вось малаком напіваюцца цёплым.
Потым, калі не стае ім здабычы, а ў сэрцы мацнее
Схільнасць да Марса, яны налятаюць на землі Валыні
Цэлай ардой, як паток, што, прабіўшыся шляхам цяснінным,
Зверху абрушыўся ўвесь — ад яго наваколле трасецца,
Пушчы густыя равуць і бушуюць магутныя дрэвы.
Так нападае на край тое войска ліхіх каняедаў,
Хаты — адну пры адной — ненажэрным агнём вынішчаюць,
Вогнішчам ганьбяць святыні, забойствамі — плодныя нівы.
Скіфаў заўважыўшы раць, не ўскладай спадзяванняў на ўцёкі:
Быццам на крылах, ляціць агнямётны і грозны татарын,
Горшы за буйнага Каўра, за ўсіх Аквілонаў айчынных,
Крышыць навокал усё, навальніцы прыносіць знянацку,
Зброяй плюндруе палі, нават зоркі ён стрэламі дражніць.
Ціха крадзецца, бы воўк, што схапіў казляня цёмнай ноччу
Пашчай галоднай сваёй; нават чуйны сабака не чуе,
Як ён прабраўся ў загон; нават пёс маласійскі ў аздобным
Гожым ашыйніку — й той не ўлавіў бы ніводнага гуку.
Быдла прыціхла ад страху, а шэрых нападнікаў зграя
Рэжа, рабуе, ірве, наталяючы голад звярыны.
Гэтак і вораг ліхі, пераплыўшы прастор Барысфена,
Лютаму гневу свайму адпускаў усялякія лейцы.
Аўгуст наведваў тады Гедымінава дзецішча — Вільню.
Тут на нарады-піры дружным колам збіраў ён магнатаў,
Бавілі радасна час у бясконцых застольных бяседах…
Раптам прыйшла навіна, устрывожыўшы стольнае места:
Міру ў дзяржаве няма! Уварваўся бязбожны чужынец:
Ледзь не паўсюдна цяпер — кроў, забойствы, пажарышчы, слёзы…
Важных вяльможаў між тым на чарговую раду склікаюць!
Раптам юнак, ледзь жывы, у крыві, з пакалечаным тварам,
З самага пекла вайны прыляцеў, ацалеўшы цудоўна.
Ён не зважае на боль, на ашчэпу стралы, на разбіты
Цалкам калчан, ды адно да сената й манарха ірвецца,
Просіць увагі ў паноў ды абедзве рукі падымае.
«Яснавяльможны кароль, радавіты нашчадак Ягайлы,
Ты — паратунак для нас, патрабуем ваеннай падтрымкі.

Люты татарын цяпер край Валынскі бязбожна плюндруе!
Вёскам усім, гарадам ён прыносіць штодзённа пагібель.
Добрая частка зямлі шэрым попелам скрыта. Другая
Стогне пад скіфскаю шабляй, а трэцяя частка на шыі
Носіць гаротна кайданы… Захоплены сам Вішнявецкі!
Рэдкія толькі атрады змагаюцца з ворагам жорсткім.
Покуль буслы нетаропка збіраюцца з поўдня дадому,
Тысячы птушак у стаях па небу паўз іх пралятаюць.
Гэткія ж мы, як буслы, а татары — шматлікія птушкі.
Іх не палічыш дакладна, паўсюдна — вялізныя раці,
Стрэлы бясконцым дажджом закрываюць высокае неба.
Я падзівіўся — і вось: мне страла ў самы твар упілася.
Так што сюды я прыйшоў з асяроддзя пякельнае смерці.
Гэй, на цябе, валадар старажытнай Сарматыі, сёння
Сплаканых мноства вачэй пазірае: ратуй жа падданых!
Вы, бестурботнае панства, гляджу, не жадаеце ведаць,
Чым жа жыве ваш народ? Мы ў самоце, гароце, без зброі,
Вораг нас цісне вайной. Дык дазвольце ж сказаць мне, свабоду
Слова мне дайце цяпер! Вы не бачыце гора народа,
Блізкага вам? Цэлы край — толькі шэраг магільных узгоркаў!
Вам жа, вяльможы, няма ані клопату, ані турботаў…
Мы, неаплаканы люд, неадпомшчаных душаў кагорты,
Ціснемся аж пад Эўксін, а ў сталіцы — піры ды гулянка,
Вы асалоду п’яце ды казну спусташаеце шчодра
Мноствам банкетаў… А там скачуць ворагі, вострачы стрэлы…
Ліху канца не відно! Цела бацькі і дзеда заліта
Свежай крывёю сыноў; хлапчукоў, незамужніх дзяўчынак
З маткамі разам вядуць як трафей азіятаў… (Айчына!
Волатаў велічных край!) Што за землі вас прымуць, няшчасных?
Хтосьці з вас будзе трымаць не айчынную зброю, а вёслы,
Дзесьці на моры чужым непрыяцелю служачы ў войнах.
Хтосьці з вас трапіць у Крым, да далёкага скіфскага краю.
Пэўнага дня адплывуць назаўсёды, ды горка заплачуць…
Там, між радопскіх[1] цяснін, горка ўспомняць: «О край наш Валынскі!..»
Аж праз тры моры гукаць будуць з болем: «О край наш Валынскі!..»
Рэкі шырокія ўбачаць: «Глядзі, быццам край наш Валынскі…».
Вы, з агрубелай душой, апрануліся ў пурпур. Айчыны
Вам не шкада, і не сорам глядзець на бяду, на пакуты.
Дзе ж ты, сапраўдны літвіне! Бо вы — не літвіны: ідзіце,
Грайце, скачыце далей! Можа, часам, і скіфы пачуюць

[1] Радопскія горы цягнуцца на мяжы паміж Балгарыяй і Грэцыяй.

***Пераклад з лацінскай Жанны НЕКРАШЭВІЧ-КАРОТКАЙ.***

***Працяг у наступным нумары.***

Маргарыта ПРОХАР

# ІМКНЕННЕ ДА «ЗАЛАТОЙ НІЦІ» ВЫРАТАВАННЯ

## *(Пераасэнсаванне міфалагічных і фальклорна-хрысціянскіх вобразаў у чарнобыльскай прозе)*

Зварот да міфалогіі і фальклору ў вясковай прозе абумоўлены самімі рэаліямі і героямі з народа, які будаваў сваю жыццёвую прастору на аснове пэўных вераванняў, а «міфалагічнае як феномен культурнай традыцыі» пашырае кола вобразна-выяўленчых сродкаў для пісьменніка. «Першабытныя формулы», г. зн. «архетыпы» пастаянна сустракаюцца ў творах класікаў і, больш таго, існуе агульная тэндэнцыя да вяртання гэтых формул», — сцвярджае даследчык Нортроп Фрай. Міфалагічныя крытыкі, трэба адзначыць, шмат зрабілі для даследавання літаратуры, прыроды агульначалавечых «вечных» вобразаў, сімвалаў, тэм, канфліктаў, выяўленні інварыянтаў у літаратуры розных эпох, аднак адметным і маладаследаваным застаўся міфалагічны беларуска-ўкраінскі складнік твораў пра Чарнобыль. А для пісьменнікаў міфалогія і фальклор з'яўляюцца невычэрпнай крыніцай спазнання духоўнага жыцця народа, адным з важнейшых сродкаў узбагачэння асабістай мастацкай творчасці элементамі народнай культуры, жанравастылістычнымі формамі. Эсхаталагічнасць чарнобыльскай сітуацыі прымусіла аўтараў пераглядзець звыклыя міфалагічныя і фальклорна-хрысціянскія вобразы і іх устойлівыя дадатныя сэнсы, надаць у нейкай ступені прарочы матыў — матыў, які ўключае ў сябе радыкальны пункт погляду на духоўнасць на аснове недвухсэнсоўнага выбару паміж дабром і злом.

Адметна перададзена перастварэнне міфалагічных і фальклорна-хрысціянскіх вобразаў у аповесці Віктара Карамазава «Краем Белага шляху». Падзеі ў творы разгортваюцца ў час святкавання хрысціянскіх Пакравоў. Аднак гэта не фон, не дэкарацыя, а своеасаблівае напамінанне аб духоўнасці ў кантрасце разбуральнага часу і эпохі, адлюстраванне крызісу быцця. Кантрасным да апісання святых Пакравоў з'яўляецца адлюстраванне асаджэння радыяцыйнага бруду на Магілёўшчыну: «У першыя дні мая восемдзясят шостага года, (...) ноччу, пад раніцу, пачуліся выбухі, нібы над галовамі рваліся снарады ці ракеты. Пайшоў дождж, у вокны забарабаніў град, лёд з неба пасыпаўся буйны, як боб. А раніцай прыгрэла сонейка, і па вёсцы заблішчэлі сінія, з зялёнымі ды ружовымі беражкамі лужыны. Дзеці высыпалі на вуліцы голенькія, лезлі ў каляровыя лужыны і рагаталі, шчаслівыя. І толькі пазней вёска дачулася, што за шчасце разлілося ў яе пад вокнамі. Ліло з хмар, якія плылі з Чарнобыля на Маскву».

Хрысціянскія Пакравы — невыпадковы мастацкі сімвал у творы. В. Карамазаў скарыстоўвае хрысціянскую і фальклорную сімвалічнасць, і, як працяг, — фальклорныя і міфалагічныя мастацкія пераасэнсаванні сімвалічных вобразаў Аброка і Белага шляху, міфалагічнае ўспрыманне многіх спрадвечных вобразаў, наданне ім містычнага каларыту прадвеснікаў бяды, эсхаталагічнага кірунку. Галоўны герой Валетаў настойліва шукае выйсце, хоць міфалагічнае, містычнае, але падобнае да веры на збавенне, бо без веры і надзеі жыццё, яго працяг немагчымы. Такім выйсцем для яго з'яўляецца крыж-Аброк. Гэты мастацкі вобраз — адзін з асноўных і вызначальных у творы, процістаіць эсхаталагічнаму матыву: «Аброк вартуе вёску ад усіх, хто ў вёсцы, не распускае па свеце, са свету вяртае. Людзі яму прысягаюць у вернасці. Гэтак спрадвек. Людзі забыліся на Аброк. Яны яму здра-

дзілі. І растрэсліся вёскі». Мастацкі вобраз Крыжа-Аброка выступае ў аповесці сімвалам надзеі на продкаў, ураtавання ад Чарнобыля. І — вывад, спроба вярнуць ранейшы, дачарнобыльскі, жыццесварaльны час, адвечная вера ў магічную сілу, паколькі звычайная, рэальная сіла не здольная гэта зрабіць: «А мы зноў дарогу да Бога пакажам. Аброку хай моліцца. Аброк — Бог», — гаворыць Міцька, герой аповесці.

Яркі сімвалізм аповесці працягвае і мастацкі вобраз «Белы шлях» — своеасаблівая далейшая распрацоўка і пашырэнне пісьменнікам вобраза «Аброчны крыж». Белы шлях — сімвал нябеснага, а з паняццем неба ў хрысціянскай традыцыі асацыіруецца чалавечая душа, духоўнасць народа ў цэлым. «Валетаву здалося, што Белы шлях — гэта крыж, і не ляжаў ён, а стаяў над зямлёю. І стаяў, і плыў са сваёй белай крыжавінаю. Белыя ручнікі на крыжавіне віселі, на ветры матляліся. Хто іх павесіў? Хто паспеў ужо абрачыся зямлі і небу? Вакол белага крыжа сяйво зорак, Богавых дзетак, — яны абракліся на белым крыжы ручнікамі?.. Зноў усе думкі былі пра Аброк. Як жа так? Паставілі на сваім полі, а ён узнёсся на неба. Адмовіўся вартаваць Радзімцы? Паказаў шлях ратунку — Белы, у неба? На небе ратунак?»

Мастацкія вобразы «Крыж-Аброк» і «Белы шлях» набываюць міфалагічнае значэнне супрацьстаяння смерці. Нездарма галоўны герой аповесці Валетаў бачыць у небе Белы шлях, разумеючы яго як увасабленне адвечнага і светлага, што дапаможа людзям пераадолець эсхаталагічнае светаадчуванне — Чарнобыль душы, страх і пакуты. Такім чынам, праз пераўвасабленне адметнай хрысціянска-фальклорнай сімволікі ў моцныя мастацкія вобразы з сімвалічным і міфалагічным значэннем В. Карамазаў ярка і пераканаўча даносіць галоўныя ідэі твора, свой заклік не забываць пра родныя карані, спадчыну, духоўнасць, выстаяць у выпрабаваннях лёсу. Праз іх асэнсаванне і ўплыў на свядомасць кожны герой твора В. Карамазава праходзіць іспыт на вернасць сваёй зямлі і духоўнасці. Аўтар нібы правярае іх на трываласць — у адвечнай сістэме духоўных каардынат.

Паэтыка яшчэ аднаго беларускага пісьменніка Віктара Казько мае асаблівы міфалагічны, фальклорны характар, што надае чарнобыльскім творам абвостраную трагедыйнасць. Мастакоўская канцэпцыя В. Казько арганічна ўбірае ў сябе такія паняцці, як сям'я, род, радня, свет, продкі, памяць, спрадвечнае, прырода не толькі як фізічнае, але і духоўнае асяроддзе, паколькі ў душы герояў і аўтара жыве адчуванне прыроднага свету як жывога чалавека. У гэтым тэматычным і ідэйна-мастацкім рэчышчы ў асноўным і развіваецца яркая проза і талент В. Казько. Пра ідэю сваёй творчасці ён выказаўся так: «Праўда і моц, пэўна, за тым, калі робіш, імкнешся рабіць як для сябе, калі імкнешся не схлусіць сабе, то не схлусіш і іншаму». Таму «перад чытачом душа мастака павінна быць, яго боль, яго імкненне да ісціны».

Міфатворчасць, увядзенне міфа як «магічнага рэалізму» адкрывае новы ключ да спазнання творчай індывідуальнасці пісьменніка, раскрыццё адметнай грані яго творчасці. Імкненне В. Казько да вытокаў свядомасці, да фальклорнай спадчыны стасуецца з адпаведнымі праблемамі, якія раскрываюцца ў творчасці, увогуле. Раман «Неруш» — гэта раман-папярэджанне, раман перадчарнобыльскі, але ў сутнасці сваёй ярка нагадвае аб тым, да чаго можа прывесці нядбайнае абыходжанне з роднай зямлёй. Тут міфалагічнасць, фальклорны характар паэтыкі пачынае акрэсліваць эсхаталагічныя дачарнобыльскія матывы. Вось як, напрыклад, В. Казько апісвае забойства бусла: «У цішы, у аняменні нейкім сваіх і чужынцаў грымнула перуном на зямлю птушка, здрыганулася зямля пад нагамі ў Махахея, ускінулася ў грудзях сэрца, а з сэрца шуганула агнём, спёкай у вочы».

Увогуле, мастацкі вобраз бусла арганічна і трывала ўваходзіць, ужыўляецца ў агульную мастацка-вобразную сістэму многіх твораў В. Казько, і гэта нездарма: буселлелька — бог кахання і жыцця, душа беларускага краю. Гэты мастацкі вобраз будзе яркім і дамінуючым і ў аповесці В. Казько пра Чарнобыль «Выратуй і памілуй нас, чорны бусел», аднак там атрымае іншае значэнне. Разгледзім асноўныя міфалагічныя і фальклорна-хрысціянскія вобразы, іх мастацкае выкарыстанне ў адлюстраванні эсхаталагічных матываў у гэтай аповесці.

Напрыклад, сонца, якое сакралізавана і адлюстравана ў малюнках, узвялічана ў гімнах, міфічных паданнях, складаных рытуалах, уведзена ў магічныя тэксты. Пакланенне яму, а таксама атаясамленне з сакральным

бажаством было яшчэ ў арыяў, паколькі сонца — «адзіны Прабог, які быў створаны ў прыродзе і ў кожны перыяд гадавога цыкла быў і Ярылам, і Перуном, і Купалам, і Дубам, і Родам, але кожны раз заставаўся галоўным над багамі», — адзначае Т. Шамякіна. Сонца ўвасабляла супрацьлегласць Хаосу, парадак і гармонію. У творы В. Казько яно рэдка ўпамінаецца ў апісаннях, звязаных з адлюстраваннем паслячарнобыльскага стану вёскі і настрою яе жыхароў. Ды і ўпамінанне сонца абсалютна нязвыклае чытачу. Яго сустракае эсхаталагічнае чарнобыльскае сонца: «…пракінула гарачыя праменні ўзыходзячае сонца, узяло ў аблап і чырвона ўспарола да дна застойную ваду канала, запаліла на беразе вугальную траву, закураныя кусты». І толькі ў легендзе старой паляшучкі пра светлае і добрае, што было ў людзях, сонца — не проста сонца, яно — «сонейка». Аўтар пастаянна паўтарае менавіта гэтае памяншальна-ласкальнае найменне як напамін пра іншы, светлы і не азмрочаны бядою час. Сонейку ў легендзе верыць белы бусел, сонейка саграваe і надае жыццё палеткам, дапамагае расці ўсяму жывому. «У вобразе-архетыпе Сонца ўвасоблена некалькі ідэй, узаемазвязаных паміж сабой. Галоўная з іх — ідэя асабістай адказнасці кожнага чалавека за жыццё на зямлі, гармонію і суладдзе ў Космасе», — сцвярджае Г. Друк. І — нібы пераход з адной мадэлі светаадчування да другой — гучаць радкі: «Памерла песня, спыніла сваё кружэнне зямля, адкаснулася ад іх сонейка. Пайшло далёка-далёка, за высокія горы, чорныя долы і сіняе мора. І глад і мор напаў на зямлю і буслоў. Апрытомнелі яны, толькі позна ўжо». Так афарыстычна В. Казько вяртае нас ад прыгожай легенды ў жорсткую рэальнасць пасля Чарнобыля.

Яшчэ адзін спрадвечны міфалагічны і фальклорна-хрысціянскі вобраз — зямля. «Няспынна ішлі дажджы. Адзін спыняўся, другі пачынаўся. Хварэла зямля, і ўсё, што было на ёй». І далей вобраз зямлі разгортваецца ў параўнанне неад’емнай сувязі зямлі і чалавека, у агульную трагедыю, эсхаталагічны матыў. Так было заўсёды: зямля і чалавек, селянін, успрымаліся адным цэлым. Аднак, калі ў мірны час гэта надавала ім моц і вяло да шчаслівай гармоніі, то зараз — гэта адлюстраванне агульнай пакуты і ўсведамлення адзінасці ў смерці і болю. «Пустыняй стала іх зямля… Зямля знямела. У нямой маці нямыя дзеткі», — гаворыць Віктар Казько. І нездарма калгаснікі ідуць абараняць сваю дуброву ад спілавання: у гэтым яны знаходзяць сэнс, надзею на працяг жыцця. Пра міфалагічны, народна-паэтычны кантэкст свядомасці беларускага селяніна і — адпаведна — літаратурнага героя твораў нашых пісьменнікаў пісаў Уладзімір Конан у артыкуле «У пошуках страчанага раю»: «Птушка-душа не памірае, яна ўпадабляецца дуброве, што сведчыць пра нас касмічнаю музыкаю званоў. Тут — паэтычныя міфалагемы пераўвасаблення чалавека для вечнасці ў Раі».

Міфалагічныя і фальклорна-хрысціянскія вобразы ў рамане народнага пісьменніка Беларусі І. Шамякіна «Злая зорка» набываюць глабальны характар суаднясення з родам, сям’ёй. Кульмінацыя мастацкіх апісанняў выразнага эсхаталагічнага характару прыпадае на раздзел трэці «Аўрал». І. Шамякін закранае балючую тэму выратавання дзяцей ад вынікаў чарнобыльскай катастрофы — нашага будучага пакалення, беларускага генафонду. Дзіця і анёл — дзве чыстыя, бязгрэшныя душы, і таму найбольш страшна, калі яны бязвінна пакутуюць. І. Шамякін трапна скарыстоўвае такое параўнанне для абвастрэння ўспрымання трагедыі — цяпер ужо праз свядомасць дзяцей: «Пасярод стаялі дзве шахтныя стойкі — падпіралі столь, — абвешаныя, як і калідоры, адзеннем, пераважна дзіцячым.

Але не гэта ўразіла наведвальнікаў. Паміж стойкамі на вузлах сядзела мадонна з дзіцём на руках, паўтарагадовым хлопчыкам — анёлам, толькі што без крылаў. З бакоў да мамы туліліся яшчэ трое малых, дзве дзяўчынкі і хлопчык». А на пахаванне маці, каб прадухіліць уздзеянне радыяцыі, дзяцей акрылі камуфляжнымі накідкамі, і балюча гучыць параўнанне з мірным часам: «Пад зялёнымі камуфляжнымі накідкамі дзеці стаялі, што грыбкі пад лісточкамі». Эсхаталагічныя настроі выяўляюцца і ў настроі герояў рамана.

Аўтар перадае гэта праз асацыятыўнае прадстаўленне: «На стале гарэў кароткі агарак свечкі, пастаўлены ў чарку. Свечка з натуральнага воску. І пах яго нагадваў нешта вельмі даўняе, а што — успомніць і зразумець не магла. Знаёмае, многа разоў чутае — пах смерці, пахавання, жалобы.

Такая асацыяцыя ў такі дзень, у такі вечар, у такім становішчы пры трапяткім святле свечкі наганяла жахлівыя ўяўленні — апакаліпсічныя». І — кантраст з былым, дачарнобыльскім уяўленнем, што дапамагае правесці не проста параўнанне, а рэзкае, страшнае параўнанне з тым, што больш не вернецца: «А воск пахне і жыццём, радасцю, полем, кветкамі, звонам пчол, сонцам, ветрыкам».

Адкрыты эсхаталагічны матыў разумення Чарнобыля прыходзіць да герояў і праз прамы напамін з Бібліі: «Трэці Анёл затрубіў, і ўпала з неба вялікая зорка, якая гарэла падобна свяцільніку, і пала на трэцюю частку рэк і на крыніцы вод. Імя той зорцы — палын…» Разумееш сэнс? Чарнобыль — палын. Дык вось… «і трэцяя частка вод зрабілася палыном, і многія з людзей памерлі ад вод, таму што яны сталі горкія». Аднак заўсёды, пры любых трагедыях і катаклізмах, перамагае спрадвечны матыў выратавання, супрацьлеглы эсхаталагічнаму. Гэта разумее пісьменнік. І адлюстроўвае ў вяскоўцаў — праз зварот да Бога, рэлігіі: «Жанчыны пачалі здымаць са сцяны ікону Багародзіцы, цалавалі яе і абгортвалі ручнікамі — паедуць з родных хат толькі з ёй, заступніцай выгнаных»; у Вольгі Андрэеўны — праз любоў да дзяцей: «Гэта яе ратавала праз усё жыццё — што ў душы яе жыла паэзія, і ёй, нярэдка з пакутамі, з трудом, удавалася змрочныя думкі, уяўленні адціснуць светлымі, радаснымі, прадчуванне бяды — прадчуваннем шчасця. І тут яна зрабіла намаганні і — з магільнай ямы ўзнялася на светлую зямлю. Памог пах воску? Не, смех дзяцей»; праз веру ў сваю зямлю і мірную працу чалавека на ёй — ва Уладзіміра Паўлавіча: «Пах збажыны … данесла праз акно, быццам дыхнула ветрам. І стала Уладзіміру Паўлавічу амаль радасна».

Украінскі пісьменнік Уладзімір Яварыўскі ў сваім рамане «Марыя з палыном у канцы стагоддзя», як і беларус І. Шамякін, падымае яшчэ адну — найважнейшую — тэму — тэму перарванасці роду, што страшнейшая за смерць: «Рыгорава постаць паплыла ў яе вачах — такая родная і такая чужая, як у юродзівага. …Праз момант мы будзем інакшыя, назаўсёды іншыя, радыяцыя ўдарыць па самым святым — па дзёрзкай, палымянай Рыгоравай крыві, пératворыць яе ў звычайную вадкасць!», што азначае не толькі смерць самога Рыгора, але і канец роду. Асобна і найбольш акцэнтавана, у сваёй трагічнай сутнасці, пададзены ключавы вобраз, праз які праходзяць душэўныя перажыванні роду, сям'і — вобраз «Марыі з палыном», Марыі Міровіч, якая нядаўна пахавала мужа, а праз колькі дзён Чарнобыль забраў у яе двух сыноў. У гэтай жанчыне сканцэнтравана ідэя нязгаснага і неперадаваемага болю — за зямлю, за род. Яна — нібы адроджаны аўтарам біблейскі вобраз святой Марыі-пакутніцы, і гэтае параўнанне, нібы знак, сімвал болю і пакут. Паказальныя ў гэтым плане апісанні Марыі, да якіх так часта ў кульмінацыйныя моманты звяртаецца аўтар: «Прыпала тварам да шыбы. Так прыпала, што ажно ўліпла ў яго, сплюшчыўся яе нос, пабялеў і разгладзіўся ад маршчын лоб — аблічча стала размытае і непадобнае, як на малюнку мадэрніста. Толькі вочы яе. Трывожна ўглядаюцца ў нейкае зарыва над лесам». У пераломныя моманты жыцця дзеці і ўнукі звяртаюцца да Марыі, нават у думках: «Алесі здаецца, што скрозь ноч, скрозь начную тоўшчу лесу на яе глядзіць цяпер баба Марыя з акна сваёй хаты. Глядзіць пільна, спакойна і неадступна. Няма ў яе паглядзе ні дакору, ні ўхвалы. Ні гневу, а нешта такое, што прымушае дзяўчыну не хаваць вачэй».

Вобраз Марыі паўстае ў вачах яе дзяцей і ўнукаў як талісман роду і сваёй зямлі: «…густыя кроны сосен у начным, з густымі зоркамі небе…

Сонная рэчка, над якой скача тлустая рыба…

Вочы бабы Марыі ў акне…»

Па-свойму ўспрымае Марыя трагедыю на станцыі. Яе клопат — не за сябе. Яе клопат за род: сваіх дзяцей і ўнукаў. Нездарма ў апісанне адчайнага роздуму Марыі, пошукамі выйсця аўтар уключае біблейскі вобраз свечкі: «Марыя сядзіць за сталом перад запаленаю свечкаю, тварам да адчыненых дзвярэй. У падоле спадніцы, між каленямі, дрэмле крацяня, з якім ужо звыклася і якога не брыдзіцца, пагладжвае яго рукою, невідушча ўтаропіўшыся вачыма ў агеньчык свечкі». Разуменне безвыходнасці і смерці родных нібы забірае ў яе сілы, таму што яе роля — ратаваць іх, захоўваць сям'ю, а страта прызначэння робіць бессэнсоўным яе жыццё, у гэтым яшчэ адно праяўленне эсхаталагічнага матыву, і гэта аўтар перадае

праз асацыятыўныя выяўленчыя сродкі, праз кантраснае параўнанне: «Ціканне насценнага гадзінніка раптам стала гучнае, быццам забіваюць цвікі ў века дамавіны, забіваюць нервова, каб хутчэй скончыць справу.

Марыя асела на табурэтку, стала маленькая…

Марыіны вочы ўтаропіліся ў фотакарткі роду Міровічаў. Твары сыноў, мужа, дачкі, нявестак, унукаў плывуць і плывуць перад ёю, ледзьве паспяваючы ўсміхнуцца ці засумаваць, яна ўжо не можа іх пазнаць — такія яны ўсе падобныя і аднолькава родныя. Быццам уся радня наняла тое «чортава кола», якое бачыла ў горадзе, уселася ў люлькі і кола коціцца і коціцца некуды. А куды? Куды?» І — рашэнне: «Не маю права паміраць цяпер…» — мужнае рашэнне мужнай жанчыны. І таму яна прыйшла да дзяцей, як толькі пачула іх плач: « — Я тутачкі. Жывая! Пацярпіце. І супакою, і прыгалублю. І — усыплю як след. А тады пашкадую зноў…». Яна ідзе да ацалелых, каму па-ранейшаму патрэбна яна, і ў гэтай яе асэнсаванай мужнасці захаваць сваё, дарагое, роднае гучыць супрацьлеглы эсхаталагічнаму матыў надзеі на жыццё, якая заўсёды дапамагала і ўкраінскаму, і беларускаму народу ў найвышэйшыя па сваім трагізме катастрофы выстаяць і адрадзіцца.

Таксама ўкраінскі пісьменнік Л. Губін у рамане «Вішнёвае вока д’ябла» раскрывае сваю пісьменніцкую пазіцыю праз асацыятыўныя вобразы і матывы. Важную ролю ў паказе душэўнага стану і змен пасьлячарнобыльскай свядомасці адыгрываюць сны пра Чарнобыль з матывамі прадказання і матывамі смерці. Смерць бачылі ў вайну, але не ведаюць яшчэ, што такое чарнобыльская смерць, як яна адбываецца. Таму і згадваецца ўва сне ўспамін пра родных, што былі закатаваны фашыстамі: «Галовы, галовы, галовы, разяўленыя, у крыку, забітыя магільнай зямлёю раты…

У нас у Данбасе фашысты і пакаранне прыдумалі для нашых людзей — жывымі зарываць у зямлю ці жывымі кідаць у шурф».

Толькі пасля смерці-згасання шафёра Колі, які па мабілізацыі стаў ліквідатарам і з якім пасля развялася жонка Зіна, усе зразумелі, што такое смерць ад Чарнобыля — нябачная смерць ад радыяцыі. Яшчэ адзін прыклад эсхаталагічнай афарбоўкі сну: «Мне прыснілася страшная карціна. У нашым двары побач з дзвюма дарослымі таполямі на маіх вачах пачала засыхаць маладзенькая. Лісцейкі яе ніжніх галінак скукожыліся, перасталі шалясцець пад ветрыкам, таполя заўважна панікла вершалінай. Я рыхліў пад ёю зямлю, кідаў нейкія цалебныя сямяны, ліў пад камель ваду. Але вада тут жа высыхала, а ўзрыхленая зямля цвярдзела. Я адчайна паглядаў на ўсохлую лістоту і бачыў скрозь яе заўважны вішнёвы прамень». Сон, акрамя эсхаталагічнай афарбоўкі, набывае і сімвалічны сэнс: « — А я ведала, што вы прыедзеце, — сказала яна замест прывітання... — Бяда ў вас у Кіеве, і сон мне прысніўся… Нібыта ляціць лебедзь белая».

Вобраз белай лебедзі ва ўкраінскай літаратуры можна параўнаць з вобразам белага бусла ў беларускай, як і тыя міфалагічныя, фальклорныя і сімвалічныя характарыстыкі, што ім надаюцца. Напрыклад, калі здымачная група пад’язджала да Чарнобыля, убачылі: «Ляціць некуды чарнакрылы з чырвонай адмецінкай бусел». Там жа, у Чарнобылі, свае колеры: «Спакойны эпічны голас маёра сцішвае нас: — Белы — мінулае, чорны — сённяшняе».

Аднак чалавек не можа жыць заўсёды ў страху, адчаі, прадчуванні смерці. Ён інтуітыўна шукае выйсце. Напачатку з’яўляецца надзея — біблейскі матыў, які аўтар раскрывае праз зварот да царквы, храма: «А наверсе, над старажытным гарадзішчам Яраслава, ззяла купаламі святая Сафія. Як залатая ніць у стагоддзе будучае з дзён мінулых. Ніколі я так востра не адчуваў трываласці гэтай залатой ніці». І ў гэтым звароце да хрысціянскіх каранёў, як да вобразаў Аброчнага крыжа і Белага шляху ў аповесці В. Карамазава, адчуваецца імкненне знайсці сілы для перадолення чарнобыльскай катастрофы, немагчымасць прымання чалавекам у сваю душу назаўсёды эсхаталагічных матываў страху, трагедыі, адсутнасці будучыні, імкненне да «залатой ніці» выратавання.

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

# ПРАЗ ЭКСПРЭСІЮ ПЛАСТЫКІ

***(Творчы партрэт балерыны Марыны Вежнавец)***



**Для кожнага чалавека адкрыццё феномена мастацтва звязана з асобай канкрэтнага творцы, які майстэрствам паспрыяў інтарэсу да асобнага жанру. У фантастычным свеце харэаграфіі балета такім чалавекам стала для мяне Марына ВЕЖНАВЕЦ, адна з вядучых салістак Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы і балета. На жаль, пра яе творчасць напісана да крыўднага мала. Між тым, як трапна заўважыла вядомы тэатразнаўца Таццяна Арлова, спробы крытыкаў выклiканы жаданнем не толькі адрэцэнзаваць апошнюю прэм'еру, але «акрэсліць месца, якое артыст займае ў жыцці тэатра» і, дадам ад сябе, у тэатральнай гісторыі.**

## ПЕРШЫЯ КРОКІ

Марына нарадзілася ў Мінску ў кастрычніку 1978 года. Сям'я будучай артысткі была звязана са спортам (бацька, Валерый Вежнавец, з'яўляўся заслужаным трэнерам рэспублікі па конным спорце). Таму не дзіўна, што ў дзяцінстве Марына актыўна займалася мастацкай гімнастыкай і нават атрымала званне кандыдата ў майстры спорту. Адначасова ўсё большае месца ў яе жыцці займаў балет. Яна паступіла ў Беларускае харэаграфічнае вучылішча: «*Да 8 класа я не ўспрымала свае заняткі балетам сур'ёзна,* – згадвала яна ў адным з інтэрв'ю, — *для мяне на першым месцы быў спорт — мастацкая гімнастыка. Здавалася, што ў мяне цудоўнае дзяцінства: любімая гімнастыка і займальныя паездкі ў лагеры на спартыўныя зборы. Гэта цяпер, азіраючыся назад, думаю: «О, Божа! Дзяцінства ж міма прайшло…». Спалучаць гімнастыку і балет было вельмі складана, таму, калі трэба было адправіцца на спаборніцтвы, трэнер рабіў для вучылішча даведку пра хваробу. «Хварэла» я часта, і выкладчыкі спачувальна пацiскалі плячыма: «Бедная дзяўчынка, такая худзенькая, хваравітая». А на двух крэслах не ўсядзець…»*. Але «*ў 9 класе трэба было выбіраць паміж спортам і балетам. Прыняць рашэнне дапамаглі тата і трэнер Марына Сазонава, якім вельмі за гэта ўдзячна. Я засяродзілася на занятках балетам, прычым асэнсоўвала ўсё, што раблю, больш поўна. Даводзілася шмат працаваць»*.

Настаўніцай балерыны ў каледжы аказалася вопытны педагог, народная артыстка Беларусі Ірына Савельева, якая з поспехам выступала ў нашай балетнай трупе ў 1960-я гады. У свой час сярод яе вучаніц былі Людміла Бржазоўская і Ніна Паўлава, якія ўспрымаліся як эталонныя балерыны сучаснай і класічнай харэаграфіі. Дзіўным чынам праз гады гісторыя паўтарылася ў лёсах вучаніц Савельевай іншага пакалення: Марыне Вежнавец і Вользе Гайко.

Абедзве ў 1997-м скончылі каледж і былі прыняты ў трупу тэатра. Але Вежнавец ішла да вяршыняў доўга. У адрозненне ад хуткага ўзлёту Гайко, якая ў 19 гадоў ужо танцавала Адэту-Адылію ў «Лебядзіным

возеры» (партыю, што лічыцца візітоўкай класічнай балерыны), творчасць Вежнавец спярша нагадвала пункцірную, перарывістую і ломкую лінію. Чаму так атрымалася? Для гэтага былі аб'ектыўныя і суб'ектыўныя прычыны.

## ПЕРШЫЯ ПАРТЫІ, ПЕРШЫЯ КРОКІ

Разглядаючы старыя праграмкі пачатку 2000-х гадоў, бачыш, што спачатку Вежнавец аказалася запатрабаваная ў вузкім амплуа. Як і ўсім пачаткоўцам, ёй давялося танцаваць у кардэбалеце. Ролі былі адпаведныя: рабыня ў «Спартаку» або адна з дзяўчат Ціля («Легенда пра Уленшпігеля»). Калі ж ёй даручалі самастойныя партыі, дык балерына бачылася менавіта інфернальнай, ракавой, загадкавай гераіняй. Такой успрымалася яе Зарэма ў «Бахчысарайскім фантане» (першая сур'ёзная роля), лэдзі Макбет, Ганна Багранародная ў «Рагнедзе», Мірта ў «Жызэлі». Гэткія рысы сапраўды прысутнічалі ў характары гераінь Вежнавец, але думаю, што гэта была адна са шматлікіх граняў яе таленту.

Ці з'яўлялася такая сітуацыя непазбежнай? Ці магла Вежнавец адразу заняць у трупе становішча, вартае яе таленту? Думаецца, ва ўсім выяўлялася ўнутраная логіка. У першыя гады працы ў тэатры спартыўнае мінулае яшчэ нагадвала пра сябе. І праўда была не на баку большасці крытыкаў балерыны, калі яны іранічна называлі яе «гімнасткай». Мастацкая і спартыўная гімнастыка ўсё ж такі не адно і тое ж.

На першым этапе кар'еры Вежнавец сустрэлася з двума людзьмі, якія адыгралі ў яе жыцці выключную ролю. Малады танцоўшчык Юрый Кавалёў прыйшоў у тэатр у 2003-м. *«Першая сур'ёзная работа ў тэатры была ў мяне з рэпетытарам Таццянай Шаметавец — у «Дон Кіхоце»,* — згадваў Кавалёў. — *Рыхтаваў з ёю партыю Эспада. Маёй партнёркай аказалася Марына Вежнавец* (яна рыхтавала партыю Мерсэдэс. — **Д. М.**). *Добра помню тыя вячэрнія рэпетыцыі ў тэатры, іх унікальную атмасферу. (Да таго ж, у нас з Марынай у той час нарадзілася ўзаемная закаханасць.) Здавалася, Таццяна Шаметавец аддавала нам усю сваю энергію і вопыт. А вынікам працы ў рэпетыцыйнай зале зрабілася тое, што пасля Эспада мне пачалі прапаноўваць і іншыя ролі».*



*У партыі Кітры. «Дон Кіхот».*

Цяжка пераацаніць ролю дуэта ў балетным мастацтве. У гісторыі сусветнай харэаграфіі назаўжды засталіся гарманічныя дуэты Кацярыны Максімавай і Уладзіміра Васільева, Рудольфа Нурыева і Марго Фантэйн, у беларускім — Людмілы Бржазоўскай і Юрыя Траяна. Партыі, якія Вежнавец і Кавалёў выконвалі ў адных і тых жа спектаклях, прынеслі ім гармонію як у сям'і (Марына і Юрый узялі шлюб у 2008-м), так і на сцэне. Сведчанне гэтаму — шэраг надзвычай яркіх роляў. Істотна, што абодва яны — людзі з вялікім духоўным патэнцыялам, здольныя імкліва развівацца і натхняць адно аднаго. І гэта не абстрактныя словы: ад спектакля да спектакля быў відавочны няспынны творчы рост кожнага, усё больш цікавай выглядала інтэрпрэтацыя партыі.

Аднак апошняя акалічнасць была б немагчымай без сустрэчы з іншым чалавекам,



*У партыі Кармэн. «Кармэн-сюіта».*

які істотна змяніў жыццё Марыны. Гэта легендарная балерына, народная артыстка Беларусі Людміла Бржазоўская. Яна скончыла артыстычную кар'еру ў 1989-м, пасля чаго выкладала ў Беларускім харэаграфічным вучылішчы і ў Акадэміі музыкі. Па шчаслівым збегу абставін у 1997-м стала педагогам-рэпетытарам у Нацыянальным тэатры балета. Не дзіўна, што Людміла Генрыхаўна заўважыла патэнцыял адразу трох балерын, прынятых у тым годзе ў трупу. Вольга Гайко паступова зрабілася вядучай класічнай балерынай. Талент Ірыны Яромкінай раскрыўся пераважна ў лірычных жанрах. У Марыне Вежнавец, у яе дадзеных і артыстычнай адметнасці Бржазоўская ўбачыла сапраўды сучасную балерыну. Але для таго, каб не проста вывучыць партыі ў елізар'еўскіх балетах, а зразумець іх філасофскую глыбіню, дарасці да іх ўзроўню, быў патрэбны час, жыццёвы вопыт і праца.

## АДКРЫЦЦЁ ВЕЖНАВЕЦ

Сярэдзіна першага дзесяцігоддзя нашага веку стала часам, калі сольная кар'ера балерыны пачынае імкліва ісці ўгару. Ёй сталі даручаць выкананне сур'ёзных і living рознабаковых партый. У красавіку 2005 года на прэм'ерным паказе «Баядэркі» Вежнавец танцуе партыю Гамзаці, якую падрыхтавала літаральна за тры дні да спектакля. У маі 2006-га — першае «Лебядзінае возера» (у дуэце з Пятром Борчанкам). У чэрвені таго ж года — Кітры ў «Дон Кіхоце». У кастрычніку — Дзяўчына ў «Балеро» (у дуэце з Юрыем Кавалёвым). Сакавік 2007-га — першае выкананне Эсмеральды ў аднайменным балеце, верасень таго ж года — Зарэма на прэм'еры «Бахчысарайскага фантана». Люты 2008-га — Дзяўчынаабранніца ў «Вясне свяшчэннай» (у дуэце з Кавалёвым), май таго ж года — Рагнеда ў аднайменным балеце. А яшчэ было выкананне партыі Нікіі ў «Баядэрцы», Мядоры ў «Карсары»… Фактычна, за некалькі сезонаў гледачы сталі сведкамі цуду, прарыву, казачных імгненняў у біяграфіі Вежнавец, калі проста на вачах у айчынным балеце нараджалася новая зорка.

## ФЕНОМЕН БАЛЕРЫНЫ

У чым заключаецца феномен Марыны Вежнавец? У чым яе асаблівасці ў параўнанні з іншымі балерынамі трупы? Папершае, паколькі Марына найбольш ярка ўвасабляе сучасную харэаграфію, яна не толькі балерына, але і актрыса. Бо валодае ўнікальнай здольнасцю «прапусціць» партыю праз сябе і прапанаваць арыгінальную інтэрпрэтацыю. Істотна, што праца над вобразам ідзе ў яе падчас рэпетыцый, а не на сцэне. Таму пры першым выкананні партыі гледачы бачаць цэласны вобраз, а не проста правільна ўзноўленую паслядоўнасць рухаў.

Па-другое, балерына, якая выглядае вельмі гарманічнай у дуэце, заўжды спрыяе творчаму росту партнёраў, прымушае іх шукаць новыя адценні ў інтэрпрэтацыі вобраза. Так, артыстычны талент Мікалая Радзюша хутка раскрыўся ў партыі Прынца («Лебядзінае возера»), а гэты спектакль ён танцаваў разам менавіта з Марынай.

Па-трэцяе, у кожнай сваёй партыі Вежнавец надзвычай розная. Што пад гэтым разумець? Тэзіс можна патлумачыць праз пластыку рук. «*Характар любой партыі, яе пластычны вобраз,* — пісала пра Вежнавец адна з беларускіх крытыкаў, — *заўсёды завяршаецца і дапаўняецца пластыкай рук, заўжды рознай, але і заўжды выразнай. Гэта рукі-крылы ў «Лебядзіным возеры»; гнуткія, усходне-вабныя, нібы дым фіміяму, у «Бахчысарайскім фантане»; маланкава-прамяністыя, графічныя ў «Балеро».*

Як прызнаецца сама балерына, «*для таго, каб роля атрымалася, трэба ўключыць сэрца і душу».* Апошняе словазлучэнне найбольш прынцыповае. *«Уключыць сэрца»* — перадаць думкі і пачуцці гераіні, казаць ад яе імя, выпраменьваць энергетыку. *«Уключыць душу»* — значыць так увайсці ў вобраз, так зразумець гераіню, каб «зрадніцца» з ёй. Каб у таго, хто глядзіць спектакль, з'яўлялася адчуванне, што ён бачыць на сцэне Кітры, лэдзі Макбет ці Адэту, а не балерыну ў прапанаваных абставінах.

У гераінях Марыны Вежнавец заўжды ёсць прыгажосць. Але не сонечная і зіхатліва-звонкая, а месяцовая і таемна-хвалюючая. У яе гераінях заўжды ёсць глыбіня. Магчыма, гэта артыстка надзяляе вобразы ўласнымі чалавечымі якасцямі, тонкімі псіхалагічнымі фарбамі. Можа, таму балерыне і падуладны такі шырокі дыяпазон — і псіхалагічны, і эмацыйны?

У многіх харэаграфічных спектаклях сюжэт будуецца на супрацьпастаўленні двух жаночых характараў, якія ўвасабляюць розныя, дыяметральна-супрацьлеглыя якасці — Адэта-Адылія ў «Лебядзіным возеры», Нікія і Гамзаці ў «Баядэрцы». Вельмі часта здараецца так, што пэўная артыстка вельмі пераканаўчая ў Адэцэ, белым лебедзі, а Адылія, лебедзь чорны, аказваецца ёй унутрана далёкай. Адметнасць таленту Марыны Вежнавец у тым, што яна ўмее пераўвасабляцца ў межах аднаго спектакля і аднаго тэатральнага вечара. А на такое здатныя нямногія! Гэтак жа, і іншыя гераіні, храмавая танцорка Нікія і Гамзаці, дачка раджы, аказваюцца ў балерыны пераканаўчымі і намаляванымі зусім рознымі пластычнымі і эмацыйнымі фарбамі.

**ДА ПАБАЧЭННЯ, МІНСК!**

Восень 2008 года Вежнавец і Кавалёў сустрэлі ўжо ў іншай трупе, у Санкт-Пецярбургу. Чаму балерына сышла з тэатра на вяршыні поспеху? Зразумела, учынак меў канкрэтную, хутчэй асабістую прычыну. Але паглядзім на сітуацыю глыбей.

Вежнавец прыйшла ў трупу, калі беларускі балет знаходзіўся на вяршыні славы. За год да таго пастаноўка В. Елізар'ева «Рагнеда» («Жарсці») была адзначана вышэйшай узнагародай міжнароднай асацыяцыі танца — прэміяй «Бенуа дэ ля данс». Пасля харэограф паставіў два спектаклі на музыку І. Стравінскага: другую рэдакцыю «Вясны свяшчэннай» (1997) і «Жар-птушку» (1998). У далейшым займаўся пераважна аднаўленнем і стварэннем новых рэдакцый — балетаў «Стварэнне свету» (1998), «Ціль Уленшпігель» (новая назва «Легенда пра Уленшпігеля», 2004), новая версія «Спячай прыгажуні» ў 2001-м. Але новых арыгінальных спектакляў больш не ставіў. Прычын гэтага шмат. Перш за ўсё, кожны творчы чалавек не можа генерыраваць ідэі бясконца. На



*У партыі лэдзі Макбет. «Макбет».*



*У партыі Дзяўчыны. «Балера».*

пэўным этапе Елізар’еў, відаць, адчуў, што лепш, чым раней, не паставіць. А ставіць горш, псаваць уласны імідж не хацеў (таму няўдалых балетаў у яго творчасці няма). Акрамя таго ў 2006-м у тэатры пачаўся капітальны рамонт, які звузіў фінансавыя магчымасці для прэм’ер.

Як гэта адбілася на творчасці Вежнавец? Ды непасрэдным чынам! Лепшы падарунак харэографа танцоўшчыку — першае выкананне партыі ў новай пастаноўцы. Гэта дае магчымасць уласнага прачытання вобраза, без азірання на традыцыі і аўтарытэты. Акрамя таго ў свядомасці балетмайстра часта замацоўваецца пэўная манера выканання і разумення ролі, якую ён лічыць ідэальнай. Таму наступным застаецца танцаваць у вызначанай манеры. На жаль, за час працы ў трупе не толькі Вежнавец, але і амаль усе яе аднагодкі не выканалі ніводнай новай, арыгінальнай партыі, што была б пастаўлена менавіта для іх. Выключэнне — толькі Юлія Дзятко і Канстанцін Кузняцоў, якія плённа супрацоўнічалі з харэографам Раду Паклітару. Астатнім заставалася паўтараць тое, што танцавалі да іх старэйшыя і спрабаваць знайсці ў вядомых ролях штосьці сваё.

У імклівым мастацкім развіцці Вежнавец апярэдзіла час і многіх салістаў трупы, пераляцела праз усе прыступкі… і ўбачыла перад сабой пустэчу. Партыі ў большасці елізар’еўскіх спектакляў былі выкананы, працы іншых харэографаў істотна саступалі ім у глыбіні і значнасці. Пераезд (або ўцёкі) у Пецярбург былі спробай разарваць замкнёнае кола.

## ПЕЦЯРБУРГСКАЯ СТАРОНКА

Сезон 2008/2009 гадоў Вежнавец і Кавалёў правялі ў трупе санкт-пецярбургскага балета Канстанціна Тачкіна. Самы малады калектыў горада на Няве быў заснаваны ў 1994 годзе. Ён — адзіны ў Расіі тэатр балета, які не атрымлівае дзяржаўнай дапамогі і працуе на прынцыпах самаакупнасці. У рэпертуары — выключна класіка: «Лебядзінае возера», «Шчаўкунчык», «Спячая прыгажуня», «Жызэль», «Дон Кіхот», «Баядэрка», «Шапэніяна» і «Пахіта». З сучаснай харэаграфіі — толькі балет «Брыліянт». Трупа арыентавана на гастрольную дзейнасць, таму ў Пецярбургу выступала нячаста.

У сезоне, калі ў складзе яе танцавалі Вежнавец і Кавалёў, былі выступленні ў рамках Еўрапейскага тура ў Лондане на сцэне Калізея, у Парыжы (Тэатр Елісейскіх палёў) і Ліоне, а таксама ў Іспаніі. Такім чынам Вежнавец, яркая сучасная балерына, нечакана пачала спецыялізавацца на класіцы. Зразумела, шэраг партый яна раней выконвала на мінскай сцэне. Але менавіта пецярбургскі перыяд дапамог звярнуць большую ўвагу на тэхнічныя аспекты. Адно толькі «Лебядзінае возера» давялося станцаваць 30 разоў за сезон. Ды і праца з педагогам-рэпетытарам Любоўю Кунаковай, колішняй зоркай

Кіраўскага (цяпер Марыінскага) тэатра чаго каштуе! У інтэрв'ю М. Вежнавец згадвала, што восенню 2009 года іх дуэт з Кавалёвым удзельнічаў у «Канцэрце зорак Пецярбурга», прычым закрываў яго выкананнем па-дэ-дэ з «Дон Кіхота». Пасля канцэрта яны даведаліся, што *«артысты Марыінкі, стоячы за кулісамі, апладзіравалі нам»*.

Несумненна, праца ў трупе мела станоўчыя рысы. Акрамя ўвагі да класікі, гэта і магчымасць пашырыць гастрольную біяграфію. Але паколькі калектыў хутчэй нагадваў антрэпрызу, было б наіўна чакаць ад яго новых пастановак. Ды і старыя не заўсёды адпавядалі належнаму ўзроўню. Працаваць у такой трупе можна год, два, але не больш. Наступны сезон 2009/2010 гадоў дуэт пачаў на радзіме, у Мінску.

## ЭПІЛОГ

За час адсутнасці Вежнавец і Кавалёва ў трупе адбыліся значныя змены. Адкрыўся пасля рамонту шыкоўны будынак. Тэатр балета аб'яднаны з тэатрам оперы, агульны калектыў узначаліў дырэктар Уладзімір Грыдзюшка, мастацкім кіраўніком балета стаў Юрый Траян.

Абодва артысты хутка вярнулі сабе становішча ў трупе, ранейшы рэпертуар і гэтаксама радуюць сваіх прыхільнікаў. Да колішніх партый Вежнавец дадалася прынцэса Аўрора ў «Спячай прыгажуні», выкананая ў лепшых класічных традыцыях.

Крыўдна адно: працэсы, якія цяпер адбываюцца ў беларускай харэаграфіі, наўрад ці спрыяюць далейшаму развіццю індывідуальнасці балерыны. Можна было б змірыцца з тым, што Вежнавец не сустрэла свайго харэографа. Але нават тыя балеты, у якіх найбольш ярка ззяў ее талент, пакрысе адыходзяць на другі план і становяцца непатрэбнымі. У гэтым працэсе ёсць бязлітасная логіка. Ніводны спектакль не можа жыць вечна. Але, на жаль, новыя пастаноўкі наўрад ці можна параўноўваць па маштабе і мастацкай значнасці з тымі, што з'яўляліся на нашай сцэне 20 ці 30 гадоў таму. А ролі, якія прапаноўваюць балерыне (кшталту Феі дабрыні ў «Папялушцы») наўрад ці змогуць замяніць партыі лэдзі Макбет («Макбет»), Дзяўчыны («Балеро») і Дзевы-абранніцы («Вясна свяшчэнная»). Магчыма, на нашай сцэне з'явіцца спектакль, варты маштабу Вежнавец. Тым не менш жыццё працягваецца. Паралельна з удзелам у спектаклях Марына авалодвае новай прафесіяй: вучыцца ў Пецярбургскай акадэміі балета імя Ваганавай па спецыяльнасці «педагогіка харэаграфіі».

А калі падсумаваць: чаго ж дасягнула ў балеце Марына Вежнавец? Якое яе месца ў нашай харэаграфічнай гісторыі? Яна стала самым яркім прадстаўніком, лідарам трэцяга пакалення артыстаў, якія танцавалі на беларускай сцэне ў пастаноўках Валянціна Елізар'ева. У адрозненне ад папярэднікаў, яна не мела новага, спецыяльна пастаўленага для яе рэпертуару, хоць была вартая таго. Але талентам і глыбокай інтэрпрэтацыяй вобразаў Марына прадоўжыла жыццё елізар'еўскіх спектакляў, якія ўспрымаліся ў яе выкананні не як пастаноўкі, ажыццёўленыя 20—30-гадоў таму, а паўнавартасныя глыбокія творы, актуальныя праблемам нашых дзён. Нарэшце, Вежнавец разам са сваім пакаленнем сапраўды змянілі час: яны адтэрмінавалі непазбежны сыход у мінулае елізар'еўскай эпохі і стварылі эфект яе прысутнасці ў культурнай прасторы. Акрамя таго, яны пераканалі ў найвысокім мастацкім узроўні беларускага балета. І на гады наперад зрабіліся тым арыенцірам, тым узорам, з якім будзе звяраць свае ўражанні, магчыма, цэлае пакаленне беларускіх аматараў балета.

# «РОКАШ», ЗАПАЛІ АГОНЬ!

***Рокаш (з польскай мовы «бунт, мяцеж») — канфедэрацыя шляхты, незадаволенай палітыкай караля, з мэтай адстойвання ўласных правоў і вольнасцей.***



*Бас-гітарыст і адзін з заснавальнікаў «Рокаша» Лявон Казакоў.*

XVI стагоддзе. 1537 год. У наваколлі Кракава шляхта збіраецца на рокаш, каб супрацьстаяць унутранай палітыцы Жыгімонта І Старога, які разам з магнатамі праводзіў курс на ўраўнаванне ў правах людзей шляхецкага стану незалежна ад этнічнага паходжання і рэлігійнай прыналежнасці. Нязгодная з такім раскладам шляхта знішчае ўсіх курэй і пеўняў падчас балю-пратэсту, што ў гісторыі атрымаў назву «курыная вайна». У выніку, мэта была дасягнутая. Шляхта здолела адстаяць свае правы.

XXI стагоддзе. 2003 год. Чатыры маладзёны вырашаюць эпатаваць удзельнікаў «капусніка», арганізаванага з нагоды дня нараджэння юрыдычнага факультэта БДУ. Лявон Казакоў, Мікола Маркоўнік, Мікола Ліпневіч і Стась Багданаў здзіўляюць прысутных не публічным паяданнем курэй пакарсіканскі, а выкананнем кампазіцыі «А дзе ж тыя ваяры» (аўтарства гурта «Камелот»). Нельга назваць гэты выступ першым у творчай біяграфіі мінскага гурта «Рокаш», але менавіта ён вызначыў многае. Вядома, сцэна для выканаўцаў — моцны наркотык. Аднойчы паспрабаваў — і ад мікрафона ўжо за вушы не адцягнеш. Другі раз і не прыкмеціш, як над галавой прасвішча пераспелы памідор, які шпурнула рука «ўдзячнага» слухача: «маўляў, хопіць з публікі здзекавацца!»

Вось і юнакі вырашылі: «Чаму б і не?» Пасля той імпрэзы былі таварыскія сустрэчы, на якіх спявалі беларускія народныя песні, кампазіцыі «N.R.M.», творы Равенскага… Аднаго разу, сабраўшыся на чарговую вечарыну, высветлілася, што Лявон — сапраўдная паэтычная натура. На аркушы паперы, які той выцягнуў з кішэні, красаваўся надпіс «Наша піва». Не, гэта быў не новы рэцэпт баварскага напою! Гэта быў рыфмаваны тэкст! І палілося!

У Лявона знайшліся стосы вершаваных радкоў, якія выдатна клаліся на музыку. Тут у сяброў з’явілася новая забава: прыдумляць мелодыі для гэтых тэкстаў. Атрымоўвалася няблага. Шкада толькі, што ўпарадкаваць свае адмысловыя ідэі на пяці лінейках нотнага сшытка не было магчымасці — мала хто з юнакоў валодаў музычнай граматай.

Лёсавызначальнай для будучага папулярнага калектыву стала сустрэча гурткоўцаў з гітарыстам Алесем Акульчыкам. Хлопец давёў да ладу тэхнічны бок стварэння мелодый — запісаў іх нотамі і, безумоўна, застаўся ў гурце.

Новастворанай суполцы аднадумцаў не хапала толькі запамінальнага імя. З назвай дапамог Лявон, гісторык па адукацыі. Слова «рокаш», за якім хавалася моцная энергетыка і ваяўнічы сэнс, прыйшлося ўсім даспадобы. А выказаная ім канцэпцыя змагарства цалкам адлюстроўвала мэты музыкаў.

Так нарадзіўся новы гурт, правадыр ідэі абуджэння ў беларусаў нацыянальнай год-

насці і самасвядомасці, а галоўнае, любові да роднай мовы.

*Як кажа, пасміхаючыся, Лявон, не пазнаць яго на вуліцы цяжка, нават калі бачыш упершыню. Вось і я, чакаючы свайго суразмоўцу ля ўвахода ў Цэнтральны дзіцячы парк імя М. Горкага, адразу заўважыла прыкметную постаць, што павольна набліжалася да мяне. Прывітаўшыся, мы пакрочылі пад шатамі паркавых ліп, шукаючы вольную лаўку. Здаецца, уладкаваліся…*

**— Скажыце, Лявон, ці ўсе рокашаўцы нарадзіліся ў Мінску?**

— Так. Усе, акрамя нашага гітарыста Алеся. Ён правёў дзяцінства ў Празе, пасля вандраваў па гарнізонах Далёкага Усходу, бо з'явіўся на свет у сям'і вайскоўца.

**— Хто ў вашым гурце мае музычную адукацыю?**

Насамрэч прафесійная музычная адукацыя ёсць толькі ў двух чалавек — гэта флейтыстка Вольга Ісаева і вакалістка Паліна Дулінец. Яны выкладчыцы флейты і вакалу адпаведна. Астатнія — аматары — нехта скончыў музычную школу, нехта самавук.

**— Цяжка было засвойваць інструменты самавукам?**

— Гэта індывідуальна. Напрыклад, клавішніку было крыху лягчэй — ён займаўся ў музычнай школе і іграў на ўдарнай устаноўцы ў цымбальным аркестры і ў пары панк-каманд. Калі мы пачалі ствараць гурт, высветлілася, што ў нас ажно два ўдарнікі ў гурце. Тады Мікола засвоіў блок-флейту, а пасля пераходу «Рокаша» з акустыкі да электрычнага гучання навучыўся іграць на сінтэзатары. Увогуле, ён вельмі музычны чалавек. Дай яму саксафон, ён і з ім управіцца.

А я яшчэ з шаснаццаці год браў удзел у розных гуртах. Спачатку на вакале ў пары цяжкаметалічных каманд, якія так у гісторыі нічога і не пакінулі. А як стварылі «Рокаш», напачатку апроч вакалу іграў на варгане — архаічным, шаманскім музычным інструменце — не трэба яго блытаць з арганам! Пасля пакрысе навучыўся карыстацца бас-гітарай.



*Гурт «Рокаш», або «канфедэрацыя» музыкаў, якія адстойваюць свае погляды на беларускую музыку.*

**— Акрамя вас, хто з рокашаўцаў удзельнічаў у іншых калектывах?**

— Наш барабаншчык Аляксей Яфрэменка чалавек дасведчаны, бо паспеў пайграць у вялікай колькасці альтэрнатыўных гуртоў, такіх як «Калі Юга», «Tarpach», «PartyZone», «VOLK» і інш. Таксама гітарыст Алесь Акульчык, які і зараз з'яўляецца гітарыстам post-rock гурта «Carneval Leave». Флейтыстка наша — Вольга Ісаева, апроч дзейнасці ў межах Рокаша, іграе fusion у гурце «Шэпт срэбра». Вакалістка Паліна Дулінец сёння супрацоўнічае з гуртам «VOLK». Ну а я і да апошняга часу іграў sorrow-metal разам з гуртам «The Dim Sun», а пасля яго распаду ўдзельнічаю ў праекце «Podych Navalnicy», які развіваецца ў рэчышчы беларускамоўнага doom-metal.

**— Вы пачыналі з бір-фолька. А чаму змянілі свой кірунак? З чым гэта звязана?**

— Бір-фольк — гэта быў самы-самы пачатак, калі і іграць яшчэ толкам ніхто не ўмеў, але было шмат жадання, шмат энергіі. А калі прыйшла Паліна, наша вакалістка, мы зразумелі, што ранейшыя піўныя задорныя кампазіцыі не зусім падыходзяць для яе пяшчотнага вобраза. Тады пачала з'яўляцца і патрыятычная лірыка, і інтымная, і філасофская. Пасля, цягам развіцця, выпрацавалася своеасаблівая рокашаўская стылістыка.

Мы і далей гатовыя змяняцца, бо надта нам гэта падабаецца. Напрыклад, ёсць ідэя запісаць некаторыя партыі на віяланчэлі, а

таксама выкарыстаць некаторыя этнічныя інструменты: на той жа самы варган, дыджырыду ці штосьці яшчэ. А то ўсё на бас-гітары ды на бас-гітары! (пасміхаецца. — **М. Д.**) Да таго ж, цяпер не складана дадаць да музычнай формы кампазіцыі розныя спецыфічныя гукі (шоргат, грукат і інш. — **М. Д.** ) Усё гэта запісваецца на сэмплер, які мы пэўны час выкарыстоўвалі, і гучыць на канцэртах.

Так што слухачам варта чакаць эксперыментаў і цікавых вынаходніцтваў. У гурце шэсць удзельнікаў, і ўсе слухаюць розную музыку. Кожны ад сябе што-небудзь абавязкова дадае. У выніку атрымоўваецца такі мікс, якім па сутнасці і з'яўляецца «Рокаш».

**— Памятаеце свой першы выступ?**

— Безумоўна. Гэта быў верасень 2004 года, фэст «Беларусь сярэднявечная», які праводзіўся «Рыцарскім родам снежнага барса» ў Мінску. Арганізатары, невядома навошта, запрасілі нас. На той момант, прайшоў толькі месяц, як да нас далучылася флейтыстка.

Мы адыгралі разам літаральна некалькі рэпетыцый. Нашкрэблі кампазіцый шэсць і выйшлі на сцэну. Карацей, жудасны быў выступ, нават успамінаць яго цяжка. Але галоўнае — не спыніліся, эвалюцыя працягвалася і працягваецца дагэтуль.

*Дарэчы, Вольга з'явілася ў гурце выпадкова. Хлопцы пахваліліся свайму сябру, што ў іх ёсць гурт, а той, у сваю чаргу, парэкамендаваў ім сваю знаёмую, якая чароўна іграла на флейце. Хвілін пятнаццаць Мікола па тэлефоне ўгаворваў дзяўчыну хаця б прыйсці на рэпетыцыю. На дзіва, яна не толькі згадзілася прыйсці, але і засталася ў гурце.*

*Яшчэ цікавей атрымалася з вакалісткай Палінай. Цудоўны голас спявачкі вызначылі па яе кулінарных здольнасцях. Перад чарговай рэпетыцыяй у Вольгі дзяўчаты пачаставалі Міколу баршчом. Пасля чаго ён адказаў згодай на прапанову Вольгі запісаць «Баладу» разам з вакалісткай, што гатавала пачастунак, бо падумаў: «Калі яна так гатуе, то і спявае, напэўна, добра».*

*З той пары «Рокаш» стаў гуртом з жаночым вакалам.*

**— Як ствараюцца новыя кампазіцыі?**

— Я прыношу Паліне тэксты і ў яе з'яўляюцца пэўныя асацыяцыі наконт іх. І яна запісвае мелодыю, якая потым трапляе ў хваццкія лапы Алеся. Ён прапісвае асноўныя аранжыроўкі. Пасля пачынаем рэпеціраваць, нешта дадаём, штосьці адымаем. Далей складаецца асноўны контур песні.

Насамрэч, больш за ўсё дапамагае ствараць жаданне. Што датычыцца спецыфічнай атмасферы, то яна заўсёды ў нас прысутнічае. Адзіная праблема — гэтае самае жаданне з'яўляецца, на жаль, не ва ўсіх адначасова. Ну а калі з'явілася, значыць працэс пайшоў.

**— Доўга можаце працаваць над адной песняй?**

— Вельмі доўга. Над нашай песняй «Дарогі дажджу» прамучыліся недзе год. Напачатку здавалася, усё ёсць, але нешта не тое. Не атрымоўваецца так, як трэба. Але праз год сабраліся, пачалі іграць, і тут быццам нейкае прасвятленне на нас сышло. Вырашылі сумясціць электронную музыку і фолькавую, плюс — цяжкі гітарны драйв, і ў выніку атрымалася. Так што нездарма мучыліся з ёю.

**— А што чутно наконт дэбютнага альбома?**

— Насамрэч, ужо запісаны і зведзены ўсе трэкі новага альбома. Зараз яны мастэрынгуюцца на студыі «Everest». Спадзяёмся, што ўжо ў бліжэйшы час мы зможам прэзентаваць доўгачаканы альбом. Трэкі, якія мы туды ўключылі — гэта падсумаванне той працы, што вялася на працягу пяці год. Мяркую, ён атрымаецца featureзнапланавым: ад лірычных балад да драйвавых рокавых кампазіцый. Туды ўвойдуць яшчэ пара новых песень, якія мы зрабілі перад самым пачаткам студыйнай дзейнасці. І, нягледзячы на тое, што праца над першым альбомам не скончана, мы ўжо думаем над другім, які, мне падаецца, будзе больш канцэптуальна вытрыманым. У дэбютным альбоме — адзінаццаць электрычных трэкаў і, хутчэй за ўсё, бонусам пойдуць тры акустычныя. Безумоўна, штосьці будзем выкладаць на сайт, але толькі пасля прэзентацыі.

**— Пасля праслухоўвання ўжо запісанага трэка вам часта хацелася нешта змяніць, удасканаліць, перарабіць?**

— Канечне. Але ў студыі прыходзілася сябе стрымліваць, бо, калі б мы пачалі рэалізоўваць усе задумы, то альбом невядома калі мог бы з’явіцца. Заўсёды хочацца штосьці дадаць, зрабіць яшчэ прыгажэй — межаў для дасканаласці няма.

**— Ці ёсць у вас кліпы?**



*Салістка Паліна (злева) і флейтыстка Вольга.*

— Кліп, шчыра кажучы, толькі адзін. На песню «Запалі агонь». Нам дапамагалі здымаць яго Вольга і Віталь Кулеўскія. Віталь — вядомы гукарэжысёр на беларускім радыё. Гэта была дыпломная праца Вольгі. Зрэшты кліпам тое відэа цяжкавата назваць, хутчэй, такая сабе прыгожая нарэзка добрых кадраў пад музыку. Памятаю, увесь дзень прамучыліся на здымках у Лошыцкім парку. Безумоўна, мы плануем запісаць штосьці яшчэ. Але ж не адразу ўсё робіцца…

**— Маеце на мэце ствараць кавер-версіі кампазіцый іншых гуртоў?**

— Так. Асабіста я даўно прапаноўваў «Рокашу» запісаць кавер на адну з песень аднаго з маіх улюбёных гуртоў — гомельскага «Gods Tower», але пакуль усё стаіць і не рушыцца. Зрэшты, мы працуем над кавер-версіяй кампазіцыі славутага гурта «Led Zeppelin» — «No quarter». Нам вельмі цікава паспрабаваць надаць класіцы беларускае гучанне.

**— У якіх конкурсах вы бралі ўдзел? Выступ на якім фестывалі стаў для вас самым запамінальным?**

— Выступалі на конкурсе маладых фолквыканаўцаў у гонар каралевы Боны, дзе атрымалі спецыяльны дыплом ад радыё «Культура», дыплом за адметны вакал, а таксама 8 гадзін запісу ў студыі. Далі шмат канцэртаў у Беларусі, Польшчы, Літве і Украіне. Паспелі пайграць на адной сцэне з такімі гуртамі, як «Fleur», «Meldis», «AtmAsfera», «Цень Сонца», «Стары Ольса», «Znich», «Neyro Dubel» і інш. Тройчы ўдзельнічалі ў хіт-парадзе музычнага інтэрнэт-партала «Тузін гітоў», дзе тройчы паспяхова траплялі ў выніковы гадавы тузін. Спрабавалі прабіцца на польскае «Басовішча», але не атрымалася.

**— Якая песня з’яўляецца вашай візітнай карткай?**

— Цяжка вызначыцца адразу. Напэўна, гэта кампазіцыя «Восень». Мы іграем яе ўжо даволі доўга, добра адчуваем. І слухачы радасна сустракаюць гэтую песню. А асабіста мне па ўспрыманні больш падабаюцца «Крылы».

**— Як на ваш погляд, дзе ў вас больш прыхільнікаў?**

— Безумоўна, пакуль што больш за ўсё прыхільнікаў у Беларусі. Але надта прыемна асэнсоўваць, што наша музыка прыйшлася даспадобы і ў Польшчы, і ў Літве, і ва Украіне, і ў Расіі. Яшчэ не было, каб мы ігралі і адчувалі нейкае адчужэнне, адсутнасць ментальнай сувязі паміж музыкамі і гледачамі. Людзі ўспрымаюць нас цудоўна, таму колькасць прыхільнікаў залежыць, хутчэй за ўсё, толькі ад таго, як часта мы іграем у пэўнай краіне.

**— На выступленнях Паліну можна пабачыць у шыкоўных сярэднявечных строях. Ці было ў вас жаданне ўсім апрануцца адпаведна, можа адыграць чарговы канцэрт у рыцарскіх абладунках?**

— У сталёвых бляхах, наўрад ці! Граць будзе нязручна. Урэшце, каб перадаць сярэднявечны настрой, неабавязкова выглядаць як шляхціцы часоў Вітаўта Вялікага. Напрыклад, нямецкі фолк-метал-гурт «In Extremo» стварае адмысловую атмасферу і без выкарыстання рэканструяванага адзення. У іх свой асабісты непаўторны стыль. Калі мы яшчэ ігралі медыевал-фолк, можна было зрабіць стылізацыю вопраткі пад строі XII—XIV стагоддзяў. Але цяпер мы рухаемся ў напрамку «неа-фолк», таму больш прывабнай на дадзены момант нам падаецца думка наконт своеасаблівага сімвалічнага падзелу калектыву ў плане знешняга выгляду ўдзельнікаў на светлы і цёмны бакі. Светлы, вядома, атаясамліваецца з нашымі дзяўчатамі, Палінай і Вольгай, а мужчынская частка бярэ на сябе адлюстраванне цёмнага, больш цяжкага, больш рокавага боку.

**— Як вы ставіцеся да «Еўрабачання»?**

— Са здаровым смехам! Гэта звычайны конкурс. Але мне, шчыра кажучы, не вельмі падабаецца яго фармат. Звычайна ўключаю канал, па якім ён трансліруецца, літаральна на некалькі хвілін, каб даведацца, што там чуваць новага ў Еўропе. Але пасля двухтрох выступленняў хочацца выключыць тэлевізар, бо гэта не мая музыка. Можна на пальцах пералічыць тое, што мне спадабалася за ўвесь час. Зрэшты, «Еўрабачанне» мае права на існаванне. Толькі мне незразумелая тая паніка, той пафас, які звязаны ў нашай краіне з ім.

**— Лявон, творчасць якіх музычных калектываў на дадзены момант найбольш вас цікавіць?**

— Іх вельмі шмат, таму складана пералічыць усіх. Сярод удзельнікаў беларускай сцэны магу адзначыць, па-першае «Троіцу», мэтраў айчыннага фолку. Тое, што яны робяць — проста цудоўна! Калі ўзяць менш вядомыя каманды, то буду рады ўзгадаць стаўбцоўскі гурт «Rosy». Іграюць яны надзвычайны фолк-блюз-рок — прыгожая музыка! Але і іх напаткала хвароба шматлікіх беларускіх гуртоў: за 10 год існавання так і не спадобіліся пакуль што запісаць паўнавартасны альбом. Калі ўзяць украінскія каманды, то для мяне галоўны гурт — гэта «Цень Сонца», нашы добрыя сябры. Падабаецца таксама творчасць Тараса Чубая (яго праекты «Плач Ерэміі», а таксама супольны з гуртам «Скрабін» — «Нашы партызаны»). Што тычыцца сусветнай музыкі, то тут я схіляюся да «doom і folk» металу, асабліва да фінскага, напрыклад, «Korpiklaani», «Enciferum», «KYPCK» і інш.

**— Усе ўдзельнікі гурта беларускамоўныя?**

— Часткова. У прыватнасці я, то — дакладна. Насамрэч, мы стараемся на рэпетыцыях і канцэртах размаўляць па-беларуску. Ды і асаблівага бунту сярод рускамоўных наконт пераходу на родную мову не было. Звычайна кажуць: «О! Беларуская мова! Як здорава! Шкада, што я на ёй размаўляць не ўмею». Ну, дык вучыся!

**— Хто з беларускіх пісьменнікаў вам падабаецца? Можа, вы самі пішаце?**

— Для мяне нумарам адзін заўсёды быў, ёсць і будзе Уладзімір Караткевіч. Я яшчэ з дзяцінства ягоны фанат. Я пішу ў асноўным тэксты песень, але і вершы крыху таксама. Гаварыць пра зборнік яшчэ рана, да таго ж, амаль увесь час забірае музыка.

**— Уявіце сабе, што раптам усе народы страцілі свае мовы: немцы — нямецкую, фіны — фінскую, а мы — сваю бацькоўскую і г. д. Ці магчыма было б разумець адзін аднаго толькі з дапамогай музыкі?**

— Насамрэч, тэарэтычна — такое магчыма. Музыка цудоўна перадае эмоцыі, настрой, схаваныя думкі чалавека. Але ўсё ж беларуская мова лепей. А яшчэ лепш — беларуская мова з беларускай музыкай.

**— Ці ёсць на Беларусі вашы ўлюбёныя мясціны?**

— Надта падабаюцца Браслаўскія азёры. Я ледзь не штогод туды езджу на археалагічныя раскопкі. І, вядома, каб адпачыць трохі. Надзвычай маляўнічыя мясціны. Заўжды там рады бываць.

**— У чым адметнасць «Рокаша»? Што яго вылучае сярод астатніх гуртоў гэтага ж музычнага кірунку?**

— Хм? Філасофскае такое пытанне! Мажліва, гэта своеасаблівая атмасфера «Рокаша», што ўжо склалася і якую цяжка з нечым зблытаць. Не ведаю, што ў нас ёсць яшчэ адметнага. Хутчэй за ўсё — гэта прага да эксперыментаў. Мы ўвесь час спрабуем нешта сумясціць, спалучыць. Напрыклад, цяжкі гук, рокавую рытм-секцыю і мяккія лірычныя мелодыі з пяшчотным вакалам. Зрэшты, цяжка на гэтае пытанне адказаць. Есць, пэўна, нешта, калі людзі слухаюць.

**— Пра што марыць «Рокаш»?**

— Заўсёдная мара — знайсці сябе. Думаю, кожны з удзельнікаў гурту прагне знайсці сваё месца ў гэтым свеце. Ну і заадно вызначыцца з той плынню ў музыцы, па якой будзем рухацца далей. Самае галоўнае, мы ўжо знайшлі адзін аднаго.

*Калі я выключыла дыктафон і падзякавала свайму суразмоўцу за гутарку, Лявон перастаў нервавацца, як гэта было падчас інтэрв'ю. Па дарозе да метро ён распавёў пра тое, што напісаў дысертацыю і рыхтуецца да абароны. Потым падзяліўся цяжкасцямі, якія суправаджаюць музыкаў на гастролях (асабліва не адпачнеш, калі гітара ў дарозе падпірае падбародак).*

*Мы развіталіся на «Кастрычніцкай».*

*А мне падумалася, як добра, калі побач людзі, з якімі звязваюць агульныя памкненні, інтарэсы і мары. Няхай гарыць агонь «Рокашу», запалены шасцю маладымі талентамі!*

***Гутарку вяла***
***Марыля ДУБКОВІЧ***

Вадзім УСЦІНОВІЧ

# РУТА-МЯТА ДЫ ПАМЯТА

## ПАДНОЖКУ ПАДСТАВІЛА… ГІСТОРЫЯ



*Уладзіслаў Борзабагаты.*

Не думаў—не гадаў Уладзіслаў, што на ягоны лёс гэтак паўплывае сам... Сувораў. Не, з генералісімусам расійскай арміі Борзабагаты, канечне, не быў асабіста знаёмы. Ды і пры ўсім ягоным жаданні гэтага адбыцца не магло, бо Аляксандр Васільевіч пайшоў з жыцця яшчэ за адзінаццаць гадоў да нараджэння Уладзіслававага бацькі Канстанціна Францавіча, а што ўжо казаць пра самога Уладзіслава: ён упершыню пабачыў свет 23 красавіка 1831 года. Тым не менш, Сувораў у ягоны лёс усё ж умяшаўся. Прынамсі, унёс некаторыя карэкціроўкі, якія не маглі не паўплываць на фарміраванне характару, вызначэнне жыццёвай і грамадзянскай пазіцыі. Хоць, калі ўжо быць праўдзівым да канца, то не столькі Аляксандр Васільевіч, няхай і ўскосна, у гэтым вінаваты, колькі настаўнік Слуцкай гімназіі Багушэўскі. А таксама ў нейкай ступені і сам Уладзіслаў.

Багушэўскі, як, бадай, і кожны выкладчык, вельмі любіў свой прадмет і, зразумела (таксама, як і кожны выкладчык), патрабаваў ад сваіх вучняў падобнай узаемнасці. Толькі далёка не ўсе з іх падзялялі ягонае захапленне. Да апошніх адносіўся і Борзабагаты. Мала сказаць, што ён гісторыю не любіў. Часам даходзіў да таго, што зусім не звяртаў увагі на гэты школьны прадмет. Не надта шанаваў ён і яшчэ два — катэхізіс і рускую мову. Па ўсіх іншых прадметах — лепшы вучань у гімназіі, а па гэтых... Падножку яму акурат і падставіла гісторыя.

На тым уроку Багушэўскі расказваў правыдатных палкаводцаў, а да тых, хто праславіўся сваімі ратнымі подзвігамі, ён нязменна ставіўся з павагай. Асабліва да тых, чые імёны ў гэты час былі ў многіх на слыху. У тым ліку, і Суворава. Пра Суворава, а таксама пра Напалеона ён і гаварыў, калі заўважыў поўную Уладзіслававу адчужанасць. Падобная абыякавасць вучня яго і абурыла.

— Борзабагаты! — з цяжкасцю стрымліваючы сябе, каб не закрычаць, звярнуўся ён да Уладзіслава. — Будзь ласкавы, адкажы мне, пра што я толькі што гаварыў?

На ягонае здзіўленне Уладзіслаў так падрабязна ўсё пераказаў, быццам уважліва слухаў.

— Але ж я расказваў яшчэ і пра Суворава...

— Сувораў, — не даў яму дагаварыць Борзабагаты, — гэта...

Трэба ж было так здарыцца, што менавіта ў гэты момант хтосьці з вучняў, карыстаючыся тым, што Багушэўскі цалкам засяродзіў сваю ўвагу на Борзабагатым, непрыкметна залез пад парту і з усёй сілай ушчыпнуў Уладзіслава за нагу. Той ад нечаканасці ажно падскочыў, а моцны боль, які пароследаваў за гэтым, прымусіў яго, з цяжкасцю стрымліваючы сябе, каб не закрычаць, скрывіцца. Магчыма, Багушэўскі асабліва і не засяродзіўся б на гэтым выпадку, калі б грымаса на Уладзіслававым твары не з'явілася пасля таго, як ён паспеў прамовіць: «Сувораў — гэта...»

— Дык вось як вы ставіцеся да знакамітага рускага палкаводца?! — узарваўся ён. — Грымаснічаць уздумалі! Вон з класа! Пра ўсё паведамлю дырэктару!

Выратавала Уладзіслава толькі тое, што дырэктар усё ж аказаўся чалавекам разважлівым. Ён не прывык сячы з-за пляча, таму, узяўшы ў яго слова, што падобнае болей не паўторыцца, дазволіў працягваць вучобу. Уладзіслаў, хоць, зразумела, сябе ні ў чым вінаватым не лічыў, такое слова даў, спадзеючыся, што пасля гэтага ў яго ніякіх праблем ва ўзаемаадносінах з выкладчыкамі не ўзнікне. І не здагадваўся, што вучыцца яму застаецца меней года.

Праўда, каб адны толькі наскокі Багушэўскага, яшчэ можна было б змірыцца. Дый да прыдзірак выкладчыкаў катэхізіса і рускай мовы ён даўно паспеў прывыкнуць. Але выбівала з каляіны тое, што гэтых прыдзірак стала болей, чым раней, да інцыдэнту на ўроку гісторыі. А тут неяк адзін з выкладчыкаў Быстроў знайшоў у сябе запіску, у якой у ягоны адразу гучала пагроза: «Людовіка выгналі з Францыі, то і вы выбірайцеся са Слуцка». Зноў жа, магчыма, справу спусцілі б на тармазах, але ж Быстроў выкладаў... рускую мову. Аўтаматычна склаўся ланцуг: Сувораў — руская мова — антырасійскія настроі. Роля ж злучальнага звяна ў ім нядобразычліўцамі была адведзена Борзабагатаму.

Як ні стараўся Уладзіслаў апраўдвацца, што ў яго і ў думках не было, каб паграnamed жаць Быстрову, усе сведчылі не на ягоную карысць. Таму дырэктар гімназіі, надта не задумваючыся падпісаў загад аб выключэнні нядобранадзейнага Борзабагатава з гімназіі. Іншага выйсця, апроч таго, каб вяртацца дамоў, ва Уладзіслава не было. Правёўшы яшчэ колькі дзён з сябрамі, пачаў упакоўваць свае няхітрыя пажыткі, каб потым пайсці на паштовую станцыю шукаць балагола, які б ехаў у бок Нясвіжа, а адтуль ужо дабірацца на Наваградчыну, дзе, крыху адпачыўшы, можна прыняць рашэнне, як быць далей. З адлічэннем жа з гімназіі, на здзіўленне самому сабе, зміры ўся даволі хутка.

Калі што і гняло яго, дык няёмкасць ад таго, што па сутнасці падвёў матчынага знаёмага, які шмат займаўся мецэнацтвам, не шкадаваў грошай на адукацыю, у тым ліку і для таго, каб накіроўваць на вучобу тых, на каго асабліва спадзяваўся.

## З ГІМНАЗІІ Ў ГІМНАЗІЮ І…

Родныя мясціны, як і звычайна, калі наведваўся падчас летніх канікулаў (зімой гэта рабіў не заўсёды, бавіў час у Слуцку), сустрэлі той звыклай цішынёй, ад якой на сэрцы заўсёды станавілася вусцішна і так хораша, што падобнае адчуванне нават цяжка перадаць словамі. Маёнтак Рутка, у якім Уладзіслаў нарадзіўся, знаходзіўся непадалёку ад Наваградка ў надзіва маляўнічай мясцовасці. Поруч працякала аднайменная рэчка, якую сёй-той, праўда, называў Рутай. Руткай называлася і вёска, якая належала яго бацьку. Маці Уладзіслава з'яўлялася дачкой суседняга памешчыка Тугановіча. Лёсам Уладзіславу было наканавана стаць першынцам у гэтай маладой сям'і. Пасля яго на свет з'явіліся іншыя дзеці, таксама сыны: Іосіф, Баляслаў, Станіслаў, Антон, Франц, Ігнат. Бацькі вялікага дастатку не мелі, таму Канстанціну Францавічу давялося пайсці на дзяржаўную службу. Спачатку быў наваградскім павятовым, а пасля гродзенскім губернскім межавым суддзёй.

Маці Уладзіслава — Юлія Іванаўна з'яўлялася чалавекам адукаваным, любіла кнігі. Яна і стала першай настаўніцай сваіх дзяцей. А паколькі Уладзіслаў быў старэйшым, то яму ў навучанні і больш удзялялася ўвагі. Такія намаганні не прайшлі бясследна. Ён атрымаў настолькі добрую падрыхтоўку, што ў 1842 годзе паступіў адразу ў трэці клас Наваградскага павятовага вучылішча, у якім курс навучання займаў пяць гадоў. Праўда, ведаў неставала для паступлення

ва ўніверсітэт. Таму, скончыўшы вучылішча, і паступіў у Слуцкую гімназію, каб пасля завяршэння яе працягваць вучобу ў якой-небудзь вышэйшай навучальнай установе.

Ведаў, што з марай на некаторы час давядзецца развітацца. Але не сядзець жа склаўшы рукі. Маці (бацька заўчасна пайшоў з жыцця пяць гадоў таму), якой спачатку нічога не сказаў пра выключэнне з гімназіі, пачала здагадвацца, што ў яго з вучобай нелады. Іначай як вытлумачыш ягоны далёка не вясёлы настрой. Таму хутка і мусіў сказаць усю праўду. Пасля гэтага прызнання пачалі разам шукаць выйсце з даволі няпростага становішча.

Родзічы параілі паступаць, хоць гэта і далекавата, у Мінскую гімназію. Не ў апошнюю чаргу таму, што пры ёй ёсць інтэрнат. Дый узровень падрыхтоўкі выпускнікоў вельмі высокі. Нездарма пазней многія з іх сталі знакамітымі людзьмі. Аднак родзічы не хавалі і свайго апасення. Невядома было, як да ўсяго паставяцца ўлады. Уладзіслаў жа паспеў «засвяціцца», а, таму каб яму дазволілі працягваць вучобу, давядзецца прыкласці нямала намаганняў.

Старанні далі вынік. Хоць і з цяжкасцямі, дазвол Борзабагатаму на вучобу ў Мінскай гімназіі ўлады, нарэшце, далі. Было выдзелена яму і месца ў інтэрнаце. Праўда, пры ўмове, што пастаянна будзе знаходзіцца пад наглядам.

Мажліва, неяк усё і абышлося б. Але і ў сценах гэтай гімназіі лунаў дух вальнадумства. Сярод рэвалюцыйна настроеных вучняў асабліва вылучаўся Павел Вейштарт, які спецыяльна перавёўся ў Мінск з Віленскай гімназіі, каб, актывізаваўшы грамадзянска актыўную моладзь, стварыць філіял тайнай арганізацыі «Брацкі саюз літоўскай моладзі». Калі Борзабагаты пазнаёміўся з яе праграмай, ён зразумеў, што гэта тое, што адпавядае ягоным памкненням. Захацелася на справе даказаць, што па-ранейшаму існуюць яшчэ справядлівасць, праўда, сумленне. Знайшоўшы ж паплечнікаў з ліку тых, хто ўваходзіў у гэты саюз, было куды прасцей дамагацца ісціны. Удзельнікі гэтай арганізацыі дэклaравалі роўнасць людзей незалежна ад веравызнання і нацыянальнасці, выступалі за ліквідацыю саслоўных прывілеяў, патрабавалі вызвалення сялян з-пад прыгнёту і забеспячэння іх зямлёй.

Ці ж не пра гэта ён чуў змалку з вуснаў бацькі і маці?

Ці не пра гэта марылі людзі з блізкага іхняга акружэння?

А хіба не пра неабходнасць свабоды, роўнасці гаварылі яму тыя выкладчыкі, якія не страцілі пачуцця патрыятызму?

Дый ведаў Уладзіслаў, што сам ён хрышчаны двойчы, а гэта таксама сведчыла аб тым, што ягоныя бацькі не з’яўляюцца артадоксамі ў веравызнанні. Спачатку яго хрысцілі ў царкве, якая знаходзілася ў суседняй ад Руткі вёсцы Сенежыцы, калі і атрымаў гэтае імя. А ўжо ў пяцігадовым узросце ўсё праходзіла па каталіцкім абрадзе. Адбывалася ў Наваградскім прыходскім рымска-каталіцкім касцёле. Як і патрабавала таго традыцыя, ён стаў насіць два імені — ранейшае Уладзіслаў і новае Марэк. Праўда, у асноўным карыстаўся першым. І Уладзіславам называлі яго і ўсе блізкія, знаёмыя.

«Ад жадання адпомсціць за слуцкія несправядлівасці» (гэта яго асабістае прызнанне, што прагучала пазней, калі ягоны лёс вызначала спецыяльная следчая камісія, створаная для таго, каб вызначыць віну ўдзельнікаў паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага) ён не толькі ўступіў у «Брацкі саюз літоўскай моладзі», а і хутка стаў адным з яе кіраўнікоў. Рэвалюцыйна настроеная моладзь дзейнічала настолькі сур’ёзна, што нават запланавала на 5 красавіка 1849 года паўстанне. Аднаго яна не прымала пад увагу (дый з-за свайго юнацкага максімалізму няздатна была рэальна ацаніць сітуацыю) — таго, што такія дзеянні нават пры самай строгай канспірацыі не могуць прайсці незаўважна.

Паліцэйскія ж шпікі не толькі не драмалі, а і пастараліся знайсці сярод членаў арганізацыі ахвочых супрацоўнічаць з імі. Аказаліся таксама і выкладчыкі, жадаючыя даваць неабходную інфармацыю. Таму ўжо ў сакавіку прайшлі масавыя арышты. Больш за 200 навучэнцаў, якія ўваходзілі ў саюз, апынуліся пад следствам, пасля завяршэння якога многія былі асуджаны на катаргу, аддадзены ў салдаты. Праўда, да мінскіх гімназістаў лёс аказаўся больш спагадлівым. Катарга і салдатчына іх абмінула. Звыш 60 чалавек, сярод якіх быў і Борзабагаты, проста выключылі з гімназіі. Пры гэтым агаворвалася, што яны не толькі не маюць права

аднавіцца, а і не могуць працягваць вучобу ў іншых аналагічных навучальных установах. Апроч таго ўсім пакараным неабходна было прайсці праз лупцоўку. У залежнасці ад віны кожнаму прысуджалася ад 25 да 100 удараў лазовымі дубцамі.

## КАВАЛЕР 101-Й ПАЛКІ

Экзекуцыя праводзілася прылюдна. Усіх гімназістаў прымусілі стаяць у страі і назіраць, як караюць іх таварышаў. А наколькі ўсё ўспрымалася сур'ёзна і якое вялікае значэнне надавалася гэтаму выхаваўчаму працэсу, сведчыла тое, што гэта рабілася ў прысутнасці самога губернатара. Як і трэба было чакаць, Уладзіславу, паколькі ягоная віна была асабліва вялікая, прысудзілі максімум розгаў. І, безумоўна, як адзін з галоўных завадатараў, ён аказаўся ў ліку першых, хто мусіў легчы на лаўку, спецыяльна пастаўленую на двары.

Спачатку яму было нават не да таго, каб думаць пра боль, які чакае наперадзе. Усю істоту апанавала пачуццё сораму ад таго, што даводзіцца пад поглядам соцень вачэй здымаць штаны. Але ўсе разумелі сур'ёзнасць таго, што адбываецца, таму ніхто не ўсміхнуўся, не прамовіў ні слова. І гэта надало Уладзіславу ўпэўненасці, што вытрымае, не зломіцца. Аднак калі абрушыўся першы, а потым наступныя ўдары, зразумеў, што гэта не так і проста. Быццам нехта разануў нябачным лязом па целе, а пасля ў гэтыя раны лінуў чагосьці гарачага. Пасля ж, калі лазовыя дубцы пачалі апускацца раз за разам, каб не заплакаць, не закрычаць, пачаў лічыць удары. І гэта дапамагала саўладаць з сабой. Ад яго не пачулі ні крыку, ні стогну, не плачу.

Удар за ўдарам.... Дзесяць, дваццаць, трыццаць... Здавалася, ніколі не будзе ім канца. Нарэшце, запаветная сотня пачала станавіцца ўсё больш блізкай. «Дзевяноста, дзевяноста адзін, — шаптаў ён, кусаючы ад болю вусны. — Дзевяноста дзевяць, сто...» Але, толькі сабраўся падхапіцца, як паследаваў яшчэ адзін, сто першы ўдар. Відаць, той, хто выконваў гэтую працэдуру, памыліўся ў сваіх падліках. Ды такой бяды: вытрымаўшы сто ўдараў, можна перанесці яшчэ адзін. Толькі значна пазней, калі на ягоным шляху будзе нямала іншых, куды больш суровых выпрабаванняў, Уладзіслаў Канстанцінавіч, якога ніколі не пакідала пачуццё аптымізму, з жартам пачне называць сябе «кавалерам 101-й рускай палкі».

Цяпер жа, хоць і стараўся трымацца, зусім не да жартаў было. Аптымізму таксама засталося не надта шмат. На невясёлыя думкі настройвала не столькі само выключэнне, колькі разуменне таго, што ў далейшым увогуле не зможа вучыцца. А яшчэ не ведаў, як пасля ўсяго глядзець у вочы маці. Яна ж і так стараецца, як можа, каб паставіць на ногі яго і ягоных братоў. Атрымліваецца, што чарговы раз падвёў, не апраўдаў спадзяванняў. Таму, як і пасля выключэння са Слуцкай гімназіі, вырашыў спачатку не прызнавацца ў тым, што адбылося.

Знаходзячыся дома, доўгі час рабіў выгляд, што на канікулах. Аднак калі настаў верасень, запэўніванні, што вакацыі прадоўжылі, ужо не спрацоўвалі. Маці западозрыла нядобрае, усё дапытвалася і дапытвалася, калі паедзе ў Мінск. Таму, нарэшце, і расказаў усё, як ёсць. Яна заплакала. Браты паспачувалі, але адначасова і пачалі глядзець на яго з яшчэ большым гонарам і павагай. У іхніх вачах ён пачаў ужо выглядаць сапраўдным героем. А гэтаму герою трэба было як мага хутчэй вырашаць справы з уладкаваннем на працу — не сядзець жа нахлебнікам.

Толькі знайсці яе і так было нялёгка, ды куды цяжэй, прымаючы пад увагу знаходжанне пад наглядам паліцыі. Ды свет не без добрых людзей. Асабліва, калі гэтыя людзі блізкія табе па духу, а менавіта такога чалавека Борзабагаты напаткаў у асобе павятовага ўрача Пятра Гнаінскага.

Пётр Францавіч, таксама ўраджэнец Навагрудчыны, калі вучыўся ў Віленскім універсітэце, не толькі прымаў актыўны ўдзел у рабоце Таварыства філаматаў, а і стаяў на чале аднаго з яго падраздзяленняў. Пасля завяршэння ў 1823 годзе вучобы на працу вярнуўся ў родныя мясціны. Маючы высокую кваліфікацыю, карыстаўся аўтарытэтам не толькі ў насельніцтва, але і ва ўладаў, бо, калі пачалася эпідэмія халеры, зрабіў вялікі ўклад у яе ліквідацыю. Сталася нават так, што ён уратаваў жыццё будучаму «вешальніку», а тады гродзенскаму губернатару М. Мураўёву. Зразумела, не ведаючы, якім душыцелем свабоды той стане ў далейшым, а калі б і ведаў, дык ад гэтага наўрад ці

што змянілася б: Гнаінскі, як і кожны сапраўдны ўрач, свята прытрымліваўся клятвы Гіпакрата.

Гнаінскі, які жыў у Наваградку, прапанаваў Борзабагатаму ў сваёй сям'і месца гувернёра. Дзяцей Гнаінскага ўжо выхоўвала ўраджэнка швейцарскага горада Лазана Фаня Штрудзень. Маладыя людзі хутка зблізіліся, а неўзабаве і пакахалі адзін аднаго, а 15 жніўся 1854 года пажаніліся. Радасным для Усевалада Канстанцінавіча стаў і наступны год. Калі на трон узышоў Аляксандр II, ён абвясціў амністыю, пад якую траплялі і тыя, хто быў выключаны з навучальных устаноў па палітычных матывах.

Аднак ягонае сямейнае становішча станавілася перашкодай для вяртання ў гімназію, таму вырашыў рыхтавацца самастойна. Экзамены за поўны курс здаў экстэрнам. Да гэтага часу, не без уплыву Гнаінскага, паспеў палюбіць медыцыну. Калі паўстала пытанне, куды паступаць, выбраў Маскоўскі ўніверсітэт. Але, як высветліў неўзабаве, аднаго жадання мала. Амністыя, аб'яўленая Аляксандрам II, хоць і тычылася яго, але не ў такой ступені, каб атрымліваць вышэйшую адукацыю ў Маскве. Палітычна нядобранадзейным шлях туды па-ранейшаму быў закрыты.

Аднак пры навядзенні даведак дазнаўся, што для яго могуць зрабіць выключэнне, калі на вучобу атрымае дазвол віленскага генерал-губернатара Назімава. Хоць і з цяжкасцю, такі дазвол атрымаў і ў пачатку 1856 года стаў студэнтам медыцынскага факультэта, які на той час у Маскоўскім універсітэце знаходзіўся ў прывілеяваным становішчы, паколькі з-за недахопу ў краіне ўрачоў, прыём на яго не абмяжоўваўся, а каб выпускнікі мелі высокую кваліфікацыю для выкладання прыцягваліся многія навуковыя сяцілы.

## «АГУЛ»? ТО СУПРАЦЬ ЦАРЫЗМУ АГУЛАМ

Вядомы гэты факультэт не толькі ў Маскве, а і далёка за яе межамі, быў і па іншай прычыне. Ні на адным не было гэткай актыўнай дзейнасці студэнцтва і такога вальнадумства, як на медыцынскім. Бясспрэчна, што Уладзіслаў Канстанцінавіч не мог не зблізіцца з тымі, хто ўваходзіў у нелегальныя гурткі. Асабліва ўвагу яго прыцягнуў адзін з іх, што называўся «Агул», і групаваў вакол сябе малазабяспечаных студэнтаў з Літвы, Беларусі і Польшчы. Праўда, былі сярод яго членаў і тыя, хто навучаўся на іншых факультэтах, але медыкі пераважалі.

Борзабагаты хутка набыў аўтарытэт, таму яго выбралі ў склад рады «Агула» і даручылі пасаду касіра-раднага, які займаўся зборам членскіх узносаў і размеркаваннем іх сярод тых студэнтаў, чыё матэрыяльнае становішча было цяжкае. Пры тым ён сваіх поглядаў надта не афішаваў, старанна вучыўся, таму, калі быў арыштаваны, здолеў даказаць, што ніколі не падтрымліваў тых, хто прыхільнік хваляванняў, барацьбы з уладамі. Гэта дазволіла яму паспяхова завяршыць вучобу і ў 1861 годзе атрымаць дыплом урача. Працаваць жа па спецыяльнасці пажадаў на роднай Наваградчыне. Але па вяртанні мусіў расчаравацца. Уладкавацца на дзяржаўную службу не дазволілі, бо ў вачах начальства працягваў успрымацца палітычна ненадзейным. Каб мець грошы, давялося займацца прыватнай практыкай.

Адной працай, зразумела, не абмяжоўваўся. Уважліва сачыў за тым, як у краіне разгортваліся падзеі. А ў Расіі актывізаваліся сілы, якія выступалі супраць самадзяржаўя. Пачаткам масавых хваляванняў стаў расстрэл царскімі войскамі 27 лютага 1961 года ў Варшаве мірнай дэманстрацыі. Але ўладам удалося на некаторы час справіцца з сітуацыяй. Ды запалены касцёр затухаць не збіраўся. Восенню 1961 года ў Вільні пачаў дзейнічаць Камітэт руху, які летам наступнага года ператварыўся ў Літоўскі правінцыяльны камітэт. Праз некалькі месяцаў яго ўзначаліў Кастусь Каліноўскі.

Борзабагаты, наведваючыся ў Вільню, падтрымліваў кантакт з гэтым камітэтам, а потым стаў і яго прадстаўніком у Наваградскім павеце. Выбар менавіта на Уладзіслава Канстанцінавіча выпаў невыпадкова. Немалаважным стала тое, што ягоныя погляды аб шляхах барацьбы з самадзяржаўем супадалі з поглядамі самога Каліноўскага. Дый, па роду сваёй прафесіі часта наведваючыся да людзей, Борзабагаты мог вывучаць настрой мірнага насельніцтва, а сярод тых, каму давяраў, праводзіць агітацыю. Рабіў гэта не беспаспяхова, што мусі-

ла адзначыць і следчая камісія: «давно уже был против правительства и, влиятельный по образованию своему на других человек, с самого начала демонстраций подстрекал молодежь, а впоследствии суровым своим характером каждого сумел преклонить на свою сторону; таким порядком оказал себя главным и самым настойчивым деятелем восстания в Новогрудском уезде».

Дзякуючы стараням Уладзіслава Канстанцінавіча, на канец 1862 года ў рэвалюцыйную арганізацыю ў Наваградскім павеце ўвайшло больш за 100 чалавек. Борзабагаты стаў на чале павятовага камітэта, афіцыйна пачаў называцца камісарам. Але з'яўляўся ім нядоўга. Як вядома, група «белых», якіх не задавальняў Каліноўскі, захапіла ўладу ў Літоўскім паўстанцкім камітэце. Замест якога быў утвораны аддзел кіравання правінцыямі Літвы на чале з памешчыкам Я. Гейштарам. Ранейшыя мандаты і паўнамоцтвы адмяняліся. У няміласць трапіў і Борзабагаты. Замест яго камісарам Наваградскага павета прызначылі памешчыка К. Кашыца, а Уладзіслава Канстанцінавіча зрабілі павятовым начальнікам, які знаходзіўся ў падначаленні Кашыца.

Кашыц жа, як і ўсе «белыя», негатыўна ставячыся да перадачы сялянам зямлі, рабіў усё для таго, каб пачатак паўстання ў павеце зацягнуўся. Дайшло да таго, што ён у сакавіку 1863 года, калі ў Вільні праходзіла пасяджэнне «белых», як апошні аргумент наконт таго, што рана брацца за зброю ў Наваградскім павеце, назваў непадрыхтаванасць да паўстання, хоць гэта не адпавядала ісціне. Хлусіў Кашыц і пра тое, што ў тамашніх паўстанцаў нестае зброі і пораху. Таму невыпадкова на гэта адзін з удзельнікаў пасяджэння зазначыў, што, калі з'явіцца неабходнасць, Борзабагаты сам падкажа. як зрабіць порах, бо вывучаў хімію і мае па ёй добрыя пазнанні.

Уладзімір Канстанцінавіч, калі Кашыц па вяртанні з Вільні, загадаў затрымаць паўстанне да пачатку мая, адмовіўся выканаць ягоны загад. Для гэтага былі ўсе падставы, бо ў павеце сабраліся немалыя, а галоўнае дзеяздольныя сілы, у тым ліку 14 артылерыйскіх афіцэраў, якія толькі чакалі, калі можна будзе ісці ў бой. Тады Кашыц пайшоў на хітрасць. У ляхавіцкіх лясах ужо дзейнічаў паўстанцкі атрад пад камандаваннем



*Герб, якім карысталася сямейства Борзабагатага.*

Р. Рагінскага. Новы камісар прапанаваў усім жадаючым уліцца ў яго. Як быццам, аргументы, вылучаныя ім, працавалі на карысць гэтага, бо тым самым атрад Рагінскага стаў бы больш падрыхтаваным для вядзення баявых дзеянняў.

Аднак Борзабагатага было не так проста абвесці вакол пальца. Ён лёгка разгадаў намер Кашыца, таму і заявіў яму:

— У вас мэта адна: любымі спосабамі не дапусціць паўстання ў Наваградскім павеце.

Кашыц паспрабаваў апраўдацца, што гэта зусім не так. Аднак гэтае «вілянне» вывела Уладзіслава Канстанцінавіча з сябе. — Зразумейце раз і назаўсёды, — заявіў ён такім тонам, што не заставалася сумнення аб ягоным жаданні ісці да пераможнага канца, — паўстанне ў павеце адбудзецца! Хочаце вы таго, ці не, але яно абавязкова адбудзецца тады, калі гэта я лічу мэтазгодным. — Убачыўшы, што Кашыц хоча яшчэ штосьці сказаць, дадаў гнеўна: — Тыя, хто будуць пярэчыць паўстанню, загінуць ад нашых жа рук!

## МОЦ У ПАДТРЫМЦЫ

Паколькі ў Наваградскім павятовым паўстанцкім камітэце было шмат прыхільнікаў хутчэйшага вядзення баявых дзеянняў, яны падтрымалі Борзабагатага. Уладзіслаў Канстанцінавіч тэрмінова звязаўся з Сяракоўскім, якога незадоўга да гэтага прызначылі ваенным начальнікам Віленскай губерні, і дапамог яму ў складанні плана паўстання. Распрацавалі і схему баявых дзеянняў. Рашаючае слова належала Сяракоўскаму як больш вопытнаму. Пагадзіліся ў тым, што арыенціровачна выступленне супраць царызму на Наваградчыне павінны адбыцца ў сакавіку-красавіку, а ўсяго ў паўстанні прыме ўдзел да 150 чалавек. Вызначылі і месца фарміравання зводнага атрада. Меркавалі сабрацца ў Налібоцкай пушчы.

Дабіраліся туды дзвюма групамі, якія павінны былі сустрэцца 7 красавіка 1863 года ў вызначаным загадзя месцы зліцца ў адзін атрад. Першая група тайна пакінула Наваградак і сабралася ля вёскі Басіна, дзе, пераправіўшыся праз Нёман, рухалася да Налібокаў пад кіраўніцтвам ксяндза Ф. Лашкевіча. Другая, якую ўзначаліў павятовы начальнік К. Шалевіч, сабралася каля вёскі Колпенічы, адкуль, атрымаўшы папаўненне, пайшла ў бок мястэчка Мір. Там у яе ўлілося яшчэ некалькі паўстанцаў. Пасля чаго ўсе пераправіліся праз Нёман каля Ярэміч.

Пра тое, як праходзіў першы бой наваградцаў з царскімі войскамі, ёсць дзве крыніцы звестак. Дарэчы, абедзве яны не адмаўляюць таго, што адзіны паўстанцкі атрад быў створаны, як і планавалася, 7 красавіка. Праўда, паводле паведамлення афіцыйнага ваеннага начальніка Наваградскага павета палкоўніка Чартова, карнікі дагналі гэты атрад яшчэ каля Налібокаў. Пасля бою, што працягваўся дзве гадзіны, паўстанцы панеслі вялікія страты (60 чалавек загінула, 5 трапіла ў палон), мусілі адступіць, пасля чаго былі рассеяны.

Варшаўскія «Ведамасці з полю бою» сцвярджалі, што паўстанцаў загінула роўна ў тры разы меней, але ў палон іх трапіла ўдвая болей. Сярод палоных аказаўся і ксёндз Лашкевіч, які да месца прызначэння вёў першую паўстанцкую групу пасля таго, як яна, сабраўшыся ля вёскі Басіна, пераправілася праз Нёман. Лашкевіча, параненага 7 кулямі, карнікі ў лютай нянавісці па-зверску дабілі.

Як бы там ні было, але рэшткі аб'яднанага атрада выстаялі. Тыя, хто застаўся ў жывых, дзейнічалі ў ваколіцах і саміх Налібок, і іншых вёсак. Праз некаторы час яны зноў сабраліся ў Налібоцкай пушчы. Праўда, байцоў было няшмат — толькі 45 чалавек. Але чакалася папаўненне атрада добраахвотнікамі са Слуцка і нават з Мінска.

Пра павышэнне баяздольнасці паўстанцаў шмат клапаціўся Борзабагаты. Яшчэ ў канцы сакавіка ён прымаў у сваім маёнтку інжынера-прапаршчыка рускай арміі Вітольда Міладоўскага, які перад гэтым займаўся рэвалюцыйнай дзейнасцю ў Пецярбургу. Уладзіслаў Канстанцінавіч адправіў яго са сваім братам Антонам у Мір, дзе мясцовы ўрач Ф. Цвірка даставіў Міладоўскага ў месца дыслакацыі паўстанцаў. Вітольд Феафілавіч узяў пад сваё камандаванне ўзвод, а пасля стаў на чале атрада.

Увесь гэты час Борзабагаты падтрымліваў цесную сувязь з Каліноўскім. Ад яго ж у сярэдзіне мая атрымаў загад накіраваць наваградскі паўстанцкі атрад у раён Мілавідаў, дзе ўжо сканцэнтравалася пяць атрадаў агульнай колькасцю каля 800 чалавек. Папаўненне з наваградцаў, якіх было 140, стала не лішнім, бо вырашылі даць рашучы бой царскім войскам. План баявой аперацыі распрацаваў Каліноўскі разам з Валерыем Урублеўскім, а за два дні да бою Каліноўскі прыехаў пад Мілавіды для таго, каб асабіста праінструктаваць паўстанцаў.

Бой пачаўся 22 мая 1863 года і працягваўся да позняга вечара. Нягледзячы на тое, што слаба ўзброеным паўстанцам супрацьстаялі тры ўрадавыя роты, якім былі прыдадзены чатыры гарматы, байцы гераічна адбівалі атаку за атакай. Карнікі, не дабіўшыся поспеху, страцілі 50 чалавек забітымі і раненымі і мусілі адступіць на зыходныя пазіцыі. Не разлічваючы толькі на ўласныя сілы, яны папрасілі падмацавання. У падмогу ім спешна прыбылі яшчэ дзве роты, якія знаходзіліся ў Нясвіжы. Раніцой наступнага дня пачалося новае наступленне. Паўстанцы зразумелі, што ім не выстаяць, таму загадзя пакінулі свой лагер. Карнікі ж палічылі за лепшае іх не праследаваць.

Наваградскі ж атрад, выконваючы загад Борзабагатага, вырашыў вярнуцца ў

Наваградскі павет. Але, на жаль, гэта не ўдалося. Палова байцоў, якую ўзяў пад сваё камандаванне А. Бараноўскі, 9 чэрвеня была разгромлена ў Рэпіхаўскім лесе каля мястэчка Крывошын. Другая на чале з Міладоўскім пратрымалася да 28 чэрвеня, але пацярпела паражэнне паміж вёскамі Драчылава і Ігнатава.

## ПА ВАСТРЫІ ЛЯЗА

Як не дзіўна, увесь гэты час Борзабагаты мог дзейнічаць спакойна, не трапляючы ў поле зроку афіцыйных улад. Першы трывожны званок для яго празвінеў толькі ў чэрвені 1863 года, калі палкоўнік Чартоў загадаў Уладзіславу Канстанцінавічу не пакідаць Наваградак. Бясспрэчна, гэта Борзабагатага не магло не насцярожыць. З'явілася прадчуванне, што цягам часу могуць арыштаваць. А калі даведаюцца, якая вялікая яго роля ўва ўзброеным выступленні, не сумняваўся, што ў жывых не застанецца. Гэтай упэўненасці пабольшала, калі 26 чэрвеня 1863 года ў Наваградку быў публічна расстраляны памешчык А. Пуслоўскі. Таму трэба было рыхтавацца да ўцёкаў. На ўсялякі выпадак разам з братам у лесе зрабіў тайнік, у якім захоўваў вопратку і прадукты харчавання. Усё гэта спатрэбілася 5 ліпеня, калі давялося пакінуць Наваградак, перад гэтым цудам пазбегнуўшы арышту.

Па адной з версій Борзабагаты ехаў да хворага ў суседнюю вёску. Перад гэтым спыніўся ля заезнага дома, каб выпіць шклянку чаю. Нехта з нетутэйшых жандараў, праходзячы міма, убачыў яго брычку. Відаць, ён чуў ужо пра доктара, якога шукаюць, таму зайшоў у памяшканне і накіраваўся да Уладзіслава Канстанцінавіча, які дапіваў свой чай.

У Борзабагатага, нягледзячы на сонечны дзень, халадком праца̀ла спіну. «Усё! — мільганула здрадлівая думка. — Так бяздарна папасціся». Але, як хутка яна з'явілася, гэтаксам а маланкава і знікла. Навошта трывожыцца? Канечне ж, гэты жандарм не ведае яго ў твар. Таму трэба заставацца, як мага больш спакойным. Толькі вытрымка можа ўратаваць. А жандар, падышоўшы да самага століка, пачціва павітаўся і запытаўся:

— Калі я не памыляюся, — паказаў ён у бок уваходу, — там стаіць брычка доктара?

— Яго, — як ні ў чым не бывала адказаў Уладзіслаў Канстанцінавіч.

— А не маглі б вы сказаць, дзе ён сам?

— Адлучыўся на некалькі хвілін, — спакой не пакідаў Борзабагатага.

Жандар, задаволены адказам, падышоў да акна, каб бачыць, што робіцца на двары. А Уладзіславу Канстанцінавічу толькі гэта і трэба было. Ён ціхенька падняўся з-за стала і асцярожна, каб не пачуў жандар, накіраваўся да чорнага хода. Калі ж апынуўся на двары, кінуўся ў бок агародаў. Так і дабраўся праз некаторы час у Рутку, дзе жыла ягоная жонка з двума дзецьмі.

Другая версія больш праўдападобная. Усё адбывалася ў чайной. Борзабагаты канчаў палуднаваць, як зайшлі два жандарскія афіцэры, якія аб чымсьці ціха перагаворваліся між сабой. Гэта яго насцярожыла. Прыслухаўшыся, ён даведаўся, што арыштаваны Кашыц выдаў многіх удзельнікаў паўстання. У ліку іншых назваў і Борзабагатага. Паколькі гэты Борзабагаты асабліва небяспечны злачынца, яго загадана схапіць і расстраляць.

Уладзіслаў Канстанцінавіч, стараючыся заставацца спакойным, разлічыўся і накіраваўся на вуліцу, дзе ледзь не ў лоб сутыкнуўся яшчэ з адным жандарам.

— Борзабагатага не бачылі? — запытаўся той.

— У зале ён, — адказаў Уладзіслаў Канстанцінавіч.

Жандар пайшоў у чайную, а Борзабагаты кінуўся агародамі, каб хутчэй дабрацца да Руткі і схаваць дакументы, якія маглі б яго скампраметаваць. Толькі зрабіў гэта, як пачуў ад маці:

— Жандары!

Уцякаць не было сэнсу.

— Сюды! — крыкнуў брат і паказаў у бок канапы, што знаходзілася ў гасціннай. — Лезь хутчэй пад яе!

Толькі паспеў схавацца, як уварваліся жандары.

— Дзе ён?! — закрычаў старэйшы.

— А дзе яму быць? — адказала маці, разумеючы, што шукаюць менавіта яе старэйшага сына. — У Наваградку.

— Гэта мы яшчэ паглядзім! — жандар загадаў малодшым чынам, якія суправаджалі яго: — Прыступайце да вобыску.

Не тое, што вобыск, а сапраўдны пагром пачаўся. Асабліва стараліся жандары ў

спальні. Раскідвалі падушкі, успорвалі матрацы, выварочвалі з камодаў бялізну.

Гэта па сутнасці і ўратавала Усевалада Канстанцінавіча. Калі жандары, пакінуўшы спальню, пайшлі ў іншыя пакоі, ён перабраўся ў яе і схаваўся паміж пасцелямі і падушкамі. Калі ж жандары зніклі, выбраўся са свайго схову і, хуценька развітаўшыся, падаўся ў Наваградак, а адтуль ужо ў лес, дзе і знаходзіўся жаданы тайнік. Пераапрануўся ў сялянскае адзенне і накіраваўся далей ад родных мясцін, разумеючы, што толькі ў гэтым яго выратаванне.

Жандары ж ніяк не маглі змірыцца з тым, што яго не ўдалося затрымаць. Яшчэ некалькі разоў наведваліся ў Рутку. Аднойчы нават арыштавалі ягонага брата Баляслава і толькі ў Наваградку высветлілася, што памыліліся: Баляслаў і Уладзіслаў былі вельмі ж падобныя адзін на аднаго. Нібыта браты-блізняты, хоць і розніліся ўзростам. Баляслава, вядома, давялося адпусіць, прыгразіўшы, што Уладзіслаў усё адно будзе злоўлены і пакараны смерцю.

## БЛУКАННЕ ПА ПАКУТАХ

А ён працягваў заставацца выгнаннікам у сваім родным краі. Хаваўся ў Налібоцкай пушчы. Потым трапіў пад Слуцк. Летам было прасцей. Дый восенню — таксама. Куды цяжэй далася зіма. Але і яе перажыў адносна лёгка, дачакаўшыся вясны. Хоць падоўгу на адным і тым жа месцы не затрымліваўся. Якімі б гасціннымі ні былі гаспадары, але дзеля бяспекі праз колькі часу пакідаў іх, каб прадоўжыць сваю вымушаную вандроўку. Улетку, каб не так было самотна на душы, спрабаваў нават размаўляць з птушкамі, а то і да кветак звяртаўся.

Ды год, як ні доўжыўся ён для яго, мінуўся і неўпрыкметку прыйшла чарговая зіма. У адрозненне ад першай, яна аказалася сібернай. Калі ў першую часам начаваў і ў лесе, дык цяпер і думаць пра гэта не мог, настолькі моцныя стаялі маразы. У вёсках жа нярэдка напаткоўваў і тых, хто глядзеў на яго падазрона. Яшчэ небяспечней было заходзіць у корчмы, дзе пастаянна было шмат праезджага люду, у тым ліку завітвалі сюды і прадстаўнікі ўлады.

Ён ужо ведаў, што не толькі Кашыц, а і Міладоўскі, трапіўшы ў рукі карнікаў, баючыся за сваё жыццё, ахвотна пачаў даваць паказанні. Абодва выдалі многіх удзельнікаў паўстання. Пасля шматлікіх арыштаў, праверак — гэта ў той ці іншай ступені тычылася больш як 100 чалавек, улады прызналі асабліва віноўным яго, Борзабагатага, назваўшы кіраўніком і самым актыўным удзельнікам паўстання і прысудзілі разам з іншымі (у гэты спіс трапіў нават Кашыц) да пакарання смерцю праз расстрэл. Праўда, праз некаторы час такі суровы прысуд пакінулі толькі ў дачыненні да яго аднаго. Ягоныя браты Іосіф і Антон былі сасланы ў Сібір. Маці, жонка і яшчэ двое братоў — Ігнат і Баляслаў трапілі пад нагляд паліцыі.

Іншага выйсця, як эмігрыраваць, ужо не бачылася. Таму даў сабе слова: пройдзе зіма — трэба думаць аб тым, як хутчэй ажыццявіць гэта. А падацца лепей у Францыю, дзе, ведаў, знайшлі прыстанішча многія ўдзельнікі паўстання, якім удалося пазбегнуць пакарання і дзе спадзяваўся знайсці сабе занятак па душы.

З неймавернымі цяжкасцямі ў жніўні 1865 года дабраўся да Парыжа. Па прыездзе, зразумела, апынуўся ў бяспецы, а вось цяжкасцей, хоць і паменшала, але не на шмат. Медыцынскай практыкай, не маючы пры сабе дыплома, займацца не мог, якую-небудзь іншую, больш-менш прыстойную работу ўдавалася знайсці не заўсёды. Праўда, крыху дапамагалі сябры і знаёмыя, пазычаючы грошы, а гэта дазваляла здымаць хоць маленькі пакойчык. Аднак наперадзе ніякага прасвету для сябе не бачыў.

Паспрабаваў пажыць у Італіі, але і ў Мілане, дзе пасяліўся, было нясоладка. Абнадзеіла толькі тое, што змог адправіць жонцы пісьмо, у якім прасіў тэрмінова прыслаць дыплом аб заканчэнні медыцынскага факультэта ўніверсітэта. Да ўсяго ўвайшоў у Аб’яднанне польскай эміграцыі, дзе знайшоў аднадумцаў. Калі доўгачаканы дыплом прыйшоў, вярнуўся ў Парыж і пачаў прымаць захады для таго, каб дазволілі прыезд жонцы з дзяцьмі. Ды гэта аказалася не так лёгка, як меркавалася. Выратавала становішча тое, што ягоная жонка з’яўлялася падданай Швейцарыі. Толькі ўсё роўна намаганні аб прыездзе яе з дзецьмі занялі не адзін год і родных ён змог убачыць недзе ў 1870 годзе.

Аднак і гэтая радасць аказалася нядоўгай. Паўстала пытанне, на што жыць. Урачы ў Францыі, канечне, зараблялі добра, але,

маючы замежны дыплом, ён мог лячыць толькі польскіх і рускіх эмігрантаў. Каб жа прайсці перападрыхтоўку, таксама патрабаваліся грошы, а падобную «раскошу» ён сабе не мог дазволіць. Даводзіла жыць толькі за тое, што давала прыватная ўрачэбная практыка.

## ВОСЬ ЯНА, САЛОМКА-ВЫРАТАВАЛЬНІЦА

Невядома, колькі б гэта працягвалася, калі б не выпадак, які звёў Уладзіслава Канстанцінавіча з любімцам расійскага імператара Аляксандра II графам Бутковым. Адбылося гэта дзякуючы даўняму знаёмаму Борзабагатага, які ведаў, што ў Буткова нейкая невядомая хвароба, вылечыць якую не могуць нават замежныя свяцілы. Гэты знаёмы і прапанаваў Уладзіславу Канстанцінавічу ўзяцца за лячэнне, даўшы зразумець, што калі яно пройдзе паспяхова, ён тым самым знойдзе пакравіцеля ў асобе высокапастаўленага расійскага саноўніка, а гэта ў далейшым можа дапамагчы ў вяртанні на Радзіму.

Уладзіслаў Канстанцінавіч ахвотна згадзіўся на такую прапанову. А Буткоў — тым больш: за любую з іх ён даўно хаваўся, як за выратавальную саломку, бо адчуваў сябе ўсё горш і горш, часта апынаўся ў такім становішчы, што паводзіў сябе неадэкватна, быццам страчваючы рэальнасць.

Да лячэння такога ўплывовага пацыента Борзабагаты паставіўся як ніколі сур'ёзна. Агледзеўшы графа, ён прапанаваў размясціць яго ў асобным пакоі, куды ніхто не мог бы заходзіць. Зразумела, апроч самога Уладзіслава Канстанцінавіча, які пры хворым знаходзіўся ледзь не на працягу сутак. Даваў Буткову розныя лекі. Падоўгу гутарыў з ім, стараючыся зазірнуць, як кажуць, у самую ягоную душу. Падрабязна распытваў, што цікавіць яго, чым жыве, як ставіцца да іншых людзей.

Так працягвалася чатыры месяцы. Увесь гэты час расійскае пасольства ў Францыі атрымлівала ад Борзабагатага звесткі аб тым, як праходзіць курс лячэння і штодзённа паведамляла пра вынікі тэлеграмамі Аляксандру II. Нарэшце, настаў дзень, калі Уладзіслаў Канстанцінавіч заявіў, што ў ягонага пацыента ні што іншае, як псіхічнае растройства. Звязана яно з тым, што ў Буткова з'явілася манія вялікасці, адсюль і пачаліся ўсе беды графа.

Спачатку ў пасольстве гэтаму не паверылі. Таму, перш чым слаць імператару чарговую тэлеграму, вырашылі на ўсялякі выпадак пракансультавацца з французскім урачом-псіхіятрам, які лячыў Буткова дагэтуль. Той, калі Борзабагаты пазнаёміў яго з вынікамі сваіх назіранняў, пагадзіўся з падобным дыягназам, прызнаўшы высокую кваліфікацыю расійскага калегі.

Аднак у Аляксандра II узнікла сумненне ў тым, што ўсё на самай справе так. Заняцца праверкай імператар даручыў шэфу расійскіх жандараў графу Шувалаву, якога і адкамандзіравалі ў Парыж. Першае, што зрабіў ён па прыбыцці, несумненна тое, што выказаў жаданне сустрэцца з Борзабагатым. Пасля пазнаёміўся з вынікамі лячэння Буткова іншымі ўрачамі. Тыя пацвердзілі правільнасць дыягназу, зробленага Уладзіславам Канстанцінавічам, не палічыўшы пры гэтым ушчамленнем уласнага гонару прызнаць, што самі яны пры лячэнні ішлі няправільным шляхам. Шувалаў з радасцю паведаміў і пра гэта Аляксандру II, а Борзабагатаму паабяцаў падтрымку, калі ў таго з'явіцца жаданне вярнуцца на Радзіму.

Вядома, Уладзіслаў Канстанцінавіч быў не супраць гэтага, але, замест таго, каб адразу папрасіць у Шувалава прыняцця канкрэтных захадаў, паставіў яму ўмову, заявіўшы, што згодзен вярнуцца, але толькі ў тым разе, калі дазволяць абавязкова пражываць у Наваградку, а яшчэ паспрыяюць у выданні ўласнага часопіса. Шувалаў, зразумела, на гэта не пайшоў. Борзабагатаму давялося задавальняцца грашовай узнагародай, атрыманай ад жонкі Буткова, і далей працягваць несці свой выгнанніцкі крыж. Не здагадваючыся, што жыццё вось-вось прыпаднясе яму сюрпрыз.

## ГАЛОЎНЫ ЎРАЧ ПРЫ ШТАБЕ ЎРУБЛЕЎСКАГА

Хутка мірны спакой быў парушаны і ў ліпені 1870 года пачалася вайна Францыі з Прусіяй, войскі якой неўзабаве наблізіліся да Парыжа. Калі ўзнікла пагроза для яго другой Радзімы, як і многія іншыя эмігранты, Уладзіслаў Канстанцінавіч, не вагаючы-

ся, апрануў мундзір і стаў у шарэнгі барацьбітоў. На працягу чатырох месяцаў у званні капрала ён аказваў медыцынскую дапамогу, разам з усімі знаходзячыся ў акопах. За свой высокі прафесіяналізм, мужнасць карыстаўся ў салдат і афіцэраў аўтарытэтам. Пасля заключэння міру Борзабагатага праводзіў увесь 4-ы лятучы батальён, у якім ён служыў. Ягонае прозвішча было занесена ў кнігу Генеральнага штаба французскай арміі, а такога гонару ўдастойваліся нямногія. Як той, хто асабліва вызначыўся ў баях, Уладзіслаў Канстанцінавіч нават мог прыняць французскае падданства. Але ад такой прапановы ён адмовіўся. Яго па-ранейшаму цягнула да сябе родная Наваградчына, і чым больш праходзіла часу ад разлукі з ёю, тым цяжэй станавілася на душы ад усведамлення таго, што яму ніяк не ўдаецца здзейсніць сваю запаветную мару.

І па-ранейшаму заставаўся чалавекам, для якога на першым плане заўсёды заставаліся справядлівасць, праўда, сумленне. Таму і горача вітаў абвяшчэнне Парыжскай Камуны. У гэты лёсавызначальны для Францыі час ён уступіў у Нацыянальную гвардыю, стаў галоўным урачом пры штабе Валерыя Урублеўскага. Неаднойчы даводзілася рызыкаваць жыццём, бо шпіталь пастаянна абстрэльваўся артылерыяй праціўніка. Але калі патрабавалася тэрміновая аперацыя, не зважаючы на агонь, Борзабагаты рашуча браўся за скальпель.

Не пакінуў ён параненых і тады, калі супраць камунараў пачаліся праследаванні. Разам з многімі апынуўся за кратамі, дзе на працягу сямі тыдняў падвяргаўся жорсткім допытам. Фізічны боль, які прычыняўся яму пры гэтым, станавіўся настолькі невыносным, што аднойчы не вытрымаў, запатрабаваў, каб яго... расстралялі. Гэта для катаў было настолькі нечакана, што Уладзіслава Канстанцінавіча абвінавацілі ў вар'яцтве і накіравалі ў псіхіятрычную бальніцу. Па сутнасці падобны дыягназ і ўратаваў яму жыццё, бо яго, хутчэй за ўсё, маглі расстраляць, як зрабілі гэта з многімі і многімі камунарамі.

Праз некалькі ж месяцаў пасля знаходжання ў бальніцы прысуд стаў больш мяккім: катаржныя работы на галерах. Аднак яны былі нядоўгімі і ў верасні 1871 года Борзабагаты змог вярнуцца да сваёй прафесіянальнай дзейнасці. Лячыў хворых у Парыжы, а потым пераехаў у Кракаў. Як высветлілася, тут пражыць яму аказалася яшчэ цяжэй, чым у сталіцы Францыі. Уладкавацца на працу па спецыяльнасці не змог, таму займаўся выпадковымі заробкамі. Гняло і тое, што жонка з дзецьмі заставалася ў Парыжы. Яна прыехала да яго ў Кракаў з сынам Уладзіславам толькі ў кастрычніку 1874 года. Дачка ж Вераніка не змагла гэтага зрабіць, бо ёй трэба было завяршыць вучобу ў пансіёне. Калі ж, нарэшце, сабраліся разам, параіўшыся, прыйшлі для высновы, што ўсё ж неабходна вяртацца ў родныя мясціны. Аднак не ўсім адразу. Першым павінен ехаць Уладзіслаў Канстанцінавіч. А для гэтага спачатку неабходна было заручыцца падтрымкай графа Шувалава. Шэф жандараў, калі Борзабагаты выйшаў на яго, адказаў, што не забыў пра некалі дадзенае яму слова паспрыяць у гэтым і абяцаў дапамагчы.

## ЦЯЖКІ ШЛЯХ НА РАДЗІМУ

4 лістапада 1874 года Уладзіслаў Канстанцінавіч на граніцы здаўся расійскім уладам. Адтуль яго пад канвоем даставілі ў Вільню, дзе адправілі за краты. Трэба было чакаць, пакуль будуць сабраны ўсе звесткі, што тычацца ягонай асобы, а потым пачнецца следства. Яно працягвалася год з нечым. З засмучэннем для сябе даведаўся, што ніякай гаворкі аб тым, каб дазволілі ехаць на Наваградчыну, не можа ісці. Заставалася змірыцца з гэтым і прасіць, каб толькі не адпраўлялі ў паўночныя раёны, бо не пакідаў спадзявання, што дазволяць узяць з сабой і сям'ю. Клімат жа ў гэтых шыротах дрэнны, а шэсць ягоных дзяцей памерлі ад сухотаў. Баяўся, каб такі лёс не напаткаў і астатніх.

Першы вердыкт вынес ваенны суд, які адбыўся 1 красавіка 1875 года. Было прызнана, што Борзабагаты заслугоўвае пазбаўлення дваранскага звання і ссылкі на 20 гадоў на катаржныя работы, але ўзялі пад увагу і змякчаючыя абставіны. Безумоўна, не засталося марным і хадайніцтва Шувалава. У рэшце рэшт Уладзіславу Канстанцінавічу было «высочайше даровано помилование, но с тем, чтобы он выслан был административным порядком на жительство под надзор полиции в одну из губерний империи по назначению г. Министра».

Месцам ссылкі для Борзабагатава на дзесяць гадоў стала Кастрамская губерня. Спачатку яго пасялілі ў сяле Архангельскім, а калі вызвалілася пасада земскага ўрача ў цэнтры аднаго з паветаў Варнавіне, ён пераехаў туды. Хутка ў Варнавіна да яго прыехала з сынам жонка. Разам было лягчэй пераносіць выгнанне. Дый работа з'яўлялася для яго сапраўднай аддушынай. Працы ў гэтых аддаленых мясцінах ставала. Людзі шмат хварэлі, а належнай медыцынскай дапамогі дагэтуль не атрымлівалі. Яны хутка палюбілі свайго доктара, а калі тэрмін ссылкі завяршыўся, падарылі Усеваладу Канстанцінавічу залаты гадзіннік, на якім выгравіравалі словы ўдзячнасці.

Развітаўся Борзабагаты з гэтым краем у 1884 годзе. Пры першай жа магчымасці наведаўся на Навагрaдчыну. Хоць Рутка даўно была прададзена за даўгі, усё ж жадаў працаваць менавіта на зямлі бацькоў. Аднак паразумення з мясцовымі ўладамі так і не знайшоў. Давялося падшукваць іншае месца. Пасяліўся ў Мінскай губерні — ці то ў Любашаве Пінскага павета, ці то ў тамашнім мястэчку Лагішын.

## УСЯМУ ПРЫХОДЗІЦЬ КАНЕЦ

Гады бралі сваё. і з набліжэннем старасці ўсё часцей з'яўлялася жаданне акінуць позіркам пройдзены шлях. Тады для Усевалада Канстанцінавіча наступалі чаканыя хвіліны. Можна было нанава перагортваць старонкі свайго лёсу. Асабліва часта ўспаміналася яму Рутка. Памятаў, як у маленстве неяк запытаўся ў маці, адкуль узялася такая назва.

— Адкуль? — перапытала яна і правяла свайго першынца далей ад маёнтка. На змежку, дзе буяла розная расліннасць — сама было лета, спыніліся. — Глядзі, сынку, — яна паказала на адну з раслін, што чымсьці нагадвала сабой невялікі кусцік.

Уладзік убачыў дробныя, зеленавата-жоўтыя кветкі, на верхавіне сцябла быццам сабраныя ў шчытападобную мяцёлку.

— Ведаеш, як яна называецца?

— Як? — пацікавіўся.

— Рута духмяная.

— Значыць, — выказаў ён здагадку, — адсюль ідзе і назва нашага маёнтка, і рэчкі?

— Адсюль, сынок, — маці сарвала некалькі кветак: — Панюхай, як хораша яны пахнуць...

Прыемны пах казытнуў ягоны нос.

— Таму і прымяняюць руту як прыправу, — працягвала маці, — дый ад некаторых хвароб яна дапамагае. Толькі запомні...

— Што запомніць?

— Ніколі не спрабуй раструшчваць каробачку, у якой насенне.

— Чаму? — здзівіўся Уладзік.

— Запомні: насенне руты ядавітае. Калі трапіць на скуру, можа апячы.

Не паслухаўся ён маці. Аднойчы захацелася высветліць, ці на самай справе ўсё так. Доўга пасля гэтага шчымелі ягоныя пальцы і не праходзіла чырвань. Канечне, больш такога жадання ў яго ніколі не з'яўлялася.

Успомнілася цяпер яму яшчэ і песня, у якой былі такія словы: «Рута-мята ды памята». Ужо і запамятаў, дзе пачуў яе. І тэкст забыўся. Толькі гэтыя словы і зберагла памяць. А мо таму і зберагла, што яны ў пэўнай ступені тычацца і ягонага жыцця, у якім так цесна пераплялося ўсё. І радасць, і шчасце, і ўзлёты, і спраўджанне самых лепшых надзей, але адначасова знайшлося месца і смутку, стратам, падзенням, шкадаванню ад таго, што многае так і не ўдалося здзейсніць. Атрымліваецца, што і само жыццё нібыта тая рута, якая вабіць сваім водарам, аднак разам з тым можа прынесці непрыемнасці. Ды ў кожнага толькі адно жыццё. І кожны жыве так, як лічыць гэта для сябе неабходным, пераадольваючы тыя перашкоды, што ставяць на ягоным шляху абставіны.

Борзабагаты не сумняваўся, што жыў ён сумленна і годна. З гэтым усведамленнем і адышоў у вечнасць 28 сакавіка 1886 года.




# ПРА НАШ РОДНЫ БЕЛАРУСКІ КРАЙ…

***Тычына А. М.***
***Мой Мінск / А. М. Тычына. — Мінск: Белпрынт, 2008. — 64 с.***

Анатоль Тычына, мастак, кніжны графік, талент якога выпеставаны ў далёкія ад нас часы, пражыў доўгае, напоўненае выпрабаваннямі і адкрыццямі жыццё. Нарадзіўся 11 жніўня 1897 года. Памёр у снежні 1986… У 1914—1915 гады вучыўся ў Пензенскім мастацкім вучылішчы. З 1915 па 1921 працаваў на чыгунцы ў Омску. Там закончыў і мастацка-прамысловую школу імя М. А. Врубеля. З 1922 — у Мінску. Працаваў мастаком пры Упраўленні Заходняй чыгункі, выкладаў маляванне ў чыгуначнай школе. У 1925—1941 гады супрацоўнічаў з выдавецтвам «Беларусь» (тады — Белдзяржвыдатам), газетамі і часопісамі «Маладняк», «Малады араты», «Беларуская вёска», «Наш край», «Беларускі піянер», «Чырвоная Беларусь». У 1940 быў прыняты ў Саюз савецкіх мастакоў СССР. У 1941—1944 жыў у акупіраваным Мінску, маляваў разбіты горад. У 1944—1947 гадах Анатоль Тычына ўдзельнічае ў фарміраванні фондаў Дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. І ў згаданыя часіны, і пазней Анатоль Мікалаевіч працаваў з дня ў дзень, выяўляючы асаблівую настойлівасць у дасягненні пастаўленых мэт, засваенні шырокіх мастацкіх абсягаў. Першая выстаўка, у якой прыняў удзел мастак, адносіцца да 1911; і назва яе — выстаўка Паўночна-Заходняга краю (Шаўляй, тэрыторыя сучаснай Літвы). А ў Мінску творцу адкрыта Першая краязнаўчая выстаўка 1926 года. Персанальная выстаўка графікі А. Тычыны прайшла ў 1941… І хаця Анатоль Мікалаевіч актыўна прадстаўляў свае працы (мастацкую і кніжную графіку, экслібрыс) на Усесаюзных выстаўках (і да Вялікай Айчыннай — у 1935, 1940, 1941; і пасля — у 1946—1947, 1955, 1957, 1965, 1967 гадах), наступная персанальная адбылася толькі ў 1976-м… Ды і то — у бібліятэцы імя Якуба Коласа. Вялікія залы, прасторныя галерэі — не для кніжных графікаў, не для экслібрысістаў? Ці прычына хаваецца ў іншым?..

Першы ж альбом Анатоля Тычыны пабачыў свет у 2008 годзе, праз дванццаць «з хвосцікам» гадоў пасля смерці майстра. Тыраж — 2040 асобнікаў. Дарэчы, трэба заўважыць, што мінскае выдавецтва «Белпрынт» аказалася вельмі паслядоўным у сваёй увазе да выяўленчага мастацтва. Але ж вернемся да альбома «Мой Мінск» Анатоля Тычыны. Ужо ў кароткай прадмове да выдання, названай досыць выразна — «Пясняр горада», дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, кандыдат мастацтвазнаўства, ганаровы член Расійскай акадэміі мастацтваў Уладзімір Пракапцоў зазначыў: «Анатоль Тычына з’яўляецца, бясспрэчна, адным з самых яркіх беларускіх графікаў ХХ стагоддзя, адным з пачынальнікаў у шэрагу дзеячаў прафесійнага беларускага мастацтва перыяду беларускага адраджэння 1920-х гадоў — вялікага культурнага ўздыму Беларусі. Ён, народжаны ў Літве, выхаванец рускай мастацкай школы, зросся з Мінскам творчымі каранямі, як дуб-асілак… Стаўшая роднай зямля давала яму жыватворныя ідэі, а мастак шчодра адорваў яе плёнам сваёй маладой і адначасова сталай творчасці.

Дэвіз яго творчасці — максімальная, паслядоўна накіраваная распрацоўка тэмы. Таленавіты мастак адмыслова ўбачыў старажытны горад, а праз яго вобраз — унікальную беларускую невычэрпнасць, манументальнасць задач будаўніцтва, перспектыву. Ён не дзяліў сваю творчасць на вялікія ці малыя сюжэты, не выбіраў больш зручных тэхнік паміж завершанымі ці эскізнымі формамі. Яму было важна выразіць ідэю, паказаць сутнасць, захаваць значнае, занатаваць незабыўнае. А. Тычына надаваў асаблівую ўвагу сімвалічнасці і шматзначнасці вобразаў, жадаў убачыць тое новае, што нараджалася на папялішчах і руінах».

Нягледзячы на невялікі аб'ём (разам ілюстрацыі і тэксты займаюць 64 старонкі; фармат кнігі — $60\times90^{1}/_{8}$), альбом носіць характар манаграфічнага даследавання. Тэкст, укладанне належаць кандыдату мастацтвазнаўства Л. Дз. Налівайцы. Альбом знаёміць з рознымі тэхнікамі графікі, такімі, як чорна-белая і каляровая лінагравюра, малюнак тушшу і пяром, акварэллю і гуашшу. У выданні змешчаны 42 каляровыя і 19 чорна-белых ілюстрацый. Следам за яркай і разам з тым лаканічнай прадмовай ідзе біяграфія мастака, раскладзеная па датах, — «Жыццянарыс». Прыгожае, пагадзіцеся, вызначэнне словам жыццёвага шляху мастака, які болей працаваў з лініямі, рыскамі, ашчаджаючы сябе як экслібрысіст, кніжны графік у выкарыстанні красак, стараючыся не загуляцца з колерамі, не згубіцца са сваімі завостранымі ідэямі ў іх бязмежнай і цёплай мастацкай прасторы. Далей — артыкул «Мінск і мінчукі ў творах Анатоля Тычыны». Пададзены і кароткі пераказ гэтага артыкула на англійскую мову. Асобным раздзелам вылучаны рэпрадукцыі работ, прысвечаных Мінску, — «Гарадскія пейзажы». Затым ідуць «Экслібрысы». І завяршаюць альбом «Спіс ілюстрацый», «Выстаўкі А. Тычыны», «Літаратура», «Артыкулы А. Тычыны ў часопісах і газетах». Усе гэтыя часткі кнігі-альбома, часам памерам усяго толькі ў палову старонкі, носяць наўздзіў аднолькава важны складнік. Забягаючы наперад, хацелася б звярнуць увагу на бібліяграфію публікацыі самога Анатоля Тычыны. Варта згадаць хаця б некаторыя з іх. Прыкладам, Анатоль Мікалаевіч у 1961 годзе выступіў з артыкулам «Кніжныя знакі» ў часопісе «Маладосць»; у 1971 і 1976 гадах у газеце «Літаратура і мастацтва» — з артыкуламі «Экслібрыс нашага мінулага» і «Ля вытокаў беларускага таварыства кнігалюбаў»; у 1982 годзе ў «Полымя» — з артыкулам «Ля вытокаў таварыства кнігалюбаў». Гэтыя згадкі сведчаць пра трывалае прыцягненне А. Тычыны ва ўсе гады творчай работы да мастацтва кнігі.

Яшчэ ў 1928 годзе ў Мінску быў выдадзены каталог з 16 экслібрысаў Тычыны. «У экслібрысах мастак перадаў захапленне Мінскам творчай інтэлігенцыі 1920-х гадоў, — піша Л. Налівайка. — Яны зрабілі Мінск цэнтрам беларускай культуры і навукі, сталі яго песнярамі, тут набылі вядомасць і аўтарытэт. Гэта асаблівы накірунак у экслібрысах Тычыны, які можна назваць «Мінск і мінчукі».

У кніжным знаку М. Шчакаціхіна — першага гісторыка беларускага мастацтва XX ст. — адлюстраваны кабінет даследчыка з атрыбутамі мастацтва, сярод якіх старажытныя рукапісы, кнігі Францыска Скарыны, бюст Венеры Мілоскай, гусінае пяро на фоне



*«Дом работнікаў мастацтваў».*




*Экслібрыс М. Каспяровіча.*

паліцы кнігі. Выява скарпіёна азначае мудрасць, непахіснасць і актуальнасць ідэалаў старажытных часоў. Ірацыянальнае супрацьстаянне Багіні і драпежнага павука вядзе, мабыць, да сутыкненняў паняццяў дабра і зла, прыгажосці і пачварнасці. Аб тым, што гэтыя ідэі звязаны з Мінскам, сведчыць выява акна кабінета, дзе праз напаўадкрытую фіранку праглядаецца вежа Мінскай званіцы». І яшчэ: «Зараз ад экслібрысаў ідзе небывалая энергія дзейнасці, энтузіязму, веры. Нельга не здзіўляцца таму, што ва ўзорах малой графікі так трапна перадаецца настрой культурнага адраджэння пачатку 1920-х гадоў».

Анатоль Мікалаевіч Тычына — з тых мастакоў, хто здолеў праз экслібрыс перадаць атмасферу часу, здолеў абагульніць прыватнае і прыўзняцца над тэматычнымі накірункамі ў збіральніцкай дзейнасці кніжнікаў, для якіх выконваў знакі. У 1975 годзе ў Мінску была выдадзена ўкладзеная А. Тычынам і В. Шматавым кніга «Беларускі кніжны знак». Тады ў зборніку былі прадстаўлены 10 экслібрысаў А. Тычыны (М. Шчакаціхіна, З. Тычыны, П. Глебкі, С. Наумовіча, А. Тычыны-Філіпавай, Р. Макоўскай, А. Мальдзіса, В. Каляды, Вовы Філіпава, С. Пятровіча). Усе выкананы ў 1926, 1960—1973 гг. «Мой Мінск» значна пашырае ўяўленне пра экслібрысы А. Тычыны. У кнізе-альбоме прадстаўлены ўжо 18 кніжных знакаў: урача В. Палонскага, мастацтвазнаўцы М. Шчакаціхіна, пісьменніка Янкі Маўра (І. Фёдарава), краяўзнаўцы В. Залуцкага, педагога Н. Брытцынай (усе — работы 1926 г.), краязнаўцы М. Каспяровіча, мастацтвазнаўцы А. Палееса, бібліятэкара М. Кісі (К. М. Мяжэнінай), гуртка «Колас», пісьменніка В. Вольскага (у подпісе да рэпрадукцыі памылкова пазначана, што — «А. Вольскага»), урача І. Папова (усе — 1927 год), мастацтвазнаўцы М. Кацара, скульптара З. Азгура (абодва — 1959), актрысы З. Тычыны, фотамайстра І. Салавейчыка, паэта П. Глебкі (усе — 1960), дырэктара Дзяржаўнага мастацкага музея БССР А. Аладавай, літаратуразнаўцы А. Мальдзіса (абодва — 1971). Калі не ўлічваць паўтораў, то два выданні знаёмяць нас з 23 кніжнымі знакамі ўнікальнага майстра. Вядома, што А. Тычына выканаў больш 50 кніжных знакаў. Мо настаў час як мага паўней прадставіць гэтую частку мастацкай спадчыны Анатоля Мікалаевіча Тычыны?..

Вяртаючыся да раздзела альбома з выразнай і шматахопнай назвай «Гарадскія пейзажы», хацелася б да разгляду мастацтвазнаўцаў, выдаўцоў, аматараў мастацтва ўнесці і наступную прапанову. Чаму б не падрыхтаваць і выдаць некалькі набораў паштовак з рэпрадукцыямі графічных работ А. Тычыны?




*Экслібрыс А. Мальдзіса.*



*«Бібліятэка імя У. І. Леніна».*

Па творах мастака можна вывучаць гісторыю Мінска. Вось, прыкладам, «Мінск. Дом на Камсамольскай вуліцы (былая Багадзельная)» (1924) — уражлівае знаёмства з трапна выпісанымі архітэктурнымі дэталямі; поўнае ўяўленне пра месца абранага аб'екта ў гарадскім ландшафце. «…У 1930—1940-х гг. Тычына пашырае кола мінскіх матываў, — піша Л. Налівайка.— Ён малюе новыя пабудовы, што сімвалізуюць змены ў палітычным і культурным жыцці горада. Гэта Бібліятэка імя Леніна, пабудаваная маладым архітэктарам Г. Лаўровым, Дом Чырвонай Арміі імя К. Я. Варашылава І. Лангбарда і інш. Яго ўвага канцэнтруецца на ўсіх новых выразных прыкметах, дэталях, якія з'яўляюцца найбольш тыповымі для гарадскога асяроддзя савецкага часу — пафасных помніках, вазах, калонах, прадстаўнічых фасадах. Можна бачыць у гэтых работах цікавасць да прыёму фатаграфічнага стоп-кадра, калі «фокус» наведзены не на выпадковыя, а на больш каларытныя дэталі».

Што цікава, мастак крытычна ацэньваў свае здзяйсненні, праяўляў цягу да пошуку новых рашэнняў. Так, пазнаёміўшыся з творчасцю Вадзіма Фалікеева, Івана Паўлава і Ільі Сакалова наУсесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы ў 1932 годзе, Анатоль Мікалаевіч засвойвае тэхніку стварэння каляровага лінарыту з некалькіх дошак. Адкрывае для сябе новыя, найболей складаныя варыянты разьбы і друку. У выніку ў канчатковым выглядзе некалькі твораў даваеннай серыі «Мінск» былі надрукаваны ў графічных майстэрнях Масквы. У 1960 —1980-х гадах графічныя дошкі А. Тычыны, — зазначае Л. Налівайка, — праходзяць творчае «выпрабаванне» ў графічнай майстэрні падмаскоўнага пасёлка Чалюскінскае». У 1947 і 1954 гг. работы А. Тычыны набыла Траццякоўская галерэя — «Вясна» і «Над ракой Свіслач».

Альбом «Мой Мінск» — выдатны помнік таленавітаму майстру. А яшчэ — і напамін пра тое, што па-за ўвагай сучасніка знаходзіцца плён дзейнасці многіх беларускіх мастакоў XX стагоддзя. І асабліва — першай паловы мінулага стагоддзя. Сістэмнае ўзнаўленне іх спадчыны, на вялікі жаль, адсутнічае. Усё трымаецца на энтузіязме асобных дакладчыкаў і асобных выдаўцоў. І выдавецтва «Белпрынт» паказвае ў гэтым накірунку выдатны прыклад.

***Мікола РАЎЧАК***



Мая прафесія

Ірына КЛІМКОВІЧ

# АДКАЗНЫЯ ЗА ЎЗЛЁТ

***Хто з хлопцаў у дзяцінстве не марыў стаць лётчыкам? Прэстыж, рамантыка, і ўвогуле — крута! Але адна справа кіраваць самалётам, і зусім іншая — абслугоўваць ды рамантаваць яго. Тым больш сучасны самалёт. Гэта складаная канструкцыя, насычаная разнастайнай апаратурай, якая для паспяховай работы патрабуе адмысловых спецыялістаў. Спецыялістаў з глыбокімі тэхнічнымі і інжынернымі ведамі. А яшчэ такія людзі бяруць на сябе адказнасць не толькі за лятальны апарат, але і за бяспеку ягоных пасажыраў. Дык што ж гэта за людзі, і дзе іх рыхтуюць? Каб адказаць на пытанне, давайце зазірнём у Мінскі дзяржаўны вышэйшы авіяцыйны каледж і пазнаёмімся з ягоным жыццём.***

## ГІСТОРЫЯ ГРАМАДЗЯНСКАЙ АВІЯЦЫІ — ГІСТОРЫЯ КАЛЕДЖА

На жаль, гістарычна так склалася, што да 1991 года, часу, калі наша краіна набыла сваю незалежнасць, вышэйшых авіяцыйных навучальных устаноў у нас не было. Ні ваенных, ні грамадзянскіх. Толькі пазней на базе Вышэйшага інжынернага зенітна-ракетнага вучылішча была створана Ваенная акадэмія, дзе і адкрылі факультэт авіяцыі. Там цяпер і рыхтуюць лётчыкаў і інжынераў, але ваенных. Грамадзянскай авіяцыі пашанцавала трошачкі больш. Яна была прадстаўлена сярэдне-спецыяльнай навучальнай установай, якая пачала сваю дзейнасць яшчэ ў 1975 годзе як Мінскае авіятэхнічнае вучылішча Грамадзянскай авіяцыі. Яно і стала тым падмуркам, на якім потым быў пабудаваны сённяшні каледж.

Цяпер авіяцыйны каледж — навучальная ўстанова, якая адпавядае сучасным патрабаванням па падрыхтоўцы высокакваліфікаваных авіятараў і застаецца ў статусе вышэйшай. Рыхтуюць тут як інжынераў, так і тэхнікаў авіяцыі. Апошнія вучацца ў каледжы цягам трох гадоў, а будучы інжынер — пяць з паловай. Адпаведна і патрабаванні да іх і кваліфікацыйныя характарыстыкі розныя. Тэхнік — той спецыяліст, які абслугоўвае авіяцыйную тэхніку, а інжынер павінен прадумваць і арганізоўваць працэс. Іншымі словамі, для авіяцыі характэрна такая спецыяльнасць, як *тэхнічнае абслугоўванне паветраных судоў і рухавікоў*. Раней яна вызначалася — *інжынер-механік*. Па новых правілах — інжынер. Гэта той спецыяліст, які займаецца жалезам, даглядае фюзеляж, планёр, шасі, рухавік, масляную і паліўную сістэмы лятальных апаратаў. Далей як па сярэднім, так і па вышэйшым ўзроўні тут ёсць такая спецыяльнасць, як *тэхнічная эксплуатацыя авіяцыйнага абсталявання*. Яна падзяляецца на два накірункі. Першы — *тэхнічная эксплуатацыя прыборнага светатэхнічнага абсталявання.* Выпускнікі, якія набываюць гэтую спецыяльнасць, зусім нядаўна мелі статус *інжынера-электрамеханіка.* Сёння на прафесійным слэнгу іх завуць «прыбарыстамі», яны абслугоўваюць прыборнае абсталяванне і сістэму электразабеспячэння самалёта. Другі накірунак —

падрыхтоўка спецыялістаў *радыёэлектроннага абсталявання*, тая галіна авіяцыі, якая звязана з радыёлакацыйным і навігацыйным абсталяваннем. За мяжою гэтыя накірункі зліваюцца, і спецыяліста такога кшталту называюць *інжынерам-электронікам*, які абслугоўвае і вылічальныя комплексы. Вядома, што сучасныя маркі самалётаў, да прыкладу «Боінгі», маюць на сваіх бартах ад 24 да 30 відаў вылічальных машын.

У каледжы ёсць і такая спецыяльнасць, як *арганізацыя руху і забеспячэнне палётаў на паветраным транспарце,* а прасцей — дыспетчараў. Рыхтуюць іх таксама на двух узроўнях. Але для беларускіх авіяцыйных прадпрыемстваў патрэбны дыспетчары толькі з вышэйшай адукацыяй. Таму на сярэдне-спецыяльны ўзровень набор пакуль прыпынены. На гэтую спецыяльнасць у каледжы самы вялікі конкурс, яна лічыцца прэстыжнай і высокааплачваемай. Таму абітурыенты і імкнуцца трапіць менавіта сюды. Апошнім часам конкурс павялічыўся і ў сувязі з тым, што знялі забарону на гэтую прафесію для дзяўчат. Проста ўважліва прагледзелі законы і не знайшлі юрыдычнай падставы абмяжоўваць будучых дыспетчараў паводле палавых адзнак. Таму ў каледжы стала весялей і ўтульней. Чыста юнацкі калектыў курсантаў, а такі статус тут маюць усе навучэнцы, разбавіўся дзявочай абаяльнасцю.

Якія яшчэ адметнасці ў спецыяльнасці дыспетчара? Як вядома, на выпускніках, якія аваладваюць гэтай прафесіяй, ляжыць адказнасць за бяспеку палётаў, таму яны павінны прайсці сур’ёзны псіхалагічны адбор, мець моцнае здароўе і ведаць англійскую мову на самым вышэйшым узроўні. І калі па астатніх спецыяльнасцях цэнтралізаванае тэсціраванне ідзе па беларускай або рускай мове, матэматыцы і фізіцы, то тут замест фізікі здаюць англійскую мову. З іншага боку, калі абітурыент з больш высокім балам не праходзіць па конкурсе на гэтую дысцыпліну, ён мае права прайсці на астатнія.

Пералічаных спецыялістаў па вышэйшым узроўні адукацыі рыхтуюць на факультэце грамадзянскай авіяцыі, дзе можна навучацца і завочна. Апроч гэтага факультэта, у каледжы ёсць ваенны, дзе таксама рыхтуюць інжынераў для айчыннай авіяцыі і войск супрацьпаветранай абароны. Пасля заканчэння каледжа ягоныя выпускнікі працуюць у такіх базавых авіяпрадпрыемствах, як «Нацыянальны аэрапорт Мінск», «Мінскі авіярамонтны завод», «Аршанскі авіярамонтны завод», «Белаэранавігацыя», «Нацыянальная авіякампанія «Белавія», «Авіякампанія Трансавіяэкспарт», «Інфармацыйна-вылічальны цэнтр авіяцыі» і іншыя. Але перад гэтым курсанты каледжа праходзяць вытворчую і пераддыпломную практыкі. Апошняя звычайна адбываецца на базавым прадпрыемстве, а вось першая на вучэбным аэрадроме каледжа. Там прадстаўлены ўзоры рознай авіяцыйнай тэхнікі, якая заўсёды знаходзіцца ў рабочым стане, дзякуючы інжынерам установы, і на якой будучыя спецыялісты адпрацоўваюць свае навыкі. Абітурыентам, хто не хоча абслугоўваць грамадзянскія самалёты, а марыць лятаць на іх, трэба ехаць вучыцца ў Расію, а дакладней ва Ульянаўскае вышэйшае лётнае вучылішча. Ягоная прыёмная камісія ажыццяўляе набор вучняў тут жа ў сценах мінскага каледжа. Звычайна штогод шэсцьсем беларусаў праходзяць жорсткі адбор па здароўі, фізпадрыхтоўцы і толькі потым здаюць іспыты. Лепшыя едуць на вучобу і становяцца лётчыкамі.

Дарэчы, апроч прафесіі, выпускнікі каледжа атрымліваюць і афіцэрскія званні. Так, на ваенным факультэце рыхтуюць кадравых афіцэраў, якія ідуць сюды са школьнай лаўкі, пасля адзінаццаці класаў. Яны носяць у каледжы зялёную форму і выпускаюцца ў званні лейтэнанта Ўзброеных сіл Беларусі. Астатнія навучэнцы носяць сінюю форму і па заканчэнні вучобы атрымоўваюць статус



*Вучэбная практыка на грамадзянскім аэрадроме.*



*Начальнік каледжа А. А. Лапцэвіч.*

афіцэра запасу такога ж звання. Той, хто заканчвае каледж па сярэдне-спецыяльным узроўні адукацыі, атрымоўвае званне малодшага лейтэнанта запасу. У асноўным усе выпускнікі ўладкоўваюцца працаваць па прафесіі, але таксама могуць быць прызваныя ва ўзброеныя сілы на кадравую службу. Дарэчы, 400 выпускнікоў каледжа праходзяць службу ва ўзброеных сілах як кадравыя афіцэры, плюс у структурах МУС і КДБ.

За гады свайго існавання Мінскі дзяржаўны вышэйшы авіяцыйны каледж падрыхтаваў тысячы спецыялістаў, без якіх немагчыма жыццё сучаснага грамадства. Ягоная рэпутацыя шырокавядомая, як у нашай краіне, так і за яе межамі. Вучэбная і матэрыяльна-тэхнічная базы, педагагічныя кадры, выкарыстанне сучасных інфармацыйных тэхналогій, паглыбленае вывучэнне англійскай мовы садзейнічаюць эфектыўнаму авалодванню прафесіяй і станаўленню асобы будучага спецыяліста. Выпускнікі каледжа здатныя забяспечыць надзейную працу паветранага транспарту і падтрымліваць айчынную авіяцыю на ўзроўні, годным міжнароднага прызнання.

## ПУНКТЫ ВЯРТАННЯ, АБО ВЕХІ ЖЫЦЦЯ

Так сталася, што некаторыя крокі станаўлення каледжа супалі з жыццёвымі вехамі ягонага цяперашняга кіраўніка. Карэнны беларус, кандыдат тэхнічных навук, дацэнт **Аляксандр Анатольевіч ЛАПЦЭВІЧ** яшчэ з дзяцінства марыў пра кар’еру лётчыка. Аднак не пашанцавала, не прайшоў медкамісію. Узамен яму прапанавалі шэраг авіяцыйных навучальных устаноў, але ўжо інжынернага профілю. Выбар прыйшоўся на Даўгаўпілскае вышэйшае ваеннае авіяцыйна-інжынернае вучылішча супрацьпаветранай абароны імя Яна Фабрыцыуса. І не дарма. Як паказаў далейшы досвед, вучылішча і ягоныя выпускнікі ў часы Саюза каціраваліся на даволі высокім узроўні, нічым не горшым за знакамітыя рыжскае і кіеўскае. У 1982 годзе ён скончыў вучылішча і быў накіраваны для службы ў цэнтральную групу войск у Чэхаславакію для абслугоўвання авіяцыйнай тэхнікі. Потым была вучоба і абарона навуковай ступені ў маскоўскай Ваенна-паветранай інжынернай акадэміі імя Жукоўскага. Адной з лепшых савецкіх навучальных устаноў таго часу па падрыхтоўцы элітных інжынераў авіяцыйнага профілю, якую ў свой час скончыў Юрый Гагарын. Пасля гэтага — зноў Даўгаўпілс, зноў служба ў войску.

Неўзабаве разваліўся СССР, адбыўся вывад савецкіх войск з Латвіі, і Лапцэвіч вяртаецца на радзіму. Дадзены перыяд ягонага жыцця супадае з перыядам арганізацыі авіяцыі ў Беларусі. Ён бярэ актыўны ўдзел у стварэнні авіяцыйнай кафедры на базе Мінскага авіяцыйнага ваенна-інжынернага вучылішча. У 1997 годзе ў званні падпалкоўніка заканчвае службу ў Ваеннай акадэміі. Можна ісці на пенсію. Але толькі не Аляксандру Анатольевічу. Ён надалей займаецца ўлюбёнай справай. Загадвае лабараторыяй на кафедры кіравання паветраным рухам у Мінскім дзяржаўным вышэйшым лётна-тэхнічным каледжы. Так называўся ў тыя часы сённяшні каледж, у межах якога адбывалася станаўленне вышэйшай школы беларускай грамадзянскай авіяцыі. Перад Лапцэвічам паўстае задача — стварыць профільную кафедру па тэхнічнай эксплуатацыі авіяцыйнага абсталявання для падрыхтоўкі інжынераў. Ён узначальвае кафедру і актыўна працуе ў галіне навукі і вытворчага

навучання. У сакавіку мінулага года яго прызначаюць начальнікам каледжа. Цяпер ён адказвае за каардынацыю і ўзаемадзеянне ўсіх служб і аддзелаў, пачынаючы ад наземных і заканчваючы навучальным працэсам. Ну і, натуральна, за лекцыі па спецыяльных прадметах. Лапцэвіч любіць гэтую справу і з задавальненнем спалучае карыснае з прыемным. Наконт прыемнага. Вяртаючыся з працы дадому, ён адпачывае, чытаючы кнігі па сусветнай гісторыі і філасофіі. Усе яго пачынанні і зацікаўленасці падтрымлівае жонка, маладзейшая за яго на трынаццаць гадоў, і маленькая дачка, вучаніца 2-га класа. Жонка, дарэчы, выхаванка БДУ, яна цудоўна валодае беларускай мовай і выкладае гісторыю Беларусі.



*Ваенны аэрадром.*

Але гэта не ўсё. Аляксандр Анатольевіч кажа, што наперадзе самае галоўнае — стварэнне *Беларускай дзяржаўнай акадэміі авіяцыі.* Трэба рыхтаваць сваіх лётчыкаў грамадзянскай авіяцыі. Ва ўсіх краінах былога СССР ёсць такія навучальныя ўстановы. У Літве іх нават дзве. А ў нас толькі каледж, і хаця тут таксама можна атрымаць вышэйшую адукацыю, але шэраг абмежаванняў перашкаджае далейшаму развіццю ўстановы. У першую чаргу не могуць адкрыць магістратуру, а потым і аспірантуру, каб рыхтаваць кадры вышэйшай навуковай кваліфікацыі. У выніку няма новага прытоку ў педагагічны калектыў, сярэдні ўзрост якога складае ад шасцідзесяці да сямідзесяці гадоў. Таму Лапцэвіч перакананы, задача па стварэнні акадэміі — задача на выжыванне. У адваротным выпадку можна патрапіць у «кропку невяртання». Так кажуць авіятары, калі самалёт трапляе ў безвыходную сітуацыю. І з ім цяжка не пагадзіцца.

## ГОДНЫЯ ЎЧЫНКІ, СЛАЎНЫЯ ІМЁНЫ

І як заўсёды, ніякіх поспехаў немагчыма дасягнуць без сваіх верных і дасведчаных памочнікаў. А такіх у каледжы нямала. Гэта першы намеснік Аляксандра Лапцэвіча, начальнік ваеннага факультэта, палкоўнік **Уладзімір Аляксандравіч Сілін**; намеснік па вучэбнай рабоце і практычным навучанні, выдатнік Аэрафлоту і адукацыі Рэспублікі Беларусь **Юрыс Станіслававіч Цыбуліс**; намеснік па ідэалагічнай і выхаваўчай рабоце **Уладзімір Аляксандравіч Арэхаў**; намеснік па вучэбнай і навуковай рабоце, кандыдат тэхнічных навук, дацэнт **Сяргей Вячаслававіч Сізікаў**; намеснік па наземных службах і матэрыяльна-тэхнічным забеспячэнні, выдатнік Аэрафлоту **Аркадзь Альфрэдавіч Гашэўскі**. Пасады пералічаных гавораць самі за сябе і за тую працу, якая ўскладзена на іх плечы. А яшчэ ў каледжы чытае лекцыі 82-гадовы прафесар, доктар навук **Леанід Іванавіч Грачыхін**, узнагароджаны з савецкіх часоў ганаровымі ардэнамі і медалямі. Некалі ён разам з Сяргеем Каралёвым удзельнічаў у распрацоўцы касмічнай тэхнікі. Пры каледжы існуе навукова-даследчая лабараторыя па стварэнні звышлёгкіх лятальных апаратаў «Мір». Ёю загадвае лётчык **Аляксей Аляксандравіч Яфрэмаў**, легенда беларускай звышлёгкай авіяцыі. Лабараторыя, якую яшчэ называюць канструктарскім бюро, займаецца навуковай дзейнасцю і ажыццяўляе ў дыпломных праектах курсантаў незвычайныя тэхнічныя вынаходніцтвы, стварэнне новых мадэляў самалётаў. Курсанты лабараторыі ўдзельнічалі ў выставах вайсковай тэхнікі і

ўзбраення «Мілекс-2006, 2007, 2008, 2009», і за канструкцыю беспілотных лятальных апаратаў былі адзначаны дыпломамі.

Начальнік вучэбна-метадычнага аддзела **Таццяна Уладзіміраўна Малахава** працуе ў каледжы трыццаць гадоў. У абавязкі аддзела, дзе апроч яе яшчэ тры метадысты, уваходзіць комплексна-метадычнае забеспячэнне навучальнага працэсу. Іншымі словамі: распрацоўка і падрыхтоўка вучэбных планаў і праграм, як па асноўным навучанні, так і па павышэнні кваліфікацыі выкладчыкаў, і ўвогуле падрыхтоўка ўсёй дакументацыі па каледжы. Апроч гэтага яна чытае такія дысцыпліны, як «паліталогія», «асновы філасофіі» і «сацыялогія». Заўсёды ведае пра патрэбы айчынных авіяпрадпрыемстваў спецыяліст па размеркаванні, начальнік аддзела прававой і кадравай работы **Наталля Уладзіміраўна Каранеўская**, якая працуе ў каледжы пяты год.

Метадыст аддзела ідэалагічнай і выхаваўчай работы **Алена Васільеўна Любецкая** разам з калегамі забяспечвае культурна-масавыя мерапрыемствы каледжа, іх грамадзянска-патрыятычную накіраванасць. Увогуле аддзел, дзе працуе Алена Васільеўна, курыруе і ажыццяўляе шмат праектаў. Перадусім гэта і валанцёрскі рух курсантаў, якія наведваюць дзіцячыя дамы, ладзяць там вечарыны і святочныя канцэрты, а на добраахвотныя ўзносы купляюць неабходныя для дзяцей рэчы: спартовыя і канцылярскія прыналежнасці. Гэта і арганізацыя маладзёжнага атрада аховы правапарадку. Некалькі разоў на тыдзень хлопцы дзяжураць па Заводскім раёне сталіцы, сочаць за парадкам на вуліцах. Таксама яны наведваюць дзяцей з праблемных сем’яў, запрашаюць іх да сябе і на сваім прыкладзе паказваюць, як можна ўладкавацца ў жыцці. Праводзяцца ў каледжы і нетрадыцыйныя паэтычныя конкурсы, дзе творчасць курсантаў ацэньваюць самі навучэнцы. Выдаецца студэнцкая газета «Вам узлёт», там асвячаюцца самыя яркія падзеі з жыцця навучальнай установы.



*Будучыя спецыялісты вывучаюць самалёт.*

Культарганізатары каледжа арганізуюць працу танцавальных, харэаграфічных гурткоў і вакальна-інструментальнага ансамбля. Каледж — гэта тая навучальная ўстанова, дзе ў большасці сваёй навучаюцца моцныя і добра натрэніраваныя хлопцы і дзяўчаты. Таму і не здзіўляюць шматлікія прызавыя месцы ў розных спартыўных спаборніцтвах, у якіх удзельнічаюць курсанты. Але самым знамянальным і незабыўным мерапрыемствам для каледжа з’яўляецца Міжнародны гуманітарна-тэхнічны фестываль моладзі навучальных устаноў грамадзянскай авіяцыі Беларусі, Украіны і Расіі. Штогод, звычайна ў летні час, па чарзе ў кожнай з краін збіраюцца каманды трох каледжаў і высвятляюць, хто лепшы ў прафесіі, спартовых спаборніцтвах і мастацкай самадзейнасці. Самых таленавітых чакае прызнанне сяброў і ганаровыя ўзнагароды.

Увосень 2010 года ў каледжы адбылася знамянальная падзея. Чацвертакурснік, стараста вучэбнай групы **Ігар Палаўкоў**, які навучаецца на ваенным факультэце па праграме афіцэра запасу, удзельнічаў у Міжнародным маладзёжным праекце «Касмічныя калумбы». Гэты фестываль прысвечаны 50-годдзю палёту ў космас Юрыя Гагарына і 55-годдзю касмадрома «Байканур». Ігар разам з іншымі ўдзельнікамі наведаў касмадром, прысутнічаў пры запуску касмічнага карабля і сустракаўся з ветэранамі-касманаўтамі. Дарэчы, грошы на



*Эліта каледжа, або «прыбарысты». Злева направа: Д. Вінічук, К. Века, Д. Акімаў.*

гэтую паездку хлопец зарабіў сам, працуючы па вечарах на заводзе. І ён годна паказаў Беларусь і сваю альма-матар на міжнародным узроўні.

## СПЕЦЫЯЛІСТЫ ШЫРОКАГА ПРОФІЛЮ

Каб замацаваць уражанне ад знаёмства з авіяцыйным каледжам, напрыканцы хочацца пазнаёміць вас з так званай элітай дадзенай навучальнай установы. Гэта курсанты пяцікурснікі, якія навучаюцца на факультэце грамадзянскай авіяцыі па спецыяльнасці: тэхнічная эксплуатацыя авіяцыйнага абсталявання (прыборнае і электрасветлатэхнічнае абсталяванне). Хлопцам засталося вучыцца да лютага наступнага года. А ўжо ў сакавіку 2012 яны стануць інжынерамі па абслугоўванні самалётаў грамадзянскай авіяцыі. Дзеля гэтага праходзяць вучэбную практыку на аэрадроме, што на тэрыторыі каледжа. У асноўным гэта самалёты маркі Ту-134 і Ту-154. Як вядома, яны ўжо састарэлі і выводзяцца з эксплуатацыі, а ў навучальным працэсе пачала з’яўляцца сучасная тэхніка. Накшталт «Боінг» і «Серджы». Але перавучыцца даволі лёгка, прынцып авіёнікі — комплекс бартавога электроннага абсталявання — на ўсіх самалётах пабудаваны па адных законах. Трэба толькі праслухаць некалькі лекцый, здаць іспыты і атрымаць допуск. У чэрвені хлопцаў чакае апошняя сесія, а ў ліпені — пераддыпломная практыка. Яна будзе праходзіць на авіярамонтным заводзе або ў аэрапорце. А па ваеннай праграме за спінамі курсантаў стажыроўка на авіяцыйнай базе ў гарадскім пасёлку Рось Ваўкавыскага раёна, дзе яны завочна ўжо атрымалі званне афіцэраў запасу. Па заканчэнні каледжа званне замацуецца за імі канчаткова.

Як я і казала вышэй, жартам іх усе называюць «прыбарыстамі». Але іх сапраўды можна назваць элітай. Узровень падрыхтоўкі выпускнікоў гэтай спецыяльнасці, іх кемлівасць і эрудыцыя шмат дзе каціруюцца, яны па праве называюцца спецыялістамі шырокага профілю. Па-першае, іх усебакова развіваюць, чытаюць паглыблены курс лекцый і па спецыяльных дысцыплінах, і па такіх, як «асновы права», «рэлігіязнаўства», «прафесійная лексіка», «менеджмент і маркетынг» «гісторыя Беларусі», «гісторыя Вялікай Айчыннай вайны» і нават такі прадмет, як «карупцыя». Па-другое, іх рыхтуюць да таго, што яны, магчыма, будуць працаваць за межамі Беларусі. Таму чыта-

юць і спецкурс па паліталогіі, трэба ведаць палітычны расклад сіл у іншых краінах, іх геапалітыку.

Адзін з курсантаў **Дзмітрый Вінічук** нарадзіўся каля Белавежскай пушчы ў горадзе Камянец. З юнацтва марыў аб прафесіі авіятара. Захапляўся самалётамі, збіраў розныя маркі мадэляў, вывучаў іх канструкцыю. Спачатку спрабаваў паступіць у Ваенную акадэмію і вучыцца на лётчыка. Але па стане здароўя не прайшоў камісію. Юначыя мары і захапленні Дзмітрыя прыдаліся яму ў каледжы, ён удзельнічае ў працы канструктарскага бюро «Мір». І знакамітыя макеты самалётаў «МІГ-3» і «ПЕ-2», зробленыя ў натуральны памер і выкарыстаныя «Беларусьфільмам» для тэлесерыяла «Застава», — праца Вінічука. Куды пойдзе працаваць пасля заканчэння каледжа? Яшчэ не вырашыў. Магчыма, гэта будзе нейкі авіярамонтны завод, а магчыма, і аэрапорт. Кажа, што час падкажа.

Ягоны сябра **Канстанцін Века** нарадзіўся ў Мінску і паступіў у каледж па рэкамендацыі сваіх знаёмых. Яны так былі захоплены авіяцыяй і так станоўча распавядалі пра каледж, што Канстанцін, хоць і марыў пра іншую прафесію, вырашыў звязаць свой лёс з самалётамі. Вучыцца платна. Дарэчы, група, дзе вучацца хлопцы, налічвае 25 чалавек, напалову складаецца з бюджэтнікаў і платнікаў. Века кажа, што наяўнасць двух факультэтаў у каледжы дае перспектыву розных варыянтаў працаўладкавання. Як варыянт — штурмавая авіяцыйная база ў Лідзе, там шмат выпускнікоў каледжа. Яны служаць на СУ-25, гэта базавы ваенны самалёт. Такі ж самы знаходзіцца на ваенным аэрадроме каледжа. У той жа час хлопец перакананы, што неабавязкова прысвячаць сваё жыццё адной авіяцыі. Інжынеры такога класа запатрабаваны і ў іншых сферах грамадзянскай або ваеннай дзейнасці, і не толькі на Радзіме. Упэўнены, што можна паехаць працаваць і за мяжу, абслугоўваць самалёты маркі «Боінг» і «Серджы». А можна пайсці і ў канструктарскае бюро, распрацоўваць новыя мадэлі лятальных апаратаў. Такая творчая праца заўсёды цікавая.

Аднагрупнік Дзмітрыя і Канстанціна **Даніла Акімаў** родам са Жлобіна Гомельскай вобласці. Пра каледж даведаўся ад свайго знаёмага, які працуе тут выкладчыкам. Потым удакладніў інфармацыю па Інтэрнэце і прыйшоў сюды вучыцца. Упэўнены, што іх прафесія прэстыжная, аплачваецца добра, шматгранная і складаная, але вельмі важная і патрэбная. У сваёй будучыні хлопец упэўнены «на ўсе сто». Даніла кажа, што спецыялісты яго ўзроўню могуць, апроч авіяцыі працаваць у праектным інстытуце і ўваходзіць на любым заводзе ў групу кантрольна-праверачнай апаратуры. Гэта таксама важная і патрэбная прафесія. Сваю дыпломную працу ён звязвае з беспілотнымі лятальнымі апаратамі. Невялікімі апаратамі, якія выкарыстоўваюць у ваеннай выведцы, фота- і відэаздымках. Яны здольныя лятаць як на адкрытай мясцовасці, так і ў памяшканні. Па заканчэнні каледжа марыць працаваць у «Белавіі».

***Цяпер у каледжы ўсіх навучэнцаў каля трох тысяч чалавек. І яны цудоўна разумеюць — ад іх ведаў і прафесійнасці залежыць спраўнасць, а значыць і бяспека палётаў. Яны адказныя за наш ўзлёт. Таму што шмат хто з нас па розных прычынах хаця б раз у жыцці ды і ўзнімаўся ў неба і міжволі атрымліваў асалоду ад палёту. Дык будзем жа ўдзячны тым людзям, у чыіх руках знаходзяцца ключы ад неба.***

*Лёсы беларусаў*

# СЛЕДАМ ЗА БАЦЬКАМ

Сёлета спаўняецца 120 гадоў з дня нараджэння дзеяча нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі Максіма Бурсевіча (1890—1937). Пра яго гісторык Аляксандра Бергман аднойчы сказала: «Максім Бурсевіч належыць да тых дзеячаў Беларускай сялянска-рабочай Грамады, якія ў яе дзеянні адыгралі важную ролю і адначасова засталіся найменш вядомымі. Ён быў сакратаром Цэнтральнага камітэта і кіраўніком Цэнтральнага сакратарыята Грамады, загадваў касай арганізацыі і вёў яе рахункаводства» (Беларускі каляндар. Беласток, 1981. С. 157).



*Максім Бурсевіч з жонкай, 24 мая 1911 года. Бацькі Ігара Бурсевіча.*

Максім Бурсевіч нарадзіўся ў вёсцы Чамяры Слонімскага павета ў сялянскай сям'і беларусаў Тараса і Марыі. Сям'я была вялікая, таму адукацыю атрымаць удалося толькі яму і старэйшаму брату Андрэю, якія закончылі Слонімскае двухкласнае вучылішча і настаўніцкую семінарыю ў Жыровічах.

Пасля семінарыі ў 1910 годзе Максім паехаў да брата ў Ваўкавыскі павет. Можа, хацеў пераняць педагагічны досвед ці знайсці работу, але менавіта там сустрэў на хутары Тарасаўка дзяўчыну Апалінарыю Мацвееву, з якой ажаніўся. Да апошніх сваіх дзён яна была верным сябрам і ягоным памочнікам у нялёгкім жыцці.

Адразу пасля вяселля пачалося іх вандроўнае жыццё. Спачатку ў 1911 годзе ён з сям'ёй жыве і настаўнічае на Кобрыншчыне, потым — ва Украіне. А ў пачатку 1922 года вяртаецца ў родную вёску Чамяры, дзе яшчэ стаяла бацькава хата.

У гэты час у Чамярах пачаў узмацняцца нацыянальны рух, галоўным завадатарам якога быў мясцовы інтэлігент і педагог Максім Бурсевіч. У 1925 годзе з дапамогай сваіх землякоў ён заснаваў прыватную беларускую школу. Знайшлася прасторная хата якраз пасярэдзіне вёскі. Выпісалі з Вільні сякія-такія падручнікі. Мужчыны парабілі парты, і заняткі пачаліся. Цеснавата было, не хапала кніжак і сшыткаў, але дзеці з добрым настроем беглі ў школу. У сваю школу, дзе гучала родная мова. Аднак Бурсевіч адчуваў, што за беларускую школу польскія ўлады яго не пагладзяць па галоўцы. І тым не менш, ён рабіў усё, каб у самадзейнай школе было так, як у сапраўднай, а можа, нават і лепш. Тут вучылі не толькі пісаць і чытаць, але пачалі наладжваць вечары мастацкай самадзейнасці, у якіх бралі ўдзел і вучні, і іх бацькі. Яны дэкламавалі беларускія вершы, спявалі песні, паказвалі сцэны з «Паўлінкі», «Прымакоў» і з іншых п'ес.

Тры месяцы існавала гэтая школа. Усё, здавалася, ішло добра, пакуль аднойчы ў час заняткаў у клас не ўвайшлі два паліцыянты. Адзін з іх аб'явіў, што школа зачыняецца, таму вучні могуць ісці дахаты.

Так у Чамярах закрылі родную школу. Беларускія паслы ў сейме зрабілі нават запыт міністру асветы. Яны патрабавалі растлумачыць, на якой падставе ў вёсцы Чамяры Слонімскага павета была закрыта беларуская школа? Чаму парушаецца Канстытуцыя Рэчы Паспалітай? Але гэта не дапамагло. У вёску прыслалі новага настаўніка-паланізатара, які пачаў агітаваць бацькоў, каб іх дзеці ішлі вучыцца ў польскую школу. Пра барацьбу чамяроўцаў за родную школу сведчыць артыкул «Барацьба сялян вёскі Чамяры за адкрыццё беларускай школы», які быў змешчаны ў газеце «Савецкая Беларусь» за 4 сакавіка 1925 года. Вось што пісала тады газета: «Першага сакавіка ў Чамярах адбыўся сельскі сход, скліканы па загаду гміны. Грамада сабралася вялікая, каля 75 асоб. Сакратар гміны запрапанаваў сходу, каб усе дзеці, якія хадзілі ў прыватную беларускую школу, зараз жа пайшлі да школы польскай. Калі не пойдуць, дык бацькі будуць пакараны штрафамі, а гміна сцягне і тыя штрафы, якія былі накладзены на вёску ў лістападзе. Абапіраючыся на тое, што цяпер вёска беларускай школы не мае і дзеці зусім не вучацца, інспектар і гміна прымусіць дзяцей пайсці да школы польскай. Сход гэтай заявай быў абураны, і грамада пачала прасіць сакратара гміны запісаць у пратакол: «Каб вучыцеля з Чамяроўскай польскай школы ўлады найхутчэй забралі і перавялі ў тую вёску, дзе ёсць шмат палякаў, а ў Чамяроўскую школу, каб далі таго, каго вёска папросіць і дзеці-вучні пажадаюць. А пакуль гэных змен не будзе, пакуль польскі вучыцель будзе ў школе біць дзяцей за тое, што яны не разумеюць польскай мовы, дык ніводнае дзіця не пераступіць парога польскай школы. Хай не толькі штрафуюць бацькоў за дзяцей, але катуюць іх за дзяцей, бацькі не згодзяцца пасылаць сваіх дзяцей на катаванне, а дзеці, хто як зможа, будуць уцякаць ад ката». Сакратар гэтай заявы ад сходу запісаць адмовіўся, аднак, мусіць баючыся абуранага настрою сходу, абяцаў жаданне сходу абгаварыць на пасяджэнні гміннай рады. На гэтым сход і закончыўся.

Такім чынам селянін, не баючыся ні штрафаў, ні арыштаў, згаджаючыся нават на катаванне, стойка стаіць за сваю мову, за родную школу, за беларускасць. І хаця існаваўшую ў Чамярах прыватную беларускую школу зачынілі, але існуючага ў беларускага селяніна духу ніхто не зможа. *Чамеравец*».

Пад псеўданімамі Чамеравец, Чамяровец, Чэмеравец, Беларус, Вачавідзец, Трылісьцік, Трылісьцінік, Янка Ведайка, Чупрановіч, Хлопчык, па словах Янкі Саламевіча, аўтара «Слоўніка беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў (XVI—XX стст.)», у беларускім, савецкім і віленскім друку выступаў сам Бурсевіч. Дзякуючы яму, штогод, пачынаючы з 1926 года, чамяроўцы паступалі і вучыліся ў Віленскай беларускай гімназіі. Сярод іх былі Анатоль Іверс, Якуб Міско, Ігар Бурсевіч, Фіякціст Міско, Мікола Бурсевіч і іншыя хлопцы. Максім Бурсевіч быў знаёмы і сябраваў з дырэктарам гімназіі Радаславам Астроўскім. І калі ў каго з чамяроўцаў не хапала ведаў, дык праз Максіма Бурсевіча і Радаслава Астроўскага іх усё роўна залічвалі ў гімназію. Пра гэта нават згадвае ў сваёй кнізе «Маё маўклівае сэрца» Якуб Міско: «На другі дзень я, добра наглянцаваўшы боты, пайшоў на прыём да дырэктара гімназіі Р. Астроўскага, несучы з сабою пісьмо ад Максіма Бурсевіча. Убачыў дзверы з надпісам «Дырэктар» і асцярожна пастукаў. З кабінета данёсся зычны голас:

— Увайдзіце!

Я падаў дырэктару пісьмо і пачаў чакаць. Мне ўжо было вядома, што дырэктар — чалавек напышлівы і вельмі рэзкі. З надзеяй глядзеў на гэтага плячыстага мужчыну ў рагавых акулярах, на яго энергічны, аздоблены пышнымі рудаватымі вусамі твар. Астроўскі прачытаў пісьмо, кінуў на мяне позірк:

— Дзе вучыўся?

— Трохі ў Расіі, а пасля сам па сабе, — нясмела адказаў я.

— І думаеш у чацвёрты клас?

— Хацелася б.

— Ну-ну, — мармытнуў дырэктар. — Здавай экзамены, паглядзім.

Экзамены я здаў добра, і нават па нямецкай мове, якой вельмі баяўся…За добрую здачу экзаменаў мяне не толькі прынялі ў чацвёрты клас, а яшчэ аслабанілі ад платы за вучобу і за інтэрнат» ( Міско Якуб. Маё маўклівае сэрца. Мн., 1983. С. 14).

Школу ў Чамярах закрылі. А Бурсевічу не дазволілі больш займацца педагагічнай дзейнасцю. Тым не менш у сваіх Чамярах ён быў самым адукаваным чалавекам, таму аддаў сябе грамадскай дзейнасці.

З пачатку 1920-х гадоў падтрымліваў сувязь з беларускімі арганізацыямі ў Вільні. А праз пэўны час яго кандыда-

тура была вылучаная Беларускім цэнтральным выбарчым камітэтам на пасла ў польскі сейм. У чэрвені 1925 года ён увайшоў у першы актыў Беларускага пасольскага клуба, а праз год быў залічаны ў склад ЦК Беларускай сялянска-работніцкай Грамады (БСРГ) і выбраны кіраўніком яе Цэнтральнага Сакратарыята.

Максім Бурсевіч загадваў фінансавымі сродкамі БСРГ, ствараў яе мясцовыя камітэты, наладжваў іх работу. У яго рукі аддалі ўсе фінансавыя сродкі — не інакш, мелі да яго бязмежны давер, як да чалавека сумленнага. Высока ацэньвалі яго здольнасці і прадбачылі, што ён адолее ўсё. Хоць гэта і быў для Бурсевіча незвычайны скок: з вёскі ў горад і адразу за руль вялікай і ўвесь час растучай арганізацыі. І справіўся ён дастойна. Пра гэта сведчыць і рашэнне апеляцыйнага суда, які ўсім з 12 гадоў зняволення зменшыў тэрмін напалову, а Бурсевічу толькі на 2 гады.



*Ігар Бурсевіч — гімназіст Віленскай беларускай гімназіі, 1924 г.*

Пакаранне наш зямляк адбываў у турмах Лукішкі, Каранова. У 1931 годзе, у выніку абмену палітычнымі зняволенымі, ён трапіў у БССР. Жыў у Мінску. Працаваў членам прэзідыума і выконваў абавязкі кіраўніка аддзела культуры і навукі Дзяржплана БССР. Удзельнічаў у рабоце камісіі па вывучэнні Заходняй Беларусі пры АН БССР.

У другой палове 1933 года Бурсевіч быў беспадстаўна абвінавачаны ў так званым нацыянал-дэмакратызме, арганізацыі антысавецкага цэнтра, «заснаванага для аддзялення Беларусі ад СССР на карысць Польшчы». А 9 студзеня 1934 года яго асудзілі да вышэйшай меры пакарання, якая была заменена 10 гадамі зняволення. Пакаранне Бурсевіч адбываў на Салаўках і на будаўніцтве Беламорска-Балтыйскага канала.

9 кастрычніка 1937 года тройкай УНКУС па Ленінградскай вобласці беларускі дзеяч быў асуджаны да вышэйшай меры пакарання. Яго расстралялі 3 лістапада 1937 года. І толькі ў 1956 годзе ён быў пасмяротна рэабілітаваны па абодвух прысудах.

У сям'і Максіма і Апалінарыі Бурсевічаў нарадзілася шасцёра дзяцей. У жывых сёння няма ўжо нікога. Лёс аднаго з іх — Ігара Бурсевіча (1911—1985), быў не менш трагічным за лёс ягонага бацькі.

Зямляк Ігара Бурсевіча са Слонімшчыны Якуб Міско ў сваёй кнізе «Маё маўклівае сэрца» прыгадвае: «У Вільню я ехаў разам з Ігарам Бурсевічам, які да гэтага ўжо год вучыўся ў беларускай гімназіі і перайшоў у чацвёрты клас. Бацька вёз мяне і Ігара на станцыю позна вечарам… Пакуль я аддаваўся ўспамінам, цягнік наблізіўся да Вільні. Мы з Ігарам пачалі рыхтавацца да выхаду са сваімі вялізнымі куфэркамі, набітымі бялізнай, коўдрай, ежывам. Я спытаўся ў Ігара: «А нам куды?». Ігар усміхнуўся — вядома, бывалы: «Ідзі за мной, не заблудзіш». Узваліўшы куфэркі на плечы, мы накіраваліся ў бок славутай Вострай Брамы. Я ішоў не азіраючыся, бо стараўся не згубіць з вачэй Ігара. Праз якія дваццаць мінут мы, дашчэнту спацелыя, былі ўжо ў інтэрнаце беларускай гімназіі…».

Першапачатковую адукацыю Ігар Бурсевіч атрымаў у Віленскай беларускай гімназіі. Пасля яе заканчэння юнак марыў працягваць вучобу. Але бацька займаўся палітыкай, таму вучобе перашкодзіў ягоны арышт польскімі ўладамі.

У выніку абмену палітычнымі зняволенымі, Ігар Бурсевіч разам з бацькамі праз Данцыгскі калідор, Усходнюю Прусію, Латвію пераязджае ў БССР. Здавалася, што там будзе ўсё добра і шчасліва. І напачатку так было. Ігар паступае на энергетычны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Там вучыцца, бацькі працуюць. Але пасля арышту бацькі хутка мяняецца і лёс ягонага сына Ігара. Спачатку яго выключылі з камсамола, а потым з інстытута. І толькі вера ў справядлівасць, сіла волі ВЫратавалі юнака ў тыя цяжкія хвіліны. Ён збіраецца і едзе ў Маскву і трапляе на прыём да Марыі Ільінічны Ульянавай, якая шчыра падтрымала юнака. Дзякуючы званку Ульянавай у

Мінск, Ігар Бурсевіч быў адноўлены ў ВНУ, здолеў скончыць інстытут і паехаў па размеркаванні ў якасці маладога інжынера-электрыка працаваць у Расію ў горад Іванава. Там ён знайшоў Іванаўскі шклотрэст, звярнуўся ў аддзел кадраў з накіраваннем. «Добра, — сказалі, — афармляйцеся. Вось вам анкеты, пішыце аўтабіяграфію…». Пасля ўсіх працэдур, Ігара Бурсевіча накіравалі на завод імя Валадарскага ў горад Курлова Іванаўскай вобласці на пасаду начальніка электрацэха.

Калі наш зямляк туды прыехаў, то даведаўся, што на заводзе днямі было многа падзей. Знялі ўсё кіраўніцтва і адвезлі ў Іванава. Вось цяпер сюды накіроўвалі новыя кадры.

Паўтара месяца Ігар адпрацаваў на заводзе. І ў канцы жніўня 1937 года раніцай да яго на кватэру прыбылі тры чалавекі з оперупаўнаважаным ГПУ, і прад'явілі ордэр на арышт і зрабілі вобыск. Пакапаліся ў чамаданах, забралі ўсе дакументы і павялі ў «чорны варанок». Потым прывезлі ў дом папярэдняга зняволення (ДПЗ) і пасадзілі ў камеру-адзіночку. Знаходзіўся там каля трох дзён. Потым пад аховай адправілі ў Курлова. Ніякіх допытаў і роспытаў не вялі. З Курлова прывезлі ў Іванаўскую турму. Турма была старога тыпу, вялікія сцены і вароты. Прайшоў кароткую рэгістрацыю, вобыск. Потым распісаўся ў нейкім акце і павялі беларускага юнака ў следчую камеру…

Так скончылася яго вольнае жыццё і пачаліся змрочныя гады цяжкага зняволення. Сам Ігар Максімавіч пазней меркаваў, што яго арыштавалі з-за бацькі, а таксама таму, што акрамя рускай мовы, дасканала валодаў беларускай, польскай, ведаў нямецкую мову і эсперанта. А такіх знаўцаў у той 1937 год было няшмат. Ды і быў знаёмы Ігар Бурсевіч са шматлікімі беларускімі дзеячамі нацыянальнага руху, прадстаўнікамі беларускай інтэлігенцыі, якія заўсёды былі побач з ягоным бацькам.

У лагерах Сібіры Ігар Бурсевіч адбыў роўна 10 гадоў. Пасля зняволення вярнуўся ў Магілёў да сваіх родных, хутка ўладкаваўся на працу па спецыяльнасці. Шчыра працаваў аж да пенсіі. А ў вольны час пісаў пра тое, што перажыў, што бачыў, а таксама вёў перапіску з вядомымі людзьмі Беларусі. Ён перапісваўся з Алесем Белакозам, Аляксандрай Бергман, Арсенем Лісам і іншымі гісторыкамі і літаратарамі. У 1990-я гады часопіс «Магілёўская даўніна» апублікаваў ягоныя ўспаміны пра ГУЛАГ.

Сёння я прапаную чытачам «Маладосці» ўспаміны Ігара Бурсевіча пра Віленскую беларускую гімназію, вучнем якой ён быў. Успаміны друкуюцца ўпершыню, Іх захавала ягоная дачка Таццяна Адзярыха і перадала аўтару гэтых радкоў.

***Сяргей ЧЫГРЫН***

Ігар БУРСЕВІЧ

# ВІЛЕНСКАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГІМНАЗІЯ

### ТЭРЫТАРЫЯЛЬНАЕ РАЗМЯШЧЭННЕ БЕЛАРУСКАЙ ГІМНАЗІІ Ў ВІЛЬНІ

Паводле існуючых гістарычных звестак Віленская беларуская гімназія была ўтворана ў 1919 годзе ў час існавання Літоўска-Беларускай савецкай рэспублікі. З 1917 па 1920 гады на тэрыторыі Заходняй Беларусі было адкрыта звыш 500 школ на беларускай мове, а таксама працавалі беларускія чытальні, клубы, семінарыі. Таксама існавалі літоўскія школы, семінарыі, клубы, якія праіснавалі прыкладна да 1922 года. А пасля сталі яны зачыняцца польскімі буржуазнымі ўладамі.

У Вільні з 1918 года існавала Беларускае навуковае таварыства. Там працавалі такія беларускія дзеячы, як Максім Танк, Браніслаў Тарашкевіч, Леаніла Чарняўская, Аркадзь Смоліч, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Антон Грыневіч і іншыя. Гэта таварыства аб'ядноўвала нешматлікія навуковыя сілы Заходняй Беларусі, там абмяркоўвалі першыя падручнікі і дапаможнікі для беларус-

кіх школ, змагаліся за стварэнне беларускіх школ і гімназій, настаўніцкіх семінарый, а таксама за адкрыццё беларускіх кнігарняў і іншых устаноў.

У тыя часы былі адчынены, акрамя Віленскай беларускай гімназіі, гімназіі падобныя ў Радашковічах, Нясвіжы, Клецку, Навагрудку і ў іншых гарадах, але праіснавалі яны нядоўга. Найдаўжэй за ўсіх праіснавала Віленская беларуская гімназія, дзесь да 1944 года.

Тэрытарыяльна гімназія знаходзілася ў цэнтры горада на былой Вастрабрамскай вуліцы № 9 у Базыльянскіх мурах старажытнай пабудовы, паблізу каталіцкай Вострай Брамы, касцёла, праваслаўнага духавага манастыра, які абслугоўваўся манахамі і манашкамі, відаць, з мінулых гадоў. У двары вакол Траецкага манастыра, агароджанага з усіх бакоў шматпавярховымі каменнымі будынкамі і магутнымі сценамі, стаяў трохпавярховы будынак, падобны на літару Г, у якім знаходзіліся адначасова: на першым паверсе васьмікласная беларуская гімназія, беларускі музей імя Івана Луцкевіча, а другі паверх займала руская духоўная семінарыя і дзве бібліятэкі для гімназістаў і семінарыстаў. Трэці паверх быў падзелены паміж імі пад інтэрнаты. Палова паверха належала вучням беларускай гімназіі, дзе нейкі час, звыш года пражываў і я. Пад нашым паверхам знаходзіўся ў той час знамянальна-памятны пакой, у якім сядзеў некалі зняволены паэт Адам Міцкевіч. Пакой існаваў пад назвай Cela Konrada. Ён тады быў зусім не абсталяваны, але гістарычнае месца наведвалі часта турысты з розных гарадоў Польшчы. Гэта мне добра запомнілася.

У падвальным памяшканні знаходзіліся склады, кухні і сталовыя для вучняў гімназіі і семінарыі. Частку падвалаў займалі манашкі манастыра, якія жылі ў сваіх келлях. Манашак было асоб 50.

Пры гэтым будынку існаваў вялікі двор, пладовы сад і спартыўная пляцоўка. Было два выхады са двара, адзін з іх выходзіў праз старую браму на якой вісела шыльда на дзвюх мовах: Віленская беларуская гімназія (Wilenskie gimnazjum bialoruskie). У пасляваенны час я наведваў гэтыя Базыльянскія муры. Яны захоўваюцца і цяпер у належным парадку. Там сёння знаходзіцца нейкі літоўскі інстытут, музей адтуль вывезены, манастыр зачынены, але турысты іх наведваюць.

## КАРОТКАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА АБСТАВІН, У ЯКІХ ПРАЦАВАЛА ГІМНАЗІЯ

Віленская беларуская гімназія ў Заходняй Беларусі была самай перадавой і добра арганізаванай навучальнай установай і знаходзілася яна ў досыць добрых умовах. Гэта была прыватная сярэдняя школа, якая мела ўплыў КПЗБ, КСМЗБ, Грамады і Таварыства беларускай школы (ТБШ). Утрымлівалася яна на грошы бацькоўскага камітэта, ТБШ, Чырвонага Крыжа, пасольскіх клубаў, Грамады і розных народных грашовых збораў, найперш ад выдання і продажу кніг і часопісаў і ад мерапрыемстваў.

У гімназіі навучалася ў першыя гады яе існавання звыш 200 вучняў, кантынгент якіх пасля грамадзянскай вайны складаўся выключна з беднаты, вясковых дзяцей, сірот, бяздомных падросткаў, дзяцей безработных працоўных розных нацыянальнасцей і г. д.

Асаднікі і багатыя палякі аддавалі сваіх дзяцей у дзяржаўныя польскія навучальныя ўстановы, якіх у Вільні было шмат. Бяздомныя дзеці і сіроты пасля грамадзянскай вайны падбіраліся беларускімі арганізацыямі і Чырвоным Крыжам Заходняй Беларусі і размяшчаліся ў інтэрнаце пры гімназіі. Там жа пэўны час з моманту арганізацыі існавала і пачатковая школа пры гімназіі, якая рыхтавала дзяцей для навучання ў гімназіі.

У сакавіку 1921 года буржуазная Польшча афіцыйна замацавала сваё становішча на Усходзе. Па Рыжскім дагаворы Заходняя Украіна і Заходняя Беларусь апынуліся пад уладай Польшчы.

Становішча працоўных Заходняй Беларусі было вельмі цяжкім. Абсалютнае ігнараванне нацыянальных правоў беларусаў і ўкраінцаў — такой стала ад першага дня падпісання Рыжскага трактата палітыка-адміністрацыйная практыка буржуазных урадаў даваеннай Польшчы. Узначальваючы ў той час некалькі год урад Польшчы, прадстаўнік польскага ваяўнічага шляхецтва Уладзіслаў Грабскі (узначальваў польскі ўрад у 1923—1925 гг. — **С. Ч.**) асабліва злосна праследаваў беларускую асвету, і з 1923 года паступова зачыняліся гімназіі, школы, семінарыі. Грамадскасць Савецкай Беларусі з трывогай і абурэннем сачыла за гэтымі падзеямі і выказвала свае рашучыя пратэсты супраць

гвалту ў дачыненні да беларускіх культурна-грамадскіх устаноў, кааператываў, школ і грамадзян, якія выступалі з патрабаваннямі, каб іх дзяцей вучылі на роднай мове.

У Віленскай беларускай гімназіі навучаліся акрамя беларусаў і рускія, і яўрэі, і дзеці розных веравызнанняў. Па польскай канстытуцыі 1921 года было запісана і для беларускіх школ, што рэлігійнае выхаванне моладзі да 18 гадоў абавязковае. Зыходзячы з гэтага, у гімназіі рэлігію выкладалі, праўда на роднай мове, поп, ксёндз і рабін, але гэта зусім не перашкаджала моладзі закаляць сябе ў рэвалюцыйным духу. Наадварот, касцёлы, цэрквы, сінагогі, а былі яны беларускія пэўны час, дапамагалі моладзі захоўваць канспірацыю ад польскай дэфензівы.

У Віленскай беларускай гімназіі прынятых дзяцей бясплатна кармілі і апраналі ў спецыяльную форму адзення за кошт памянёных вышэй мною таварыстваў.

Вучні гімназіі мелі сваю форму адзення, асабліва вылучалася фуражка. Фуражка была цёмна-шэрага колеру з чорным пластмасавым казырком. Над ім быў прымацаваны бел-чырвона-белы трохкутнік, які ўяўляў сабой частку Заходняй Беларусі і значок з літарамі ВБГ, без дзяржаўных адзнак. Дзяўчаты насілі берэты без казыркоў, а некаторыя і з казыркамі.

Класы адрозніваліся шнурком на фуражцы. Да 4-га класа на гузіках быў замацаваны белы шоўкавы шнурок. З 4-га да 7-га класаў — сярэбраны, а гімназісты з 7-га да 8-га класаў насілі ўжо пазалочаныя шнуркі і матэрыял быў з тонкага бархату такога ж колеру. Астатняя вопратка вучняў складалася з белай сарочкі, піджака і штаноў пад чаравікі, колеру не прытрымліваліся. Дзяўчаты насілі карычневыя плацці з чорнымі фартушкамі і ў берэтах з тым жа арнаментам. Некаторыя гімназісты насілі і звычайныя кепкі, каб лягчэй было ўцякаць пры дэманстрацыях ці з якіх-небудзь заданняў, але гэта школьным кіраўніцтвам папярэджвалася і зніжаліся паводзіны ў класных дзённіках і ў дакументах аб паспяховасці. За дысцыплінай вучняў даволі ўважліва сачылі настаўнікі…

Тыя дзеці, якія былі сіроты і бяздомныя, у першыя гады вучобы вялі сябе не вельмі прыстойна. Яны прапускалі заняткі, уцякалі з інтэрната, хаваліся, але іх лавілі і зноў вярталі. Настаўнікі клапатліва выхоўвалі іх і такім чынам выводзілі ў людзі.

Але паколькі гімназія была прыватная, яна не мела права выдаваць дакументы для паступлення ў польскія вышэйшыя навучальныя ўстановы, а таму выпускнікі гімназіі самі шукалі сабе працу, нават за межамі Польшчы — у Літве, Латвіі, СССР, або працавалі ў арганізацыях Заходняй Беларусі: кнігарнях, ТБШ, у выдавецтвах, у рэдакцыях газет і часопісаў, якія заўсёды выдаваліся на вельмі высокім узроўні. Шмат выпускнікоў гімназіі, беларускіх важакоў трапляла ў польскія турмы, загінула ад здзекаў польскага буржуазнага кіраўніцтва. І ўсё ж некаторыя выпускнікі Віленскай беларускай гімназіі паступілі ў Віленскі ўніверсітэт імя Стэфана Баторыя і паспяхова яго скончылі.

## НАВУЧАЛЬНЫ ПРАЦЭС У ГІМНАЗІІ

Віленская беларуская гімназія была арганізавана ў 1919 годзе. Першым яе дырэктарам быў М.Кахановіч. Пазней кіраўніцтва гімназіяй мянялася. Дырэктарамі гімназіі былі Б. Тарашкевіч, М. Анцукевіч, А. Луцкевіч, С. Паўловіч і іншыя. А пасля разгрому Грамады польскім урадам, гімназіяй кіраваў Радаслаў Астроўскі. Спачатку ён знаходзіўся пад уплывам КПЗБ і Грамады, нейкі час нават сядзеў пад арыштам, а пасля выхаду з турмы па працэсу Грамады, пайшоў на згоду з польскімі ўладамі і разам з Антонам Луцкевічам адышоў ад рэвалюцыйных спраў, чым выклікаў вялікую незадаволенасць як сярод вучняў, так і сярод свядомага люду Заходняй Беларусі.

Віленская беларуская гімназія была гуманітарнага тыпу, разлічана на васьмігадовае навучанне і мела добра падрыхтаваных настаўнікаў па ўсіх выкладчыцкіх дысцыплінах. Настаўнікі былі пажылога ўзросту, педагагічна вытрыманыя, але ідэйна яны былі розных напрамкаў. Агульную справу навучання праводзілі арганізавана паводле распрацаваных і зацверджаных польскімі куратарыямі праграм.

Выкладанне ўсіх гуманітарных дысцыплін праводзілася на беларускай мове і па беларускіх падручніках, якія выдаваліся ў Вільні, Менску, Дзвінску і іншых гарадах. Так, напрыклад, асноўнымі падручнікамі былі: «Беларуская граматыка для школ»

Бра-ніслава Тарашкевіча, «Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры ад 1905 года» Ігната Дварчаніна, «Арыфметычны задачнік для пачатковых школ» Сымона Рак-Міхайлоўскага, падручнікі па спевах Рыгора Шырмы і іншыя. Наогул, беларускімі падручнікамі гімназія была забяспечана.

З 1919 года ў гімназіі працаваў Максім Гарэцкі. Ён выкладаў беларускую мову ў другім, чацвёртым і пятым класах. Выкладаў гісторыю беларускай літаратуры ў старэйшых класах да 1921 года. У 1923 годзе ён пераехаў у Менск.

Браніслаў Тарашкевіч нейкі час выкладаў курс філасофіі.

Сяргей Паўловіч таксама быў выкладчыкам і рэдагаваў дзіцячы часопіс «Снапок», які выдаваў пад уплывам КПЗБ. Гімназісты актыўна ўдзельнічалі ў яго выданні.

З настаўнікаў памятаюцца мне таксама Ігнат Дварчанін, які выкладаў беларускую літаратуру, І. Савіцкі — гісторыю старажытных і новых часоў, А. Луцкевіч — беларускую гісторыю і літаратуру, Катовіч-Пяткевіч М. — прыроду, Сакалова Алёна — беларускую і рускую мову і літаратуру, Міхалевіч А. — лацінскую мову, Банцлебен Н. — нямецкую мову, Заморын М. — рускую гісторыю і літаратуру, Рацкевіч, Сіняўскі М. — арыфметыку, геаметрыю, трыганаметрыю, Ніжанкоўская В., Астроўская А. — чарчэнне, рысаванне, рукадзелле, Шырма Рыгор — харавыя спевы, Мятла П. — гісторыю Беларусі, Віславух — гісторыю Польшчы, польскую мову, Адольфава — геаграфію Польшчы, Александровіч А. — літаратуру Польшчы і г. д.

Польская мова, геаграфія і гісторыя Польшчы выкладаліся на польскай мове. Таксама па-польску выкладаліся польская літаратура і рэкамендавалася вучням многа чытаць у арыгінале класікаў польскай літаратуры, вучыць вершы, дэкламаваць, рабіць рэфераты і г. д. Такія ж патрабаванні былі і да беларускай і рускай дысцыплін.

Акрамя беларускай, польскай і рускай моў, у гімназіі выкладаліся замежныя мовы — лацінская (для ўсіх абавязкова), нямецкая альбо французская (па выбары) і эсперанта (у гуртках па жаданні). Руская мова (гісторыя, геаграфія, літаратура) вывучаліся па старых рускіх выданнях. Пазней з Савецкай Беларусі прыходзілі падручнікі паслярэвалюцыйнага часу. Дысцыплін розных вывучалася вельмі многа, а замежныя мовы патрабавалі ведаць дасканальна, свабодна рабіць пераклады і гутарыць паміж сабой ці з настаўнікам. Так што вясковым дзецям з вялікай цяжкасцю прыходзілася асвойваць навуку.

Пры гімназіі існавала шмат розных гурткоў для практычнага навучання і агульнага развіцця. Гэта былі гурткі літаратурны, драматычны, эсперанта, харавы, спартыўны, танцавальны, музычны, надомнай працы, рукадзелля і іншыя. У гэтых гуртках займаліся амаль усе гімназісты і гэта прыносіла вялікую карысць.

У гімназіі навучаліся і хлопцы, і дзяўчаты. Але хлопцаў было больш, многія з іх жылі ў інтэрнаце. Гарадскіх вучняў было адносна мала, галоўным чынам гэта былі дзеці беларускіх кіраўнікоў, паслоў, настаўнікаў, яўрэйскіх асобных сем'яў і супрацоўнікаў беларускіх арганізацый.

З культурных мерапрыемстваў праводзіліся пры гімназіі дыспуты па творах беларускай літаратуры, напрыклад, па Максіму Гарэцкаму «Дзве душы», па Цішку Гартнаму «Сокі цаліны», па Якубу Коласу «У палескай глушы» і г. д. Пісаліся рэфераты на розныя тэмы па рускай, польскай і беларускай літаратуры. Амаль кожную суботу рабілі пастаноўкі на сцэне для вучняў. Гэтыя пастаноўкі суправаджаліся танцамі ў зале. Ставілі і сур'ёзныя спектаклі па п'есах класікаў беларускай літаратуры. Каб трапіць на іх, вучні павінны былі купляць білеты ці латарэі. Гэтыя пастаноўкі мелі поспех.

У польскае кіно і тэатры вучні ВБГ хадзілі вельмі рэдка. Па-першае, у гімназістаў мала было вольнага часу, па-другое, не кожны меў на гэта грошы. Аб радыё і тэлевізарах тады яшчэ гутаркі не было. У нас пры гімназіі вучні самі рабілі дэтэктарныя прыёмнікі і гэта было вялікім дасягненнем, калі мы чулі піск ці якую-небудзь гутарку ў навушніках.

## ПАЛІТЫЧНЫЯ АБСТАВІНЫ Ў ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ І Ў ГІМНАЗІІ

Як я згадаў вышэй, Віленская беларуская гімназія, нягледзячы на разнастайны склад настаўнікаў, была пад вялікім уплывам КПЗБ, КСМЗБ, БСР Грамады, ТБШ і іншых арганізацый. Напрыклад, Таварыства беларускай школы, як легальная арганізацыя,

было заснавана яшчэ ў 1921 годзе, а ў 1928 годзе таварыства налічвала звыш 30 тысяч чалавек, мела пад сваім кантролем розныя гурткі (звыш 500), 250 бібліятэк-чытальняў, 120 народных дамоў па усёй Заходняй Беларусі. Там працавалі, адначасова і ў гімназіі, такія вялікія арганізатары, як Б. Тарашкевіч, Ф. Стацкевіч, Р. Шырма, І. Дварчанін, А. Каляда, Ф. Валынец, А. Лябецкая, П. Крынчык, І. Гаўрылік, С. Паўловіч, А. Уласаў і іншыя. Некаторыя з іх потым пераехалі ў СССР і былі рэпрэсіраваныя.

Вялікі ўплыў на гімназію аказвала БСР Грамада, яе дзеячы змагаліся за адукацыю працоўных усіх нацыянальнасцей і яе праграма вызначалася радыкалізмам і рэвалюцыйнасцю. Многія настаўнікі былі сябрамі Грамады і праводзілі яе палітыку сярод вучняў.

Падпольна працавалі ячэйкі КСМ ЗБ, ствараліся піянерскія арганізацыі. У 1929 годзе ў ВБГ налічвалася каля 100 камсамольцаў, сярод іх былі такія вядомыя актывісты, як І. Урбановіч, Я. Міско, І. Міско, В. Таўлай, А. Салагуб, Ю. Саковіч, С. Рак-Міхайлоўскі, Х. Ільяшэвіч і многія іншыя.

Пад кіраўніцтвам Валянціна Таўлая, Івана Серады і іншых хлопцаў піянерскія арганізацыі адыгрывалі важную ролю ў справе класавага выхавання дзяцей рабочых і сялян.

Пэўны ўплыў на моладзь гімназіі аказвалі нелегальныя камуністычныя газеты і часопісы, якія выдаваліся на беларускай, польскай і яўрэйскай мовах: «Чырвоны сцяг», «Бальшавік», «Беларуская газета», «Партработнік», «Наша воля», «Малады камуніст», «Малады змагар» і іншыя. З 1925 года выходзіла «Маланка» — сатырычны часопіс, якім гімназісты зачытваліся і дапамагалі ў яго распаўсюджванні.

Гімназісты-камсамольцы актыўна ўдзельнічалі на дэманстрацыях рабочых Вільні, расклейвалі па вуліцах лістоўкі, раздавалі перыядычную літаратуру, часта траплялі ў паліцыю…

## АГУЛЬНЫЯ ЗАЎВАГІ З АСАБІСТАЙ ВУЧОБЫ Ў ГІМНАЗІІ (1923—1929)

Пра беларускую гімназію ў Вільні я даведаўся ад свайго бацькі Максіма Бурсевіча, які, як вядома, з 1925 года працаваў генеральным сакратаром Беларускай сялянска-работніцкай Грамады.

Прывёз ён мяне ў Вільню з вёскі Чамяры былога Слонімскага павета і ўладкаваў у гімназію адразу ў другі клас. Дагэтуль я ў гарадах не жыў і мне асвойвацца ў новых абставінах было вельмі цяжка.

У інтэрнатах у нас дзейнічала самаабслугоўванне. Дзяжурылі мы на кухні, калолі дровы, насілі ваду, мылі падлогу, чысцілі бульбу і рабілі розныя гаспадарчыя работы, акрамя вучобы, дзе трэба было самастойна рыхтаваць своечасова ўсе заданні на дом. Так я там пражыў больш года, пакуль бацька з сям'ёй не пераехаў у Вільню.

Пачаў я вучыцца ў Вільні з 1923 года. Вучыўся спачатку сярэдне, бо цяжка даваліся матэматыка, правапіс і польская мова. Аднак паступова я асвоіўся ў новых абставінах і паступова вывучаў мовы, гуманітарныя дысцыпліны, здаючы іх на вышэйшыя адзнакі.

З прыездам сям'і я з інтэрната выпісаўся. Жылі мы спачатку пры сакратарыяце Грамады аж да яе разгрому. Я быў сведкам вялікай працы і арганізаванасці Грамады, быў знаёмы з супрацоўнікамі Грамады, якія мне часта даручалі перадаць тыя ці іншыя паперы і просьбы канкрэтным асобам. Так паступова я часта заходзіў у рэдакцыі газет, ТБШ, дапамагаў у раскладцы газет і часопісаў, чытаў падпольныя лістоўкі і перадаваў іх другім хлопцам і дзяўчатам. Я стаў такім падпольшчыкам, якімі былі многія гімназісты, але можа больш ведаў, чым яны, бо жыў пры Грамадзе.

У гімназіі, акрамя акадэмічнай вучобы і падпольных заданняў, якія выконваў, я актыўна ўдзельнічаў у школьных гуртках (драматычным, харавым і па надомнай працы). У старшых класах я працаваў і ў літаратурным гуртку, а з драматычным рэпертуарам выязджаў з пастаноўкамі (з брыгадай артыстаў) па Заходняй Беларусі. Такія пастаноўкі наш драмгурток рабіў у Беластоку, Слоніме, Ружанах, Лідзе, Наваградку і ў іншых раённых цэнтрах таго часу. Такія выезды прыносілі карысць і ў тым ліку, што ўдавалася хутчэй распаўсюджваць розныя лістоўкі, якія даручаліся камсамольскай арганізацыяй гімназіі.

У гімназіях такія пастаноўкі выконваліся часцей, там заўсёды прысутнічала многа гасцей і гімназістаў. Ставілі мы рускія, беларускія і ўкраінскія п'есы, найбольш тыя, якія дазваляла цэнзура Віленскага ваяводства.

Гэта былі «Паўлінка», «Раскіданае гняздо», «Модны шляхцюк», «Цыганы», «Наталка Палтаўка», «Майская ноч», «Сарачынская ярмарка» і іншыя. Кіраваў драмгуртком настаўнік лацінскай мовы А. Міхалевіч. Гурток налічваў звыш 30 чалавек. Я там працаваў перш суфлёрам, а потым выконваў невялікія ролі ў пастаноўках. Сярод актывістаў моладзі я яшчэ памятаю такіх таварышаў, як Я. Урбановіч, Ю. Саковіч, А. Салагуб, В. Таўлай, М. Тарасюк, Х. Ільяшэвіч, Я. Давыдовіч, У. Рак-Міхайлоўскі і іншыя. Гэта былі прыстойныя вучні, многія з іх сталі літаратарамі, актыўнымі грамадскімі дзеячамі і барацьбітамі.

Актыўнасць праяўлялі і дзяўчаты-гімназісткі, іх было многа: З. Скурко, Н. Міхалевіч, Р. Лукашэвіч, Э. Занкіна і іншыя. Яны разам з хлопцамі выконвалі пасільныя заданні камсамола, удзельнічалі ў гуртках і паспяхова вучыліся. Многа былых гімназістаў, як актыўных дзеячаў, было апісана ў творах М. Машары, В. Таўлая, А. Салагуба, М. Танка і іншых.

Мне прыходзілася самому выконваць з групай іншых вучняў заданні па лініі МОПРа. Нас выкарыстоўвалі для рэгулярнай перадачы прадуктовых пасылак і часопісаў палітзняволеным у Стэфанаўскай і Лукішскай турмах.

Асабліва гэта работа была ўскладзена на вучняў пасля разгрому Грамады, калі былі праведзены вялікія арышты сярод яе актыву, тады ж там у турме Лукішкі сядзеў і мой бацька Максім Бурсевіч. Перадаць пасылку было дужа складана. Трэба было ведаць, што сказаць работнікам турмы, каб яны яе прынялі і перадалі зняволеным, але выходзіла ўсё добра і своечасова. Здаралася з рэдакцыі выносіць канфіскаваныя нумары газет, перш чым іх забярэ цэнзура. Вучні гэта рабілі вельмі чыста і непрыкметна. Вось такімі дробнымі заданнямі займалася ў нас многа гімназістаў.

Усе гэтыя работы прыходзілася выконваць пад страхам, ведаючы, што за табой дзесь пільна сочыць агент дэфензівы. Мяне многія з іх ведалі, бо за нашай кватэрай быў наладжаны сталы наглядальны пункт. Перахопліваліся асобы, якія да нас заходзілі, праводзіліся вобыскі, заводзілі на пастарункі для допытаў. Так працягвалася да таго часу, пакуль наша сям'я, а нас без бацькі было пяцёра, не пераехала з будынка Грамады на прыватную кватэру ў другі раён горада, але за намі ўсё роўна працягвалі сачыць. Без бацькі ў гэты адрэзак часу нашай сям'і прыходзілася вельмі цяжка, а вучыцца ў такіх умовах было яшчэ цяжэй. Праўда, нас не пакідала без увагі грамадства, вучні гімназіі дапамагалі, чым маглі, але не ведаючы свайго далейшага лёсу, маці і мы, дзеці, неслі вялікія перажыванні.

Хутка, пасля арышту бацькі, памірае мой самы найменшы брат. Мама яго яшчэ грудзьмі карміла. Пасля такога гора, мы маме шмат дапамагалі.

Пасля суда над Грамадой, бацька быў высланы з Вільні і яму дапамагаць нам стала цяжэй, а яго здароўе было вельмі дрэннае. У гімназіі пачаліся вялікія хваляванні і супярэчнасці паміж вучнямі і настаўнікамі. Паліцыя амаль не выходзіла са сцен гімназіі. Гэта ўсё паскорыла закрыццё яе, як беларускай навучальнай установы. Але я ўсё ж вучыўся ў гімназіі да 1929 года. Праўда, закончыць мне яе не ўдалося.

Пасля датэрміновага выхаду бацькі з турмы, ён прывёз нам вестку аб падрыхтоўцы да выезду ў СССР. Аб гэтым у гімназіі амаль ніхто не ведаў, і я вучыўся да апошняга дня выезду. Дружыў я тады з сынам Рак-Міхайлоўскага Воўкам, з якім мы разам паехалі са сваімі бацькамі ў Савецкую Беларусь у канцы 1929 года. Шчыра скажу, што мне вельмі хацелася закончыць сярэднюю адукацыю, прападаў год вучобы, якраз перад заканчэннем сярэдняй школы. Але многія блізкія сябры і знаёмыя ўпэўнілі мяне, і я з добрымі пачуццямі дапамагаў бацькам збірацца ў дарогу. Дарога была вельмі цікавай і нялёгкай, але гэта ўжо іншая гісторыя.

*Чэрвень, 1978 г.*

# ЛІТАРАТУРНЫЯ МЯСЦІНЫ БЕЛАРУСІ*

## МІНСКІ РАЁН

**Вёска Валяр'янава** Бараўлянскага сельсавета

**Шыпілаў Мікалай** (1.12.1946—7.9.2006), рускі пісьменнік, муж **Дашкевіч Таццяны**, доўгі час тут пражываў і пахаваны. Нарадзіўся ў Паўднёва-Сахалінску, потым з прыёмнымі бацькамі змяніў у Сібіры некалькі месцаў пражывання. Бацька, Аляксандр, паходзіў з раскулачаных казакоў, быў прафесіянальным вайскоўцам, маці, Анастасія, выхоўвала шасцярых дзяцей, цудоўна спявала песні. М. Шыпілаў закончыў Новасібірскае музычнае вучылішча, Вышэйшыя літаратурныя курсы Маскоўскага літаратурнага інстытута імя Максіма Горкага ў Маскве. Рана асірацеўшы, да 35 год жыў у Новасібірску, працаваў грузчыкам, бетоншчыкам, артыстам аперэты, будаўніком, рэжысёрам абласнога тэлебачання, а потым, ужо ў Маскве, літаратурным рэдактарам часопіса «Литературная учеба». Вёў Літаратурную майстэрню ў Маскоўскім універсітэце культуры, дзе, аўдавелы, пазнаёміўся з Таццянай Дашкевіч, быў выбраны сакратаром Саюза пісьменнікаў Расійскай Федэрацыі. У 1993 г. абараняў Белы Дом, за што атрымаў ордэн. Стаў папулярны як аўтар і выканаўца бардаўскай песні, сябраваў са спеваком Міхаілам Еўдакімавым. У 2000 г. разам з жонкай пераехаў у Беларусь, якой захапляўся, пасяліўся ў Валяр'янаве, дзе прымаў удзел у будаўніцтве храма свяціцеля Мікалая. Першыя вершы М. Шыпілаў надрукаваў у 1964 г. у газеце «Молодость Сибири». Аўтар кніг прозы «Начны зрок» (М., 1983), «Пяты асістэнт» (М., 1985), «Шарабан» (М., 1987), рамана «Псаломшчык» (Новасібірск, 2006), кнігі для дзяцей «Ільюшыны святы» (у сааўт. з Таццянай Дашкевіч) і інш.). Творчасці пісьменніка ўласцівы імкненне пранікнуць у глыбіні чалавечай душы, боль за радзіму, прыхільнасць да традыцыйнасці; мова напоўнена добрым гумарам. Пераклаў на рускую мову раман народнага пісьменніка Якуціі М. Лугінова «Па загаду Чынгізхана». Наспяваў кампакт-дыск «Паўстагоддзя волі» (Новасібірск, 1997) і інш. Лаўрэат міжнародных прэмій імя Андрэя Платонава, Васіля Шукшына, братоў Кірэеўскіх, Эдуарда Валодзіна (пасмяротна) і інш. Пра М. Шыпілава знята некалькі дакументальных фільмаў, сярод якіх — «Фартуна-фартуната» (Новасібірск, 1995), «Руская душа» (2005, Новакузнецк). У 2007 г. на алеі бардаў у Новасібірску адкрыта зорка М. Шыпілава, у 2009 г. у новым мікрараёне таго ж горада з'явілася вуліца яго імя.

**Вёска Вішнёўка** Папярнянскага сельсавета

Непадалёку захаваліся рэшткі сядзібы Казіміроўка, дзе стаяў драўляны дом-дача (тут расло шмат экзотаў) дырэктара Мінскага рэальнага вучылішча Івана Самойлы. Сюды ў 1894—1895 гг. часта прыходзіў Ясь Луцэвіч (**Янка Купала**), каб рыхтавацца ў рэальнае вучылішча. Настаўнікам-рэпетытарам быў сын Івана Самойлы Уладзімір (1878—1941).

* Працяг. Пачатак у № 10—12 за 2007 г., № 1—12 за 2008 г., № 1—10, 12 за 2009 г., № 1—7, 9—12 за 2010 г. № 1, 2, 3 за 2011 г.

**Вёска Гайдукоўка** Рагаўскага сельсавета

Сюды ў жніўні 1919 г. прыязджаў **Купала Янка** да сястры Леакадзіі. 22 і 23 жніўня ў вёсцы напісаў верш «Беларускія сыны» і «Груган».

**Вёска Гарадзішча** Каладзішчанскага сельсавета

Тут 11 ліпеня 1937 г. знаходзіўся **Купала Янка.**

**Вёска Гарані**, цэнтр сельсавета

**Куніцкага Сымона** (28.2.1902—14.10.1940), крытыка, літаратуразнаўцы, радзіма. Вучыўся ў вясковай школе, на рабфаку ў Мінску. Скончыў БДУ (1931). Працаваў вучоным сакратаром Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва Акадэміі навук БССР. У друку выступаў з пачатку 30-х гадоў. Пераклаў на беларускую мову з венгерскай аповесць Матэ Залкі «Сяло за туманамі» (1934). У 1936 г. стаў ахвярай сталінскіх рэпрэсій. Загінуў у лагеры на Калыме. Рэабілітаваны 18.12.1954.

**Даўгінаўскі тракт**

Мясціны вакол тракта (у тым ліку і ў Лагойскім раёне), асабліва звязаныя з Янкам Купалам, апісаны Гатальскім Ігарам. Гл.: Ад Мінска па Даўгінаўскім тракце // Полымя.— 2007. — № 5. — С. 170—196.

**Вёска Дзехнаўка** Заслаўскага сельсавета

**Карабана Сцяпана** (8.1.1902—14.1.1974), літаратуразнаўца, радзіма. Скончыў БДУ (1931). З 1934 г. працаваў у Інстытуце філасофіі і права АН БССР, з 1937 г. — у Мінскім педінстытуце. Друкаваўся з 1938 г. Аўтар «Нарысаў гісторыі беларускай савецкай крытыкі 20-30-х гг.» (1971).

**Вёска Дразды (**з 1978 г. — у складзе г. Мінска)

**Купала Янка і Лынькоў Міхась** былі ў Драздах. Зроблены здымкі Я. Купалы і М. Лынькова, Я. Купалы і А. Александровіча.

***Вёска Ждановічы,*** цэнтр сельсавета

Летам 1926 г. ***Колас Якуб*** адпачываў на хутары каля Ждановічаў. Гаспадар Юзаф Болбат стаў прататыпам Зыгмуся ў апавяданні «Хатка над балотцам». У 1927, 1928 і 1929 гг. Колас праводзіў тут летні адпачынак на хутары братоў Ціхановічаў, які знаходзіўся ў двух кіламетрах ад станцыі Ждановічы (у бок вёскі Баравой). 30 мая 1933 г. Колас зноў ездзіў у Ждановічы.

Тут наймалі дачу ***Бядуля Змітрок і Харык Ізі*** з сем'ямі, былі размешчаны дачы ***Броўкі Петруся, Макаёнка Андрэя, Мележа Івана, Шамякіна Івана.***

У 1929 г. у Доме адпачынку былі ***Глебка Пятро, Трус Паўлюк, Хведаровіч Мікола, Шашалевіч Васіль.***

***Хадасевіч-Лісавой Кацярыны*** (н. 24.4.1979), беларускага і рускага празаіка, месца нараджэння. Бацька, Станіслаў, працуе вадзіцелем вялікагрузнай аўтамашыны, маці, Галіна, метадыст па выкладанні замежных моў. З маленства бацькі прывучылі траіх дзяцей да кнігі, беларускай мовы. К. Хадасевіч-Лісавая скончыла Мінскі педагагічны каледж, Беларускі дзяржаўны педуніверсітэт імя Максіма Танка. Шэсць гадоў працавала настаўніцай пачатковых класаў Ждановіцкай СШ. Цяпер там жа кіруе творчым аб'яднаннем «ЛІМОН», паэтычным гуртком «Купалінка». Творчы дэбют — паданні ў часопісе «Першацвет» (1996. № 11). Аўтар рускамоўнага рамана «На ўзлёце шчасця» (2004), беларускамоўнай казачнай аповесці «Падарожжы ў Чароўны Лес» (2008), замалёвак, вершаў і апавяданняў, прысвечаных хараству роднай прыроды і апублікаваных у калектыўных зборніках і перыёдыцы.

***Вёска Жукаўка*** Юзафоўскага сельсавета

***Купала Янка,*** прыязджаючы да маці ў Акопы, часта спыняўся ў Жукаўцы. Слухаў песні падарожных, запісваў іх апавяданні. Летам 1911 г. разам з А. Грыневічам запісваў тут народныя песні. Бываў у гэтых мясцінах і ў 1920-я гады — цікавіўся рамяством, прадметамі народнага побыту.

***Вёска Здарэнне*** (месца знаходжання не ўстаноўлена)

Налічвала некалькі хат. Тут, у карчме, сустракаліся ***Янка Купала*** і ***Ядвігін Ш***. з суседніх Карпілаўкі і Акопаў. Магчыма, тут нарадзілася задума верша Янкі Купалы «Забытая карчма» і іншых. Купала падпісаўся псеўданімам Здарэнец у артыкуле «Нашай Нівы».

***Вёска Закружка*** Крупіцкага сельсавета

***Грамовіча Івана*** (26.7.1918—2.7.1986), пісьменніка, радзіма. Скончыў Мінскі педінстытут (1939). Працаваў у друку. У 1970—1978 гг. — намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Вожык». Друкаваўся з 1939 г. Аўтар кніг «Апавяданні» (1947), «Першага верасня» (1949), «Шырокія азёры» (1951), «Рына-Марына» (1958), «Да ясных вышыняў», (1952), «Нарасць» (1961), «Сонца скрозь воблакі» (1964), «Сям'я Вішнёвых» (пачатковая назва «Далі сабе слова», 1968—1970), «Вадалей — гэта так далей» (1975), «Залатая бранзалетка» (1977), «Чатыры сантыметры надзеі» (1987). Аўтар успамінаў пра дзеячаў культуры і літаратуры «У сховах памяці і сэрца» (1983) і інш., нарысаў, публіцыстычных артыкулаў, сцэнарыяў фільмаў. Пераклаў на беларускую мову асобныя творы У. Кочатава, М. Носава.

***Карызны Уладзіміра*** (н. 25.5.1938), паэта, радзіма. Бацькі яго, Ніна і Іван, абудзілі ў сэрцы яго паэзію сваёй любоўю да песні, роднай зямлі. Закончыўшы Крупіцкую СШ і БДУ (1961), настаўнічаў на Браслаўшчыне, працаваў на Беларускім радыё, у часопісе «Полымя», з 1981 г. — у выдавецтве «Юнацтва», часопісе «Крыніца». Друкуецца з 1956 г. Аўтар больш 20 паэтычных зборнікаў, у тым ліку «Край мой сінявокі» (1963), «Святло ліўня» (1972), «Шумяць вербы...» (1982), «Азёры дабрыні» (1995), кніг для дзяцей «На сяле ў бабулі» (1975), «Хітры і мудры» (1994), «Іграй, жалейка, не змаўкай...» (1998), «Хвіліна святла» (2000) і інш. Шматлікія яго вершы пакладзены на музыку. Найбольш папулярныя з іх увайшлі ў зборнікі песень «Клубныя вечары» (1979), «Люблю цябе, Белая Русь» (1984), «Салавей спявае» (1990), «Гэта наша Радзіма» (1998) і інш. Старшыня секцыі паэзіі СПБ. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі. Узнагароджаны ордэнам Францыска Скарыны.

**Вёска Зарэчча** Ждановіцкага сельсавета (цяпер не існуе: тэрыторыя апынулася на дне Мінскага мора)

**Ірынархава Руслана** (н. 3.8.1948), пісьменніка-даследчыка перыяду Вялікай Айчыннай вайны, радзіма. Бацька, Сяргей, быў маёрам міліцыі, маці, Марыя, пражывала ў час акупацыі пад Беластокам. Менавіта пад уплывам яе ўспамінаў, а таксама расповедаў бабулі і дзядулі зацікавіўся першапачатковым перыядам вайны. Закончыў Чарнігаўскае вышэйшае ваеннае авіяцыйнае вучылішча лётчыкаў і звыш 26 гадоў праслужыў у паветраных сілах СССР і Беларусі. З 1994 г. на пенсіі. Літаратурна-даследчыцкай дзейнасцю пачаў займацца з 2001 года. Аўтар манаграфій «Заходні Асобны…» (2002), «Прыбалтыйскі Асобны…» (2004), «Кіеўскі Асобны…» (2006), «Ля Дняпроўскіх кручаў…» (2006), «РК ВМФ» (2008), «Перад грознымі выпрабаваннямі» (2009), «Чырвоная Армія ў 1949 годзе» (М., 2009). Узнагароджаны ордэнам, 9 медалямі.

***Дзмітрый КРЫВАШЭЙ, Адам МАЛЬДЗІС***

***Працяг у наступным нумары.***